Якуб Ермаловіч

# АКОПЫ НЕ ПАЗАРАСТАЛІ

АПОВЕСЦІ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1985

Бел 2
Е 72

*Рэцэнзент Алесь Кучар*

**Ермаловіч Я.**

Е 72 Акопы не пазарасталі: Аповесці.— Мн.: Маст. літ., 1985.— 256 с.

У пер.: 1 р. 30 к.

Гэта кніга пра людзей сучаснай беларускай вёскі, хаця па ходу справы аўтар не раз вяртаецца і ў далёкае і не зусім далёкае мінулае. Чытач стане сведкай незайздроснага лёсу мацерага адшчапенца — «Чорны» і пасляваеннага аднаўлення ўшчэнт разбуранай калгаснай гаспадаркі — «Акопы не пазарасталі». Пазнаёміцца чытач і з крутымі паваротамі ў жыцці сельскай інтэлігенцыі — «Рэкі ўпадаюць у мора». Усе аповесці напісаны аўтарам за апошнія гады.

Е $\frac{4702120200-099}{М302(05)-85}$ 13—85

ББК 84Бел7
Бел2

## ЧОРНЫ

— Пастукайце там. Мне тут злазіць.

Нехта з тых, што сядзелі на перакавой лаўцы паўз самую кабіну, забарабаніў кулаком у фанерны купал кабіны, і грузавік, збочыўшы з магістралі, спыніўся.

Так, калісьці гэта была магістраль, роўна выкладзеная дзе бітым, а дзе нябітым дробным каменнем, пасыпаная жарсцвяком, і машыны па ёй каціліся з лёгкім шархаценнем, не дрогаючыся, не пятляючы ў бакі. Можна было цешыцца яздой па такой дарозе, і цешыліся, пакуль не пачалася вайна.

Мар'я цераз задні борт злезла на дарогу і, трымаючы ў руцэ свой хатуль, падышла да кабіны:

— Ну, шафёр, вялікае дзякуй. Плаціць няма чым, бо еду я ўжо казала адкуль. Во! — яна развяла ў бакі рукамі і з іроніяй глянула на ўсю сваю апратку, ад грудзей і да ног.

Шафёр, малады і бесклапотны, штосьці сказаў, усміхнуўся, ляснуў дзверцамі кабіны і крануў грузавік.

Мар'я развітальна памахала рукой пасажырам, якія ехалі далей, яны ёй памахалі.

Жанчына прагна аглядала наваколле. Яна прыехала дамоў! З душагубкі, з пекла. Шчасліва вам даехаць, дабрацца, дайсці! У кожнага свой парог, свае думкі, свае планы.

Мар'я яшчэ раз паглядзела, стоячы на пясчанай узбочыне шашы, у той бок, куды пайшла машына. Там было прыгожа — луг, масток цераз невялікую рэчку, сасновы лес, дарога паднімалася ўгору, быц-

цам каб не заблудзіць у бары, і прападала за ўзгоркам.

У той бок, адкуль ехала, не глянула. Так, кінула вокам, каб не трапіць часамі пад машыну, перайшла на свой, левы, бок дарогі і зноў спынілася. Усё. Яна дома. Кут мой родны, лясочкі вы мае зялёныя, травічка мякенькая! І як жа... як жа ўсё гэта так атрымалася?.. Суджана ёй жыць і вярнуцца дамоў, убачыцца з роднымі і аднавяскоўцамі. Што яны ведаюць пра яе, яна пра іх? Нічога. Нібы яна была на тым свеце, яны — на гэтым.

Яна пачала пільна ўзірацца вакол сябе, кагосьці шукаць вачыма, упікаючы сябе за сваю няўдумлівасць — як гэта яна не разабралася дасюль, што яна ўжо ў сваёй, як кажуць, мясцовасці? Павінен жа хтонебудзь знаёмы сустрэцца ёй?

З шашы сышла на добра ўезджаную калёсамі дарогу, не надта пясчаную, але без глыбокіх каляін. Грунт тут быў цвёрды, не праразаўся коламі, акутымі ў жалезную шыну. Такой гэтую дарогу Мар'я памятае з дзяцінства. Злева — уплясканая нагамі, як гладкі гліняны ток плескачом, сцяжынка, ліпкая на цяньках, трошкі шорсткая на сонцы, але ўсюды аднолькава гладкая і роўная, зусім добра і лёгка ісці па ёй улетку босымі нагамі.

«Трэба разуцца»,— падумала і паглядзела вакол — дзе лепш прысесці. Напалавіну ўросшы ў зямлю — плоска-пакаты, пакрыты шызым кароценькім мохам камень, вакол — мурава, акурат як босыя ногі паставіць. І тут жа востра, неяк адразу, адчула, што яны ў яе, ногі, сапрэлі, здушкаваліся, іх бы выслабаніць і праветрыць, добра пагрэць на сонцы. Села на камень, палажыўшы на зямлю хатулёк, разбэрсала сырамятны шнурок аднаго юхтавага чаравіка, тады другога, здзела адзін, тады другі.

Шкарпэткі, перавернутыя пятамі ўгару, на пальцах папрадзіраліся, змакрэлі. Мар'я садрала іх з ног і, глянуўшы ўжо на выкасаныя, шыбанула ў кусты, далей ад дарогі, каб не псавалі нічыйго вока. Цяпер яна пойдзе босая, навошта ёй такія шкарпэткі? Чаравікі — не, чаравікі кідаць не будзе. Яны яшчэ добрыя, мяккія, толькі цяжкаватыя. Праўда, ношаныя. Хто іх насіў? Эт, бог ведае, хто насіў іх. Цяпер не дойдзеш, чыя на кім вопратка. На станцыі, дзе

пагружалі іх, гэта значыць такіх, як Мар'я, людзей, наш лейтэнант абвясціў: «Таварышы, хто мае патрэбу ў абутку і вопратцы, ідзіце і падбірайце сабе»,— і паказаў пальцам у той бок, дзе ляжала куча розных чалавечых апратак. Там Мар'я знайшла сабе такія чаравікі і ўсё астатняе, што зараз на ёй (мужчынскі пінжак з плісавым каўняром, вялікаватая сукенка і пад ёй цёмныя, да самых костачак, штаны).

Ногі абрадаваліся свежаму паветру і сонцу. А сонца было добрае, ласкавае, рахманае, сваё. І ні адна хмурынка на блакітным небе не перашкаджала яму грэць сваю зямлю. І паветра было не менш прыемнае — пахла сасновай ігліцай, гаркавым лісцем, якімісьці краскамі. Дзіва што, пачынаўся чэрвень, пара самага бурнага росту раслiннасці.

Мар'я падкасала штаны вышэй каленяў і з асалодай выцягнула перад сабой голыя ногі — хай адпачываюць, загараюць.

Машыны па шашы ішлі, але не спыняліся, каб высадзіць каго на гэтым перакрыжаванні, дзе высаджвалася яна, Мар'я. Што ж, пойдзе адна. Да Воcаўкі адсюль, ад шашы, тры кіламетры, а там — пяць кіламетраў да Бярозаўкі, і Мар'я дома.

Ногі яе прыемна ўгрэліся, цеплыня ад іх пайшла ў плечы, у шыю, вочы пачалі самі прыжмурвацца, каб адпачыць ад дарожнага пылу і доўгага ўглядання. «Прылягу на мінутку. Калі і задрамлю, дык невялікі страх, аўчарак не напусцяць»,— падумала. І стала з каменя на ногі, здзела і паслала падкладкай угору пінжак на траву, адкруціла з галавы мультановую, карычневага колеру хустку і, падлажыўшы пад патыліцу хатулёк, выцягнулася на спіне.

Падняла павекі і ўбачыла: нейкія босыя ногі мільгалі па сцежцы. Не шлёпалі і не шархацелі, нібы не датыкаліся да зямлі. «Жанчына»,— паспела скеміць: матлялася на нагах няпэўнага, якогась шэрага колеру спадніца.

Не палягчэла, не. Наадварот, галава пацяжэла, не хацелася нічым кратаць. У вачах стала рэзацца.

Колькі ж яна спала? Нехаця павярнула ўбок галаву, каб глянуць, ці знізілася сонца. Здаецца, не знізілася. Адкуль грэла, адтуль і грэе. Можа, ледзь трошкі схінулася з таго месца, дзе было.

І раптам у лесе, зусім недалёка ад дарогі, такое

выразнае, круглае, мяккае: ку-ку, ку-ку, ку-ку... Мар'я страпянулася ўсім нутром, усміхнулася, нібы глядзела ў вочы такому знаёмаму, якога рада ўбачыць. «Зязюля...» — паўтарала яна ў думках. Колькі ж разоў?.. Э-э-э, не палічыла Мар'я, не дайшло да галавы, што трэба лічыць. Трэба было лічыць. Падцягнула ногі, села. Падумала: «Навошта лічыць? Нічога не задумала, не загадала, не папрасіла зязюлю, каб яна ёй палічыла. Жыць колькі? Цяпер пра гэта ніхто не скажа. Жывая — і дзякуй богу». У Нямеччыне не чула зязюлек, не ведае, ці ёсць яны там. Не да зязюлі было.

Нешта як працяла Мар'і мазгі, сэрца, і яна зараз жа падхапілася на ногі, абсоўваючы штаны на лыткі, скалачваючы на сабе плацце, быццам упікаючы сябе за тое, што зрабіла сабе гэты прывал.

Палажыўшы на левую руку пінжак і хустку, а ў правую ўзяўшы хатулёк і чаравікі, пайшла памаленьку босымі нагамі па той сцежцы, па якой толькі што прайшла якаясьці жанчына. Бок дарогі быў ценявы, і ісці было прыемна.

Тая самая зязюля, якая толькі што кукавала амаль над самай Мар'інай галавой, цяпер ужо кукавала ўперадзе, цераз дарогу справа. Тая самая. Мар'я была ў гэтым перакананa. Кукуй, зязюля, кукуй, лічы гады маладым, зыч ім шчасця...

Калі браць па гадах, дык і яна яшчэ не старая. Што гэта: якіх пяць гадоў, як замуж ішла. А ішла маладая, семнаццаць гадоў было. Ды двое дзяцей закапала, вайна, Германія. Не верыцца, што былі тыя вясёлыя дзявочыя гады, вечарынкі і танцы да зморы, песні летнімі купальскімі вечарамі, прыпеўкі пад гармонік, жніво на калгасным полі, сенакосная пара каля рэчкі, дзе авадні і жабы, але дзе і шыракалістыя гладышыкі, белыя ліліі, пах аеру. Усяго, калі адкінуць якіх пяць гадоў, калі не было вайны і калі ніхто пра яе і не думаў, што яна магла быць. Маладыя і не ўяўлялі нават, што такое вайна. Чулі ад старэйшых пра яе жахі, але чуць і перацярпець далёка не адно і тое. Ды і што верыць старэйшым? Яны часта згушчаюць фарбы, каб напалохаць маладых і трымаць пад страхам. Маладым жыццё — свята, а праца — гульня на гэтым свяце. Праца для маладых не перашкода для весялосці, наадварот, яна

гуртуе людзей у адно месца, каб яшчэ весялей было ім праводзіць свае свята.

Ішла, ішла і не заўважыла, задумаўшыся, масток. Ды і які масток: два палены-брусы цераз ручай, а на іх паложаны плашкі. Называецца гэта месца Воўчы Лог. Гушчэча паўз ручай, вада, і тут людзі часта бачылі, як ваўкі перабягаюць дарогу.

«Воўчы Лог»,— падумала Мар'я і спынілася на мастку. Вада пад ім цякла чыстая, пясочак і каменьчыкі на яго дне былі відаць, як у люстэрку, і зажадалася напіцца з яго, хоць пра ніякае пітво да гэтага ёй не думалася. Яна збочыла з дарогі, лягла жыватом на зямлю, абапіраючыся рукамі, каб напіцца. П'ючы, памачыла не толькі губы, але і лоб, і кончык носа. Вада была сцюдзёная, прыемная на смак, з пахам не то парэчак, не то якіх іншых ягад. «Крыніца»,— уголас вымавіла Мар'я, нібы ўпершыню адкрыла для сябе яе, гэтую крыніцу, хоць яшчэ да вайны добра ведала, што бруіцца яна тут, піла з яе ваду, мыла рукі, ногі, калі даводзілася ісці гуртам па гэтай дарозе і была патрэба асвяжыцца ў спёку. Закасала па локці рукавы сукенкі, памыла ступні ног, рукі, твар і шыю, нават пагладзіла мокрымі рукамі коратка стрыжаныя валасы. Выціраца не было чым, стаяла з растапыранымі рукамі і адчувала, як сцякае вада па іх, а таксама па носе, шчоках і барадзе і як пабегла з шыі па голым целе. Спачатку было нібы зябка, нават уздрыгнулі плечы, але зябкасць умомант знікла, і Мар'я адчула ў сабе пруткасць. У хатульку якраз ручнік быў сярод сякой-такой нескладанай і выпадковай жаночай пераменкі, ды не хацелася развязваць яго, нямыты, запылены, забруджаны за некароткую дарогу.

Адкуль ні вазьміся, засквярліся ў кустоўніку шпакі. Крыкі неміласэрна рэзкія, хрыплівa-вострыя, патрабавальныя. Было ясна, маладыя, якія толькі што абраслі і пакінулі гняздо, просяць у бацькоў яды. Стары шпак нешта даваў з сваёй дзюбы маладому, а той, шырока разявіўшы свой жоўты рот, дрыжэў растапыранымі, яшчэ не чорнымі, а хутчэй бурымі крылцамі.

Шпакі прывялі сваіх дзяцей сюды, далей ад шпакоўняў, каб паказаць, навучыць іх самім здабываць ежу, карміцца. Сквірчанне сціхла, але чамусьці за-

сталося ў Мар'інай свядомасці, выклікаючы пэўныя асацыяцыі.

Канешне, дзеці і ў яе былі. Двое. Але ці паспела яна з імі па-сапраўднаму адчуць, зведаць сілу мацярынства? Ці шкадавала яна іх? Ці ведалі яны, што яна іх маці? Ці расстаўлялі яны перад ёй вось так рукі, як маладыя шпачаняты развіналі крылцы і разявалі дзюбы перад старым шпаком?

І Мар'я зразумела, што толькі нарадзіць — гэта яшчэ не мацярынства. Яна толькі нарадзіла была сваіх дзяцей, можна сказаць, ані не гадавала іх, тым больш не выгадавала, і не магла ўдыхнуць ім сваю чалавечую навуку, зрабіць іх нейкім чынам працягам у жыцці самой сябе. Віны тут яе, можа, і няма, але засталося ледзь улоўнае, незадаволенае трапятанне душы, нябачнае для людзей, вечна шчымлівае для яе самой. Нейкая асечка, нейкая прамашка, няўдача лёсу.

Зорак на небе многа, а адна ўпадзе і патухне. Астатнія свецяцца. Свецяцца, і ніякай ім справы няма да той, што ўпала. Але надыдзе час, і яны пагаснуць, памруць...

І яна, Мар'я, памрэ, як паміраюць усе людзі, хто раней, хто — пазней. Але ж во пакуль што яна жыве, вырвалася з сцен той вар'яцкай фабрыкі, дзе выраблялі адну смерць. Дзіўна, чаму яна там ніколі не думала пра смерць? Нават пераступаючы цераз мёртвых, сплючы побач з халодным целам чалавека, які ўжо нічым не кране. Глядзела з надзеяй на ўсход, адкуль узыходзіла сонца, і верыла, што выжыве.

Выжыла, дыхнула родным паветрам.

Цяпер родная зямля вяртае яе да звычайнай чалавечай годнасці. У душы, у галаве пачынаецца абуджэнне...

Рукі, ногі, твар пасля мыцця абсохлі, шпачыная сям'я не вярталася (хацелася, каб яна зноў аб'явілася дзе-небудзь паблізу), і Мар'я, узяўшы ўсё, што ў яе было, на руку і ў руку, пайшла.

Сцежка была роўная, часамі ліпкая для босых ног, і ісці па ёй памаленьку, пасля доўгай дарогі на цягніках і машынах амаль цераз усю Еўропу, было проста прыемна. Тым больш нікога не боязна. Праўда, яна зранку нічога не ела, але гэта апошні яе га-

лодны дзень. Цяпер жа ўжо яна будзе есці кожны дзень колькі захоча і чаго захоча — хлеб, бульбу, малако, сала, шчаўе, гуркі, капусту, буракі... У-у-у, колькі ўсякай яды!

Сала, малако? Ну, сала, малака, можа, і няма, а астатняе ўсё ёсць. Абы было астатняе і была соль, каб можна было яго пасаліць, аздобіць цыбуляй, часнаком. А можа, і малако ёсць, і здор які вядзецца — тут людзі другі год жывуць без немцаў. Не сядзяць жа яны склаўшы рукі? Варушацца і нешта за гэты год прыдбалі. Толькі ці жывая хоць маці? Ці стаяць хаты, ці не згарэла Бярозаўка? Ці ўцалела яе, Мар'іна, хата? Як свякруха?

Дарогу пераляцеў вялікі пярэсты дзяцел і чамусьці, сядаючы недалёка ад дарогі на высокую сухабокую сасну, зачырыкаў, быццам папярэджваючы кагосьці, што ў ваколіцы чужы і невядомы чалавек. Калі Мар'я перайшла тое месца, дзе пераляцеў дарогу дзяцел, пачула ззаду: дзяцел тукае дзюбай-кляўцом у дрэва, глуха, але рытмічна і прыгожа: тук-тук, тук-тук-тук.

Не маглі не заўважыць свежага чалавека і сарокі. Яны некалькі разоў перапырхвалі дарогу злева ўправа і наадварот, то вешаючыся ў густым веццi прыдарожнага буйналістага бярэзніку, то качаючыся ніжэй суччa сасонніку па імшыстай зямлі.

Раптам злева высвеплілася палянка. Круглая, засеяная жытам. Мар'я пазнала яе, яна памятае гэтую палянку. Яе кожны год засявалі леснікі. То аўсом, то бульбай, калі — грэчкай. Вакол палянкі на заваротах было шмат сунічніку, і, калі ішлі сюдой, на тройцу, пад тройцу, а калі трошкі пасля тройцы, у залежнасці ад цёплай ці няцёплай вясны, елі суніцы. Чырвоныя, салодкія, са сваім сунічным пахам, яны смачней былі за самыя салодкія цукеркі. Іх было не наесціся. Цяпер на палянцы — жыта. Колас у колас, сіняе, пруткае. Ні адна сцяблінка не зламалася, не нахілілася. Дзіва што: тут зацішак, лес. Вецер ідзе вунь угары, па вершалінах дрэў.

Мар'я спынілася і дзівілася з палянкі. «Ды яно красуе ўжо!» — зразумела, убачыўшы на каласах лёгкія жаўтаватыя махорчыкі. І прыкінула ў думках: «Два тыдні красавaць, два налівацца, два спець, і можна жаць. Будзе новы хлеб».

Новы хлеб. Ён пахне краскамі, але смачны-смачны. Не нямецкі эрзац, спечаны бог ведае з якой брыдоты. У нас гарбузнік свінні не хочуць есці, а немцы яго ў бляшанкі і ў якасці пайка выдаюць. О-о-о, такая гародніна, самая спажыўная, не гаворачы пра вітаміны ў ёй!

Мар'я звярнула з дарогі і пайшла памаленьку паўз жыта вакол палянкі, высока паднімаючы босыя ногі і ўважліва выглядаючы, дзе ступаць, каб не накалоцца на якую патарчаку. Паўз сухі пень каўзанулася гадзюка. Прапаўзла метры два ў траве і спынілася, чакаючы, што далей будзе, каб потым, калі чалавек пойдзе, зноў вярнуцца на ўгрэў каля сухога пня, ад якога тхнула цеплынёй.

«Можа, і ўкусіць»,— падумала Мар'я і пачала стоячы надзяваць на босыя ногі чаравікі. Потым адышлася назад, павесіла на сук хатулёк і пачала выглядаць палку, каб забіць гадзюку. Адзін доўгі канчар — прыцiснуць, другі, карацейшы,— каб біць гадзюку. Калі знайшла палкі і вярнулася назад, убачыла, што гадзюка трошкі змясцілася ўбок і ляжала, стаіўшыся. Толькі Мар'я пачала цэліцца ў яе палкай, як шэрая пляцёнка каўзанулася і знікла ў бярэзніку.

Так, сунічнік тут быў. Каторы яшчэ цвіў белым цветам, каторы адцвіў — на ім завязаліся ўжо зяленухі. Суніцы сяголета будуць. Трошкі пазней, акурат як Мар'я адпачне, крыху ўсталюецца дома і адчуе, што да яе вярнуліся ранейшыя сілы.

А кветкі, бог ты мой міласэрны! Што ж гэта такое? Паўз самае жыта і на яго ўскрайку — васількі, баранчыкі, званочкі, чырвоныя галоўкі дзікай канюшыны, белагаловая махрыстая дзяцеліна! А колькі дробнай жаўцізны! Як на падбор! Стаяла і любавалася. Як жа ўсё ў суладдзі з жытам, якое ўжо красавала, з лесам, які з усіх бакоў абступаў палянку, было прыгожым!

Зрабіць букет і паставіць дома ў гладышык з вадою? Не, не трэба. Хай усё расце і цвіце, як расло і цвіло. Навошта парушаць лясную прыгажосць? Можа, і гладышыка дома няма, можа, і хаты...

Сашчыкнула васілёк і пачала парамі вышчыкваць пялёсткі кветачкі.

Пара, дзве, тры, чатыры — адзін лішні. I так не-

калькі разоў: чатыры пары — адзін пялёстак лішні. Закон? Хто яго ведае.

У баранчыкаў пялёсткі пераважна парамі. Трапляецца адзін лішні, але радзей, чым парамі. Па восем, па дзевяць, па дзесяць пар. Вакол жоўтага сонцайка белыя, зманліва прывабныя пялёсткі, часамі ў два паверхі — адзін круг, а тады яшчэ адзін.

Званочкаў не чапала. У іх зусім не было пялёсткаў. Зубчастыя кубачкі з пералівамі ў сіні, з кволенькімі песцікамі ўсярэдзіне, у якія ледзь трошкі было дамешана сонца.

Сашчыкнула галоўку канюшыны, вышчыквала з яе трубчастыя, мяккія шыпулькі і высмоктвала з іх мёд. Мёду там было хіба толькі пчале на хабаток, але ўсё ж такі язык адчуваў яго, і ў роце было прыемна.

Раптам ёй захацелася есці. Пагнала сліну. Так, яна згаладалася, трэба было нечага перакусіць. Праўда, галава не кружылася, у целе не было нямогласці, дайсці да Бярозаўкі дойдзе, уранні ж ела. Не трэба было смактаць канюшыну, не захацелася б есці, пра яду не падумала б.

У Восаўцы родная цётка. Зайсці да яе, пасядзець, пагаварыць? Яна, пэўна, ведае ўсё і пра Бярозаўку, і пра Мар'іну маці, і пра свякруху. Ніхто ж во на дарозе не трапляецца. Можа, пагарэлі Восаўка і Бярозаўка?

Мар'я схамянулася, сцепанулася плячыма, нібы была да гэтага ў забыцці, і пайшла да дарогі, дзе віселі на сасне на суку яе хатулёк, пінжак і хустка.

Неўзабаве лес расступіўся, і перад ёй адкрылася поле, усё засеянае жытам. Жыта было, як і на палянцы, роўнае, не патаптанае, не паламанае, з адлівам у сіні, з высыпаным на кожнай сцябліне калоссем. На калоссі матляліся махрынкі: красавала!

Што ж гэта яна? Вунь і хаты, вёска. Не згарэла Восаўка.

* * *

Цётка Юстына пазнала Мар'ю, як толькі тая пераступіла парог у вялікія сенцы, застаўленыя розных памераў дзежкамі і скрынкамі.

— А Мар'ячка мая, дзіцятка маё, нябожчыца, з таго свету!.. Не думалі і не чакалі, што ты жывая.

Колькі ж ён, гад, людцаў нашых пагубіў і памарыў,— загаласіла роўным пявучым сваім голасам цётка, ідучы да Мар'і і ўважліва ўглядаючыся ў яе твар.

— Жывая, цётка, вярнулася во,— адказала Мар'я і абшчапіла цётку за худую, усю ў супіках, але цёплую і такую мяккую шыю, і пакаціліся з вачэй слёзы, і стрымаць іх нельга было.

Цётка Юстына сабе заплакала, дзелячы радасць сустрэчы з пляменніцай.

Доўга не выціралі мокрыя ад слёз твары, стоячы адна перад адной, нібы не ведаючы, што далей рабіць, пакуль старэйшая, цётка, не ачомалася першая:

— Чаго ты, Мар'ячка? Не трэба. Цяпер ужо не трэба плакаць. Вайне канец. Усе людзі радуюцца. Дзякаваць богу, вярнулася. Адгаравала сваё. Усе нагараваліся. І нагаладаліся. Калекамі парабіліся. А ў цябе і рукі, і ногі. Толькі худзенькая. Змарнела. Хадзі на лаўку. Сядай к сталу сюды бліжэй. Я табе есці дам. З дарогі ўтамілася.

Цётка Юстына закасала на палавіне стала абрус і паклала на стол хлеб. Бохан быў шырокі, плоскі, і Мар'я пачула яго пах. Даўно яна не ела такі, свой, з чыстага зерня хлеб.

Потым паставіла місачку малака, тварог, забелены пастаялкай. Паклала на стол і кавалак каўбуха. Ён быў, відаць, нядаўна пачаты, свежы, бо мяса ў ім яшчэ не паблякла, было прыгожае, чырвонае, прыправа ў ім (кмен, пятрушка, часнок) востра пахла, і Мар'і яшчэ больш захацелася есці.

— Сядай жа,— цётка адцягнула ад лаўкі стол і пасадзіла Мар'ю на покуце, як садзілі ў Восаўцы гасцей і наогул чужых людзей, калі была патрэба іх пакарміць.

— Можа, яшчэ табе што?..

— Што вы, цётка? Гэткая яда, ды і мала? Я і есці дужа шмат баюся.

— Не хворая?

— Не хворая, цётка, не. Калі б была хворая, даўно б на свеце не было. Але так, з дарогі. Яда там не такая.

— Пачакай мінутку,— цётка Юстына паставіла перад Мар'яй далонь рукі, каб не бралася за яду,— ёсць у мяне, ёсць,— і пабегла ў сенцы.

Адтуль яна прынесла бутэльку, заткнутую драўляным коркам, і шукала вачыма па хаце, у што б уліць. Ні чарачкі, ні шклянкі не было, а кубак, алюмініевы, якім пілі ваду, быў занадта вялікі.

— Глыні з рыла, колькі табе трэба. І раз, і другі глыні,— рашыла цётка і аддала ў рукі пляменніцы бутэльку, трымаючы заткала ў правай руцэ і чакаючы, каб потым хуценька зноў заткнуць гарэлку.

— Свая? — здагадалася Мар'я.

— Гналі,— адказала цётка Юстына.— Ляксея чакаем.

— Ён у салдатах яшчэ?

— Можа, прыйдзе ўжо. Кажуць, што будуць распускаць ужо такіх.

— Жывы?

— А, дзякуй божачку, жывы. Пісьмы піша. Раніла было, пісаў, у руку, ды не дужа. Доўга не ляжаў. Ён гэтым, што раненых падбіраюць. Санструктарам, во. Глытай, глытай. Во-во. Яшчэ разок глыні, Мар'ячка. Нічога, не бойся. Гарэлка чыстая. Нічога не мяшалі, сабе рабілі, не на продаж. Цяпер яна ў цябе пойдзе па жываце, і добра табе зробіцца, і ты пад'ясі ў ахвоту.

— Дзякуй.

— Цяпер еш. Каўбухом закусі спачатку. Чарвей няма ў ім, не прыглядайся.

— Я не чарвей гляджу, цётка. Я гляджу: такі ён добры.

— Ага, добры, Мар'ячка. Кабанчык быў невялікі, і каўбушок сам невялічкі, ды во ўлетку хоць у роце ё чым пасаліць. Мяска пакрышылі без плевак, пасалілі, прыправілі і крэпка-крэпка натапталі. Дык ён во такі акуратненькі.

— І смачны, цётка.

— А чаму ж, смачны. Чаму ж яму быць нясмачнаму? Не будзеш болей піць?

Цётка Юстына, заткнуўшы бутэльку, занесла яе ў сенцы.

— А Вера дзе?

— Нявестка? На рабоце. У сярэднім полі лён полюць. Цяпер у калгасе работы! Мужчын, можна сказаць, няма, дык усё робяць бабы. Дыхнуць ім, бедным, некалі.

— У вас хлопец, здаецца, быў?

— Хто? Едзька? Пабег. Будзе ён, ведама, дома сядзець! Не сядзіць. І страшна, каб дзе не падарваўся. Цяпер жа Аўдоцці, што ў Каменцы, сына на кавалачкі разнесла.

— Цяпер?

— Не, тады, як вайна пачалася.

— А-а-а, чула, — успомніла Мар'я.

— А то другой маёй дачкі, што жыла недзе аж за Слуцкам, у нейкіх Дарогах, як забралі бацьку немцы, сын павесіўся.

— Вялікі?

— Малы. Гадоў дванаццаць яму было. Ты кажаш, дзеці! Страшна. Набраў нешта во ў галаву сабе.

— Максіма забралі немцы?

— Забралі, зязюлька, былі. Аж у Магілёў былі ў лагер завезлі. Але яны ўцяклі. Забілі часавога і далі драла. Да нас заходзілі, як прабіраліся дамоў. Дома — за Ганну, за двух малых сыноў, і ў партызаны ўсе. І Едзька во недзе бегае, а ты пра яго думай. Прывяжаш?

— Гэта колькі яму ўжо?

— У спасаўку будзе сем.

— Сем. А здаецца, нядаўна жаніўся Ляксей. Колькі ў вас, цётка, усіх дзяцей было?

— Многа, любачка, чатырнаццацера.

Мар'я крутнула галавой.

Цётка Юстына працягвала:

— Што дзеці! Каб жа яны жывы былі. Два сыны ў тую вайну, маладыя, здаровыя, як дубы, ляглі. Мікіта і Міхей. Якава ў гэтую вайну забіла. Гарасіма ў Амерыцы ў шахце задушыла. Ганна, Аўдоцця, Ляксей — усе мае дзеці. А малыя як уміралі? Помню, як у аднаго правалілася горла. Кроў свішча ўгору, а ён глядзіць на мяне вочкамі, глядзіць, каб я яго ратавала. Я хустку з галавы і яму на горла. Шкода, шкода было.

У цёткі Юстыны пасыпаліся з вачэй слёзы. Выціраючы іх, яна села на лаўку побач з Мар'яй.

— Як пачую зязюлю, дык плакаць-плакаць хочацца. Не жартачкі: сямёра пахавала, можна сказаць, маленькіх, а траіх войны забралі. А тады, наверх, і мужык памёр, удавой засталася. Дваццаць пяць гадоў адна жыву. Аляксею шэсць гадоў было. Куды было дзецца? Гаравала. Дзякуй богу, не забілі

во, гаспадар мне на старасць. І ўнучыка гадую. Пацешны такі хлопец, як уюн, туды-сюды, ані не сядзіць дома, кажу. Прыйдзе дамоў, яшчэ дзеці будуць. Маладыя яшчэ.

— Ой, цётка, галава закружылася.

— Нічога, пройдзе. Гэта што ты галодная. Колькі ты там глынула?

Мар'я ела са смакам і неяк адразу адчула, што вочы яе сталі бачыць лепш. Хлеб чысты, добра замяшаны, ніводнага белага мучнога жвалка ў ім. Наздрынкі ў ім былі маленькія, свяціліся гладзенькай жаўцізной. А скарынка з глянцам, вязкая на зубах, з асаблівым пахам. Так, яна ўспомніла: іменна так пахла скарынка хлеба, спечанага ў сваёй печы, добра напаленай, з добра падмеценым сасновым памялом подам. Тады выгарнуць у чалеснік кожны бохан качаргой і разложаць парадачкам на слон або на лаўку і аблюць злёгку халоднай вадою, і разгладзяць ваду голай рукой па ўсяму бохану, і ўвесь хлеб запарує, запахне, і скарынка зробіцца вязкай і бліскучай. Такі хлеб ела зараз Мар'я.

І ўбачыла кожнае бервяно ў сцяне хаты, мох у пазах паміж бярвеннямі, зляжалы, спрасаваны ў камень цяжарам усёй хаты, гэткага ж жаўтавата-цёмнага колеру, як і само бярвенне, падобнае тут, у хаце, хутчэй на цьмяныя цвёрдыя косці, чым на мяккае дрэва. «Гэта яны такімі зрабіліся ад духу, які заўсёды стаіць у хаце»,— падумала Мар'я.

І во толькі цяпер убачыла, у што апранута была цётка: мужчынская шэранькая сарочка, увабраная ў саматканую зрэбную пафарбаваную ў балотнай гразі спадніцу. І ўявілася балота, Клеюха, дзе бралі гэтую фарбавальную гразь — у вёдры, у цабры, у што хто мог. Афарбоўка была не вельмі моцная, пад колер сівалезага багунніку, але куды зручней, чым нефарбаванае, белае.

— У Клеюсе гразь бралі? — чамусьці спытала ў цёткі, паказваючы на яе спадніцу, хоць добра ведала, што нідзе тут паблізу няма больш такой гразі, апроч Клеюхі.

— У Клеюсе,— адказала цётка.

— Не спалілі, бач, Восаўку, як адступалі?

— Зязюлька, не было калі. Я дома была, усё бачыла. Нявестка з унукам у лесе начавалі, а я не

ўцякала. Бог ведае, думаю, заб'юць дык заб'юць. Некаторых і ў лесе пабіла. Уведай, дзе тая куля ў цябе трапіць. Чуць стала на дзень займацца, застралялі, чую, у тым канцы, дзе школа. Я к акну. А яны, нашы ўжо, бягуць-бягуць па лагу, па сенажаці ў той бок, пад школу. Немцы ў школе былі атабарыліся. Машын там, казалі, сваіх кругом наставілі. Школа згарэла, а сялу пашанцавала. А ў вашай Бярозаўцы зусім не былі.

— Не згарэла? — абрадавалася Мар'я.

— Не, любка, нічога не згарэла.

— А мама як там? Не чуць было?

— Калі б памерла, пачулі б. А твайго ж, казалі, няма жывога.

Цётка Юстына глянула на Мар'ю спакваля і доўга не спускала з яе вачэй, гатовая на дапамогу, калі ў пляменніцы здарыцца абмарока.

Не было абмарокі. Што муж, Павел, загінуў, яна дапускала ў думках даўно, калі яшчэ была ў Германіі і чакала вызвалення, бо ў баях ён з першых дзён вайны, калі немцы ўсё і ўсіх знішчалі на сваім шляху і не разлічвалі, што акрамя іх яшчэ нехта павінен жыць на зямлі. Але то былі толькі думкі, здагадка, у якой верагоднасць занадта агульная (б'юць, а ён што: шчаслівае выключэнне?), а цяпер, глянуўшы ў вочы цётцы,— амаль тое, што ўбачыла яго смерць. Не, смерці мужа яна не ўбачыла, як не ўбачыць таго месца, дзе ён загінуў, не ўведае часу — уранні, увечары, удзень, уночы, зімой, летам, вясной, увосень, у якім годзе? — але адчула, як колішняя няясная думка, у сваёй няспыннай і неадольнай раскрутцы, зрабіўшы ўрэшце свой апошні круг, з разгону сцебанула яе ў грудзях у самае балючае месца. Цётка была з ёй, з насупленым і худым тварам, з сінімі, запалымі, але спагадлівымі і цёплымі вачыма, у старамодным чапцы, з-пад якога вытыркаліся зусім ужо сівыя валасы, радня, яна выдумляць не стане. Ды і што тут выдумляць, калі было з ваенкамата паведамленне? Канешне, шчаслівыя выключэнні бываюць. Хаця б яна сама. Колькі людзей яе лёсу паўміралі, а яна вось засталася.

Іншая думка, што паведамленні аб смерці салдата бывалі памылковымі (гэта яна ўжо чула за час вяртання з Германіі), мільганула ў галаве слабень-

ка, як ледзь улоўная вокам знічка ў начным небе, і зноў адсунулася кудысьці ўбок і не вярталася больш, пакуль Мар'я сядзела за сталом, адчуваючы боль у душы.

— Не бяры да галавы. Трэба жыць. Маладая яшчэ. Ты не адна такая. Можа, чалавека знойдзеш. Дзеці будуць,— загаварыла цётка.

«Ты не адна такая». Не адна, канешне. Але ці ім, не адным, лягчэй ад гэтага, што яны не адны ў сваім лёсе?

І чалавек, і дзеці, і другое жыццё — усё гэта не тое. Нешта істотнае адсеклі ад яе і адкінулі далёка ўбок. І яго не знойдзеш, і яно не прырасце, калі б і знайшоў, як не можа прырасці адсечаная нага або рука, таму і дажываюць такія людзі сваё жыццё калекамі.

— Цётачка, колькі табе было гадоў, як дзядзька памёр?

— Пяцьдзесят сем. Ды я была яшчэ дужая.

— А замуж чаму не пайшла?

— Ты што, Мар'ячка, здурнела? Як я магла пайсці? Меншаму было шэсць гадоў. А яшчэ большыя былі. Ад сваёй сям'і, калі б хто і браў?.. Ты ж адна, і на руках нікога. Як дзеўка.

«Чужое, чужое...— думала Мар'я.— І нават калі б дзеці былі, чужыя былі б».

Першае яе дзіця было ад Паўла — сваё, другое — чужое. Яно плакала есці, а яе душа крычала: «Чужое, чужое, чужое!» Яна нарадзіла яго нехаця, выпадкова, ад свайго ворага. Пераканалася ў гэтым тады, калі нарадзіла і глянула на яго твар і вочы. Гэта было савянё ў чужым гняздзе, таму і чужое. Чужое было дзіця! Да нараджэння яшчэ думала: «Можа, ад Якава?» Тады б была і бяда і не бяда. У вайну нарадзіць дзіця, ды яшчэ не ад свайго мужыка, было б таксама вар'яцтвам. Ды душа была б на месцы. Яно было б сваё. А гэта — чужое.

— Цётка!..

Так павышаюць голас, калі хочуць сказаць нешта значнае і апошняе, пасля чаго ўсякія няпэўныя і раздвоеныя гаворкі губляюць усякі сэнс. Яе абурэнне вось-вось павінна было вырвацца на паверхню, тут, у цётчынай хаце. Цётка свая, яна нікому нічога не скажа. А калі і скажа... Не, не скажа. Цётка мае

права ведаць, якая яна, Мар'я. Свае, радня, усё павінны ведаць пра сваіх, пра радню. Тады радня становіцца яшчэ бліжэйшай і раднейшай.

Між іншым, цётка не сказала Мар'і: «Што?!» Не хацела разжальваць пляменніцу ці не звярнула ўвагі на незвычайную інтанацыю яе голасу?

— Дзе вы там спалі? — запыталася цётка, быццам гэта было галоўнае ў Мар'інай няволі, а не тое, што звязана з небяспечным балансаваннем паміж жыццём і смерцю.

Мар'я была адразу выбіта з свайго цяжкага настрою і нібы абрадавалася такому простаму цётчынаму пытанню. Тут ніякіх сакрэтаў, гавары, што было, а што было — усе ведаюць.

— У свінарніку на столі, цётка, спалі. Пад намі свінні, а мы — над імі.

— Свінні? — здзівілася цётка і глянула бокам у акно на вуліцу.— Воўк бы іх паеў, яны ж пшыкаюць. Як гэта вы там дыхалі? — Зноў глядзела на Мар'ю, шкадуючы, што павінна была спаць на столі ў свінарніку.— Не смярдзела вам там?

— Смярдзела ці не смярдзела, не было калі прыслухоўвацца. Пякнеш, як сноп, за дзень нарабіўшыся, і нічога не чуеш.

— А зімой дзе жылі?

— І зімой там сама.

— Печ якая была?

— Ніякай печы.

— Калелі?

— У іх не хапала зімой, каб у сваіх хатах паліць, а то нас будуць грэць. Мы былі рабы. Шкадаваць нас будуць?

— А кармілі трохі?

— Трохі кармілі. Мы ж бы не рабілі, калі б не кармілі. Калі конь прыстане, яго падкормяць збольшага і далей паганяюць. Так і нас. Але яда не наша, цётка. Абед без хлеба. І вячэра без хлеба. А якая яда без хлеба? Усё праскоча праз цябе, што з'еў, і зноў галодны.

— Праўда. Я і сама: каб хлеб і скварка. Тады яно ў жываце трымаецца.

— Ого, каб скварок сала далі! Ураніі быццам адрэжуць скібачку хлеба, нават маслам пэцнуць для вока. І кава. Без цукру. А калі хутка з'ясі, крыўля-

юцца і кажуць: «Гунд». Гэта па-нашаму — сабака.

— Сабака?

— Ага. Хутка ясі, дык сабака.

— Ад'ясіся дома, не бядуй. Цяпер ужо ў людзей парасяткі завяліся. У таго-сяго кароўкі. Хлеб ё, бульба. У нас тут дзед Юрка жыве. Яму ўжо шмат гадоў. Ён старэйшы за мяне.

— А табе колькі, цётка?

— Болей як восемдзесят. Дык ён адразу сказаў: «чужынец». «І не будзе іх тут»,— гэта пра немцаў.

— Дзякуй богу, тым яно і скончылася. Але слухайце далей, цётачка. Было ў іх, бюргераў, сем кароў, два кані, свінні, малатарня, сячкарня, сеялка, касілка. Работы — па вушы. А глядзелі, каб мы бруччыны не вырвалі, не з'елі морквіны, бульбіны. Не дай бог, скупыя, цётка. А як пачулі, што іхняй арміі капут, што хутка нашы будуць у Германіі, палагоднелі. Бульбы наварым сабе асобна — маўчаць. Наадварот, нават загуткаюць, як удоды: гут, гут, гут. Гэта: добра, добра, добра. Во, цётка!

— Не бядуй, кажу. Абы жывая во вярнулася. Сыты галоднаму не спагадае. Яны думалі, што іх верх будзе, аж не.

У хату ўбег Эдзік і, не зачыняючы за сабой дзверы, закрычаў:

— Баба!

А тады, убачыўшы за сталом незнаёмую цётку, засаромеўся, схіліў на бок стрыжаную з квадратным лобікам галоўку. Шэрыя вочкі нібы прасілі ў чужой цёткі прабачэння — так ён абы-як уварваўся перад чужым чалавекам у хату, хоць хата была свая, а цётка — чужая.

— Не бойся, Едзька, не бойся. Цётка свая, радня нам,— супакойвала яго баба.— Хадзі сюды. Дзверы зачыні, а то мухі наляцяць у хату. Хлеба хочаш?

Ён хітнуў зверху ўніз галоўкай.

Баба адрэзала яму ладную скібку хлеба, ён вертануўся з ім у руцэ, бразнуў дзвярыма і затупаў босымі нагамі па цвёрдым двары на вуліцу.

— Гэтак во: ухопіць хлеба — і на вуліцу. Ладны кавалак з'есць.

— Жвавы,— сказала Мар'я.

— О, ён гэткі,— пацвердзіла Юстына.— А сарамлівы... Як хто чужы, тады адразу абвяне.

Сонца села за лес, прыемны летні змрок ахінаў хаты, агароды, лажкі, лажыўся на пыльную, стаптаную капытамі кароў, коней і самімі людзьмі вуліцу. Дрэвы, якія былі паўз вуліцу,— дзе ліпа, дзе таполя,— сцішыліся, не кратаючы ніводным сваім лістком, ніводнай галінкай, нібы разумеючы, што хутка людзі пасля шчырай дзённай працы будуць класціся спачываць.

Прыйшла з паствы карова. Сустракаць яе выйшла Юстына і разам з ёй — Мар'я. «Якая карова?» — цікава было Мар'і. Кароў яна бачыла там, у Германіі, кожны дзень, але для яе былі яны як за нейкай высокай загародкай, і не было ніякага задавальнення, глядзіш на іх ці не глядзіш. Чырвонасветлыя, белыя ногі да самых кален, белая пыса, белы канец хваста, рогі кружком угору, вушы не вельмі вялікія. На людзей глядзелі даверліва. У шкляных пукатых вачах ніякага перапалоху. Ад іх пахла не толькі поўсцю, але і сырадоем. З напятага вымя цыцкі тырчалі прутка, і было падобна, што з іх пырсне малако, калі жывёліну зараз жа не падаіць.

— Хай трошкі ачахне,— сказала цётка і загнала карову ў пуню, вялікую, накрытую кулявой саломай.

Цётка Юстына павінна была ісці даіць карову, і Мар'я сказала:

— Ну, цётка, я пайду. Цяпер ужо будзем бачыцца часта.

— А можа, начуй, Мар'ячка? — і цётка глянула цераз невысокі плот у той бок двара, дзе садзілася за лес сонца.

Мар'я не магла начаваць. Бо дом ёсць дом, куды заўсёды і ўсе спяшаюцца, хаця спраў пільных у яе там не было пакуль што ніякіх.

— Забягу яшчэ завідна, цётка,— адказала яна.

— Тады шчаслівa, Мар'ячка. Ваўкоў цяпер, здаецца, не чуць.

— Што ваўкі! — засмяялася Мар'я. Яна ўспомніла недзе ўжо чутае: «Бойся не ваўкоў, а чалавека».

* * *

Пачалося вунь адкуль здалёку, калі яна з дзяўчынкі пачынала станавіцца дзеўкай, крадком ад мацеры ложачы сабе на нос пудру, замазваючы на тва-

ры, перад люстэркам, пахучым жаўтавата-белым крэмам такія-сякія недасканаласці скуры, ну, і тым болей спачатку ў святыя дні, а потым і кожны дзень пасля работы, перад тым як ісці ўвечары на вуліцу, мыцца ружова-малінавым мылам. Сказаць, што ў сям'і яна была на якіх выключных умовах, нельга. Быў яшчэ большы брат, потым брат пад ёй, гэта значыць маладзейшы, сястра была самая меншая ў хаце. Ды вылузвацца ў людзі, калі на цябе пачынаюць звяртаць увагу і нават пранікацца пашанай, першай пачала яна.

Неяк так атрымалася, што Мар'я, адціснуўшы ўбок большага брата, стала ў сям'і як бы старэйшая. А раз старэйшая, ёй больш павагі з боку мацеры, веры больш і волі.

Іван быў не з брыдкіх вясковых хлопцаў: рослы, ёмкі ў плячах, і касец, і араты, любую работу, калі ўзахвоціцца, зробіць умомант. Спачатку пачаў паглядаць уважліва на Мар'ю, тады — усміхацца ёй пры сустрэчах, а потым спыняць і прытрымліваць за руку.

Маці ўведала і адрэзала дачцэ:

— Хіба пераступіш цераз маё мёртвае цела? Як ты думаеш?

— Ты пра што, мама? Гаворыш нешта страшнае.

— Во, страшнае, дачушка. Яны забілі твайго бацьку. Ды як забілі! Жывёлу так не забіваюць. А ты з ім балясы точыш. Можа, і цалуешся ўжо? Скажы, цалаваў ён цябе, не? — Маці, трымаючы ў правай руцэ тонкую драўляную качалачку, якой качала на стале локшыну, уставілася злоснымі вачыма на Мар'ю, ссупіўшы ў гармонік лоб, і Мар'я разгубілася. Сапраўды: стукне ў гневе гэтай сухой палянякай.

— Мама! Чаго ты? Я нікога не ведаю. З кім я цалавалася? Я ні з кім не цалавалася. Хлопцы абы з кім цалуюцца. Чмокне ў шчаку сам, агледзецца не паспееш.

— Не гавары, вочы твае суччыны. Бачу, што цалавалася,— маці пачала стукаць качалачкай па стале.— Каб на гэтым канец! Хлопца знайшла. Ён і старэйшы за цябе на цэлых дзесяць гадоў, жаба жаўтаротая. Сказала: хіба цераз мяне нежывую пераступіш.

Мар'я не ступала цераз цела нежывой сваёй ма-

церы. Як можна? Іванаў дзядзька забіў Мар'інага бацьку.

— Хочаш, ідзі за Паўлу, калі ўжо табе так не церпіцца замуж. Ён у мяне пытаўся, казаў — узяў бы. Канешне, маладая, можна было б пачакаць. Але надзеўцы так: ідзі тады, калі бяруць, не капаюць нагой, як тую трухлую бабку ў лесе.

— А ён жа за Івана старэйшы?

— Старэйшы? То і добра, што старэйшы. Разумнейшы. Ён ведае, за што цябе бярэ. Жыць будзе. Памагаць табе будзе, работу рабіць.

— Іван на два гады за яго маладзейшы.

— Пра Івана мне ні слова! Хай Паўла прысылае сватоў. А то яшчэ пуза сабе нагуляеш. Я што тады буду рабіць? Без гаспадара, удава. Вось так, усё,— і маці, раскачаўшы апошні блін локшыны, палажыла качалачку на печ за комін.

Павел не пытаўся ў Мар'і, пойдзе яна за яго ці не, ніколі не праводзіў яе, не расчульваўся перад ёй, не выстаўляўся закаханым іменна ў яе, а проста, як і сказала Мар'іна маці, прыслаў сватоў. Сам у хату са сватамі не пайшоў, застаючыся недзе паблізу на двары, каб потым, калі сватам не адмовяць і скажуць: «Дзе жаніх і маладуха?», быць тут як тут.

Неўзабаве іх паклікалі. Гаворка была кароткай. Сват пытаў:

— Маці?

— Аддаю,— адказала яна як на якой знаёмай рэпетыцыі.

— Маладуха?

— Іду.

— Жаніх?

— Бяру.

— Вазьміцеся за рукі і хадзіце сюды, да стала,— гаварыў галоўны сват.

І адбыліся заручыны. Пілі гарэлку і закусвалі сырым, парэзаным на тонкія скрылікі салам. Застолле набралася поўнае. А пад вокнамі гарэзіла моладзь.

Пасля заручын маці сказала:

— Не ідзі дамоў, начуй у нас. А то яшчэ той дурань з-за вугла чым-небудзь стукне.

Было б яно так ці не было, але Павел ахвотна застаўся начаваць у цешчы. У першай палавіне хаты

стаяў шырокі драўляны ложак, ужо запасны пасля пахавання гаспадара, маці сама высцеліла на ім пасцель, падбіўшы не толькі дзве падушкі, але і сяннік у палатняным мяшку, і сказала:

— Лажыцеся тут.

Маці чула, як жаніх пачаў капошкацца ў той хаце, апранаючыся, як рыпелі галяшкі хромавых ботаў, калі ён іх надзяваў, і як на дыбачках пайшоў да дзвярэй. Калі ж хада яго пачулася ўжо на двары, за вокнамі, яна выйшла ў сенцы, каб яшчэ раз заперці іх засаўкай. «Іван дзе-небудзь дома ўжо»,— рашыла яна ў думках.

Аднак Павел не кінуў Мар'ю і, як ёй здалося, не ўсердзіўся. Наадварот, стаў яшчэ больш абыходлівым і кожны дзень хадзіў да іх у хату, выгляду не паказваючы, што ён калі-небудзь хоча застацца начаваць у іх на адным ложку з ёю.

— Прывыкнеш,— сказала ёй маці.— А я, думаеш, як ішла за твайго бацьку? Любіла? Так дзіка было! Во, дзякуй богу, і жылі добра, і вас чацвёра нарадзіла. І жылі б, калі б... Чалавека любіш за што? Калі ён добры. Табе зычаць добрага. Вот пабачыш, які будзе гэты твой Іван-балван. Яны, ой...

Павел сваю работу дома рабіў (без бацькі ж быў, а большы брат даўно аддзяліўся, збудаваўшы сабе сваё гняздо і завёўшы сям'ю ў ім), на калгасную хадзіў і, як толькі выдарыцца вольная хвіліна, бег, каб памагчы цешчы. Там капу сена скласці, там палена дроў раскалоць, з якім не мог справіцца па-мужчынску яшчэ досыць жыдкі большы ў сям'і Мікола.

Вяселле было няскора, у канцы лета, пасля спаса, калі і ў калгасе, і ў сябе дома людзі ўсё пажалі і пакасілі, але надвор'е стаіць добрае, пахне лісцем багатай раслііннасці, і гуркамі, і бручкай, і зусім спелымі яблыкамі-жытнікамі. І ноч была цёплая і зорная, і прыемна было з сянец, дзе танцавалі, выйсці на двор і праветрыцца.

Гармонік і скрыпка. Што ж яны выраблялі, як жа суладна бралі любы танец, любую мелодыю, і падымаючы так высока і мілагучна, аж дух займала. І людзям было весела-весела ад такой музыкі, ад такога мноства людзей, ад іх святочнай вопраткі і гоману, ад песень, якія спяваліся, вясельныя і невясельныя, ад добрага надвор'я, ад таго, што ў вы-

сокім цёмным небе міргалі зоркі, як бы памагаючы з такой вышыні весяліцца людзям на зямлі. Бадай, і застаўся б ад вяселля такі ясны настрой, калі б не павялі яе перад тым, як аддаць жаніху, на могілкі развітацца з бацькам і папрасіць благаславення. Першая не вытрымала маці — загаласіла. І раптам, пачуўшы матчына галашэнне і ўбачыўшы яе слёзы, адчула і зразумела Мар'я, што жыццё — гэта не адна музыка, што нешта ў ім абрываецца і адыходзіць, каб ніколі не вярнуцца, як ніколі не ўстане з-пад горкі зямлі, абкладзенай дзёранам, не вернецца бацька, толькі і будзе крыж з белым фартушком і шэры камень каля крыжа на грудзях у бацькі. І нешта зараз абарвецца ў яе жыцці, пасадзяць яе на чужы воз і прывязуць у чужую хату, і там будзе, замест мацеры, свякруха, яго маці, і трэба будзе называць яе мама, хоць яна ёй ніякая не мама, і жыць з ёй, не ведаючы яе звычак і характару. Спачатку Мар'я пастаяла крыху перад магілкай бацькі, гледзячы на камень і крыж, потым апусцілася на калені, не зважаючы на белае вясельнае плацце, нарэшце ніцма ўпала на земляную горку, абшчапераўшы яе з абодвух бакоў рукамі, нібы гэта была не халодная зямля, а жывы яе бацька, такі цёплы і блізкі, якім яна памятае яго з дзяцінства. Кветкі вянка тыкаліся ў пясок, парослы рэдкай травой, пружынілі і згіналіся, губляючы сваю недатыкальную прыгажосць, а слёзы сыпаліся і сыпаліся ў яго, нібы павінны былі прасачыцца да дамавіны.

Калі Мар'ю паднялі, трымаючы пад рукі, убачылі, што плацце яе было ў зеляньках і ў пяску. Пясок асцярожна стрэслі дзе хусцінкай, дзе рукамі, а з зелянькамі так нічога і не рабілі. Што ты зробіш з імі? Іх можна толькі з цягам часу адмыць, і то не вельмі.

І калі ішла ў натоўпе людзей ад бацькавай магілы, заўважыла адным вокам убаку, воддаль, Івана, і яе скаланула, нібы ён, насуперак падсвядомаму жаданню Мар'і, ніколі не павінен быў быць тут і нагул на яе шляху, а ён тут і глядзіць у яе бок. Ёй хацелася крыкнуць на яго, зняважыць, калі б не людзі, але яна сцялася, сціснулася ўся і больш не хацела глядзець па баках, каб не ўбачыць яго. «Што ж ён... Адкуль? Чаго?»

А дома старыя жанчыны заспявалі:

Сіротачка па магільніку хадзіла,
Сіротачка госпада бога прасіла:
«Разбі, божа, ды сасновыя ты дошкі,
Пастаў, божа, майго татачку на ножкі».

Кожны радок паўтаралі яшчэ раз, апошняе слова цягнулі доўга, на адной ноце, і здавалася, што гэтай адной самотнай ноце не будзе канца і будзе гучаць вечна, нават тады, калі жанчыны перастануць спяваць. Песня была нагэтулькі шчырай, і галасы спявачак нагэтулькі чыстыя і пранікнёныя, што не далучыцца да яе, асабліва таму, каму яна спявалася, нельга было. У Бярозаўцы такія песні спявалі маладухам-сіротам.

Дагэтуль, да вяселля, Мар'я ніколі не думала, тым больш не адчувала, што яна сірата. Бацькава смерць даўно адсунулася ў далёкае мінулае, нібы і не было ні бацькі, ні яго пахавання, ні тых людзей, якія вінаваты былі ва ўсім. Раптам усё гэта вярнулася, аднавілася, зрабілася вастрэйшым і большым, каб навечна легчы мяжой паміж Мар'яй і тымі, другімі, чужымі. Як жа яна дагэтуль?..

Тады, на могілках, калі Мар'я ішла ад магілкі бацькі ў вянку і вясельным плацці і заўважыла яго ўбаку, воддаль, ён быў чорны. Занадта чорны і, як выдалася ёй, страшны... «Можа, са злосці пачарнеў?» — падумала яна, бо нечым вылучаўся ён сярод людзей, і не заўважыць гэтага, асабліва таму, хто яго ведаў, нельга было.

Во, гадзіны дзве таму назад, ідучы ад шашы цераз Воўчы Лог, мыючы ногі ў крыніцы і любуючыся шпачынай сямейкай, не ўспаміналa, што ў гэтым Воўчым Лозе, у хмыразе, зусім недалёка ад дарогі, ён забіў двое яўрэйскіх дзяцей. Мар'я бачыла іх, гэтых дзяцей. У горадзе немцы дабівалі ўжо ўсіх яўрэяў, а ім, брату і сястрычцы (яму было гадоў дванаццаць, а ёй менш), нейкім чынам пасчасціла выскачыць з смяротнага кола і, мінуўшы не адну вёску на сваім шляху, зімой, апранутым так-сяк, у нейкае рыззейка, у растаптаным абутку, дабрацца да Бярозаўкі. Яны шукалі паратунку, яны так даверліва глядзелі сваімі яўрэйскімі, шырокімі рыжаватымі вочкамі на людзей, калі гэта былі не немцы, што не пашкадаваць іх, не дапамагчы ім, маючы душу і сэрца, нельга было. Іх прыняла ў хату да сябе Мар'-

іна маці, каб пакарміць і параіць, што ім рабіць далей. Мар'я пачула, што яе маці павяла да сябе яўрэйскіх дзяцей, і сабе пабегла паглядзець іх. Яны елі за сталом, са смакам, як, можа, ніколі не елі дома. Тварык у хлопчыка быў прадаўгаваты, носік худзенькі, з невялічкім гарбячком. Дзяўчынка была з непрычасанымі, незаплеценымі валасамі. Калі пад'елі, ім сказала маці:

— Лезце на печ, пагрэйцеся.

І яны ахвотна палезлі, высока, як на якое неба, у рай, і здавалася, што іх ніхто не кране, бо не дастане, і сядзець ім там, спачываючы, колькі захочацца.

— Разувайцеся,— сказала маці, і яны паздзіралі з ног свае змакрэлыя ад доўгай хады па снезе башмакі і мокрыя на ступнях, дзіравыя шкарпэткі і панчохі. Ногі іх босыя ад доўгага судатыкання з вільгаццю былі чырвоныя.

— Лажыце ўсё гэта сваё абуванне на чарэнь, сушыцеся. Куды вам сказалі ісці?

Ім сказалі ісці ў Цераболь, яшчэ далей за Бярозаўку, дзе немцы яшчэ ніколі не былі, а паліцыя сваімі невялікімі сабачымі збежкамі даставаць не асмельвалася.

— У вас ёсць хто-небудзь там?

Дзіўна: хто ў дзяцей мог там быць? Нікога ў іх там ці знаёмага, ці свайго не было. Людзі, якія раілі ім ісці ў Цераболь і паказалі дарогу, ведалі, што ў Цераболі яшчэ савецкая ўлада, няма ні нямецкіх камендантаў, ні іх управ, ні паліцэйскіх гарнізонаў.

Сагрэўшыся на печы, дзеці вельмі хутка заснулі, і людзі, якія былі сабраліся ў хату падзівіцца на іх, ціха, не тупаючы нагамі, не стукаючы дзвярыма, разышліся.

— Хай начуюць,— сказала Мар'іна маці, бо час быў пасляабедзенны, а дзень у снежні які? Куды ім супраць ночы? Яшчэ з дарогі саб'юцца, заблудзяць, замерзнуць у лесе. На двары, можна сказаць, ужо сутонілася, неба было хмурае, мог з мінуты на мінуту пайсці снег.

Назаўтра ўранні не паспела Хадора ўправіцца па гаспадарцы, як каля двара спынілася фурманка, вараны конь у высокай дузе, карафашка.

— Іван,— убачыла Хадора ў акно.— Чаго б ён так рана?

А тады ёкнула сэрца: «Няўжо ўведаў?»

Дзверы ў хату расчыніліся, і ўвайшоў ён самы, Іван, у кажусе, з паліцэйскай павязкай на рукаве, у вушанцы. Не прывітаўшыся, ён пратупаў кованымі нямецкімі ботамі ад дзвярэй да заполку і, глянуўшы на печ, сказаў, хіхікнуўшы:

— А, во, галубяты мае. Апранайцеся, апранайцеся. Хуценька! А то мне няма часу з вамі важдацца. Мне-такі кажуць: начуюць у Хадоры. Праўда.— Ён махнуў левай рукой, каб дзеці злазілі з печы.

— Іван, ты здурнеў? Што яны табе? Гэта ж дзеці. Во паснедаем, і хай ідуць. Яны ідуць некуды. У іх там свае. Можа, іх пераправяць цераз фронт. Не іменна табе больш за ўсіх трэба,— пачала ўгаворваць яго, не баючыся, як свайго аднавяскоўца, Хадора.

Ён паставіў перад ёй рукі, аддаляючы ад сябе і ад печы, ход на якую жанчына загароджвала.

— Хай ідуць... Ты ведаеш, куды яны ідуць? Яны ўцяклі і, калі ты іх будзеш хаваць, табе па ваеннаму закону будзе тое самае, што і ім. Сваіх во пільнуй, не згубі, глядзі,— і паліцай павёў тварам на малых Валодзю і Галю, якія стаялі тут жа на падлозе, выйшаўшы з другой палавіны хаты.

— Хай хоць пад'ядуць...

— Нельга. Мой участак. Не павінны яны быць тут. Я іх зразу ж дастаўлю, як паложана, куды трэба. Хай іх там кормяць, пояць, апранаюць. Маё дзела служба.

Ён павёз іх у свой гарнізон, у Восаўку, а адтуль — у Вяззе, з Вяззя — у Воўчы Лог і расстраляў.

* * *

22 мая Мар'я радзіла, а праз месяц пачалася вайна, і Паўла забралі ў армію. Малое было ў сповілках, хоць на двары стаяла лета і было цёпла. Спавівалі дзеля таго, каб не акрывелі ногі, не вырас горб, не скрывіўся бок. Бацька глянуў на яшчэ чырвоны тварык, на якім, акрамя маленькага, як гузічак, носіка і сініх-сініх, як дзве крынічкі, вочак, нічога не было, і сказаў Мар'і:

— Гадуй сына. Пакуль прыйду, каб вялікі вырас,— быццам чула душа, што прыйдзе няскора. Па выгляду ж твару — звычайны жарт мужчыны перад жанчынай.

Мар'я не плакала ніколечкі, нібы гаспадар ішоў на якую работу з невялікай адлучкай з дому. Наогул на яе памяці ў Бярозаўцы не плакалі, калі хлопец ішоў у армію або на летнія ваенныя зборы ў лагеры. Чаго? Ён жа прыйдзе. Не ведала яна, як усе маладыя людзі яе ўзросту, што такое вайна і што яна нясе з сабой чалавеку, нават калі гэты чалавек не салдат, не на фронце, а стаіць далёка ўбаку. Трошкі збянтэжылася, трошкі разгубілася, быццам толькі з-за таго, што цяпер трэба будзе самой хадзіць з вёдрамі вады ў калодзеж, несці ў хату, калі паліць печ, ахапак дроў... А сена карове хто накосіць? На яе плечы цяпер ляжа ўся работа па гаспадарцы. Свякруха старая. Ну, карову ў хлеў зачыніць, ну, з дзіцем пабудзе, пакалыша яго. А колькі тая вайна працягнецца?

Паўла быў як конь. Што яму ўзваліш на плечы, тое і панясе: мяшок жыта, бульбы, капусных качаноў! Мар'я ані ніколі не каялася, што пайшла за яго — ёй было добра з ім і на рабоце і дома. Ён як клапатлівы бацька, які і пашкадуе, і ўсё зробіць за цябе, і за якога можна схавацца ў выпадку якой небяспекі, як за каменную гару.

Для бярозаўцаў, якіх не ўзялі ў салдаты, для старых, дзяцей і баб вайна пачалася на які тыдзень пазней, чым яна пачалася на граніцы. Самалёты, скідаючы бомбы, наводзілі на людзей жах, і трэба было выбірацца ў лес.

Да Мар'і прыйшла маці.

— Мікола пабег запрагаць каня, паедзем, збірайся. Чаго чакаць? Людзі вунь, як мурашкі, забегалі. А ты, сваццconfiguration, што будзеш рабіць?

— Во гэтак, гаворыш. Чаго гэта я куды пайду? Хату сваю кінуць? Тут і куры, і свіння, і карова, і дабра якога трошкі. А тады як будзем жыць? — гаварыла Мар'іна свякруха, жанчына з выгляду досыць мажная, але якую ўжо прыгнула старасць, павыпіраўшы скулы на твары, каля вялікіх пальцаў косткі на босых нагах і нязграбна адтапырыўшы назад клубы.

— Свацця, а калі перадавыя часці заб'юць? Яны ж, кажуць, ідуць як дурныя. Страх!

— Можа, захінуся дзе, калі калатніна пачнецца. У пуні хованка ў нас ёсціка пад зямлёй. Так ужо і заб'юць. А заб'юць, дык мой ужо век усё роўна кароткі. Усіх не паб'юць.

— А як бомба пападзе ў хату? На кавалачкі ўсё разнясе.

— Не іменна ёй пападаць у нашу хату.

— Як хочаш, свацця, каб тады не наракала на нас, што самі ўцяклі, а цябе пакінулі.

— Не буду, свацейка, не.

— Яды не бяры, мы ўсё возьмем. Кароў пагоняць сёння туды, на Востраў. Малако будзе там. Сягоння, свацця, каровы дамоў не прыйдуць,— закрычала Хадора, быццам свацця была зусім-зусім глухая. «Хай добра пачуе, а то яшчэ будзе ўвечары цягацца па вёсцы, шукаючы, чаму карова з паствы не прыйшла»,— падумала яна.

— А калыску?..— не ведала Мар'я, браць з сабой у лес калыску ці не браць. На руках з дзіцем і ў любым хмыразе прадзярэшся, а з калыскай?

— Вазьмі,— сказала маці.— На воз — і паедзем. На сук пачэпім. Як жа яно засне без калыскі? Камары, авадні, мухі... Не наадганяешся. А так вопінкай запнём, і ніхто не ўкусіць. Кінем тады, калі трэба куды бегчы будзе. Наўда вялікая — калыска.

Зрання, як выгнатая, вёска рушыла ў лес. Такога перапалоху і такога перасялення ніхто з яе жыхароў не помніў. Былі ў 1918 годзе немцы — не тое. Ніхто нікуды не высяляўся, не ўцякаў. У небе было ціха. Былі ў 1920 годзе белапалякі — таксама нельга параўнаць з цяперашняй вайной, якая пачалася. Хапалі дабро, сала, іншы набытак тыя і другія. У Восаўцы забілі матроса. За тое, што агітаваў за савецкую ўладу. Ён уцякаў, але немец палажыў вінтоўку на калена і папаў з другой ці трэцяй кулі. Некаторыя вёскі белапалякі папалілі — там былі свае партызаны і рабілі засады на ворагаў. Але дух, дух вайны быў не той.

Зараз загудзе ў паветры «драбіна» — дзве палкі побач і дзве накрыж — і будзе кружыць і кружыць над палямі, лясамі і дарогамі, а потым выплывуць на чыстую гладзь неба звычайныя самалёты, зусім не

высока, і недзе нешта засвішча, закалоціцца і задрыжыць, аж зямля ўся пад нагамі скаланецца. Як жа не хавацца ад такога наслання, ад такой нерварэзкі?

Дарога, якая вяла з вёскі ў лес у напрамку Вострава, прапусціла была ўжо асноўны напор людзей і фурманак, ды не вымерла яшчэ зусім, той-сёй ішоў па ёй, той-сёй ехаў, хто ў лес, а хто ўжо з лесу, каб забраць, што не паспеў або не мог за адзін раз забраць. І гэтага невялікага, рэдкага руху па ёй зусім было дастаткова, каб скінуць на яе некалькі бомб, прашыць некалькі разоў уздоўж кулямётнымі чэргамі. На полі нікога не забіла, толькі тры глыбокіх лункі недалёка ад дарогі, у жыце, засталіся на гады, пакуль людзі, устаўшы на моцныя пасляваенныя ногі, не засыпалі іх бульдозерам. А кулі? Кулі ў зямлі, іх там не адшукаць. Ды і навошта яны каму?

А адна... адна куля, калі ўжо былі ў лесе, трапіла ў галоўку Мар'інага дзіцяці. Яна трымала яго на руках, седзячы на біле калёс і звесіўшы ногі. З галоўкі не выйшла. Калі б выйшла, магла б трапіць Мар'і ў руку або ў бок. Калі самалёт, скаланаючы паветра, гуў над лесам і трашчаў кулямёт, здавалася, што тут чалавеку няма чаго баяцца, што ўсё на сябе прыме лес, нават разрывы бомб і іх асколкі. Спачатку Мар'я, пачуўшы ў руках торгат і невялікі трэск, падумала, што аб яе, аб дзіця і біла калёс шархануўся якісьці сасновы сук, павярнула галаву назад і пачала шукаць вачыма, дзе той сук, а не знайшоўшы, глянула на тварык хлопчыка. На лобіку была кроў. «Чым жа? — падумала яна.— Камара, які напіўся крыві, расціснула?»

Які сук? Які камар? Вочы дзіцяці не міргалі, закаціліся пад лоб, зрабіліся вялікія, з аднымі бялкамі.

— Мама! Звярні, Мікола, набок, стой! Паглядзіце, што з ім такое.

Яна яшчэ не плакала, не зразумеўшы, што з сынам. У душы здрыганулася: душа заўсёды з хуткасцю маланкі падае чалавеку сігнал аб нядобрым, а розум, сляпы кот, нічога яшчэ не бачыў, таму нічога і не гаварыў.

Мікола звярнуў з дарогі на невялікую лясную прагаліну і спыніўся. Самалёт гуў недзе ўжо далёка, несучы ў сабе пад крыламі тоны смерці ў новыя мес-

цы, новым людзям. З калёс злезлі маці, меншыя дзеці. Мікола, трымаючы ў руках лейцы, каб конь, матаючы мордай перад камарынай чмурой, не пайшоў.

— Пакажы.— Маці ўзяла дзіця на свае рукі.— Дачушка, хіба ты не бачыш? Ён мёртвы. Куля яму лоб прабіла. Не бачыш? — Яна дакранулася пальцам на лобіку вакол таго месца, куды трапіла куля, а сама паступова касцянела, нямела, нібы можна было моцным напружаннем думкі прыдумаць нешта, каб дзіця аджылося.

Іх абкружылі людзі, якія ішлі па дарозе недзе ззаду або былі ўжо ў лесе, але не спяшаліся на Востраў.

Сапраўды: што было рабіць? Назад ехаць у вёску, каб пахаваць дзіця на могілках? У вёсцы цяпер нікога няма. З кім цяпер там будзеш правіць хаўтуры?

Параілі ехаць, як і ўсе, далей, на Востраў. Уперадзе дзень. Там будзе відаць.

Коней выпрагалі, не даязджаючы да балота. На калёсах праз балота не пераедзеш. Коні, каровы яго пераходзяць часамі, вязнучы амаль па пуза, а воз не павязеш, хай і не цяжкі, калясо ўтопіцца з трубкай. На сабе неслі людзі на Востраў у мяшках або ў ношках такую-сякую вопратку, патрэбную для жыцця пад адкрытым небам, вёдры, чыгуны, кацельчыкі, запас харчоў, рыдлёўкі, тапары.

Дзед Міхалка, пахаджваючы каля замаскіраваных у ельніку, каб не відаць было з неба, калёс, улагоджваў мужчын:

— Дзеці, бабы хай ідуць. А нам, мужчынам, чаго на той Востраў? Ён, калі абмацае, дык і там і тут будзе адна пайка. Пяхота сюды не пойдзе. І машыны не пойдуць. Яны вунь па вялікіх дарогах, як шаша. Яны гарады будуць браць, станцыі. Навошта ім гэты лес?

Дзед сеў на вывараціну, дастаў з кішэні курыва, дыміў піпкай і час ад часу, задзіраючы галаву ўгору, усё паглядаў з-пад навісі яловых сукоў на сінія прасветы неба. З зямлі неба відаць, а з неба ці можна ўбачыць людзей у лесе?

— Тут каб толькі нічога не было белага і дыму. Дым ён далёка бача. Коней папутаем у нізіне, на травяной мякаці, а хто захоча, хай сабе панач на Востраў вядзе. Эт, папрывязваем каля вазоў,— дзед

махнуў уніз, сам сабе, рукой.— За ноч збрысці могуць. Жывёліну ў ночы цягне да поля, да чалавечага жытла.

Дзед зняў быў кепку, але на лысіну пачалі садзіцца камары і ліпкія маленькія сляпні, і ён, шаргануўшы левай далонню па галаве, вярнуў кепку на сваё месца.

— А з дзіцем я не знаю, Мікола, трэба было неяк пахаваць. У вас дома якія дошкі ё? Каб на дамавіну.

Мікола ціскануў плячыма. Ён ніколі не думаў, ёсць у іх дошкі, з якіх можна зрабіць дамавіну, ці няма.

— Увечары з'ездзім. Знойдзем дошку. Палена на крыж. Струмент вазьму. Зробім тут, у лесе. Колькі яму дошкі той трэба?

Назаўтра зрання рабілі дамавіну. Дзеду памагаў Іван, і памагаў шчыра, спачувальна, нібы памёр нехта з яго радні. Дзед толькі замалёўваў і паказваў, а ён і габляваў, і адразаў, і цвікі забіваў. Мікола адно глядзеў, а калі ў чым і мог памагчы, дык спазняўся і быў як звязаны.

Дамавіна выйшла маленькая, кароценькая, як на малюнку, але сапраўдная, з сухіх сасновых дошак (дошку знайшоў дзед у сябе на гары, ведаючы, што яна там ёсць, там былі яшчэ дошкі сабе і бабе на выпадак смерці і кавалкі смалістага стрыжня на крыжы). І крыж зрабілі добры і напісалі на ім дзедавым сталярскім алоўкам, хто пахаваны, калі нарадзіўся і калі памёр.

— Ідзі скажы бабам, хай аббіваюць труну, калі ёсць чым, і дзіця хай нясуць сюды, увечары павязём схаваем,— сказаў дзед Міколу.

Так пахавала маці, некага і нечага баючыся, сваё першае дзіця. Здавалася, калі яно было жывое, ёй было яго і не шкада: ну, дзіця, і ўсё тут. Давала яму грудзі, пераспавівала, мяняючы мокрыя полкі на сухія, аглядаючы прэласці пад пашкамі і паміж ножкамі. Быў, здавалася, адзін клопат аб ім, ад якога нельга было пазбавіцца, калі б нават і хацеў, ці перадаць цалкам другому чалавеку. А гэта — грудзі ў яе распёрла, баляць, малако з іх яна павінна была штохвіліны сцыркваць на якое лайно або проста на лясную зямлю, на траву, на лісце, галава цяжкая, не падняць, не павярнуць, у вачах рэзь, дзіва што: ноч не

задрамала. «Вот, выгадавала, вот і пахвалюся, як прыйдзе Павел дадому»,— думала яна. Яна ведала, адчувала, што ў нечым яна вінавата. Яна не даравала сабе, але ў яе не было пэўнага бачання гэтай віны. Прынамсі, у чым канкрэтна была яе прамашка? Можа, каб яна не паехала, рассеўшыся паненкай на калёсах, у той час як магла лёгка бегчы з малым на руках? Так, падвода — большая мішэнь, іменна ў падводу ляцела куля, і калі б Мар'я ў гэты час была не на калёсах, куля б не папала ў дзіця. І была злосць на мацеру: чаго яна яе, Мар'ю, прыспешвала іменна ехаць? Немцаў пакуль што няма, пажару не было. Чаго было?..

Іван нібы сапраўды перажываў яе гора. Не толькі дамавіну памагаў рабіць, а ўзяў рыдлёўку і паехаў разам з імі на пахаванне дзіцяці. Маці, дзед Міхалка, брат Мікола і ён. Толькі гаворыцца — паехалі. Усе ішлі за возам, на вазу была дамавіна. Кіраваў канём, трымаючыся за лейцы, Мікола. Такі быў рытуал: за нябожчыкам трэба было ісці. Крыж нёс дзед, ступаючы за самым возам, за нябожчыкам. Потым, побачкі, ішла Мар'я і маці. Іван быў задні, трошкі воддаль, каб не надта напірацъ на пярэдніх і не выклікаць у іх хоць якой незадаволенасці. На плячы ў яго была рыдлёўка. Ён будзе капаць дол.

Дзед казаў:

— Палажы на воз.

Але Іван не палажыў, быццам баючыся, што нехта можа перахапіць у яго гэтую работу. Ямку павінен капаць ён, як самы дужы з усіх тых, хто тут ідзе.

Спачатку Мар'я быццам і не заўважала яго. Ён быў ззаду, а яна ў прыцемку летняй ночы глядзела сабе пад ногі, каб не наступіць на што, а тады, як прыехалі на могілкі і сталі выбіраць месца і яна пачала бачыць яго перад сабой з рыдлёўкай на плячы, ёй пачало здавацца, што ён тут лішні. Ён капаць узяўся спрытна, адразу, каб не марудзіць ніводнай хвіліны, і не марудзіў, бо час быў вунь які, ваенны, калі не наляцяць самалёты, дык што-небудзь іншае, зусім непрадбачанае можа здарыцца.

Дзед толькі яму сказаў:

— Чорную зямлю ў ногі, а жоўтую сюды і сюды, на бакі.

«Ён рады, што маё дзіця памерла...» — падумала

2 Зак. 767

Мар'я. Можа, быў і рады, хто яго ведае. Дзіця ж не яго, Паўлава, суперніка. Бадай, шкадаваў ён Мар'ю, хацеў хоць трошкі ўлагодзіць яе, дагадзіць ёй.

Ён быў цяпер амаль да пояса ў ямцы, і Мар'я пачала добра бачыць, як яго постава то разгіналася, шыбаючы з рыдлёўкі пясок, то зноў нагіналася ў яму, выстаўляючы вышэй за ўсё горб. Абрыс яго галавы з чорнымі валасамі, цёмная скура на твары і чорныя вочы амаль цалкам зліваліся з ноччу, і толькі калі галава пачынала рабіць шлях з ямкі і ў ямку, можна было бачыць яе. «Хто яго прасіў?» — далей думала Мар'я, хоць на хаўтурах ніколі не адхінаюць таго, хто памагае хаваць нябожчыка. Смерць людзей мірыць, як бы гаворачы: «Усе памром», і Мар'я павінна была маўчаць.

— Э-э-э, хопіць. Што тут ужо капаць,— сказаў дзед Міхалка і выцягнуў руку, каб памагчы Івану вылезці з ямкі.

Іван тым часам, спачатку высунуўшы рыдлёўку, падцягнуўся на руках і, нібы падкінуты спружынай, выскачыў з ямкі. Калі ж стаў закопваць спушчаную на вяроўках дамавіну і зямля моцна забубнела аб яе, Мар'я здрыганулася і ледзь не крыкнула: «Звер, што ты робіш?» Ёй здавалася, што неяк больш акуратна можна было згарнуць пясок на дамавінку,  а не з такой сілай і не такой злосцю. «Я ведаю, ён злы на гэтае дзіця. Вядома, дзіця не яго. Ён рады, што яно памерла». Мар'я не хацела верыць, што дзіця забіта. У яе свядомасці стаяла звычайная чалавечая смерць ад якой-небудзь хваробы. Тым больш — дзіця. Дзеці ўміралі толькі сваёй смерцю, іх ніхто ніколі не забіваў, ва ўсякім разе, яна не памятае, каб у іх вёсцы хавалі забітых дзяцей.

Пасля Івана горку над зямлёй падпраўляў дзед, і святіў у начной цемнаце над гэтай жоўтай горкай белы невялічкі крыжычак. Мар'я разжалілася, пачала глыбока ўсхліпваць, а тады ўздрыгваць, гатова была зараз жа загаласіць на ўсю сілу, як галосяць на пахаванні над нябожчыкам, але маці ўзяла яе за падпашку і пацягнула ад магілкі, гаворачы:

— Не трэба, не падымеш. Ён яшчэ малы. Ноч. Бог ведае, хто пачуе...

Назад усе ехалі на кані. Конь ішоў роўнай ступой, ніхто яго не паганяў і не цургаў за лейцы — дарогу

ён сам ведаў. На небе неспакойна міргалі зоркі, наўкола стаяла цішыня. І маці, і Мар'я, і дзед Міхалка, Мікола і Іван — усе маўчалі, нібы асцерагаліся, каб ніхто не пачуў іх галасоў, не спыніў, не ўбачыў, адкуль яны едуць, і не ўведаў, што яны рабілі.

На полі ж, за вёскай, дзе была субалаціна, і такія-сякі хмыраз, не моўкла жыццё. Там дралі глоткі жабы, абы-як, карава, непрыгожа, няўлад адна адной, толькі б перакрактаць сяброўку. Час ад часу квакала качка. Змоўкне — зноў рэзка заквакае. Ясна, у яе былі малыя дзеці, і нават уначы яна берагла іх, не спала і не адпачывала, каб толькі яны не распаўзліся, не чуючы голасу маткі. І недзе ў цемнаце падаваў камусьці сваё бляянне бяссонны бякас.

— Мала ім дня,— сказаў дзед Міхалка, седзячы на біле драбінкі, услед за Міколам. На супрацьлеглым біле сядзеў Іван, за ім Хадора. Мар'я сядзела на голым пасцельніку, спусціўшы ногі ўніз, назад па ходу калёс.

Дзед зноў загаварыў:

— Хто яго ведае: можа, яны сюды і не прыйдуць, але ж уласць будзе іх, і зробяць што захочуць.

Ён ведаў, што такое ўлада. Ён жыў пры царскай уладзе, пры нямецкай у 1918 годзе, пры белапольскай у 1919—1920 гадах. Не ведаюць гэтага Мар'я, Мікола. Мар'іна маці тое-сёе помніць. Іван нічога, можа, не помніць, малы ён яшчэ тады быў, бясштонька.

— Чаму, дзядзька, не прыйдуць? — загаварыла Хадора.— У раёне нікога ўжо няма, ніякай улады. Вакуіраваліся. Хто ж іх не пусціць?

— Я не кажу, не. Яны ідуць. Я кажу толькі пра фронт. Ён, можа, пойдзе міма нашай вёскі. А парадкі свае наводзіць будуць пасля.

Маладзейшыя, акрамя дзеда Міхалкі і Хадоры, не гаварылі нічога: яны нічога не ведалі ні пра іншую, акрамя савецкай, уладу, ні пра войны, якіх не бачылі, не перажылі, не перанеслі.

Мар'я толькі падумала: «Паўла пайшоў, а ён, во, Іван, дома. Разам позвы з ваенкамата давалі, і ў адзін дзень ішлі ў ваенкамат. Гэты дні праз два вярнуўся. Як ён вярнуўся? Хто яго адпусціў? Казалі, што быццам яго часць разбілі. Дзе разбілі? Калі? Ні ў якім

баі ён не быў. Як ён не папаў у армію?» Мар'і незразумела было, чаму Іван дома. Шчаслівы?

— Падцягні ногі,— сказала ёй маці, калі канчалася поле і пад'язджалі да лесу.

Мар'я зразумела, што сказала маці. На дарозе магло што-небудзь такое цвёрдае валяцца — карчавежына, камень — і можна было стукнуцца аб іх пятамі. А ёй добра было так, спусціўшы з пасцельніцы калёс ногі і трымаючыся рукамі за біла, бачыць, як памаленьку адплывалі са сваім цёмным узнёслым бярэзнікам могілкі, як пераязджалі лажок ад іх (калёсы па лажку каціліся мякка) і выехалі на вясковую вуліцу, мёртвую, з мёртвымі, цёмнымі вокнамі хат, як звярнулі недзе на сярэдзіне вёскі ўправа, у вулку, выгараджаную жардзяным плотам, якая выводзіла на вялікую дарогу, што ішла ў лес, як кончыліся гароды, засеяныя пераважна бульбай, якая ўжо цвіла дзе сінім, дзе белым цветам (Мар'я помніла гэты цвет і зараз, уночы, нібы бачыла яго), як уехалі ў жыта, якое пахла сваім моцным жытнёвым пахам... Тут недзе ўпалі бомбы. Во тут, з левага боку. У нос тхнула не адной глыбокай зямлёй, а як бы нечым гарэлым, непрыемным.

Падцягнуўшы ногі, Мар'я паставіла іх на пасцельнік калёс, абшчапіла рукамі, сцішылася і, схіліўшы к каленям галаву, сабралася ў адзін камяк, заснула. Лес пачаў вярнуцца набок, зараз зусім перавернецца, зямлёй угору, вершалінамі ўніз, і яна адарвецца ад зямлі і, бог ведае, паляціць у пустэчу, чорную і бязмежную. Яна пачала чапляцца пальцамі за траву, за папараць, тады за колкую ігліцу не то хвой, не то елак, за кончыкі бярозавага лісця, але ні за што не магла ўхапіцца моцна, трывала, каб утрымацца, і не ўтрымалася...

— О-о-ой... — глыбока прастагнала яна, нібы ўздых яе быў апошнім.

— Што з табой, Мар'я? — першай адгукнулася на яе стогн маці, паднялася з біла і апусцілася на пасцельнік, на якім сядзела Мар'я.

Тая прачнулася, быццам яе спалохалася, а не чаго іншага.

— Што з табой, дачушка? — перапытала маці, думаючы, што першага пытання яна не чула.— Ты стагнала. Табе дрэнна?

— Стагнала?

— Ну.

— Ой, мама! Які я страшны сон бачыла. Зямля перавярнулася. А я адарвалася і лячу ў цемнату.

* * *

Павольна ішла Мар'я па вёсцы ў другі яе канец, дзе будзе дарога на Бярозаўку. Пінжак апранула, хатулёк — у левай руцэ. Хустку завязала не пад бараду, а на патыліцу. На нагах — юхтавыя чаравікі. У Восаўцы яна ведае ўсе хаты, і яны глядзяць на яе, знаёмыя, сваімі вокнамі, акенцамі ў шчытах. Глядзіць вёска на яе платамі, лажкамі, агародамі, ліпамі, таполямі, клянамі, рабіннікам паўз вуліцу. Глядзіць як свая, як на свайго чалавека, і на душы становіцца не страшна, можна сесці на любую лавачку, на любы валун на вуліцы, зайсці ў любую хату і папрасіцца нанач, калі б трэба было, і пусцяць. Пусцяць! Пра гэта і думаць не трэба.

Людзей на вуліцы было мала, даілі кароў, мылі рукі, ногі, рыхтаваліся вячэраць, вячэралі. То абмінуць Мар'ю, кудысьці спяшаючыся, то не дойдуць да яе, звярнуўшы ў які-небудзь двор.

Вось дзядзька вядзе на повадзе каня, глянуў на Мар'ю зверху ўніз, тады зноў ёй у вочы. Мар'і здалося, што ён заўважыў у ёй нешта знаёмае і нешта смешнае. Яна сказала яму:

— Добры дзень, дзядзька. Што вы так на мяне пазіраеце? Смешная?

Дзядзька спыніўся, наставіўшы руку каню, каб і конь стаў.

— Чаго: не, не смешная. Я гляджу: чалавек наш і не наш. Апратка не такая.

Вусы амаль белыя, твар паголены, загарэлы на сонцы, але ж не бледны, а ружовы, вочы глыбокія, сінія, дабрадушныя, уважлівыя, на галаве — пакамечаная, вынашаная кепка-наплёшка.

— Адтуль, дзядзька.

— Адтуль?

— Адтуль.

— Я і бачу, што не тое. Не наша. Рабства, мілая. Што ж ты думала. Трэба панімаць. Э-э-э, схуднела ты, схуднела. Толькі па вачах і пазнаў. Мікітава ты,

з Бярозаўкі. Дубалевічы ваша прозвішча? Праўду я кажу?

Голас яго быў — чысты тэнар.

— Праўду кажаш, дзядзька. І тое, што рабства, і тое, што я Мікітава з Бярозаўкі. Вы бацьку майго ведалі?

— Чаму, ведаў, мая мілая. А каго я там не ведаю? Усіх ведаю. З бацькам разам на польскім фронце былі. Ён тады ў партыю ўступіў. І лесніком яго пасля паставілі. Членам сельсавета быў. Дамоў ідзеш?

— Іду, дзядзька.

— Добра, што жывая засталася. Магла і не выжыць.

— Магла, дзядзька, магла. І не выжывалі.

— Ведаю,— хітнуў дзядзька зверху ўніз галавой.— Можа б, заначавала? Куды табе? Можна сказаць, дома ўжо.

— Дома, ды не ў сваёй хаце,— адказала Мар'я прымаўкай, як старая, бо гаварыла са старым чалавекам.

— Яно так,— згадзіўся дзядзька.— Хочацца хутчэй у сваю хату. Можа, да Юстыны заходзіла?

— Заходзіла.

— Перакусіла?

— Пад'ела.

— То і добра. Думаю, можа, галодная ідзеш. Я во бульбу на гародзе абганяў і вяду каня на канюшню. У другіх калгасах паразбіралі ў вайну, а ў нас — не, не разабралі. Я і казаў: не чапайце, прыгадзіцца. Во і прыгадзілася. Ё дзе коней паставіць.

Конь быў у хамуце, з падгузамі, аброць — вяровачная.

— І клуб ваш цэлы?

— Цэлы.

— Антэна, гляджу?

— А як жа. Радыё. Толькі тут зараз не клуб, а школа. Школа наша згарэла. Новую будуем. Будзеш ісці — убачыш: зруб новы паставілі. На тым самым месцы, дзе была тая, што згарэла.

— Змяшчаюцца? — гаварыла Мар'я, кінуўшы на будынак клуба, насупраць якога яны стаялі.

— Як змяшчаюцца,— схіліў дзядзька на плячо галаву, быццам перад ім была якая задача.— У тры змены. Уранні, а тады ўдзень, а тады ўвечары нейкія

класы займаюцца. Туляцца неяк, але ж вучыцца трэба. Хай ужо мы выраслі сляпымі.

Клуб быў на лужку, на значнай прагаліне паміж дзвюма хатамі. Вакол была трава і пні. Убачыўшы іх, Мар'я сказала:

— Прысады пассякалі?

— Яны,— адказаў дзядзька, маючы на ўвазе паліцэйскіх.— Тут жа была іх казарма.

— А ў школе не?

— Бачыш, школа з краю сяла, і яны, мусіць, баяліся. Канешне, баяліся. А тут — у сяле. Калі ўшчаць партызанам страляніну, людзі пацерпяць. Хаваліся за людзей, калі табе ад душы сказаць.

— Ну, дзякуй, дзядзька, пайду, а' то позна будзе, ноч.

— Праўда, ноч. А то начуй,— яшчэ раз прапанаваў ён Мар'і абначавацца ў Восаўцы.— Усё бывае.

— Было ўжо, дзядзька. Перажылі. Хужэй не будзе. Бывайце.

І яна пайшла, быццам апамятаўшыся, што трэба было ісці, а яна колькі во прастаяла з незнаёмым чалавекам, ведучы амаль непатрэбную гаворку.

Ды не: ёй і не патрэбна было спяшацца. Яна знарок вытрымлівала час, чакаючы прыцемку, каб стаць за вёскай на калені.

У канцы вёскі, направа, на тым месцы, дзе была школа, сапраўды стаяў новы зруб. Ён як бы свяціўся ў вячэрнім прыцемку, і Мар'і здалося, што на полі было святлей, чым у вёсцы. Зялёны авёс, якім было засеяна поле, відаць быў аж да лесу. «У-у-у, яшчэ зусім рана,— падумала яна.— Калі б махануць як след, можна было б да сапраўднай цемнаты быць у Бярозаўцы».

Яна абышла зруб вакол. Ад яго яшчэ пахла свежым сасновым бярвеннем, пакораным вясной, яшчэ ані не ўчарнелым. Будынiна была зрублена вельмі акуратна, наколькі магла зразумець Мар'я, палена ў палена, на гладкі вугал, з вялікімі праёмамі вокан і дзвярэй. Вакол параскідана было шмат нескарыстанага лесу, але ён, відаць,— падумала Мар'я,— пойдзе: брусы на падлогу, на асадку вакон і дзвярэй, на кроквы. Ляжала некалькі куч камення, большага і меншага. «На падмурак»,— здагадалася Мар'я.

Зайшла ўсярэдзіну. Так, калідор будзе збоку. З яго — ход у кожны клас. Колькі ж класаў? Раз, два, тры, чатыры і адзін пакой маленькі. Гэта настаўніцкая. «Чатыры класы — мала,— падумала Мар'я.— Зноў будуць заняткі ў дзве змены. Сямігодка! А бібліятэка дзе будзе? У школе павінна быць бібліятэка».

Месцамі на сценах слёзкамі пазасыхала смала, зрабіўшыся жоўтай. Мар'я дакранадася да празрыстых пухіркоў шыпушкамі пальцаў,— яны, пухіркі, акасцянелі ўжо.

Дзіўна: што ёй было да школы? Яна ў яе хадзіць не будзе ўжо, хоць калісьці хадзіла ў восаўскую, скончыла там чатыры класы, тым не менш штосьці прачнулася ў ёй ад тых далёкіх гадоў, і яна, як малая, абрадавалася, убачыўшы новы зруб для школы, быццам таксама разам з дзецьмі пойдзе ўвосень вучыцца.

«І мае дзеці ў яе не пойдуць. Маладой аддала мяне мама замуж. Навошта гэта было? Во вайна, і ўсё, усё маё зламалася, і ні мужа, ні дзяцей, і як жыцця самога маладога не было»,— і ёй стала сумна.

Яна выйшла на дарогу, зноў глянула на зруб, але ўжо без захаплення і дзіцячага замілавання. Калі б чалавек мог вяртацца назад, у свае пражытыя гады, у дзяцінства, і зноў пайсці ў школу... Ніхто не верне таго, што было, не пераробіць таго, што адбылося.

Яна яшчэ раз глянула на Восаўку, ці не ідзе, ці не едзе хто адтуль, можа, нават у самую Бярозаўку. Стаяла над полем маўклівая праднзчная цішыня, той час, калі дзённыя жыхары, птушкі, казяўкі, людзі лажыліся спачываць, а начныя яшчэ не пачыналі свайго жыцця. Толькі купал неба колеру жалезнай акаліны ледзь прыкметна дрыжэў над зямлёй, ад чаго, здавалася, і мігалі не зусім яшчэ яркія зоркі.

Мар'я апусцілася на калені, перахрысцілася.

...Чамусьці наплыло, насунулася, нібы кашмарны сон, не такое ўжо і далёкае... Карціны мяняліся адна за адной...

...Прыехаў верхам на кані, у сядле і прывязаў каня на вуліцы каля плота. Конь вараны, бліскучы. Сам у хромавых ботах, у сініх галіфэ, у рудым фрэнчы, з наганам пры боку, з партупеяй цераз плячо, з паліцэйскай павязкай на левым рукаве. «Якая ж шапка была ў яго?» Не памятае Мар'я яго шапкі.

— Добры дзень,— і казырнуў, як ваенны, дакрануўшыся кончыкамі пальцаў да шапкі.

Во, цяпер Мар'я ўспомніла: шапка ў яго была з цвёрдым стаячым аколышкам, цёмна-бурага колеру. Спачатку хадзіў па хаце, заглядаючы на печ, на палаткі, дзе была пасцель свякрухі, на Мар'ін шырокі двухспальны ложак і пад ложак, нібы шукаючы нейкіх прыкмет або нават прычэпак, каб ёй, Мар'і, выгаварыць, ускінуць на вочы, паставіць яе ў нялоўкае, залежнае ад яго самога, становішча. Свякруха сядзела на прывалку каля зачынка і ўсё сачыла за ім, акідаючы вачыма: ён пакуль што нейкая ўлада, раз яму далі зброю і апранулі досыць шыкоўна, а таму і маўчала. Яна памятае: баяліся стражнікаў і ўраднікаў, валаснога старшыні баяліся, паноў, упоперак нічога ім не гаварылі. І гэтай новай улады трэба баяцца і асцерагацца, бо ідзе яна не ад свайго народа, а чужая, хай сабе нават перад ёй Сцяпана Карнача сын. Са Сцяпанам яна была амаль роўная па гадах, гады на тры, можа, ён быў старэйшы, але разам гулялі на ігрышчах, адначасова зрабіліся старымі. «Як жа бацьку цяпер глядзець на яго?» — падумала яна, і ёй зрабілася шкода свайго равесніка, а не Івана, не, які тупаў высокімі абцасамі хромавых ботаў па хаце і нешта важнае, а можа, нават і страшнае меўся сказаць ім, ёй і нявестцы, калі зайшоў да іх і не спяшаецца выходзіць з хаты.

Нарэшце сеў на лаўку, палажыўшы руку на засланы белым вышываным настольнікам стол.

Мар'я сядзела на лаўцы таксама каля самага стала.

— Богу верыш? — спытаў ён не то жартам, не то ўсур'ёз, глянуўшы ў кут на ікону, пакрытую доўгім, з вышыванымі канцамі ручніком.

— Богу? — усміхнулася Мар'я.— Веру. Бачыш, ікона ў хаце.

— Дык кажы праўду, калі верыш, дзе твой палонны?

— Мой палонны? — не адразу зразумела яна.

— Ну, гэты, як яго... Узяла ж ты сабе?

— А-о, во ты пра што! Што табе да мяне, узяла я сабе каго ці не ўзяла? Ты — хлопец, я — баба. Шукай сабе дзевак.

— Ты не круці мне туды і сюды,— ён памахаў у

паветры ўправа-ўлева рукой.— Я — хлопец, ты — баба. Я не жартую. Я павінен ведаць, дзе што робяць гэтыя вашы прымакі. Баба, дзе ён спіць? З ёй? — кіўнуў галавой на Мар'ю.

— Во там на лаўцы за сталом, дзе ты сядзіш. Галавой у кут.

— Не маніш, баба? — Ён углядаўся ў твар Мар'інай свякрухі, ці не адаб'ецца на ім хоць якая-небудзь няшчырасць.

— Маню? — з вытрымкай глянула старая жанчына на смаркача, які так бесцырымонна мог гаварыць з ёй.— Ты не пытай мяне, калі ведаеш, што я буду маніць. Навошта ён ёй? У яе ёсць свой гаспадар. Прыйдзе, і будуць жыць як людзі.

— Баба, думаеш, што прыйдзе? Не прыйдзе. Магу аб заклад, што не прыйдзе. Я разам з ім быў. У ваенкамаце далі старшага, спіс яму ў рукі і сказалі, каб вёў па шашы да наступнага ваенкамата або якой-небудзь ваеннай часці, якая першай нам сустрэнецца. Ні абмундзіравання, ні вінтовак не давалі. А тады, за Вочапам, як наляцелі самалёты, дык я і не бачыў больш ні свайго старшага, ні Паўлу, ні тых, з кім ішоў. Што ж я, думаю, панясу свае косці на свет? Каля дому зручней, смялей, ведаеш, дзе захінуцца, дзе вады напіцца, дзе ноч пераспаць. Няма ўжо на свеце вашага Паўлы, а вы, хочаце верце, а хочаце — не.

Старая махнула рукой, выказваючы думку: «Гавары!»

— Ты ж яго смерці не бачыў. Ты толькі думаеш так. Цябе ж не забіла? — пачала развэжаць Мар'я. А сама сабе падумала: «Уцёк з арміі і во сушыць мазгі другім».

— Не бачыў, але і бачыць няма чаго. Там каша, лямант, плач. Падводы, машыны, людзі, коні. Рэчка там, пераправа. Не верыце, не трэба. Баба, а ўночы ён з лаўкі на ложак да нявесткі не прыходзіць на пальчыках, каб ты не чула? — і засмяяўся.

Старая нічога не адказала зубаскалу. Ёй было не да жартаў. Склаўшы рукі на грудзях, яна глядзела ўніз, на падлогу, зусім, мусіць, дапускаючы ў думках, што дзе-небудзь, калі не ў тым месцы, дзе быў Іван, дык у другім, сын сапраўды мог загінуць. Вось так: пахавалі ўнука, і яна не бачыла, як пахавалі (хоць

бы свечку запалілі, і яна пасядзела б каля яго мёртвага), і можа не ўбачыць смерць сына і не ўведаць, дзе і калі загінуў, калі ўжо загінуў, і дзе пахаваны. А можа, і не будзе нікім пахаваны, калі было так, як яна зразумела Івана, пакуль не расклююць птушкі, не расцягнуць звяры.

— Ну вот што табе да мяне? А калі б і перайшоў, дык варту паставіш? — імкнулася Мар'я захоўваць выгляд бесклапотнай салдаткі, не паказваючы ні свайго сапраўднага пачуцця, ні сваіх думак перад чалавекам, якога яна павінна была толькі ненавідзець.

— Варту? Варту магу паставіць. Толькі не тут, у другім месцы. Сам стану, калі трэба. Я, Мар'ячка, жартую, але ведай: магу! А хто я табе, ты ж ведаеш. Калі б не твая старая ведзьма, маці, вадалаз гэты брыдкі, мы б пажаніліся з табой і жылі б як людзі, і была б ты цяпер маёй жонкай, і не трэба б было глядзець нам адно на аднаго здалёку, як цяпер глядзім, і не думаў бы я, ці не спіць з табой нейкі чорт з свету, якога ты ўзяла ў хату. Ну, скажы: навошта ты яго ўзяла? Навошта ён табе спатрэбіўся? Ты ж замужам і верыш, што Паўла жывы і прыйдзе дамоў і табе трэба будзе з ім жыць. Што ты скажаш тады свайму законнаму мужу, калі ў цябе быў прымак? Не ведаем, чаму адзінокія бабы бяруць у хату розных валацуг, не пытаючы ў іх ні імя, ні адраса? Бяруць! І ты ўзяла.

— Няпраўда, я не ўзяла. Брыгадзір прывёў... «Сям'і,— кажа,— няма, хай пабудзе ў цябе. Будзе хадзіць у калгас на работу. І табе што-небудзь паможа. Увосень выпішам якіх прадуктаў». А ты чаўпеш, што ўзяла. Ён мне трэба, як ты.

— Я?

— Ты.

Ён пакруціў галавой. Яго і каб яна так не прызнавала?!

— А можа, калі прызнаеш?

— Не радня, і раднёй не будзем.

— А калі дзеці нашы парадняцца?

— Далёкая песня, салдацік. Іх можа не быць ні ў мяне, ні ў цябе.

— Іш ты яе: салдацік. Заб'юць, думаеш?

— Лепшы?

— Не лепшы. Ды ты паслухай. Пра майго дзядзь-

ку, што бацьку твайго забіў. Твой бацька знайшоў у лесе іх зямлянку. Ну, і падвёў міліцыю. Іх акружылі і забралі. Уцякаць некуды было. Пасадзілі на параход і павезлі ў барысаўскую турму. Ён з парахода нып у ваду, а пакуль канваіры агледзеліся ды зразумелі, ён выплыў на бераг і — у лес. Во смелы быў!

— Не хваліся. Лепш не прызнавацца к такой радні.

— Цяпер можна. Ён быў супраць савецкай улады. Але я да яго што? Якія адносіны я маю да яго? Яму бацька нічога не мог зрабіць. Я насіў яму тады-сяды яду ў лес. Скажуць занесці, я і занясу. Вінтоўкай дадуць мне паклапаць, затворам паклацаць. Вось хацелася мне застацца ў лесе з імі! Праганялі.

— Бач, сам прызнаўся: дух у табе такі нядобры змалку.

— Мар'я! Кажу, не тапчы,— і ён пастукаў костачкамі пальцаў па стале.— Пакінем. Дзе ўсё ж такі сёння твой гэты самы?

— Арыштуеш?

— Як трэба будзе, тады. А сёння — не. Мне проста трэба было пабачыць яго, пагаварыць. Як-ніяк — супернік. Каб занадта не распасціраўся. Можа, каб к мацеры лепш ён перайшоў жыць? Ты, Мар'я, падумай. У гарачцы ўсё можа быць. Я хацеў яго папярэдзіць. Як яго завуць? Якаў?

— Якаў.

— Якаў — мякаў. Глядзі, каб не заплакаў. Дзе ён?

— Сказаць табе праўду, пайшлі з Міколам у Пойму сена касіць. Што нашым, а што мне.

Іван падпёр падбародак рукой, пастаўленай локцем на стол, і вывернутымі чорнымі сваімі вачыма пачаў вадзіць па досыць ужо счарнелай за доўгі свой век столі. Мар'я да гэтага часу не бачыла такімі яго вачэй. Зараз яны, вывернутыя ўгору і павернутыя ўбок, здаліся ненатуральна вялікімі, з непрыгожымі, у чырвоных прожылках, бялкамі, здольнымі налівацца ад злосці (так ва ўсякім разе здалося Мар'і) крывёю.

— Сена, кажаш, пайшлі касіць? — Ён прыняў руку — падстаўку з-пад падбародка, палажыў яе на стол і забарабаніў злёгку костачкамі пальцаў.— Дурная, навошта табе сена? — Вочы яго зрабіліся звычайнымі і ўважліва, нават крыху спагадліва і зай-

здросна глядзелі на Мар'ю, якая была зусім блізка ад іх, усяго за другім канцом стала. «Мы даруем табе ўсё, ты нам падабаешся, ты толькі дай нам магчымасць заўсёды глядзець на цябе, і нам нічога болей не трэба, ні тваёй біяграфіі, ні радні і іх непрыязні да нас, ні твайго палоннага Якава»,— такое, здавалася, гаварылі вочы.

— Разумны: навошта сена? А карову чым карміць? Ты мне накосіш? Мне ж не дадуць нямецкага пайка, як табе. Есці чалавеку трэба? І яна во сядзіць. Старому, як малому, малако трэба,— сказала Мар'я пра свякруху.

— Накасіць? — спахапіўся Іван.— Чаго ты: я прывязу табе сена.— І, не ўпэўнены, што Мар'я яму верыць, пачаў, ківаючы галавой у такт кожнаму слову, паўтараць сказанае: — Прывязу табе гатовага сухога сена. І зімой буду вазіць. Разумееш, я магу! — Апошняе слова ён вымавіў падкрэслена, з расцягам.

— Адчапіся ты! — сабе абурылася Мар'я.— Ён мне будзе вазіць сена. У старога бацькі возьмеш? Каб людзі на мяне абы-што гаварылі? Хочаш мяне абняславіць?

— Уночы прывязу, ну? Бачыць і ведаць ніхто не будзе. Што табе, дзе я вазьму?

Гаварыў ён быццам сур'ёзна. Быццам хоча зрабіць Мар'і незвычайны падарунак, дапамагчы ёй, раз яна засталася без гаспадара і мае патрэбу ў мужчынскай дапамозе.

А можа, толькі выхваляецца? Паказаў ёй сваю вопратку, узброенасць, каня пад сядлом, трошкі пастрашыў, трошкі пашкадаваў на словах, зноў тым самым падымаючы сабе цану (ведай, за каго не пайшла, а ён прыгожы, багаты і моцны) і паедзе, зыбаючыся ў сядле, упіраючыся нагамі ў жалезныя страмёны. Аднак Мар'я сказала яму, каб не думаў, што яна рада яго абяцанням:

— Не падумай нават, што ўночы будзеш мне нешта вазіць, стукаць-грымець, страх на людзей наганяць. Што гэта іголка, што ніхто не ўбача? Мы ў Пойме стог будзем кідаць. Там сена навалам. Толькі скасі. Заўтра з мамай пойдзем сушыць. Хлопцы будуць касіць, а мы насушым. На пагодзе во стала.

Ён недружалюбна, крыва і, як здалося Мар'і, з'едліва ўхмыльнуўся.

— Хлопцы,— паўтарыў ён.— Быццам і той і другі вашы, свае, значыцца. Так хутка прысвоіла? А можа, і той і другі ўжо даўно нашы? Нашы, Мар'ячка. Во! Абы мы толькі захацелі. Як трэба будзе. Табе ясна? — І ён падняўся з лаўкі, высокі, моцны ў плячах, чорны не толькі вачыма, валасамі і брывамі, але і думкамі.

Мар'ю нібы скаланула, нешта мільганула ў яе галаве бліскучае, імгненнае, нібы маланка ў цёмным надхмар'і, пасля якой, як правіла, калатне зямлю і наўколле ўсеўладны і ўсемагутны, сіле якога няма меры, гром.

— Мура ўсё гэта, Мар'ячка. Хадзі ў сенцы, я табе там нешта прывёз.

«Так раптам ачах?» — падумала Мар'я.

* * *

Перахрысціўшыся, яна неяк машынальна рушыла ў бок Бярозаўкі...

У калені, хоць яна была ў штанах, пачаў пранікаць ад травы халадок: на зямлю лажылася раса. Да рання яе ападзе шмат, на кожнай травіне будзе вісець буйнымі халоднымі кроплямі.

Азірнулася на Восаўку. Што Восаўка! Яна напрацавалася за дзень і зараз спакойна спіць — каб які агеньчык. Трошкі ўбаку заржала тонкім сваім хліпкім галаском жарабя. Яму гучна, не зважаючы на ноч, адгукнулася яго маці-кабыла. «Коні на начлезе»,— падумала Мар'я.

«Тур-тур-тур...» — заскрыпеў палявы мядзведзік. Ён жыве ў ямачках, у невялікіх вымоінах. Мар'я яго бачыла, карычневы, бухматы, нечым падобны на рака, толькі куды меншы. Мусіць, за колер і няўклюднасць людзі назвалі яго мядзведзікам.

Злева на небе бліснуў і раз і другі — пражэктар. Мар'і памроілася, што недзе нешта гудзе. Не, нікога няма. Нямецкія самалёты даўно ўжо не былі ў нашым небе, бог ведае чаго ўздумалася гарэзліваму пражэктарысту ўскінуць пук сваіх зеленаватых праменняў на такую вышыню.

А зоркі пачалі свяціць дружней і весялей, і не дрыжэла ўжо неба, было высокае і напяленае, і па ім

ясна вызначаўся шырокі Млечны Шлях, па якім ляцяць увосень птушкі ў вырай.

А ад лесу, правей дарогі, якая вяла ў Бярозаўку (там была субалаціна, Мар'я ведае яе), пачуўся драны голас дзікай качкі. Зусім такі, як тады, у пачатку вайны, калі яны ехалі з могілак, пахаваўшы яе дзіця. Спачатку Мар'і здалося, што гэта была нават тая самая качка, толькі, мусіць, перабралася ■ бярозаўскага ўзлесся да восаўскага поля, гэта не так ужо і далёка, толькі цераз лес, для птушак такая адлегласць — дробязь. «У яе дзеці»,— падумала. Час быў амаль такі, як тады. Не, тады было амаль на месяц пазней. Але дзеці ў птушак могуць з'явіцца на свет і раней і пазней, гэта ў залежнасці ад вясны, цёплая яна, ранняя і дружная або нехіцавая. Лес быў ужо блізка, ён яшчэ не пах, але чарната яго была ўжо відаць.

Мар'я паволі пайшла наперад. А куды, урэшце, ёй спяшацца? Ніхто ж не ведае пра яе вяртанне. Дык хоць вось так, уволю наслухаецца родных гукаў, надыхаецца родным паветрам...

...Ён паклікаў яе ў сенцы, выходзячы з хаты, але Мар'я сказала:

— Гавары тут.

І свякруха давала знак вачыма, каб Мар'я не ішла яго праводзіць. Старая нібы асцерагалася: а раптам нявестка звяжацца з ім?

— Не гаварыць. Я сказаў, што меўся сказаць. Баяўся б я тут вас.— Мелася на ўвазе старая, сведка.— Ідзі, кажу,— і шырока расчыніў дзверы ў сенцы.

Мар'я выйшла.

— Во,— паказаў ён на плоскі, загорнуты ў руды брызент пакунак, які ляжаў на веку дзежкі.

Мар'я не паспела запытаць, што гэта і навошта, як ён зачыніў знадворку дзверы сянец і пайшоў на вуліцу. Яна была памкнулася ўслед за ім, але ён паехаў ужо.

Калі развязала і разгарнула пакунак, аж сумелася. Там было ўсё добрае і дарагое: капы з узорамі, прасціны, камбінацыі, адрэз шарсцяны чорны, адрэз бэзавага шоўку. «Як злодзей або бандыт, прынёс дабытае сваёй палюбоўніцы і з гонарам кінуў». Што ж ёй рабіць з усім гэтым? І што наогул рабіць далей?

Па хаце, пачула Мар'я, затэпала свякруха. Зараз

можа выйсці і ўбачыць усё гэта. Запытае і можа абы-што падумаць. Ды і падумае!

Калі свякруха бразнула клямкай, Мар'я хуценька, не паспеўшы як след загарнуць, кінула пакунак у дзежку пад вечка і пачала хадзіць па сенцах, быццам чагосьці шукаючы.

— Што ты ходзіш? — спытала свякруха, ціхенька зачыняючы дзверы з сянец.

— Нічога. Так... — няпэўна адказала Мар'я.

— Як жа: ходзіш, бачу. Дзежкай ляпала. Шукаеш што?

— Трэба мне было...

— Што? Можа, я бачыла?

— Ды не ведаеш ты... — пачынала злавацца Мар'я, дакладна вытрымліваючы формулу, што свякруха і нявестка — чужыя людзі і між імі ні даверу, ні праўды.

— Як гэта так, каб дома і нічога не ведала? Што ён табе казаў?

Пытанне было яшчэ больш нечаканым. Што ён казаў — ён нічога не казаў. «Вот табе». Сказаць гэта свякрусе і паказаць гэтае самае «вот»?

— Ды нічога ён не казаў, мама. Ён, мусіць, ці не самагонкі хацеў, а я сказала, што няма ў мяне, а на сяло шукаць не пабягу, бо людзі ўсе на рабоце і самой трэба бегчы на ток, да малатарні.

Зманіла ці, вярней, амаль зманіла. Вось так, калі на чалавека націснуць як мае быць, ён таксама што-небудзь выцісне патрэбнае з сябе.

— Ён табе свой? За што ты яму павінна самагонку ставіць? Ды яшчэ бегаць па сялу, напастыляцца. Во гэтак!

«Паверыла»,— падумала Мар'я.

— Ну, я пайшла. Малаціць.

Калгас малаціў у вялікім таку складанай малатарняй жыта на насенне, і абслугоўваць яе трэба было шмат людзей. Мар'я працавала каля самага падавальшчыка ў цапы — лажыла яму на столік з разрэзанымі вёзьмамі снапы, і было толькі ўпраўляйся, арэчы замарудзіў, як цапы пачыналі на высокай хуткасці высвістваць непрыемную ноту, і падавальшчык моршчыўся і нешта крычаў ёй, але разабраць яго голасу ў тлуме і пыле нельга было. Работы было па горла, і тым не менш часамі мільгала ў галаве дум-

ка: а чаму яна не перахавала скрутак у другое месца? Старая, ад лішкаў часу, можа нікнуць і пад тое века, дзе скрутак, і тады ад яе не адчэпішся, не ўдзяўбеш і не растлумачыш, што, адкуль і як. Нешта прыкрае выплыве на паверхню і будзе плаваць, плаваць перад табой, як рэшткі мыцця на вадзе ў копані, дзе вада не цячэ, а стаіць на адным месцы.

І сапраўды так атрымалася. Не паспела Мар'я пераступіць парог у хату, як свякруха пачала хітра шукаць моманту, каб затрымаць нявестку на некаторы час каля сябе і распачаць з ёй непатрэбную гаворку. І хто ў цапы падаваў, і хто салому адграбаў, хто адцягваў, хто таптаў, хто...— словам, пра ўсё і ўсіх, хто быў на малацьбе, пытала свякруха. Спачатку Мар'я нават не скеміла, чаго так актывізавалася свякруха (не то што актывізавалася, нават падабрэла і павесялела). Праяснілася ўсё, калі селі вячэраць.

— Можа, за гэта, што ў дзежачцы пад вечкам, ён хацеў самагонкі? — паглядзела свякруха ў твар Мар'і.

«Знайшла, старая ведзьма»,— адзначыла Мар'я. Непрыемна зрабілася на душы, і нават зазвінела ў вушах. Свякруха перабрала, мусіць, усё, што ў скрутку, і як бы зрабілася часткай гэтага брыдкага, зусім непатрэбнага шкуцця.

— Не чуеш? — чакала адказу свякруха.

— Не глухая, чую. Але каб і ты дзень пакружылася каля малатарні, то аглухла б.

— Рабіла, як маладзейшая была. Яшчэ не гэтак. Сваімі рукамі, бывала, дабро ўсё памалоцім. А гэта — малатарня. Бухаць цэпам не трэба. Толькі падавай гатовае.

Мар'я і сама ведала, што малатарняй малаціць лягчэй, чым сваімі рукамі, гэта значыць, цапамі, але ёй хацелася нейкім чынам адцягнуць увагу свякрухі ад скрутка, які і зараз ляжаў у сенцах у дзежачцы пад вечкам і не выходзіў з галавы, ціснуў на думкі, і яны былі нейкія клычаныя, нібы авёс на ніве, калі па ім паходзяць каровы.

— Навошта яно табе? — не адставала свякруха, упэўненая, што шкуцце прынёс Сцяпанаў сын за самагонку, па якую яшчэ ці раз прыйдзе.

Мар'я, знешне зусім спакойная, быццам нічога не

адбылося, наадварот, усё было так, як ёй жадалася, адказала:

— Як навошта? Адзежа кожнаму патрэбна. Ды калі яшчэ добрая. Сукенку пашыю шаўковую. Сарафан чорны шарсцяны на белую блузку надзену. Прыгожа! Камбінацыю... Ложак добрай капай накрыю. Прасціну белую крамную, не ўсё на саматканым спаць. А ты кажаш, не трэба. Кожны на маім месцы ўзяў бы. І рад быў бы, што так лёгка ўсё дасталося.

— Колькі?

— Чаго?

— Самагонкі.

— А-а-а, бог ведае. Колькі захачу, столькі і дам. У суд падасць? У кухры сваім узяў? Яно яму дармовае.

Свякруха пакруціла галавой. Лёгка ўсё выходзіла ў Мар'і. Не тое яна гаворыць. Чаму гэта ёй адной такая воля? Лепшая за ўсіх на свеце?

— Глядзі, дзеўка. Паўла прыйдзе...

Гэта было папярэджанне. Свякруха не такая дурная, каб паверыла не вельмі прыкрытым жартам нявесткі. Ёсць на свеце праўда, і ад яе ні адзін чалавек і ніколі не схаваецца, якую б маску на сябе не нацягваў.

На душы было неспакойна. Яна разумела, на што разлічваў Іван, везучы ёй згортак. Узяць і нічога не сказаць, значыць, прыняць яго ясную, як божы дзень, прапанову. Яна павінна стаць яго палюбоўніцай, нягледзячы на тое, што замужам і павінна па ўсіх законах чалавечага жыцця цярпліва чакаць мужа, а не блытацца з розным пазаддзем, паліцэйскім, якога ніхто не любіць і гатоў пракалоць за яго здраду, дурное зубаскальства і выхваленне ў такі сумны для ўсіх час, як вайна. Што свякрусе! Яна збоку. Сваімі гадамі, выглядам, становішчам яна выключаная з падзей і вадавароту людскіх адносін, яна толькі суддзя, а ты падсудны. Суддзя не адказвае ні за адно злачынства, ён толькі вызначае сацыяльную вагу яго і выбірае пакаранне. Ёй, старой, лёгка. Мар'я не вытрымала і заплакала, не хаваючы слёз ад свякрухі.

— Мама, ён хоча, каб я зрабілася яго!.. — Яна пракрычала гэтае сваё прызнанне свякрусе, каб тая добра пачула і пераканалася, што віны тут Мар'інай ні на капейку, што іменна ён робіць заходы, разліч-

ваючы на жаночую слабасць і спадзеючыся на сваю сілу, якую яму дала новая ўлада. На свякруху падзейнічаў крык аб дапамозе. Нельга пакінуць яго без увагі, не рвануцца туды, дзе чалавек у бядзе, і не дапамагчы яму. Нават муху і тую шкода, хочацца дапамагчы, калі яна трымціць у павуціне і павук набягае на яе, каб працяць сваім вострым джалам. Старая выцерла тыльным бокам рукі рот, каб не засталося на губах рэштак яды, павадзіла далоняй па грудзях, каб і на вопратцы нічога не прыліпла з таго, што елі, і, сур'ёзная, злая, абураная, гатовая любому чалавеку ўсё, што трэба, сказаць і зрабіць, паднялася з-за стала.

— Не плач! Не можа быць такога. Я зараз пайду да Сцяпана, раскажу. Чаго яны хочуць ад нас? І ў нас сіла ёсць, калі трэба будзе. Калі яго сын стаў царам.— І пачала вадзіць вачыма па хаце, шукаючы сваю хустку, якую завязвала, калі ішла з хаты, і стары сынаў пінжак. На дварэ сутонеў ужо вечар, і трэба было ўскінуць што-небудзь на плечы.

Пакуль свякруха шукала хустку, укручвалася ёй і пакуль апранала пінжак, Мар'я нібы нічога не разумела. А як старая ўзялася за клямку, каб адчыніць дзверы і пайсці, схамянулася:

— Пачакай! Куды ты?

— Як куды? Я ж табе сказала: пайду да Сцяпана. Хай уйме трохі свайго сына. Мы — людзі.

— Мама, як ён яго ўйме? Ён яго не ўйме. Бацька сам не ведае, што рабіць: сын пайшоў у паліцыю.— Уговорвала Мар'я свякруху.— Па сяле пачнуць абы-што гаварыць. Не іменна, каб мяне языкамі мылі. Я тут што — вінаватая? Я не вінавата, што ён дурань і чэпіцца да мяне. Вярніся, мама, сядзь. Распранайся. Будзем спаць лажыцца. Я толькі на хвілінку скокну да мамы. Што нам гэтае шкуцце! У печ укінем, згарыць, і ніхто ведаць не будзе, прывозіў што ці не прывозіў.

Старая адвяла ад клямкі руку, павярнулася тварам на хату і ўважліва паглядзела на нявестку. Нявестка ўжо не плакала. Не да слёз было і не да плачу. Трэба было, каб не пайшла па сялу пагалоска, што Іван пачынае тое-сёе падкідаць ёй з яўрэйскіх ці чыіх трафеяў. Яна чэсная, яна з ім ніколі нічога не мела і мець не будзе. Мала што калі, да яе замужжа,

ён спрабаваў заляцацца да яе. Дзеўка не вінавата, што нехта кіне на яе вокам, пазайздросціць, ушчыкне, прытуліць да сябе і нават пацалуе і дадому праводзе.

Свякруха вярнулася ад дзвярэй, але яшчэ не распраналася. Уклаўшы рукі ў кішэні пінжака, нібы абапіраючыся на гэтыя кішэні, яна спынілася насупраць Мар'і і пачала даводзіць сваё, упэўненая, што яна зробіць правільна, гатова нават занесці пакунак у хату да Сцяпана і кінуць там на падлогу. «Наце, ваша. Накраў ці награбіў. А нам крадзенае ці награбленае не трэба. Жарыце і давіцеся ім, калі не можаце жыць як людзі. У нашай хаце каб нага яго не была. Мы яму не радня, і ён нам. Абчапаўся, абвешаўся цацкамі і думае, што і ўправы на яго няма».

Гэта была звычайная мужнасць старой жанчыны ў думках, калі чалавек сам-насам з імі, калі яны пачынаюць дыктаваць яму і наступныя паводзіны і ўчынкі.

Мар'я ж дапускала іншае. Ад узброенага дурня, калі балюча ўкалоць яго самалюбства, можна было чакаць страшнага. «Не сёння, дык вунь праз які час, калі складуцца адпаведныя абставіны. Ён знойдзе іх, створыць і наблізіць». Мар'я гэтага баялася і пакуль што не хацела выстарчаць сябе, хай нават ахвяруючы на час чалавечай годнасцю і гонарам.

— Не, не, не ідзі, мама. Распранайся, кажу. Мне няма часу. Мікола з Якавам начуюць у Пойме, сёння касілі і заўтра зранку будуць касіць. Мы з мамай пойдзем заўтра туды сена сушыць, дык трэба пагаварыць, што браць з сабой, што ім з яды несці. Распранайся, я зараз вярнуся.

Маці раздвоілася. Несці да Сцяпана? Не. Хужэй будзе. Бацька сыну не закон, тым больш такому сыну, які супраць волі бацькі пайшоў у паліцыю.

— Добрае? — пытала яна ў Мар'і.

— А чаму не добрае? Добрае.

— Можа, каб схавалі?

— А пасля?

Маці не ведала, што будзе пасля. Гаспадар знойдзецца? Бог ведае, на якім свеце той гаспадар, на тым ці на гэтым. Ды і ці да шкуцця будзе яму.

Назаўтра ўранні, палячы ў печы, Мар'я шыбнула на дровы, калі яны ўжо добра ўгарэліся, скрутак і

адчула, што ёй адразу на душы палягчэла. Ён гарэў доўга, выпінаючыся то ў адзін бок, то ў другі, то ўгору, нібы быў жывы і ўхінаўся ад гарачага полымя. Мар'я доўга глядзела ў печ, зларадна святкуючы перамогу над ім, як першабытныя людзі над ідалам чужога бога, ад якога ішло ўсё іх гора. Вось так, спаліла. Пра яго не будзе больш думкі, як забывае чалавек пра вырваны зуб, што доўга балеў.

Свякруха, чуючы, што нешта доўга нявестка без руху стаіць каля печы, паднялася з прывалка, на якім яна ўлетку спала, і памаленьку падышла да Мар'і, каб глянуць, чым яна, не стукаючы ні чыгунамі, ні віламі, занята. І зразумела, глянуўшы ў печ. Паліць!

— Ты што?! — закрычала яна на нявестку і ўхапілася ў качарэжніку за качаргу, каб хоць што-кольвечы выратаваць, хоць учора ўвечары збіралася несці да Сцяпана і кінуць яму пад ногі.

Мар'я перагарадзіла ёй рукамі дарогу да печы і некалькі груба і зняважліва сказала:

— Баба, ідзі, ідзі адсюль, а то...

Так, яна магла штурхануць старую, калі б тая палезла ў печ з качаргой, хоць ратаваць не было ўжо чаго.

У Мар'і на свякруху была немалая злосць: чаго яна палезла ў дзежку пад века і зрабіла ёй, Мар'і, такую непрыемнасць? Мар'я не паспела падумаць, азірнуцца вакол сябе, параіцца з маткай. А можа б, і мацеры нічога не гаварыла. Вырашыла б сама, і ніхто б нічога не ведаў. А ўведала старая баба, уведае, лічы, усё сяло. «Марозу на іх няма, на гэтых старых. Бач, пачула, што я ў сенцах ляпнула вечкам, і, улучыўшы момант, нікнула ў дзежку».

Старая апусціла на падлогу качаргу і адразу не то прыбяднілася, не то пакрыўдзілася на нявестку. «Баба, а не мама...» — падумала старая. А, уласна, калі была для нявесткі свякруха мамай? Нідзе і ніколі. Толькі дзеля чалавечага прыліку нявесткі называюць свякрух мамамі. А па крыві яны зусім не радня, і думкі ў іх і меркаванні розныя.

— Адзежу паліць,— сказала сама сабе свякруха і паставіла качаргу ў куток каля печы.

— Спаліла — і правільна зрабіла. Прывязе — яшчэ спалю. І буду паліць і паліць, колькі ні

прывязе. Яно мне не трэба, і па вочы ніхто не будзе ўскідаць, пакуль я буду жыва. Мяне ён не купіць. А ты каб язык трымала за зубамі, і нікому не гавары, што я спаліла і што буду паліць. Ясна?

Ёй было не ясна, за што ж нявестка так усердзілася на яе, быццам свякруха сапраўды была ў чымнебудзь вінаватая. Патэпала чорнымі падэшвамі босых ног на свой прывалак, лягла на правы бок, скурчыўшы ногі, і заплюшчыла вочы. І ёй уявілася, як кола жыцця, памаленьку круцячыся, падымала яе вышэй і вышэй, і быў час, калі яна была на коле жыцця ў самым зеніце, пад самым сонцам, і было весела, вакол было відаць далёка-далёка, аж пад лыжачкай казытала, і вось яна ўжо на ніжнім баку гэтага кола і зараз плячыма цірнецца аб зямлю, і, мусіць, будзе балюча... Яна дрыготка расплюшчыла вочы, бо здалося, што нешта яе кружыць, і ўбачыла, што перад вачыма была сцяна зачынка, з гліны, у якім былі невялічкія ямачкі, зусім маленькія, адшліфаваныя да бляску, каменьчыкі, і пахла чымсьці сухім. Так пахла сухая гліна, з якой зроблена печ, самаробная цэгла-сырэц. Печ не кружылася, не. Старой прымроілася, што яе нешта кружыць, адтаго, што заплюшчыла вочы, і адтаго, што нявестка з непавагай рухнула на яе. Тым не менш, ёй чамусьці захацелася зараз жа памерці, на злосць нявестцы і, можа, нават Сцяпанаваму сыну, усім, хто ёй чужы і хто яе не любіць, каб яе не бачылі і яна нікога не бачыла, раз памёр яе муж, апора і моц, і сын бог ведае ці жывы. Яна зноў заплюшчыла вочы, і ёй зноў здалося, што яна нібы кружыцца, і падумалася, што, можа, вось так людзі і паміраюць. Яна б рада была памерці, толькі вось так, ціха. Яна яшчэ мацней сплюшчыла вочы, каб не расплюшчыліся, калі часам памрэ, бо вельмі страшна і непрыгожа, калі нябожчык ляжыць на лаўцы, а нерухомыя шкляныя вочы яго нібы глядзяць.

* * *

Вось і лес. Пацямнела, але і ўтульней зрабілася. Спачатку было нібы страшнавата, ноч, і нікога з людзей побач, а потым — нічога. Лес знаёмы, свой. Мар'я ведае, дзе які куст, дзе якая сасна або алешына ці бярэзіна паўз дарогу.

З дарогі стала бачыцца: каляіны, конская сцежка, узбочыны, па якіх ходзяць людзі. Тут трава, але не такая высокая, каб перашкаджала Мар'і ісці.

У лесе цяплей. Хоць ветру і на полі не было, але ўсё роўна тут цяплей. Мусіць, дрэвы нагрэліся за дзень на сонцы, а цяпер аддаюць у паветра сваю цяплынь. І пах свой пускаюць. Кожнае дрэва мае свой пах. Нават каб завязаў вочы, і то пазнаў бы па паху, дзе сасна, дзе елка, дзе бярэзіна, дзе асінка, дзе куст лазы або крушыны. «У лесе ўночы зусім не страшна, калі не паддавацца сабе страху»,— падумала Мар'я.

І раптам, калі яна толькі гэтак падумала, пачула перад сабой паўз дарогу нейкі шоргат і дзіўныя, нязвыклыя для вуха гукі, падобныя на рохканне свінні. «Мусіць, дзікія свінні»,— падумала Мар'я, і па целе прайшоў мароз, хоць, здавалася, яна зусім не спалохалася. Чаго? Яна бачыла іх у гэтым лесе не адзін раз. Пабягуць і нават не глянуць у твой бок. Воўк, ліс, хоць галаву павернуць, а яны не павернуць. Праўда, яна чула ад людзей, што калі ў дзікоў парасяты ды стары сякач у чарадзе, яны могуць быць небяспечнымі. Але ў Бярозаўцы не было выпадку, каб дзікі напалі на каго, разарвалі або пакусалі чалавека.

Не, дарэмна Мар'я супакойвае сябе: на лбе ў яе халодны пот. Шоргат не вельмі аддаляецца, рохканне быццам на месцы. Яна спынілася, насцярожылася. Нешта кратаецца, шэрае.

Маладыя дзікія парасяты гэткага колеру, тым больш у цемнаце, калі не відаць ні іх ног, ні вушэй, ні нават іх белаватых палос на шчаціне. Во зараз выскачыць на дарогу сякач або маці, а ў яе, Мар'і, у руках нават ніякай палкі. Чаму гэта яна не ўзяла яе дзе-небудзь на дарозе, калі было відно, было б зручней ісці, папіралася б ёй...

Мар'я плюнула сабе пад ногі і адчула, што ўсё напружанне ў яе целе знікла. І рукі і ногі зрабіліся сваімі, зусім расслабіліся. Во так! Ён, шэры камяк, коўзаўся туды-сюды паўз дарогу і па-свойму рохкаў, не звяртаючы ўвагі на тое, што недалёка чалавек. І толькі калі Мар'я амаль дакранулася да яго наском чаравіка, скруціўся ў клубок, схаваўшы ў свае калючкі ногі і свіную пыску, і нібы знік са свету, памёр.

«Вожык,— думала з палёгкай Мар'я.— Што ж ён тут робіць?» Нагнулася і ўзяла яго на рукі, падняўшы да самых грудзей, як бяруць кацянят, сабачанят, птушак. Хатулёк пасунула на локаць рукі. Вожык быў надзіва мяккі. Каб не калючкі, так і расплыўся б на ўлонні, як блін з сырога цеста. І вага ў ім была нейкая такая, як у сырым цесце. Толькі ў ім білася жыццё, тахкала сэрца. «Ад страху»,— падумала Мар'я. Канешне, быў страх у яго. Хто і дзеля чаго бярэ яго? Разарваць або расціснуць? Мар'я, каб не пакалоць рукі, зноў апусціла яго на зямлю.

Чакаючы, пакуль вожык раскруціцца і пойдзе на сваіх кароткіх нагах у лес, Мар'я пачала ўглядацца ў дрэвы, якія былі насупраць яе. І ўсміхнулася сама сабе. А калі б і свінні? Каля самай дарогі стаяла елка, сучча нізка, лезь па іх, як па лесках, да самага неба. І ні свінні, ні ваўкі, нават калі б іх тут была цэлая чарада, ніхто не дастане. Чаго яна, дурная, так спалохалася? У лесе кожнаму жывому стварэнню — сваё месца. Ёй стала лёгка і, больш таго, весела. На чорта яна марудзіць ■ хадзьбой! Возьме і пойдзе подбегам, з падскокам, па начным халадку, і праз якіх дваццаць мінут будзе дома.

Пачула, што ў грудзях моцна б'ецца сэрца. Не часта, рэдка, але моцна, з гулам. «Не вожыкава, не. Маё білася сэрца. А я думала, што вожыкава».

... І зноў неадчэпным сном наплыло, навалілася тое далёкае і зусім нядаўняе...

...У вёсцы паднялася страляніна. Мар'я ў акно. Стралялі ў адным канцы вёскі, тады ў другім, тады недзе пасярэдзіне вёскі ў полі. Так заўсёды было, калі прыязджала паліцыя. Яна нібы абкладала вёску, каб ніхто нікуды не ўцёк, не выйшаў, не ўхіліўся ад сустрэчы з новай уладай і тым самым ад абавязкаў, якія яна будзе ўскладаць на людзей.

Не паспела Мар'я, як кажуць, агойтацца, каб паправіць на галаве валасы, паглядзець, дзе хустка і што на нагах, каб у выпадку чаго хутка апрануцца і захінуць сябе дзе-небудзь ад вачэй гэтых людзей без сумлення, як бразнулі веснічкі і паўз вокны ў двор прайшоў ён, у бела-жоўтым кажуху, з вінтоўкай на плячы. Мар'я адразу пазнала яго, нешта ўсярэдзіне ў яе тарганулася, і яна толькі і паспела глянуць на свякруху, якая, паставіўшы ногі на прывалак, сядзе-

ла на зачынку. Ён адчыніў дзверы ў хату, стаў каля парога і, не выпускаючы з рукі клямку, кіўнуў галавой і сказаў не надта голасна, быццам яго маглі пачуць з вуліцы (а гэтага якраз і не трэба было):

— Хадзі сюды. Забіраем людзей у Германію. Надзеньcя і бяжы ў пуню, у сена. Я там цябе прыкрыю, сядзі і маўчы, ні гуку.— І ўважліва глянуў на яе ногі ў старых пантоплях, з голымі лыткамі.

Мар'я хуценька вызваліла іх з пантопляў і ўсунула, босая, у валёнкі, якія стаялі каля прыпечка, накінула на галаву рудую цёплую хустку, не завязваючы канцы ні пад бараду, ні ззаду на шыі, прасунула рукі, горбячыся, у рукавы ватоўкі і моўчкі пайшла ў хованку. Яна ўжо чула, што людзей пачалі хапаць і адпраўляць на розныя работы і ў Германію, маладых, як яна, толькі гэта было пакуль што ў другіх месцах і вёсках, не ў Бярозаўцы і не ў Восаўцы, і яна зусім не думала, што могуць схапіць яе і павезці зімой чорт ведае куды, на голад і калеліцу, на здзекі і, можа, смерць. Было страшна, і было такое брыдкае адчуванне, быццам стукнулі па галаве даўбешкай.

Старая злезла з зачынка і, шкрэбаючы лапцямі па падлозе, пачала глядзець у вокны то на вуліцу, то ў двор. Яна бачыла, як пайшоў з двара нялюдскі Сцяпанаў сын, у кажуху, з вінтоўкай на плячы, у нейкай вушанцы, хутка пайшоў, прыгорбіўшыся, пазіраючы сабе пад ногі, а нявесткі Мар'і не відаць было. Дзе яна? У сенцах не чутна. Старая не зразумела, чаго і куды клікаў яе паліцыянт і навошта яна так імгненна і ціха пайшла за ім, нават добра не апрануўшыся, як на які пажар, і во няма, як утапілася. Адчыніла сенцы і гукнула:

— Мар'я!

Нявесткі не было.

«Прывёз што? Панесла хаваць, каб я не ўбачыла?» — падумала. Вечка ў сенцах не ляпала, не чутна было.

Па вуліцы праехала адна падвода, другая. На санях былі з вінтоўкамі, чужыя, незнаёмыя, надзьмутыя. Зноў пачуліся стрэлы. Старая глянула ў кут, пад столь, дзе вісеў на сцяне «бог», і зноў пайшла на свой зачынак.

Схаваўшы Мар'ю, Іван пабег з двара, нават свякруха магла пацвердзіць у думках, што ён не затры-

маўся ў іх, але гэта была або хітрасць, або звычайная збянтэжанасць, калі намер ёсць, а выканаць яго...

Ён выканаў! Дакладна, як і задумаў. Толькі вярнуўся да Мар'і ў пуню не з вуліцы, а з гарода, каб ніхто не бачыў, у якім двары апошнюю хвіліну быў, дзе яго, калі спатрэбіцца, шукаць.

Мар'я чула, як нехта, топчучы снег, ішоў на агародзе паўз пуню, як адшчапіў варотцы і ўвайшоў у двор, потым адчыніў пуню, зачыніў і зашчэпліваецца ў ёй на кручок. Спачатку яна падумала, што яе знайшлі і зараз забяруць, уся сцялася, затаілася і перастала дыхаць, наколькі можна на некаторы час не дыхаць. Калі ж вароты ў пуню з сярэдзіны зашчапіліся, рашыла, што гэта ідзе нехта, як і яна, хавацца, бо навошта б было, калі б гэта была паліцыя, зашчэплівацца? Наадварот, яны б шырока расчынілі дзверы, каб відней было шукаць яе.

Карова, у другой палавіне пуні, засапла ў ноздры, перастаўшы есці трушанку.

— Ну, жывая? — пачула Мар'я яго голас і ўсё яшчэ не верыла, што голас іменна яго, бо чаго б яму зашчэплівацца, калі небяспека мінула і ён прыйшоў сказаць ёй аб гэтым.

А ён паставіў к сцяне вінтоўку і палез да яе на сена, у самы кут, шамаючы сенам. Яна ўсё яшчэ не разумела, чаго ён лезе, яна б сама злезла далоў. І не разумела нават яшчэ і тады, калі ён, згарнуўшы з яе туды-сюды сеннае покрыва, пачаў расшпіляць у сябе на пузе кажух.

А тады зразумела, калі ён з босых яе ног садраў валёнкі і закрыў увесь белы свет, наваліўшыся на яе ўсім цяжарам свайго ўкормленага, сытага цела і разгарачанай кажухом цеплыпёй. Яна не магла павярнуцца пад ім, бо з боку яе было сена, яна была нібы ў ямцы, якую ніяк не рассунеш, і не магла крыкнуць, бо крык яе, акрамя каровы, ніхто тут не пачуе і не прыйдзе на ратаванне.

Пасля цалаваў яе ў вочы, у лоб, у шчокі, у шыю, лез рукамі па грудзях да голага цела (рукі яго пахлі вінтовачным маслам), гаварыў, гаварыў. Нічога з таго, што гаварыў, Мар'і не трэба было, нібы яе закавалі і везлі ў Германію і жыццё яе, звыклае, у Бярозаўцы, сярод родных і знаёмых, абарвалася.

І толькі калі зноў на вёсцы пачуліся стрэлы, ён спахапіўся, саскочыў з сена, ухапіў вінтоўку і пабег, пакінуўшы расчыненымі дзверы ў пуню.

Мар'я некаторы час ляжала ў сене, пазіраючы ўгору, бачыла латы пад саламяным дахам, тонкія лазовыя вітачкі на іх, якімі прымацоўваўся паплёт, крокву, па якой ішлі ўгору лаціна за лацінай, да самай верхняй, што завяршала сабой вільчык. І салома-правіца, якой была накрыта пуня, і латы былі амаль як новыя, жоўтыя, хоць знадворку і пуня і дах на ёй былі счарнелымі і старымі. Але Мар'я глядзела ўгору, у дах, і вільчык пуні без усведамлення таго, што бачыла, без думкі аб прадмеце, які трапляў на вока. І, мусіць, доўга ляжала б так, дагары, тупа ўтаропіўшыся ў плашчакі неабдымна вялікай, з мноствам лат, страхі, калі б у поле яе зроку не трапіла прылепленае да кроквіны ў самым вільчыку ластаўчына гняздо, зробленае з гразі, высланае пер'ем. Мар'я помніць, як гэтыя дзіўныя, занадта вёрткія ў паветры, жывыя і хуткія птушкі, з доўгімі пёркамі ў хвасце, увесь дзень віліся над іх дваром і будынкамі і якія ў іх тоненькія і прыемныя галасы і як яны, часамі, прыгожа спявалі-чырыкалі, хоць на песню ў іх часу было вельмі і вельмі мала. І помніць іх дзяцей, іх камарыны піск высока пад вільчыкам, калі яны толькі-толькі выводзіліся, і іх распырсканы на голым, з цёсаных жэрдак памосце пуні (сена ўлетку ў ёй не бывае) белы памёт. Там, у вільчыку, не забіта ў шчыце апошняя трохвугольная дошчачка, і праз яе лёталі птушкі, лепячы гняздо і кормячы дзяцей.

— Дзе яна, тая дзірка? — сказала Мар'я ўголас сама сабе і павярнулася на локаць, каб глянуць на шчыт у самым вільчыку, кудой лёталі грацыёзныя белапузенькія ластаўкі.

Пры думцы аб птушанятах яна раптам схамянулася і пачала шукаць у сене, дзе яе валёнкі, і ўбачыла. Ён за іх браўся рукамі, і яны пахлі вінтовачным маслам. Са злосцю шыбнула з сена ўніз — іх трэба мыць, калі не ў шчолаку, дык у цёплай вадзе абавязкова.

Мар'і зрабілася не проста непрыемна, а страшна. Можа завязацца дзіця! Чаго ж гэта яна ляжыць, як якая паненка, бяздумна ўтаропіўшыся вачыма ў зу-

сім не патрэбны ёй дах, мроячы пра нейкіх там ластавак і іх дзяцей? Тады — куды? Ад каго панясе пуза і будзе выстаўляцца ім перад людзьмі, калі свайго мужыка, можа, і на свеце няма? Што скажа мацеры сваёй? Як гляне ў вочы брату Міколу, палоннаму Якаву? Што ён падумае пра яе, хаця віны яе тут ні на капейку? Так атрымалася. Так атрымалася! Што ж яна магла перамяніць тут, калі б і здагадвалася? Не пайшла б у пуню хавацца? А тады — ехаць з дому ў Германію? А ці была б жывая, паехаўшы, чорт ведае на якой рабоце гібеючы? Чалавек ішоў, паваліўся і зламаў нагу. Так і ў яе: выпадак. Яна нічым, нічым не магла яго прадухіліць або папярэдзіць, бо не магла прадбачыць таго, што здарылася. Яна ведала, што ёсць мужчыны з жывёльнай прагай да жанчын, заўважала гэтую прагу ў ім, па яго вывернутых вачах, калі ён першы раз быў у іх і прывёз няпрошаны пакунак са шмуццем, але тут былі такія абставіны, калі падумаць аб усім тым, што ён зрабіў, проста не было ніякага часу. «Калі б любіў, не зрабіў бы так»,— падумала Мар'я. Ён ніколі не любіў яе і, мусіць, нікога не любіў. У ім жыла проста зайздрасць да яе, зайздрасць і прага самца, як жыве ў жывёліне прага да зялёнай травы. Бі, хвашчы яе па вачах, а яна павінна скубануць гэтай травы.

Мар'я ўстала з сена, разгарнуўшы яго туды-сюды рукамі, і каўзанулася па ім уніз, на падлогу.

Паехалі яны ўжо з вёскі ці не паехалі? Быццам пацішэла. На вуліцы нейкая жанчына гаворыць з жанчынай, голасна і смела. Мусіць, паехалі.

Мар'я пайшла ў хату.

Свякруха глянула толькі, хто прыйшоў, і зноў утупілася, седзячы на зачынку, у свае лыкавыя лапці. Яна не бачыла, ішла нявестка з вуліцы або не ішла. Яна чакала яе з вуліцы.

— Дзе ты была? — запытала такім голасам, быццам Мар'я не мела права ісці, а вось пайшла, парушыўшы немаведама кім устаноўлены парадак, і цяпер вось вярнулася і не просіць ніякага прабачэння.

Ходзячы ў парозе каля печы, нявестка пакуль што маўчала. Паляпала чыгункамі, распаліла на комінку і пачала грэць на трыножцы ваду.

— Чай грэеш? — спытала свякруха, седзячы на

зачынку і павярнуўшы галаву на хату, каб нявестка лепш чула яе.

— Чай,— адказала Мар'я, і свякруха на мінутку абрадавалася, што нявестка нарэшце з ёй загаварыла і цяпер можна будзе паступова ўведаць, дзе яна была, што на сяле рабілася, чаму нялюдскі Сцяпанаў сын удзень бег цераз іх двор, як апошні раз тры разы стрэлілі на вуліцы?

Нічога не высветліла свякруха, і радасць яе была вельмі кароткай. Бралі людзей на работу, людзі хаваліся, а дзе хавалася і не папала на вочы паліцыі нявестка, так і не ўведала. Калі пілі чай з чарніцамі, упікнула Мар'ю:

— Чаго ён тут быў?

— Ідзі запытай у яго,— груба адказала нявестка, і свякруха зразумела, што настрой у Мар'і не вельмі добры, і перастала выпытваць у яе, адчуваючы, што нявестка можа зусім замкнуцца.

Мар'і было не да свякрухі і не да яе пытанняў. Свякруха сваё аджыла. Яе не павядуць у сена і не забяруць у Германію. Пра яе людзі нічога ўжо не скажуць, акрамя таго, што старая, дурная, сляпая, глухая. А Мар'і? Гора можа быць яшчэ большае. Цяпер яна толькі хвалюецца, а тады як пачне расці жывот? Свякруха з хаты выгане. Ну, а калі і не выгане (як яна яе, старая, выгане?), то ўсё роўна яны стануць, дзве жанчыны ў адной хаце, ворагамі. Людзі будуць на баку свякрухі, і ўсякі назаве яе, Мар'ю, сучкай.

Мар'я ж, і маці, і Мікола прывыклі да сціплага, русявага і светлага, як неба, хлопца, шчырага да працы, непераборлівага ў ядзе, простага і непрыкметнага ў абыходжанні з людзьмі. Куды адправіць яго насупраць зімы, калі кругом чужыя і мясцовасць невядомая, калі ён адзін як палец, і ніякай у руках зброі?

Сёння Мар'і яшчэ больш зрабілася шкода Якава, гора людзей зблізкае, Мар'і пагражае ўсяго нядобрае слова, яму ж — смерць.

Паліцыя пахапала знячэўку людзей і пагнала з тапарамі і рыдлёўкамі не куды-небудзь, а ўсяго ў Восаўку даводзіць да ладу і ўмацоўваць сваю крэпасць — клуб, дзе жылі паліцэйскія. Мікола з Якавам былі там, працавалі. Ім сказалі і назаўтра, самім, не

чакаючы паліцыі, з'явіцца ў Восаўку на тую ж працу, з тымі ж тапарамі і рыдлёўкамі, і хадзіць столькі дзён, пакуль не будуць выкананы і абшыты дошкамі траншэі з памяшкання ў чатыры кулямётныя гнязды. Не ісці пакуль што нельга было, бо магло быць хужэй, маглі прыпісаць, што ўздумаецца, і пакараць, як захочацца.

Мар'я зразумела цяпер адно: Іван нахабна ашукаў яе.

— Дзе ты была? — папытала маці.

— Дзе была? Дома была. А чаму?

— Чаму? Я была ў вас. Не было цябе дома. Забралі хлопцаў на работу, думаю, можа, і цябе пагналі. Старая кажа... «Заходзіў гэты, і яна некуды пабегла».

— А-а-а! Я ў сене была. Схавалася. Ён сказаў, што ў Германію будуць людзей браць.

— У Германію?

І маці задумалася. Чуткі даўно ходзяць, што будуць браць у Германію, і ўжо, казалі, у Заходняй бяруць.

— Хлопцы, а што вы думаеце, калі-небудзь пахапаюць, як сёння, і вас, і яе і пагоняць.

Мікола і Якаў, памыўшыся, сядзелі за голым сталом, над якім гарэла вісячая лямпа, і чакалі вячэры. Яны маўчалі, і ўсе ў хаце маўчалі, нават двое малых на печы, услухоўваючыся ў гутарку дарослых і чакаючы, што далей яны, дарослыя, будуць гаварыць. Чутна было, як сіпела лямпа, і нялоўка было ўсім, бо гэта была цішыня страху, а пазбавіцца яго, разагнаць не так проста.

Маці дастала з печы чыгун, адцадзіла ў цэбар праз анучу ваду з яго і вывернула на стол бульбу ў шалупайках. Ад яе ўгору пайшла густая пара, і запахла смачным у хаце.

— Вячэрайце. І ты еш,— сказала яна Мар'і.

Дзеці злезлі з печы і занялі таксама месцы за сталом, на шырокім, дзве дошкі ў кучу, услоне.

Паставілі на стол вялікую міску з белай кіслай капустай.

* * *

Старшыня калгаса Савайтан быў малады камуніст, да таго ж — камандзір запасу, хоць і не надта

высокай рукі, але камандзір, таму, як толькі началася вайна, яго прызвалі ў армію, даўшы яму ці ўзвод, ці нават, казалі, роту. Калгас быў невялікі, намеснікам старшыні, брыгадзірам і загадчыкам гаспадарчай часткі быў адзін чалавек, ужо немалады, зняты з ваеннага ўліку, бывалы, удзельнік імперыялістычнай і грамадзянскай войнаў Мікіта Полаз. Вядома, калі ў вёску з'явіліся чырвонаармейцы, схуднелыя і ўчарнелыя, падкошаныя, мусіць, нялёгкай дарогай, выпадковым харчам і недасыпаннем, і папыталі ў людзей, хто тут галоўны з калгаснага начальства, да каго можна было б звярнуцца па такіх-сякіх гаспадарчых пытаннях, ім паказалі на Полаза, адчуваючы і верачы, што салдаты ёсць іменна чырвонаармейцы, а не хто-небудзь іншы, не паліцэйскія і не пераапранутыя немцы. Хада, гаворка, як ляжала на іх вопратка, у якой яны былі,— усё было сваё, іменна іх, сталае, заўсёднае, чырвонаармейскае. Слоў няма, былі выпадкі, калі цераз Бярозаўку ішлі людзі не такія, да якіх ляжыць душа, тады ім адказвалі прыкладна так:

— Начальства? Якое цяпер начальства? Вайна. Няма ў нас ніякага начальства. Жывём кожны сам па сабе і чакаем — не ведаем чаго.

Полаз уважліва глянуў на кожнага чырвонаармейца паасобку, тады на ўсіх разам (гэта было на вуліцы) і сказаў:

— Галодныя?

— На сваіх нагах ідзём, бацька.

— Бачу, што не на самакаце. Але пайшлі ў хату.

Хата ў яго была новая, на гладкі вугал, крытая дорам, прасторная, калі зайсці ў яе, як мора, без пераруба і не пабітая на розныя каморкі і бакоўкі, таму, калі праводзіўся ў вёсцы сход, дык абавязкова ў Полазавай хаце. Лавак паўз сцены не было, як вялося ў старых бярозаўскіх хатах, за сталом стаяў адзін услон, паўз перакавую сцяну, і другі паўз падоўжную. Гэты быў даўжэйшы, амаль на паўхаты. Абодва былі шырокія, з дзвюх дошак, змацаваных плінтусамі, упушчанымі ў каню. Ножкі-растапыркі трымалі іх моцна і прыгожа. Паўз другую падоўжную сцяну, ад печы і да перакавой сцяны, стаялі два шырокія драўляныя ложкі з пасцелямі, засланымі саматканымі пярэстымі пасцілкамі.

Як толькі зайшлі ў хату, гаспадар сказаў гасцям:

— За стол, хлопцы,— і пачаў адсоўваць так, каб можна было залезці за яго,— Ганна...— сказаў толькі жонцы, і тая зразумела, што трэба людзей пакарміць.

Пакуль гаспадыня хадзіла па хаце, у сенцы і ў стопку, шукаючы да хлеба такі-сякі не сухі харч, хлопцы паказвалі гаспадару свае дакументы і расказвалі пра сябе, адкуль ідуць. У палоне яны не былі, у калоне пад канвоем не ішлі, сабакамі іх не цкавалі, па кішэнях не мацалі. Часць іх разбілі, амаль ад самай граніцы давялося вось так нялюднымі дарогамі і цянькамі ісці на ўсход, спадзеючыся, што недзе некага сустрэнуць, да некага далучацца. У лесе яны, пяць чалавек, пакінулі тры вінтоўкі, з сабой у кішэнях два пісталеты, паказалі іх Полазу.

Пасля яды гаспадар палажыў на стол паперу з алоўкам, і кожны запісаў у спісе сваё прозвішча і ўсё астатняе і свой адрас. Полаз на ўсякі выпадак прыхавае спіс. У вайну ўсё бывае.

— А цяпер у пуню на сенавал. Адпачніце як мае быць, а я тым часам падумаю, што з вамі зрабіць.

Сонца звярнула на паўвячоркі, калі Мікіта, сустрэўшы на выгане Хадору, пачаў з ёй гаварыць.

— Ты што тут робіш?

— Цялушку навязала і іду во. Мухі не даюць супынку, дык яна як пачне повадам таргаць, даўбялежку вырве і дамоў.

— Даўбялежка кароткая, ну, а зямля мяккая, дык і вырываецца.

— Забі доўгую, тады сам не вырвеш.

— Ды яно так: не вырвеш. На зіму думаеш пакідаць?

— Цялушку?

— Ну,— і Мікіта глядзеў у той бок, дзе на лугавіне, на зялёнай мякаці, пасвілася навязаная за шыю бела-чорнай масці Хадорына цялушка-сяголетка.

— Думала. У Мар'і ж маёй карова, можна сказаць, за вала. І жарэ, яды не набрацца, і целам, як слівень, бліпічыць, а малака няма. Ей, думала, адгадую ад сваёй каровы.

— Ды яно, калі карова занадта тлустая, малака не будзе. Яда ідзе ў лой. Адкуль тое малако возьмец-

ца? А з сенам як у цябе? Жыдкаваты твой гаспадар, здаецца?

— Мікола? Дзе ж ты бачыў, каб не жыдкаваты быў. Малады яшчэ. Але косіць троху. На адну карову, можа, як і насабіраем. Мар'іну, можа, збудзем. З цялушкай застанецца. Ды і збывай каму, за што, як? Зарэзаць толькі ды з'есці?

— Карова не свіння. Косці. Які з яе наедак?

— А куды ж дзявацца?

— Во што, Хадора, я табе скажу: жывы пра жывое думае. Не забягай наперад. Ніхто не ведае, як што яно будзе, рабі, як рабілася. Наша дзела працаваць. За нашу працу ніхто нас не ўпікне. У нас ёсць...— і Мікіта паглядзеў вакол сябе, ці не падслухоўвае хто-небудзь іх гаворку.— Людзі ў нас ёсць... чырвонаармейцы... пяць чалавек. Ім пакуль што няма дзе дзецца. Іх трэба адкарміць, даць ім трохі адаспацца, і яны будуць працаваць. Божа мой, маладыя. Усё ўмеюць, і сена, калі трэба, накосяць, і калгасу, пакуль во столькі работы, не лішнія будуць. Можа, ім што выпішам потым на іх працадні. І Мар'я твая хай аднаго возьме. Не аб'есць. Я ж кажу, як памалоцім, і ім што-небудзь выпішам.

Хадора ўбок, угору, уніз заміргала вачыма, быццам не было перад ёй ніякага Мікіты, а толькі сказанае ім, і трэба было разабрацца, што яно значыць. А разабраўшыся, адказала, не то ўспамінаючы, не то сярдуючы:

— Мая Мар'я? — і глядзела Мікіту ў вочы, абкладзеныя сівалезым мохам брывоў і веек, разумныя і хітрыя, чалавечна-спагадлівыя.

— Вядома! А чыя ж яшчэ можа быць Мар'я? Свякруха не чалавек ужо, яе саму, як дзіця, глядзець трэба, нікога ў хаце, месца для чалавека хапае, чаго ты ўпіраешся?

— Я не ўпіраюся. Чаго мне ўпірацца? Але ж яна маладая. Мужык ёсіка. Што ён падумае, калі вернецца? А людзі? «Сучка,— скажуць.— Не паспелі сляды астыць, а яна прымака ўзяла ўжо?» Што ты, Мікіта? Перахрысціся!

Мікіта ўзяў і перахрысціўся. Перад самым носам у Хадоры склаў тры парэпаныя ад працы і сонца пальцы ў кучу, дакрануўся імі да лба, жывата, правага і левага пляча, тады ўсміхнуўся.

— Цяпер верыш мне?

— Чаму мне табе не верыць? Набеглы які, ці што? Веру.

— Ну дык што табе яшчэ трэба? Што яшчэ загадаеш?

— Не загадаю. Ані не загадаю. Малады ён, гэты самы твой прымак?

Мікіта зноў усміхнуўся.

— Ніякі не прымак, кажу табе. Ты гэта выкінь з сваёй бабскай галавы. Яму не да прымаў. Кажуць, калі ў кабылы відаць рэбры, жарабок ёй не патрэбны. А ці малады? Вядома, малады. У салдаты старых не бяруць. Кадравік. Ты ўжо думаеш, калі мы тут з табой гамонім, дык і ў кусты зараз пойдзем? Пакінь, Хадора. Эй-эй-ей, Хадора! Людзі не жывёла. У чалавека галава на плячах. Яна не малая, твая Мар'я, і ён не малы. І не дурны, скажу табе. Разумныя хлопцы! Ім трэба дапамагчы! Яно, калі табе праўду сказаць, можа, і трэба, каб ён перад нямецкай уладай лічыўся яе прымаком. Ты цяпер мяне зразумела? Во!

Такім чынам, пакуль хлопцы спалі на сенавале, Полаз усіх іх уладкаваў у «прымы». Хай так думаюць усе, хто можа па тых ці іншых прычынах хаваць у сабе недавер і падазронасць да новых жыхароў Бярозаўкі.

А спалі яны так моцна, нібы скончылася вайна і яны вярнуліся з яе дамоў і нікуды не трэба ім, акрамя аднаго: без страху адаспацца. Калі ўвечары, ужо прыцемкам, Полаз увайшоў у пуню, каб расказаць ім, што ён зрабіў для іх, і паклікаць на прыгатаваную для іх жонкай, на гэты раз вараную, вячэру, яны былі як мёртвыя. Шкода зрабілася трывожыць такі сон. «Хай спяць,— падумаў брыгадзір.— Хто ведае, ці будзе ў іх другі момант так выспацца?» І зачыніў за сабой вароты, надзеўшы на прабой клямку і ўткнуўшы ў яго драўляны калок, прывязаны аборачкай да прабоя. Ступіў крок і вярнуўся... «А як жа на двор каторы захоча?» — падумаў. Выняў з прабоя калок і зняў клямку. «Можа такое здарыцца, што трэба будзе ўцякаць з пуні. Вайна».

Уранні, снедаючы, дамовіліся: сёння ўдзень яны сходзяць у лес, у грыбы, туды, у лес, падскочыць да іх Полаз, там яны, усе разам, добра схаваюць сваю зброю, тую, што была ў іх з сабой, і што захінулі ўжо

ў лесе, ну а заўтра брыгадзір павядзе іх на калгасны ток, на малацьбу, каб там маладыя адзінокія жанчыны маглі ўпадабаць іх за доўгі працоўны дзень.

Увечары Якаў быў ужо ў Мар'і.

Свякруха, тэпаючы ўслед за нявесткай, злавіла яе ў сенцах і шэптам запытала:

— Хто гэта?

— Салдат. Начаваць будзе.

— Не пэўна ў нас. Людзей другіх няма?

— Хаты табе шкада? Хату не панясе. Можа, і твой сын дзе-небудзь вось так просіцца начаваць, а яго гэткая во, як ты, крыватослівая баба не пускае.

Свякруха апусціла ўніз вочы і задумалася. У яе ёсць сын, ён зараз недзе сярод людзей, і спіць і ўдзень з імі, і ад таго, як гэтыя людзі будуць адносіцца да яго, будзе залежыць не толькі яго настрой, а і жыццё.

— Дзе ты паложаш яго?

— На лаўцы.

— Мулка будзе.

— Дык са мной на ложку.

— Здурнела? Сяннік мой падсцялі. Во што.

— А ты?

— Я перасплю.

— І ён пераспіць. У яго косці маладыя. Заўтра сяннік натопчам. Чысты. Навошта яму твой?

Нічога не адказала свякруха нявестцы, зразумеўшы, што салдат і заўтра будзе ў іх начаваць. А можа, не зразумела, а ўсяго толькі пачула, але не асэнсавала.

Якаў сярод «палонных», як іх пачалі пазываць у Бярозаўцы, быў самы малады, як здалося Мар'і, самы кволы, самы бялявы, самы сціплы і самы сарамлівы. На жарты маладых жанчын каля малатарні ён не адказваў вострымі жартамі, быццам нічога падобнага не чуў, паглыбляючыся ў працу. Чужыя людзі, паспрабуй уладзіць, каму што сказаць, тым больш пажартаваць. Вілкамі, граблямі валодаў ёміста, не ўхіляўся ад вялікага пласта саломы, ад цяжкага ўшчэпу на вілках. «Але ж жыдкі, кволы, як наш Мікола»,— зрабіла вывад Мар'я.

Калі ж уведаў, што да Мар'і чэпіцца, жадаючы ўзяць уладу над ёй, паліцэйскі, сказаў, ужо жывучы ў Мар'інай мацеры:

— А калі яго...— і махнуў перад сабой кантам далоні, імітуючы зрэз або скос.

— Як? — запытала Мар'я, пільна глянуўшы на яго твар, сур'ёзны, як у дарослага.

— Як? — на Мар'ю глядзелі з-пад белага лба зусім непадробна смелыя сінія вочы (Мар'і чамусьці хацелася засмяяцца з таго, як яны глядзелі).— Падпільнуем дзе-небудзь з Мікалаем.

— З Міколам? — пачула маці, заціраючы на пасудніку зацірку і з мукою на закасаных рукавах павярнулася тварам да стала, за якім сядзелі хлопцы і Мар'я.— Ты што, Якаў, маленькі? Усім нам будзе канец. Божа цябе барані, не блытай мне Міколу і сябе, пакуль у нас жывеш. Чуў, што ў Каменцы было? Раскажыце яму,— і павярнулася да пасудніка, канчаючы заціраць зацірку.

Па Каменцы ехаў на матацыкле немец, а нехта з-за вугла стрэліў і забіў яго. Усіх, хто быў у вёсцы, перабілі, а будынкі спалілі, і засталося ляда з абгарэлымі печамі.

— Яго без нас заб'юць,— сыпала маці ў вар на прыпечку левай рукой зацірку, мяшаючы лыжкай, якую трымала ў правай руцэ. Уставіўшы вілкамі чыгун у печ, заключыла: — Будзе ж нейкі канец.

— А калі без Міколы? — стаяў на сваім Якаў.— І не ў Бярозаўцы, а ў іншым месцы?

— І не думай абы-чаго! — Хадора падняла ўгору голую да локця руку і закалаціла ёй у паветры.— І не з Міколам, і не ў другім месцы не думай. Ты цяпер тутэйшы, пра людзей падумай!

Яна зноў сагнула шыю, пазіраючы ў печ, каб не пабегла з чыгуна на под печы зацірка, якая пузыркамі пачынала ўжо закіпаць...

«...Дзе ён цяпер? Ці жывы хаця? А Мікола? Пра свякруху і матку сказалі ў Восаўцы, а пра Міколу чаму не папытала, пра брата? Ён жа быў у партызанах»,— думала Мар'я, памаленьку перастаўляючы ногі па роснай ужо ўзбочыне ляснай дарогі...

...Сярод белага дня прыехалі ў Бярозаўку на трох падводах немцы, пабралі ўсіх палонных і павезлі некуды. І гаворкі быццам нашай не разумелі — адзін нешта гергатаў па-нямецку, другі перакладаў яго гаворку на нашу мову. Людзі знямелі былі: страшна. Не паліцыя прыехала, а самі немцы. З імі не пажар-

туеш. Ніякай пагрозы, хаця б ускосна, не выкажаш. Тут ні бацькоў іх, ні родных. Чужыя людзі на чужой зямлі, для іх тутэйшыя людзі — мухі.

Былі ж гэта на самай справе не немцы, а партызаны, пераапранутыя ў нямецкую вопратку. Ці ведалі палонныя, што іх забіраюць не немцы, а партызаны,— хто яго ведае. Можа, ведалі, а можа, і не. Маўчалі, як без'языкія, і ўсё.

І нічога не ведала Мар'я і яе маці. Да Якава былі прывыклі, і было шкода, што яго забралі і давядзецца яму маладому і нават трохі нягегламу зноў гараваць — калець, галадаць, цярпець здзекі.

Адны казалі:

— У лагер.

Другія:

— Могуць і расстраляць. Палонныя яны? Палонныя. Уцяклі з лагера.

— Калі не расстраляюць, дык і ў лагеры не мёд. З голаду ўміраюць. Ніхто не помніць, каб марылі голадам палонных. Чортава нацыя!

— У тую першую вайну хоць як, ды кармілі. Вот табе і тая самая нацыя.

— Тая, ды не тая. Фашысты!

І не ведалі ні Мар'я, ні яе маці, ні Мікола, дзе іх Якаў, бо куды пойдзеш, дзе запытаеш, і хто табе што адкажа, калі б не ён сам. Вясной, у маі месяцы, калі ночы ўжо цёплыя, толькі занадта кароткія і светлыя, нехта пастукаў у шкло акна.

Хадора, скінуўшы з сябе лёгкую пасцілку, у адной зрэбнай сарочцы, як спала, на пальчыках, каб не будзіць дзяцей і Міколу, падышла да акна, ладзячыся праз шкло пазнаць, хто там і чаго хоча. Невысокі, нятоўсты, без вінтоўкі на плячах — хто гэта такі?

Якаў хутчэй адчуў, чым убачыў, і сказаў прыглушана ў рамку акна, у якое стукаў:

— Адчыніце. Гэта я, Якаў.

— Якаў? — усхапіўся з пасцелі Мікола і пайшоў за маткай у першую палавіну хаты, куды зараз ступіць цераз парог ён, іх салдат.

Усе ўтраіх стаялі пасярод хаты, не ведаючы, як гэта бывае ў такіх выпадках, што рабіць і з чаго пачынаць гаворку.

— Есці хочаш? Сядай за стол, хоць хлеба з мала-

ком перакусіш. Нябось галодны. А можа, яйцо спячы? Агонь можна запаліць? Тады раскладу на комінку,— пытала Хадора.

— Ні есці, ні агню не трэба. Я не галодны. Не бойцеся, я зараз пайду. Я ў партызанах. Мы перамяшчаемся ў другое месца, далёка адсюль. Прыйшоў развітацца, бо, можа, і не ўбачымся ніколі. Калі не буду жывы, тады напішаце маім родным па тым адрасе, што я даў вам.

— Пачакайце,— і Хадора пайшла ў тую хату, дзе спалі, каб ускінуць на сябе што-небудзь з вопраткі. Хоць і ноч, але відаць, што чалавек голы, і няма чаго перад маладымі свяціць сваёй белай сарочкай, голымі рукамі і голай шыяй.— Сынок мой,— гаварыла Хадора, вярнуўшыся да хлопцаў апранутая.— Ты ў партызанах. А немцы тыя дзе, што вас бралі?

— Немцы? Гэта былі не немцы.

— Вы баяліся?

— Мы ведалі, што нас забяруць, а як забяруць — не ведалі. Думалася і тое, і другое, пакуль, выехаўшы з вёскі, не адкрыліся хлопцы.

— Дзе вы там?

Якаў хмыкнуў, але не сказаў, дзе яны: тайна.

— Не кажы, калі нельга. Яно і праўда: любы чалавек можа прагаварыцца. Галэ-балэ, і пайшло па сяле. А тады ў другое сяло перамесціцца і да іх дойдзе. Не трэба,— зразумела Хадора.

Яна яшчэ хацела запытаць, ці далёка і куды яны пойдуць, але тут жа стрымалася: нельга. І гэта партызанская тайна — Якаў не скажа.

— Хлопчык, раз ідзеш, і, мусіць, не блізка, я табе дам майго гаспадара плашч. Тоўсты, з брызенту. Яго ні дождж, ні вецер не прабівае. З хахлом на галаву. Спяцоўку яму, як быў лесніком, давалі. Аддадзім, Мікола?

— Мы дома, ты ў лесе. Трэба.

Мікола пайшоў у тую хату і вярнуўся з плашчом у руках.

— На, памер.

— Што вы! Выдумалі плашч мне аддаваць. Дзенебудзь у фрыца забітага здзяру. Не плашч, дык палатку якую ці цырату абкрыцца. Не было вам бяды.

— Нічога, возьмеш. Пакінь ламацца. І мерыць не трэба. Добра будзе, калі трошкі і вялікаваты. Дзе

пад кустом паляжаць, дык і галаву і ногі можна схаваць. Выгадная адзежына. Сала дам. Хлеба вазьмі.

Хадора пайшла ў сенцы і вярнулася адтуль з брусам сала памерам з цагліну. Ён відаць быў на голым стале, вочы прызвычаіліся ўжо да сіцянай летняй ночы і амаль усё бачылі, акрамя драбкоў солі на скіцеры, якая сваім белым колерам злівалася з ім.

— Што вы, цётка! Нічога мне не трэба. Не вазьму. Мы не галодныя. Адтуль — адсюль, і яда. Думаеце, што я прасіць есці да вас прыйшоў? Я прыйшоў пабачыцца, падзякаваць вам, што прыгарнулі і трымалі ў сябе столькі.

— У цябе ніякага мяшэчка ці торбы няма?

— Ёсць у лесе. Без мяшка нельга.

— Перакладзеш у яго. Мяшок гэты, што паясы на два плячы?

— Салдацкі.

— То і добра. Перакладзеш. Торбачку табе дам. З гайтаном. Можна цераз галаву на плячо надзець, а можна на вузел гайтаном закруціць і ў руцэ несці. Як табе зручней.

Хадора ведала, дзе была торбачка, хутка знайшла яе і апусціла на яе дно цяжкі кавалак сала і бохан хлеба.

— Во,— сказала яна, палажыўшы на стале перад Якавам.

Якаў здаўся, згадзіўся з тым, што яду трэба ўзяць, ужо ведаючы, што ў лесе, сярод бязлюддзя, яна ніколі не будзе лішняй, наадварот, яна будзе цябе, як кажуць, і несці, і весці. Ён паспрабаваў падняць торбу над сталом і, сказаўшы: «Цяжка»,— сабраў яе хахол у кучу, абхапіўшы пальцамі, абкруціў разы са два гайтаном, прадзеўшы апошні праз вуха, якое ўтварылі гайтан і хахол торбы.

— Дзякуй, цётка. А дзе Мар'я?

Мар'я? Пра яе забыліся, быццам і няма на свеце. А між іншым, навошта было яе тут помніць? Зайшоў, пагаварылі, узяў, што маглі даць, і пайшоў. У Мар'і свая хата, цераз выган, яна цяпер спіць, як спяць уночы ўсе людзі на свеце, не толькі ў Бярозаўцы, і хай спіць на здароўе.

Тым не менш, яе тут трэба было ўспомніць, і Хадора абрадавалася, што ўспомнілі. Ён, гад, натварыў, Якаў! Бач, пытае. А ці пытаў ты тады, як пачынаў

тварыць. Баялася, казала старому чорту, Мікіту Полазу. Так і выйшла.

— Мар'я? — У голасе цёткі Хадоры Якаў пачуў нешта нядобрае, новае, чаго ніколі не чуў ад яе. З чаго б гэта? — Сабакі! Вайна, а яны вунь што! Тваё дзела, Якаў? Што рабіць? Пуза во, няма ўжо куды хаваць, сляпому відаць, што раджаць будзе. Ну, што ты скажаш, зяцёк? А калі няпраўда, што Паўлу забілі і ён вернецца, ён жа з ёй жыць не будзе. Куды ёй з дзіцем? Ты во возьмеш?

Якаў некаторы час маўчаў, думаючы, што адказаць цешчы, раз яна назвала яго зяцем. Усё стала на сваё месца і звязалася ў адзін ланцуг: калі Мар'я была ў дзеўках, Іван заляцаўся да яе, потым прымусіў яго, Якава, перайсці жыць ад Мар'і да яе мацеры, цёткі Хадоры, у якой ён зараз сядзіць за сталом. Ясна, вінават не ён, Якаў, а здраднік, чалавек брыдкі, з якога боку ні падыдзі да яго. Але адмовіцца, што не ён, а нехта іншы, Якаў не мог. Яму шкода зрабілася Мар'і, яна — ахвяра абставін, не іначай, Якаў быў у гэтым упэўнены. Таму, шкадуючы і Мар'ю, і яе маці, і Міколу, і іх дзяцей, якія зараз спалі ў той палавіне хаты, сказаў:

— Вазьму.

— Калі не прыйдзе Павел, возьмеш?

— Вазьму! — яшчэ раз пацвердзіў сказанае, цвёрда і голасна, здзівіўшы цётку Хадору сваім шчырым прызнаннем, чаго яна ад яго чамусьці не чакала.

Яна расчулілася. Пачала смаркаць у руку і выціраць яе аб спадніцу. Потым загаварыла:

— А я думала, ты разумны. Бог ведае які разумны. Як мой Валодзя. Не ведаеш, сам ці будзеш жывы, а гаворыш, што забярэш. А калі і цябе заб'юць, што ёй тады рабіць з дзіцем? Цяпер во і цябе, гаротнага, шкадуй. Ці ж у мяне дзяцей сваіх няма? Жыву век у слязах.

Мікола маўчаў. Яму аднолькава было шкода і Мар'ю, і маці, і Якава, з якім паспеў здружыцца і не лічыў за чужога, тым больш, каб выклікаць у сабе якую б там ні было варожасць да яго. Патаемныя адносіны Мар'і і Якава, з-за чаго маці плакала, не даходзілі ні да душы, ні да розуму Міколы, і ён не мог па свайму малалецтву паставіць сябе ў такое становішча, каб рэагаваць на іх, тым больш абуранца.

— У вайну любога могуць забіць, і я не святы. Варажыць не будзем, хто застанецца, а каго не будзе. Мне трэба было развітацца з ёй, падзякаваць. Магчыма, здарыцца так, што і заб'юць. Я схаджу да яе,— і Якаў пачаў вылазіць з-за стала.

— Ты? — пераняла яго Хадора.— Там баба. Бывае, пагалоскі пойдуць, што быў ты. Не ідзі.

— А як? — стаяў Якаў на сваім.

— Я лепш сама схаджу і прывяду яе сюды. Мала чаго трэба. Старая не здагадаецца.

...На развітанне Якаву захацелася пацалаваць яе, Мар'ю, каб яна не думала, што ён ваўкаваты, не ўдзячны і абыякавы да яе лёсу. Ды чамусьці нязручна было рабіць гэта на вачах у яе брата і маці. Тады ён пацалаваў маці, Міколу і яе, сказаўшы:

— Дзіцяці не бойся. Будзем жывыя — пракормім.

«Што ён гаворыць?» — падумала Мар'я, і ў яе каля вушэй зашугала так, нібы яна раптоўна трапіла ў полымя.

* * *

...Замаруджана перастаўляючы ногі па золкай роснай траве, Мар'я ўсё ўспамінала Якава.

Казаў, калі будзе жывы, напіша. Вайна скончылася. Можа, і ляжаць ужо ў мацеры лісты яго? Мар'і хацелася, каб ляжалі. І каб ён папытаў пра яе, хоць яна зусім не пара яму, баба, у якой было ўжо двое дзяцей. Канешне, па гадах яна не старэйшая за яго, але ж ён хлопец. І, можа, дзеўка дзе засталася, якую кахаў і абяцаў жаніцца, як вернецца дамоў? Дзіва што ёсць — такі акуратны і добры, хоць у вуха кладзі.

Не, спадзявацца на што-небудзь грунтоўнае Мар'я не можа. Было б дзіка і нетактоўна з яе боку квапіцца на такога чалавека, як Якаў, хоць мужа ў яе цяпер няма, дзяцей — таксама, і нічым не звязана ні па руках, ні па нагах. І тым не менш, ёй жадалася, каб дома, у Бярозаўцы, куды яна вось-вось прыйдзе, было яго пісьмо. І каб ён быў не толькі жывы, але і цэлы, з рукамі і нагамі, відушчы і неабпалены, іменна такім, якім яна ведае яго, калі ён быў у яе. Яна проста хоча ведаць пра яго. І хоча, каб ён таксама ведаў, што яна, як і ён, пагаравала за вайну, была ў

Германіі, працуючы ў баўэра ад цямна да цямна, але вярнулася і цяпер дома. Цяплей, калі на нялёгкай жыццёвай дарозе, скрозь змрок і сутонне, відаць, хай і не блізка, агеньчык і ёсць хоць маленькая вера ў тое, што каля яго, пройдзе час, можна будзе прысесці і пагрэцца.

Ці магла Мар'я спадабацца яму? Як сказаць. І не ўведаеш. Яна і дасюль грунтоўна не ведае, падабалася яна калі-небудзь каму ці не. Іначай: прыгожая яна ці так сабе, адзін бот і другі бот — два. Няважна, што ўзяў яе старэйшы за яе чалавек замуж, такім чынам адсекшы ад усіх хлапечых вачэй. Мар'я так і не ўведала, загараліся, пазіраючы на яе, чые-небудзь, акрамя Іванавых, вочы ці не загараліся? І ўсё ж, мусіць, яна была звычайная, без якой-небудзь асаблівай прыгажосці, як звычайнымі бываюць дрэвы ў лесе, трава пад нагамі, нават кветкі ў лузе. Хай: пісьмо ад Якава яна хацела б мець. Казаў: «Выгадуем дзіця». Няма яго! Няма ніякага дзіцяці! Быў выкідыш.

Маці аддала яе замуж, не папытаўшы нават, падабаецца ёй жаніх ці не падабаецца. Вось і слухай пасля гэтага старэйшых, разумныя яны ці неразумныя. А яны, старэйшыя, мелі калі-небудзь сваю волю ці не мелі?

Недзе далекавата ў лесе трэснуў пад нагамі ў некага сук. Пачуўшы, спынілася і насцярожылася.

Не, нікога не чутно. Сэрца забілася, але нічога больш не чутно. У лесе бывае і ўдзень і ўночы, калі сам па сабе народзіцца нейкі гук, быццам выкліканы блізкай прысутнасцю ці звера, ці чалавека. Гук-самастрэл, нікім не выкліканы. Ён не паўтараецца.

Не, Мар'я не памылілася. Гук узнік не сам па сабе. Сук трэснуў у іншага пад нагой. І не пад якой нагой, а пад ботам. А можа, пад капытом лося? Воўк так не трэсне. Міне гэтая небяспека Мар'ю ці не міне?

У грудзях зрабілася цяжка. Тут, у лесе, дзе паветра чыстае, як звон, ёй не стала хапаць яго, нібы яна была ў глыбокім каменным мяшку-склепе. Мінут колькі таму назад сук трэснуў у лесе не выпадкова. Хутчэй целам сваім, скурай на патыліцы, чым вушамі, яна чуе, што за ёй нехта назірае, памаленьку, на адлегласці. Калі звер, то які? А калі чалавек? Ясна адно: нячысты. Чаго б іначай хадзіць яму ўночы па лесе?

Можа, карова ўдзень згубілася, і чалавек шукае, каб выпадкова звяры не разарвалі? А можа, які зброд-лівы конь выбіваецца на дарогу і выбіўся, пасецца на ёй, трымаючыся за Мар'яй у бок Бярозаўкі? Хатняя жывёла ўночы ў лесе баіцца і імкне бліжэй да вёскі, да чалавека, калі дзе такі паблізу акажацца.

Азірнуцца ці не азірнуцца, перамагаючы страх у сабе? Лепш сустрэць небяспеку, калі яна сапраўды ёсць, у вочы, не чакаць, калі наваліцца на плечы і прадухіліць яе будзе позна. Мар'я выкінула адну нагу ўперад, прутка павярнулася тварам назад, дзе, па яе адчуванні і цвёрдаму перакананню, нехта быў. Справа, злева, вышэй, ніжэй загуляў вакол яе пук праменняў кішэннага ліхтарыка, пакуль не напаў на твар і не асляпіў Мар'ю. Яна машынальна закрыла вочы далонямі рук і апусціла галаву ўніз, каб нейкім чынам ухіліцца ад святла.

— Мар'я, ты? — пачула сваё імя.

Голас быццам знаёмы і быццам чужы, толькі вельмі падобны на чыйсьці знаёмы. Галасы падобныя бываюць, Мар'я гэта ведала. Чый гэта голас? Што за чалавек, калі яе ведае?

— Ну, не буду свяціць у вочы. Не закрывайся. Не пазнаеш? Ці пазнала? — чуўся той жа голас, толькі больш акрэслена, чуты дзесьці і калісьці, але ледзь трошкі сарваны, нібы чалавек быў моцна прастуджаны, а цяпер вось папраўляецца.

Ён падышоў да Мар'і ўпрытык, абхапіў адной рукой за плечы і прыціснуў да сябе. Мар'я пачула на яго вопратцы пах вінтовачнага масла, пачула так, як чула тады, у сене... Божа мой, няўжо ён? Адкуль? Чаму яна не засталася начаваць у Восаўцы ў цёткі Юстыны? Няўжо той дзядзька, што вёўся з канём і гаварыў з ёй, што-небудзь ведаў? У Мар'і падкасіліся ногі. Рукі апусціліся ўніз, як якія вяровачныя, яна не магла імі крануць, вочы, нядаўна асепленыя ліхтарыкам, нічога не бачылі, хоць мінуту таму назад адрознівалі дрэва ад дрэва і зусім нармальна ўспрымалі абрысы дарогі.

— Ты жывы,— не хавала яна свайго здзіўлення ці шкадавання, што ён, паліцэйскі, якому трэба было даўно быць на тым свеце, жывы.

— Ды і ты ж, паланянка: жывая-здаровая, а? — Ён паблажліва паляпаў яе даланёю па плячы.— Я і

павінен жыць. Чаго мне ўміраць, чорт ведае за каго маладую галаву сваю класці? Тады нікуды з дому не пайшоў, як адступалі, і цяпер не пайшоў, як гэтыя адступалі. Няўжо мне, аднаму, на сваёй зямлі, у сваіх лясах месца мала? Лось жыве, воўк. Дзік, каза. Заяц, вавёрка. А я ж чалавек, розуму ў мяне больш, чым у іх? Пражыву. І табе магу тое-сёе падкідаць, Мар'ячка.— Ён зноў паляпаў яе па плячы і асвяціў твар і ўсю паставу ліхтарыкам. Быццам не злачынца і не быў у фашыстаў на службе і рад, што скончылася вайна, а ён жывы і будзе жыць смела і беcклапотна, як і кожны, хто заслужыў такога жыцця.

Мар'я падняла памаленьку свае вялыя рукі і адапхнула яго ад сябе.

— Не свяці. Я нічога не бачу. І не лапся. Асмялеў. Я табе ніхто, і ты мне. Забыўся, хто ты? Я там была, каму ты служыў. Ідзі бяры вяроўку, пакуль цябе не злавілі, і во на сук.

Ён быццам засмяяўся. Штучна, калі чалавек смяецца, а шчырасці ні на капейку.

— Не, Мар'ячка. Наіўная ты. З якой гэта рацыі я павінен вешацца, калі прайшло, можна сказаць, дзве такіх вайны — адна на ўсход, другая на захад? Жыць мне цяпер, жыць!

— А права?

— Права? Як і ў цябе, як і ў кожнага, каго мінула куля. Канешне, хто на тым свеце, у таго няма права. А я жывы, здаровы. Я на зямлі трэба. Каму я што зрабіў? Я служыў сабе, не ім. Чорт іх бяры разам з іх Германіяй! Здалася яна мне. Можа, і табе трэба буду, паслужу?

— А дзяцей яўрэйскіх успомні. Я ж сама бачыла. Забыў? А чаго я не бачыла. Як у мясніка: рукі па локці ў крыві.

— Ну во завяла: дзеці яўрэйскія, кроў прыплялa.— У голасе яго пачулася нездаволенасць.— Я іх даставіў па службе начальству. А што з імі зрабілі, не маё дзела.

— А табе сказалі: вывезі і пастраляй. Ты іх вывез (ведаеш куды) і пастраляў.

— Слухай, Мар'я: па шчырасці. Іх бы ўсё роўна пабілі. І без мяне. Калі б, скажам, я іх не пастраляў. Яўрэям ходу не было. Іх пабілі. Ну а калі б паставілі мяне перад судом, ты б даказала, што я іх пастраляў?

— Я? Хы, пры чым тут я? Усе ведаюць, што ты. Людзі жывы.

— Людзі. Я ведаю, што жывы. А сведкі? Суду трэба во, ва ўпор.

— Можа, і ва ўпор табе будзе. Не ведаю. Не ад мяне гэта будзе залежаць. Ад усёй тваёй біяграфіі. Сведкі будуць, не сумнявайся. Знойдуцца.

— Твой, твой верх, Мар'я. Бабскі. Бабскі павінен быць верх. А я ж чуў, што ты задушыла дзіця, якога ад салдата радзіла. Успомні? Ёсць закон і за гэта. Няма, думаеш? Сам пайду ў сведкі і дакажу, што дзіця ў цябе было і ты яго задушыла. Калі ў цябе хоць трошкі ёсць чалавечага сумлення. Як гэта кажуць? У чужым воку ўсё навідавоку, а ў сваім? Тады роўныя мы з табой злачынцы і пайшлі са мной у лес, назаўсёды. Як ты вочы свае пакажаш у Бярозаўцы? Квіты? — Ён нагнуўся над Мар'яй і дыхнуў ёй у самы твар. Быццам і не смярдзела, але ёй чамусьці не хацелася, каб ён яшчэ дыхаў ёй у твар.

Яна задушыла дзіця, якое нарадзіла ад салдата? Сказаць ці не сказаць яму, што салдат да яе нават не дакранаўся? Навошта? Што гэта, прынамсі, дасць Мар'і? Паспачувае? Дапаможа чым-небудзь? Папросіць прабачэння, зменіцца і стане чалавекам?

— Радзіла і задушыла. А табе што да гэтага? Не тваё.

— Слухай, а магло быць і маё, калі б ты была да мяне больш лагодная і цёплая. Няпраўда?

— Магло б, канешне, калі б ты да мяне часцей ездзіў, больш вазіў. Шнапсу б нямецкага, каўбасы. Не ведаеш, што жанчыны любяць? Падарункі ды пачастункі.

Ён памахаў перад носам у Мар'і незапаленым ліхтарыкам.

— Гадзюка крывадушная! Яны ж мяне ўсе гэтыя самыя твае сцераглі, каб адкруціць мне галаву. Не разумеў, думаеш? Але я не хадзіў тудой, дзе яны сцераглі. Узяць мяне было не так проста. Да цябе — не. Разумеў.

— Трус, значыць. А хацеў, каб радзіла ад цябе дзіця.

— Не трус, а з галавой на плячах. У мяне бацька ў Бярозаўцы і браты. Я паказаў бы вам тады, хто я. Пашкадаваў вас.

— І сябе.

— Ну і сябе ў нейкай меры. Бог ведае, што заўтра будзе. Адно сяло: мае — твае, твае — мае. Пачакай, што гэта мы стаім так пасярод дарогі? Давай звернем дзе-небудзь у беражок, аганёк, можа, раскладзем, пагрэемся, а то, бачу я, цябе дрыжыкі пачынаюць прабіраць, і даспяваем нашу песню. Пайшлі,— і ён узяў яе за руку.

Сілы былі не роўныя. Акрамя слоў, у якіх яна магла сябе не абмяжоўваць і не абмяжоўвала, у яе не было нічога. Мар'я гэта ведала і недзе глыбока ў душы, можа, як ніколі, адчула ўсю складанасць свайго становішча, хоць побач Бярозаўка, скончылася вайна і вярнуліся назад усе законы. Што яму законы! Ён сам па-за законам, і рукі яго ці жаданне нічым не звязаны. Хіба што толькі з адной вёскі, і там жывуць яго бацькі, і ў самога яшчэ не патухла такая-сякая надзея на такую-сякую літасць і выратаванне галавы. І тут жа зразумела, што калі нават зараз, сённяшняй ноччу, ён нічога з ёй не зробіць (гэта магло быць, і Мар'я бачыла над сабой гэтую пагрозу), яна, пакуль ён будзе жывы і будзе хадзіць тут у ваколіцах па лесе, не засне па-людску, як дома, не пад'есць, не сходзіць да мацеры і ўсё будзе вакол сябе азірацца і азірацца. Трэба было неяк выкручвацца. Як? Бегчы? Ды ён адразу ж дагоніць — зломіць, скруціць.

— Чакай, Іван, не цягні. Бачыш, як іду? Ледзьве ногі пераcтаўляю.

— Ага, праўда, я і не пытаю, чаму ты так ідзеш. Я доўга думаў і не мог прыйсці да памяці, хто так паціху сунецца ўначы па дарозе. Ногі пазразала?

— Ведаеш, не пазразала, Іван, не. Саскоквала на шашы з машыны і трошкі падвярнула нагу ў ступні. Спачатку не балела. А тады пасядзела ў цёткі Юстыны ў Восаўцы, пастаяла з людзьмі, пагаварыла, выйшла за вёску — не пайсці мне, разбалелася. Эт, дайду, думаю, хоць паўзком. Назад вяртацца?

— Дык ты была ўжо ў Восаўцы?

— Была. Ішла цераз Восаўку.

— Я думаў, можа, цераз поле ішла, наўпраcткі. Там сцежка ёсць.

— Не ведаю.

Мар'і здалося, што ўпамінанне Восаўкі і цёткі Юстыны і яшчэ нейкіх людзей, з якімі яна гаварыла

на вуліцы, было зусім да месца, бо калі б ён па нейкай помсце ці іншых звярыных меркаваннях і думаў зрабіць з ёй што-небудзь нядобрае, то павінен быў бы падумаць і пра восаўскіх людзей, якія пацвердзілі б, што тады і тады яны бачылі яе і ведаюць, што пайшла ўвечары ў Бярозаўку.

— Давай я цябе панясу.

Голас яго быццам змякчэў.

Мар'я зажмурыла вочы, калі ён нёс яе на ўлонні перад сабой, як дзіця, і ўсё адхіналася галавой далей ад яго шчакі, каб не дакранацца да яе, канешне, халоднай і калючай, як начны яловы лапнік.

Недзе пад густой разлапістай елкай ён паставіў яе на ногі, задаволена прамовіўшы:

— Во, як дома.

Не запальваючы ліхтарыка, трашчэў у лесе, ломячы сухі пацапнік, дробнае яловае сухое суччча на падпалку, здзіраючы з бярэзіны бяросту.

Агонь вельмі хутка асвяціў месца, дзе яны спыніліся. Гэта быў лес, які Мар'я ведала: яліны, бярозы, вольхі і нават кусты арэшніку.

«У які ж бок дарога?» — падумала яна. Хаця навошта? Пабяжыш туды? Але ўжо такое нутро ў чалавека. Нават паміраючы, ён хоча ведаць, дзе знаходзіцца, быццам сапраўды ў целе ёсць душа, і яна павінна ведаць, куды ёй перамяшчацца.

Агонь гарэў, а ён стаяў над ім, упёршы адну руку ў бок, як бы падпіраючы сябе, каб не хістацца туды-сюды і лепш бачыць, трэба яшчэ што-небудзь, каб ён гарэў, ці не трэба. Пераканаўшыся, што ані нічога не трэба, ён адхіснуўся ад агню, глянуў угору на яловую навісь і сеў воддалі, недалёка ад ствала дрэва, сказаўшы і паказаўшы рухам твару Мар'і, дзе сесці:

— Чаго ты? Сядай. За пастой не плаціць. Будзь як дома.

Яна села. Супячыся, быццам сапраўды моцна балела нага, баючыся, каб ён не прымусіў яе ісці кудынебудзь далёка, што было зусім верагодным у такой сітуацыі. «А несці — далёка не панясе». Села не там, дзе ён паказаў, а бліжэй да агню, каб трохі пагрэцца, бо ў яе былі мокрыя калені і холад ад іх пайшоў па ўсім целе.

— Слухай, ты пра майго брата нічога не ведаеш?

— Пра брата? Колю? Няма пахаванкі — значыць, жывы.

— А я не ведаю.

— Ты не ведаеш, а я дакладна ведаю, што няма.

«Год седзячы ў лесе і ведаць? Адкуль?» — падумалася Мар'і.

— У партызанах яго не забілі? — удакладняла яна.

— На пісталетны стрэл бачыў. Акурат у вуха дастаў бы. Гэта было, як яны ўжо з лесу прыйшлі, а я ў лес на іх месца падаўся.

— Чаму?..

— Не забіў? Нельга, Марусь, радня. Як жа біць свайго?

— Добры.

— А і не благі. Так, служыў памаленьку.

— А пра цёлку маю нічога не скажаш? Як яна тут без мяне засталася?

— Зарэзалі мы яе, можа, на трэці дзень пасля таго, як цябе ў Германію забралі.

— Як ваўкі, ірвалі? Маладое мяса, смачнае.

— Чаго як ваўкі. Варылі і елі як людзі. Нямецкім шпінатам, лічы, нашым гарбузнікам, сыты не будзеш.

Першую зіму ў яе забралі карову, як у маласямейнай. А гэта во і цялушку, што маці дала ад сваёй каровы, хутчэй схапілі.

Мар'я маўчала, быццам сапраўды задумалася пра сваю маладую жывёліну, якой нічога не заставалася без гаспадыні, як зараз жа папасці ў кацёл паліцэйскіх.

— Марусь, дык у цябе што: было два сыны?

«Іш, падла, Марусь»,— падумала яна.

— Ну, два сыны. Добра?

— Добра.— Ён пакруціў галавой.— Люблю баб, якія раджаюць сыноў.

— Любіш?

— Ну. І калі б не твая ведзьма маці, пажаніліся б.

— І ты б у паліцыю не пайшоў?

— А што ты думаеш. Можа б, і не пайшоў. Не было мне чаго рабіць без цябе, і мне хацелася нечым паказаць сябе.

— Ну і паказаў?

— Уліп. Цяпер я гэта разумею. Мацеру тваю трэба было правучыць. Не хочацца рукі мараць.

— А так яны ў цябе дужа чыстыя.

— Слухай,— ён усхапіўся на ногі і сеў на кукішках тварам да Мар'і.— Калі б не я, цябе б даўно на свеце не было.

— У Германію адправіў?

Ён прылажыў кулак да сваіх грудзей.

— Германія тут не пры чым. Жывая во вярнулася.

— А магла не вярнуцца. Усе адтуль павярталіся?

— Я ведаю, што не ўсе. І ты магла не вярнуцца. Я быў з немцамі. Як я мог папярэдзіць цябе, каб ты хавалася? Не мог я. Разумееш? Я быў у іх на вачах.

— А я сказала б, як тады: «У сена бяжы».

— Ну і што? І там жыла, а калі я раз... Адкусіў цябе? Ты паслухай, як я цябе выратаваў. То — мякіна, пра што ты гаворыш. Паслухай. Помніш, як ты ішла ў Вяззе да доктара?

— Ну.

— Помніш. Ні да якога доктара ты не ішла. Ты ішла на сувязь да Токарава. Вот, галубка. Пасля даўмеўся. І ён у хуткасці са сваімі дружкамі пайшоў у партызаны. Цябе паслалі сказаць, дзе і калі яму злучыцца з імі. Ну?

Мар'я крутнула галавой.

— Лоўка. Як вы даведаліся?

— Даведаліся, даведаліся... Ты была на валаску. Помніш паставога, які цябе затрымаў і завёў у паліцыю? Ён хлопец вушлы. Убачыў мяне і кажа: «Сувязная. Трэба яе зараз жа...» Ведае, што бацька твой — камуніст.

— Чула. Ён і мне сказаў. І ў паліцыі, мусіць, казаў.

— О-о-о, табе цяпер плюс. Хто цяпер табе што зробіць? Я толькі хачу сказаць, што цябе не было б даўно, каб не я. Дзянісам гэтага паставога звалі. З Клёнаўкі ён сам. «Суку трэба забраць»,— кажа мне і ўжо хацеў ісці да начальства. Я ўпрасіў яго. Кажу: з адной вёскі, кажу, ёй пропуск даваў, бацькі мае там жывуць, мяне могуць ублытаць. І твае ж, кажу, бацькі ў вёсцы. Партызаны могуць ім кышмыш зрабіць. Паслухаў ён мяне, здаўся. Во што было, а ты нічога і не ведала, год дома спакойненька

прасядзела, пакуль у Германію забралі. За сваю галаву баяўся. А што, думаю: прышыюць сувязь...

— Немцаў, кажаш, баяўся. А сваіх цяпер не баішся?

— Сваіх? — Ён склаў у кучу далоні, паправіўся на адной назе, тады на другой і зусім устаў.— Не ведаю. Буду хавацца пакуль што. А там будзе відаць. Буду праслухоўваць, колькі даюць такім. Прыйду дамоў, як адседжу, а ў мяне сын во. Ты мне, Марусь, родзіш гэтага сына. А задушыш, прачую, табе галаву, як качан, адкручу.

— А я што яму скажу?

— Сыну?

— Сыну.

— Бацька прыйшоў. Так і скажаш: «У паліцыі быў. Адбыў сваё». Хочаш, каб слава табе была? Усё роўна далей Бярозаўкі нікуды не рушыш. Кругом лес. Я цябе папрашу, і ты згодзішся. Куды падзенешся. Навошта табе слава? У лесе гаспадар я.

— А не мядзведзь?

— У нас на мядзведзя ёсць...

Ён заспяваў не гучна, каб толькі чула Мар'я, нейкую песню, падымаючы не так сабе, як ёй, настрой, і пачаў расправаць сваю брызентавую, з капюшонам, з накладнымі кішэнямі куртку. Павесіў на сухі, даўно адломлены сук елкі.

Мар'я ўстала на ногі, пазіраючы ў яго бок, што ён робіць. Павесіўшы куртку, павярнуўся тварам да Мар'і і дастаў, так, каб Мар'я бачыла, з кішэні шырокіх штаноў пісталет і апусціў у ніжнюю накладную кішэнь курткі.

— А гэта што ў цябе? — запытала Мар'я, убачыўшы на паясным рэмені штаноў фінку ў чахле.

— Гэта? — ён абрадаваўся, што Мар'я ўбачыла не толькі яго пісталет, а і фінку.— Фінка, Марусь, фінка. А як жа, даводзіцца...

«Што даводзіцца: людзей страляць і рэзаць?..»

— Фін-ка-а,— зрабіла выгляд, што дужа здзіўлена, Мар'я.— Пакажы. Я ніколі не бачыла фінкі.

Ён выняў нож з чахла і падаў Мар'і, сказаўшы:

— Асцярожна. Вострая, як брытва.

Зняўшы з галавы кепку, пачаў шукаць ёй месца пад елкай, дзе ўжо вісела куртка.

У гэты час ззаду Мар'я ўдарыла яму фінкай у правы бок шыі, моцна, з усяе сілы.

Ён матнуўся ўлева, нібы ўхіляючыся ад небяспекі, некалькі часу балансуючы на адной назе, хапаўся рукамі за горла і зяўкаў ротам, быццам давячыся нечым, пакуль не чмякнуў на зямлю ўсім сваім грузным целам.

Не кідаючы фінку, Мар'я выхапіла з кішэні курткі пісталет, адступіла ад агню некалькі крокаў у лес на ўсякі выпадак, каб адтуль назіраць, калі пераста не біцца ў канвульсіях яго цела.

Ён памёр хутчэй, чым дагарэў агонь, раскладзены ім, каля якога Мар'я яшчэ пагрэла рукі, склаўшы коўшыкам.

Вось так нечакана і проста здараецца ўсё: і вялікае і трагічнае.

Пісталет і фінку яна загарнула ў свой хатулёк, які везла з самай Германіі, і пайшла дадому цяпер ужо не замаруджваючы кроку і не азіраючыся па баках. Неба пачынала святлець. Спераду, ад Бярозаўкі, даносілася звонкая пераклічка пеўняў.

Наступала новая раніца.

## АКОПЫ НЕ ПАЗАРАСТАЛІ

Пра яе казалі: «Жанчына з характарам». І гэта праўда. Яна была з характарам. З характарам усё жыццё.

Усё жыццё? Як сказаць. Для аднаго выхад на пенсію — канец актыўнага жыцця, для другога — зеніт, з вышыні якога ён пачынае ясней усё бачыць, глыбей адчуваць, правільней разумець, чым разумеў у маладосці.

Ліда лічыла, што яна прайшла толькі адзін адрэзак не вельмі складнай жыццёвай дарогі. Уперадзе новы адрэзак. Трэба было зараз жа нешта папраўляць, удакладняць, адразаць і адкідаць убок, надточваць ці шыць новае.

І яна рашыла: шыць новае. Не было жыцця, дык яго трэба зрабіць. Самой трэба зрабіць, як усё рабіла сама, галавой і рукамі, дагэтуль, жывучы з такіх маладых гадоў удавой. Хто табе што параіць? Не, раяць, але ў які бок? Калі чалавек раіць другому чалавеку, дык ён, лічы, раіць сабе, а не яму, не другому чалавеку. Нездарма гавораць: «Людзей слухай, а свой розум май!» Так, кожны чалавек мае свой розум, але не кожны чалавек жыве сваім розумам. Што: лягчэй жыць на гатовым? Відаць, лягчэй. Ды і адказнасці ніякай. Тым часам параілі, падказалі. Хай нехта будзе вінаваты за твой няпэўны крок. Лягчэй паміраць святым і чыстым.

Шыць новае, новае. Перашытае ды надточанае не адзежына, у якой можна паказацца на людзі. У ёй можна сядзець толькі ў запечку.

Не хоча Ліда сядзець у запечку ў сына з нявесткай і гадаваць іх дзяцей, сваіх унукаў. Усякаму чалавеку нешта адмерана ў жыцці добрае, і калі не ўзяць гэтага добрага, тым больш адмовіцца ад яго, навошта было раджацца і таптаць траву на гэтым свеце?

Маці... Яна пражыла дзевяноста тры гады. Як пражыла? Апошнія дваццаць сем гадоў — удавой. Калі ўжо замуж нельга было пайсці. Старая. Ды і дзяцей за плячыма — пляцёнка. Арына, Масей, Іван, Якаў, Андрэй і яна, Ліда. Маці ўзяла сваё, што і гаварыць. Цяжкавата было, праўда, сям'я. Але ж сям'я свая, дружная, дзеці адно над адным. Большыя гля-

дзелі меншых. Меншыя пазіралі на большых і раслі, беручы з іх прыклад.

«Крыклівая ты была, не дай божа,— успаміналіся словы маці.— Іду жаць жыта, калыску за плечы. У адной руцэ цапкі цягну, у другой гаршкі нясу з полуднем. Цапкі пастаўлю, цябе ў калысцы павешу. А ты крычыш на ўсё поле. Андрэй ці Якаў калыша, а ты ўсё роўна крычыш. Хаця б, думаю, кішкі ў яе з жывата не выскачылі».

Расці Лідзе было няблага. Яна ў сям'і меншая. А меншаму перад большым можна і папесціцца. Большыя шкадуюць меншых, у любых нягодах бяруць іх пад сваю абарону. У вясковай дзяўчыны тых часоў не было каму заступіцца, калі крыўдзілі хлапчукі і хлопцы, нават не зважаючы на тое, што ў яе былі бацька і маці. А тут — не. Тут большыя браты. Пад іх вокам уся вясковая мальга. І калі Ліда скажа: «Андрэю скажу» ці нават Якаву, Івану або Масею, задзіры і смельчакі адразу апускаюць рукі і прыкусваюць языкі. А як жа, так і павінна было быць. У яе былі большыя браты, сіла. Праўда, жаніхоў хапала, хоць на кій вярні. Але яны не надта насядалі на яе. Усё больш з падыходам, з намёкамі на яе прыгажосць і прывабнасць.

Але сама Ліда не лічыла сябе прыгажуняй і ніколі не выстаўляла наперад сваю прыгажосць. Не было ў яе гэтай прыгажосці! І не любавалася яна ёй, як некаторыя, седзячы перад люстэркам. Не ўглядалася ні ў ямачкі ці такое-сякое рабацінне на скуры твару. Былі яны, і ямачкі, і рабацінне. Эт, хай будуць. Баліць ад іх, ці што? Нічым не мазалася і не выводзіла іх. Праўда, калі часамі непрыгожым чарвяком лажылася драпіна на шчацэ або на барадзе, тады мазала яе смятанай або вазелінам. Яна мякчэла, бялела і хутчэй зажывала. І што за дзіва? Учора ўдзень нічога не было, а ўранні глянеш у люстэрка — драпіна. Адкуль яна?

І вочы якія — ніколі добра не прыглядалася. Чорныя? Шэрыя? Карыя? Чужыя вочы бачыш, а ў свае пачнеш углядацца, а яны маргель, маргель, і зноў усё змяшалася. Няма, каб адзін колер. Вушы — не вялікія. Лоб не надта пукаты, але і не плоскі, як дошка, шчокі круглыя. Увесь твар круглы. Круглатварая была Ліда. Валасы цемнаватыя і не круціліся. Заві-

вак у той час вясковыя дзяўчаты не рабілі. Спрабавалі некаторыя на гарачае шыла або дрот рабіць каля вушэй і над лобам спіралькі, але Ліда не падраблялася пад такую прыгажосць. Навошта?

Гэта ў маладосці.

Ды што маладосць! Лідзе цяпер прасцей і ямчэй. Жыве такой, якой адліла яе прырода. Навечна. Адну.

Адну? Так, адну. Нялёгка жыць жанчыне адной, ой нялёгка. Бачыш, а не можаш. Адчуваеш, а нікому не скажаш. Нявыказанае баліць, як скабка ў жывым целе.

Мужа, можна сказаць, і не было. Даткнуўся — і няма. І не ўведала нават, які ён быў: цёплы ці халодны, ласкавы, добры ці без душы, жорсткі. Забралі ў армію ў саракавым, увосень, а летам сорак першага пачалася вайна, і не вярнуўся ён з яе, нават невядома, дзе і калі яго скасіла.

Калі пачалася вайна, надвор'е стаяла сонечнае, цёплае, паспявала ўжо жыта, высыпаўшы буйнае калоссе... Самы раз людзям жыць, любавацца набыткам сваёй працы.

Сын, Пеця, нарадзіўся ўжо без яго, не ўбачыў свайго бацькі, а бацьку не суджана было хоць раз, хоць адным вокам глянуць на роднае дзіця.

З таго часу — адна. Адна, адна і адна. У хаце адна, на рабоце адна. Сын не мог падзяліць яе адзіноты. Быў малы і нічога не разумеў, што рабілася наўкола. А як падрос, меў сваіх аднагодкаў і аднадумцаў. Ці ж дзеці адчуюць тое, што адчуваюць і разумеюць бацькі? Ніколі. І не трэба. У іх свае будуць слёзы і свая будзе радасць.

Уй, нагаравалася Ліда ў вайну з ім, з малым. На руках і на руках. Ад адных камароў ратунку не было, калі сядзелі ў лесе, пакуль прайшоў фронт на ўсход. Паміраць не хацелася нікому, людзі — у лес. Сама — галодная, у грудзях нічога не было. Суне яму ў рот пустую цыцку, ён падрыгае ножкамі, усердзіцца, заплача, што нічога няма ў ёй, абвяне, як мёртвы, і засне не дыхаючы.

Да работы быў муж жорсткі. Калі ўзяўся за што, не прысядзе, не адпачне. Бацька такі быў, і ўсе браты такія. Таму і параілі Лідзе: «Ідзі. Яны працавітыя. Будзеш жыць».

Глядзелі людзі толькі з аднаго боку: «будзеш

жыць» ці «не будзеш жыць». Спадабаўся хлопец ці не спадабаўся — не пыталі. Затрапятала сэрца чаканнем вяселля. Расквечаная дуга са званком, вянок на галаве і падружкі, каравай і вясельныя песні.

Песні... Але чаму яны былі жаласлівыя? Чаму, калі пачыналі іх спяваць, плакала маладуха, плакала маці, якая аддавала сваю дачку, плакалі браты, сёстры. Бацькі не было ўжо. Навошта ж тады рабілі вяселлі, калі не рады былі ім?

Ніякага кахання, успамінае Ліда, не было ў яе да Сяргея. Можа, яна і падабалася яму, але каб цягнула да яго, не помніць. Праводзіць ён яе з вечарынкі ніколі і не праводзіў. Гаварыць не ўмеў. Танцаваць браў, ды танцаваць з ім было вельмі няёмка, патрапляць пад музыку нагамі было надта цяжка. «Сяргей не дурэй»,— дражнілася часамі з яго Ліда вядомай у вёсцы прымаўкай, а ён жартаў не разумеў і дурэць не ўмеў.

Быў адзін хлопец, які падабаўся Лідзе, але аб гэтым ніхто не ведаў і ўведаць не мог. Па-першае, ён быў з суседняй вёскі, а аддаваць замуж дзяўчат у чужую вёску ў тыя часы бацькі не аддавалі. «Адарваць ад сваіх, ад радні?» І не адрывалі. Можа, і правільна рабілі. Ён толькі раз прыгарнуў і пацалаваў Ліду, і гэтага зусім хапіла, каб не забыць...

Якое жыццё? Ліда яшчэ не пражыла яго. Пакуль ішла вайна, пакуль людзі збольшага забыліся пра яе і падымалі на ногі калгас, пакуль сын хадзіў у школу, а тады ў тэхнікуме вучыўся, калі было падумаць, было ў яе жыцці каханне ці не? Мужа няма, ой даўно ўжо няма, і калі б нават было ў Ліды штонебудзь да яго, даўно б астыла, выветрылася б і выпарылася. Снягі ішлі і мяцеліцы круцілі, дажджы лілі і туманы засцілалі поле, былі гады і спякотныя, засушлівыя, калі лён (Ліда была звеннявой па лёну) ані не рос, сядзеў шчоткай, павытыкаўшыся з зямлі, і казалі: «Лён згарэў». Было не па сабе, гарэла душа, была злосць і на пагоду, і на чалавечую бездапаможнасць. Калі было думаць пра сябе, тым больш пра тыя далёкія дзявочыя гады? Прыгожым касніком мільганулі яны перад вачыма. Цяпер успомні, які быў той каснік? Сіні? Чырвоны? Ружовы? Помніцца, што прыгожы, і ўсё, больш нічога не помніцца.

Цяпер у Ліды ёсць час, ёсць сталы чалавечы ро-

зум, і яна можа зусім цвяроза прасеяць праз яго сіта ўсё сваё мінулае і разабрацца ў сучасным. Не атрымалася жыццё ў маладыя гады (скруціла, зламала іх вайна), чаму ж не паспрабаваць паправіць яго цяпер, у сталым часе? Ліда не адчувае старасці. Не! Не! Тысячу разоў не! Хто можа ведаць пра чалавека больш, чым ён сам пра сябе ведае? «А раз я сама пра сябе больш ведаю, я і судзіць сябе, у выпадку чаго, сама буду»,— зрабіла вывад Ліда.

* * *

Быў спас, калі ў прыродзе ўсяму час, як любяць гаварыць у народзе. Яблыкам, гуркам, бобу, бручцы, рэпе, моркве, бульбе... Усё вырасла, усё паспела, еш, хоць пуп развяжы.

Пілін загадаў большаму сыну Масею пераматаць вяроўкай ззаду і спераду драбінку калёс, каб было сядзенне і нічога з іх не вывальвалася, а сам пачаў па-святочнаму апранацца. На споднікі надзеў белыя, з шасцінітовага, у невялікую клетачку, палатна нагавіцы, абуў на чыстыя анучы новыя лыкавыя лапці, каўнер сарочкі з добра выбеленага тонкага палатна звязаў сіняй жычкай і расчасаў грабянцом шэрую ад сівізны бараду і вусы.

— Дай насоў, Аксеня,— сказаў ён жонцы, аглядаючы свой твар у люстэрка.

Жонка пайшла ў сенцы і вярнулася адтуль з насовам.

Пілін апрануў яго і заплікнуў унізе на гузікі. Смыкнуў адным, другім плечуком — добра, не ціснe, нідзе нічога не колецца.

Насоў быў яшчэ бялейшы, чым нагавіцы, з таўсцейшага палатна, чым яны, ці не н васьмінітовага, а можа, і дванаццацінітовага і з кішэнямі.

— Запрагаць? — увайшоў у хату Масей.

— Запрагай,— адказаў бацька.— А дзе Арына?

— Арына! — закрычалі на вуліцы, і неўзабаве ўбегла ў хату паўнагрудая, у белай блузцы з зборкамі на таліі, у доўгай, амаль не да пят крамнай спадніцы Арына.

— Чаравікі ўзяць? — пытала яна не то ў бацькі, не то ў маці, шаркаючы туды-сюды босымі нагамі па

хаце, не ведаючы, куды падзеліся прыгатаваныя ёй яшчэ ўчора чаравікі. Пад лаўку яна іх клала.

— На палатках,— адказала маці, паціху пакалыхваючы запнутую вопінкай калыску, у якой спала яшчэ не хрышчаная, а таму і без імя дзяўчынка.

— Надзень,— сказаў бацька.

— Нагам будзе душна. Там надзену, як у Парэчча прыедзем.

— То не згубі, глядзі.

— Не згублю.

Перад тым як сесці ў драбінку, бацька глянуў на восі, ці памазаў сын колы (у трубках відаць была чорная смала, значыць, памазаў), пакратаў дугу з вербалозавага кругляка, ці не віхляецца назад-наперад, памацаў, як нацягнуты церазсядзельнік, як супоня на клешчах замацавана і як зашморгнуты на аброці лейцы. Тады абышоў вакол калёс і глянуў на кожную загваздку.

Дробязь? Так толькі здаецца. Ехаць на нямазаных калёсах — усё роўна што тону жалеза ў воз палажыць, перацягнуць церазсядзельнік — каня пададавіць, ён хутка захрапе і пену з рота пусціць, не дацягнуць — карак да крыві збіць. А дуга хлямае — гужы не нацягнуты, і конь у дарозе так зцургаецца, што будзе туляцца ў бакі, як п'яны.

У перадку калёс ляжала свежая, адкошаная ў садку трава каню пад нос, калі прыедуць у Парэчча і паставяць ці дзе ў двары, у знаёмых, ці дзе на вуліцы паўз плот. Пад сядзеннем, накрытым не новай рабой пасцілкай,— леташняя, ужо ломкая і без ніякага паху салома.

Плеценую кашолку з дзвюма ручкамі Піліп паставіў паўз самы вяровачны перамот у перадку, прыгарнуўшы да яе пабольш травы, каб яна не паваліласяі не разбіўся гладышык, які стаяў у ёй абвязаны ўверсе палатнянай сурвэткай. У гладышык яны купяць буракавага мёду, у які будуць мачаць ці пшанічныя маленькія булачкі як за раз у рот узяць, ці аладкі. Тараны ці якую шмайку паложаць проста ў кашолку, калі будзе што з гэтага. А можа, іншага чаго купяць, пахадзіўшы па крамах і параўнаўшы цану і свае грошы, якія бяруць з сабой? У нядзелю трэба будзе перахрысціць дзіця. Ну, а калі хрысціць, дык і хрэсьбіны такія-сякія трэба зрабіць, як заве-

дзена звеку дзядамі і прадзедамі і іх, мусіць, прадзедамі. Піліп ужо і жыта наабіваў пуды са тры, папу на плату.

Арына села побач з бацькам, на сядзенні ззаду. Масей пабег адчыняць вароты.

— Не хлопай гэтак ботамі,— абурыўся бацька, што сын так не шануе іх. Ого, узбіўся на боты. Мала таго, што шаўцы дзяруць за іх, важна, тавар які паставяць.

Вароты былі на драўляным вораце і моцна зарыпелі, калі Масей адчыніў іх і стаў збоку паўз клецъ, даючы выезд каню.

Бацька ўзяў у рукі лейцы, ледзь трошкі таргануў імі, сказаўшы «но», і Палавы крануўся з месца.

Конь быў немалады ўжо, гадоў пятнаццаць было яму, але вельмі разумны і паслухмяны. Скажы тпру — і ён як укопаны. Любы воз бярэ лёгкім цісканнем управа — улева і ніколі не рве, не стукае ў хамут, як стукаюць ці рвуць некаторыя коні-неўхалоды. Ці выязджаеш з двара, ці ўязджаеш, не ўчэпіцца воссю за шулу, хоць кіруй, хоць не кіруй ім. А араць? Ну, проста любата адна. Баразна тая — як струна. І, трэба сказаць, маласытны. Ці аўса, ці сена трошкі з'есць — і кругленькі. Іншага не ўкарміць, не ўпаіць, а запрэжаны, дык ён толькі і ведае, што кучкі класці. Не, Палавы — акуратны конь.

Выехаўшы на вуліцу, Піліп спыніўся і чакаў, пакуль Масей зачыніць вароты.

— Адсюль, злева, садзіся,— сказаў ён сыну, бо калі б сын сеў справа насупраць бацькі, то лейцы б ішлі прама на яго і кіраваць канём было б нязручна.

Масей сеў на драбінку насупраць Арыны, бокам да яе, перавесіўшы ногі ў ботах цераз біла драбінкі.

— Глядзі, халявы не падрапай,— зноў бацька думаў пра боты.

Вуліца была сухая, роўная, і Палавы лёгка пабег па ёй, хуценька перабіраючы сваімі тонкімі нагамі.

За вёскай аканаўленая дарога пайшла цераз лужок і лягла мастком цераз рэчку. Лужок быў даўно скошаны, і на ім паспела адскочыць ладная атава. Шпакі чародамі то садзіліся на яго, то падымаліся, пералятаючы на другое месца. Там-сям стаялі, як вылітыя з цяжкой зеляніны, дубы. О, тут, на лужку, яны былі як цары: іх усе бачылі і яны вакол за ўсім

жыццём і ўзімку і ўлетку сачылі. Прыгожа было на лужку. Надвор'е стаяла сонечнае, ціхае, неба глыбокае — як шкляны звон.

Вёска з платамі, з дахамі хат, стопак, клецяў і пунь, з зяродамі, поўнымі дабра (жыта, аўса, ячменю, гароху, грэчкі), аддалялася і аддалялася, і Масею здалося, што яна памаленьку нібы плыве кудысьці.

І ў лесе, у які ўехалі, было прыемна і прыгожа. Дзіўная садружнасць: елкі, сосны, бярэзнік, асіннік, рабіннік, арэшнік, крушыннік — якіх дрэў тут толькі не было!

Перад самым выездам на раўкоўскае поле дарогу перабег вялікі заяц-шарак. Каб жа перабег! Памаленьку, нібы дражнячыся з людзей, пракуляўся пад самым носам у каня.

Бацька правёў яго вачыма і незадаволена, нібы сапраўды сёння ім у нечым не пашанцуе, вымавіў:

— Іч, косы чорт, як дома.

І не пашанцавала. У вёсцы Раўкі стаяла некалькі падвод, якія паспелі ўжо вярнуцца з Парэчча, не даехаўшы да яго. У Парэччы былі палякі і нікога цераз мост не пускалі. У шапках-чатырохвуголках, з вінтоўкамі, у сваёй нязвычнай форме салдаты белапольскай арміі.

З двара адной з хат выйшаў добра знаёмы: Захар'я. Ён паволі пачаў напіхаць у люльку табаку, улажыўшы яе, люльку, у кісет, і прыглядацца па баках, нібы іх нехта мог падслухаць. Запаліўшы люльку і папыхаўшы дымам, загаварыў:

— У Парэчча ехалі?

— Думаў.

— Трэба было?

Піліп расказаў.

— Усё,— сказаў Захар'я і выплюнуў гаркоту табачнага дыму.— Кажуць, ён тут доўга будзе. Будзе стаяць. Хоча да Старога Дуба заняць.

— Да Старога Дуба? — здзівіўся Піліп, трымаючы ў руках лейцы і глянуўшы ў правы бок, тады ў левы, нібы гэты Дуб можна было ўбачыць недзе тут, у ваколіцах Раўкоў.— А дзе ж той Стары Дуб? — і глядзеў на Захар'ю, на яго нерасчасаную, як паклычапы сівец, бараду, на барозны маршчын пад вачыма.

— Стары Дуб? — Захар'я пачаў смактаць люльку, раз за разам апускаючы ўказальны палец у яе

пякучае жэрала, нешта падумаў сам сабе, прыплюшчыўшы вочы, а тады лёгка ўскінуў твар угору, выпнуўшы перад Піліпам усё жылле худой сваёй, згарэлай, як і нос, і вушы, шыі, зірнуў тонка на далягляд неба (вочы ў Захар'і былі сінія) і адказаў: — Там, кажуць, далёка. За Воршай ці пад Воршай. Во! А ты едзеш у Парэчча. Нашаму брату цяпер...— Ён плюнуў рудой слінай убок і выцер тылам далоні рот.

Піліп паківаў туды-сюды галавой. Арына і Масей глядзелі на яго, чакаючы, што скажа бацька.

— Твае? — паказаў на іх Захар'я.

— Мае.

— Сям'ёй сваёй ехалі?

— Я ж кажу, трэба было.

— Каторае гэта ў цябе радзілася?

— Шостае. Большая во дзеўка, Арына, і радзілася дзеўка. А тыя ўсе хлопцы.

— У цябе шчэ не многа. Ёсць у людзей паболей.

— Як не многа? Гледзячы як лічыць. Калі па хлебу, колькі з'ядуць, то і не мала. Восем душ у хаце. Добры бохан на дзень. Ды і прыварак не абы-які трэба. А як няма круп, бульбы, то бохана і мала. А ты, Захар'я, кажаш, не многа. Сям'я — яна, брат, як той вулей: зробіць, калі што трэба. Ну і з'есць у ахвоту.

Піліп крутнуў галавой, прыцмокнуў, аж конь крануўся з месца, думаючы, што гаспадар яму цмокае.

— Тпру, спяшыць няма куды, дамоў паедзем, раз у Парэччы госці. Году не прайшло, як пажылі самі сабе, і наце вам: зноў чужыя на пастой.

Меліся на ўвазе немцы, якія толькі летась увосень, калі ўжо зямлю прыхапіў добры мароз, пакінулі тутэйшую мясцовасць.

— Яны б не паехалі, чорт ведае колькі б аб'ядалі нас тут, калі б не перапуд. Рэвалюцыя ў іх была,— махнуў Захар'я люлькай у паветры, апісаўшы ёй круг ад рота і да вуха.

— Карміліся, а як жа. Спачатку хадзілі па хатах і прасілі, як старцы, «яйка», «шпэк», а пасля кабаноў з пунь пачалі браць. У мяне самога такога вепрука зарэзалі! І маўчы. Не дасі ім?

— Гэ, не дасі! Зброя! Ён з табой што хочаш зробіць. Як муху...— Захар'я махнуў люлькай знізу ўго-

ру.— А думаеш, гэтыя шкадаваць нас будуць? — І потым глуха, прыцішана: — Кажуць, пазнанскія легіянеры. Самыя паны. Шкуру з жывых здзяруць.

Масей глянуў на Захар'ю, тады на бацьку. Арына закруцілася на сядзенні, ёй зрабілася страшнавата. Яна хацела штосьці сказаць бацьку, ды не асмельвалася перад чужым чалавекам.

— Цара скінулі, улады ніякай, дык яны, як тыя ваўкі, хапаюць зубамі нашу зямлю, каб хоць які кавалак яе вырваць. Ні да хрэсьбін і ні да вяселляў. Паедзем дамоў. Я-ткі гляджу: выязджаем на ваша поле, а заяц нам, вялікі, як лось, цераз дарогу. І каб хоць трошкі сумеўся ці збаяўся, дык ані, нібы мы і не людзі.

— І звяры, і птушкі пер'ем, поўсцю сваёй адчуваюць, што на свеце робіцца, толькі мовы ў іх такой няма, каб мы іх разумелі,— сказаў Захар'я і смыкнуў барадой уперад.— А разумеюць. Усё разумеюць!

Вяртаўся Піліп дадому ў задуме. Конь ішоў як хацеў: сваім крокам, ніхто яго не прыспешваў. Планы... Планы былі. І надзеі былі. Новая ўлада. Зямлю б перадзялілі. Палянкі, казалі, можна б было ў лесе раскарчаваць. Лес, казалі, будзе людзям на патрэбы. Першым чынам Піліп меркаваў хату новую збудаваць. А то — хата. Глядзець на яе не хочацца. У зямлю ўся ўехала. Не толькі падруб, а можа, другое берванo ад яго ўжо згніло. Падаконнікі пагнілі, шамацяць мурашкамі і рознымі казяўкамі. Падлога лягла на зямлю. Макрыцы з-пад яе выпаўзаюць, часамі жабы. Ды і малая, не на сям'ю яго.

«Вось і будуйся. Цара скінулі... Не, улада ёсць, але яна недзе яшчэ дужа далёка. А ў нас яе няма. Мы яе яшчэ і не бачылі, толькі чулі пра яе. Матрос з Дубка сход праводзіў і расказваў, якой будзе гэтая новая ўлада. Але яго немцы злавілі і расстралялі без усяго ўсякага, каб не бунтаваў людзей і не нацкоўваў на старыя парадкі. Матрос быў, ясна, бальшавік, за народ, як і новая ўлада. А ім, бач, не па душы такія, не ў іх дудку дзьме. Вайну вялі супраць рускага цара, а цара скінулі,— яны расстрэльваюць людзей, якія яго скінулі. Як жа тады так?»

Матроса з Дубка Піліп ведаў. Вярней, бацьку яго ведаў. Дзянісаў сын. Таго самага Дзяніса, які на ўсю ваколіцу быў вядомы як мастак крыць саламяныя

стрэхі. Не проста абы-якой саломай, а саломай-правіцай, кулямі, як тады гаварылі. Увесь яго «струмант» складаўся з дзвюх прылад: чатырохвугольнай дошкі з ручкай, якой ён падганяў камлі правіцы пад адзін роўны плашчак страхі, і калок з зарубленым, як у шыдэлку, канцом, каб прыціскаць ім і потым лазовай вітачкай прывязваць паплеціну да лаціны. Матрос быў ёмкі ў плячах, смелы, на руцэ якар наколаны. Звалі яго Саўка. І... як дуб зваліўся. «Школу,— казаў,— у вас адкрыем».

«Гэтыя... хто іх ведае, якімі будуць. Хужэй. Хужэй»,— рашыў у думках Піліп.

Калі ад'ехаліся ад Раўкоў, Арына азірнулася на іх і запытала ў бацькі:

— Тата, а да нас яны не могуць прыехаць?

Піліп глянуў на сваю круглатварую, большую ў сям'і дачку, і яму чамусьці шкада зрабілася яе. Баіцца, бедная.

— Могуць, дачка, чаму не могуць. Калі да Парэчча дайшлі, то і да нас могуць прыйсці. Што тут: дзесяць вёрст — і мы, наша сяло.

— І мы будзем пад палякамі?

— А дзе ж мы дзенемся? Будзем пад палякамі, як былі пад немцамі. Іх сіла. Бач, занялі колькі. Чула, што казаў Захар'я? Хочуць ісці на Стары Дуб. Дзе той у чорта Стары Дуб, я добра і не ведаю, колькі да яго.

— Дык немцы ж не стаялі ў нас. У Ратуцічах стаялі. А да нас толькі ўдзень прыязджалі ці прыходзілі.

— Ну, Ратуцічы большыя, чым наша сяло. Хаты лепшыя. На большай дарозе, чым нашы Жабікі. І яўрэі там ёсць. Яны былі ў іх перагаворшчыкамі. Едуць да нас — і Шолам Борухаў з імі, тлумачыць ім нашу гаворку, а нам — тое, што яны кажуць. Я не ведаю, можа, і гэтыя не будуць у нас стаяць.

Масей маўчаў. Міргаў зыркімі карымі вачыма то на адзін бок дарогі, то на другі, быццам падпільноўвала яго недзе тут, у лесе, паміж Раўкамі і Жабікамі, нядобрая нечаканасць. Непакоіўся хлопец. Не малы ж ужо, па ўзросту, можна сказаць, салдат і, як усякі дарослы, мае свой чалавечы гонар.

Дзіця перахрысцілі ў другую нядзелю пасля спаса. Хрысціць вазілі кумы. Кум кіраваў Піліпавым

канём, а кума трымала ў сябе на руках спавітае і загорнутае ў новую чырвоную пасцілку малое. Упераддку ўпоперак драбінкі ляжаў нічым не прыкрыты мяшок з жытам — плата папу. Палавы хуценька перабіраў сваімі тонкімі нагамі, нібы разумеючы, што дзіця без цыцкі доўга не пратрымаецца і пачне плакаць. Ратуцічы, дзе была царква і жыў поп, былі быццам і недалёка ад Жабікаў, але пакуль туды ды назад, ды пакуль хрышчэнне поп правядзе, ды ў кніжку запіша імя дзіцяці і чыё яно (імя і прозвішча бацькі), то сонца на небе вунь куды ўздзярэцца, амаль у самы поўдзень.

Калі вярталіся дамоў кумы, то кожны сустрэчны, хто меў патрэбу або проста цікавасць, пытаў у іх:

— Як завуць?

— Ліда,— адказвала часцей за ўсё кума, бо дзіця было ў яе на руках, яна была як бы другой яго мамай, і кожнае дзіця, якое хрысцілася ў папа, мела так або іначай сваю хросную маму. Хросны бацька заняты быў больш сур'ёзнай, мужчынскай справай. Ён паганяў каня, уважліва сочачы ўперадзе перад сабой за дарогай, каб дзе не наехаць на якую патарчаку, або не бултыхнуцца адным колам у каўдобіну.

Бацькі былі задаволены імем. Ліда — лёгка і ясна. Бывае, такое імя выпадзе ў кніжцы, у якую поп глядзеў, калі хрысціў малое, што і прагаварыць цяжка — язык у роце зломіш. Праўда, некаторыя падлеткі спрабавалі спачатку спяваць пад акном у Піліпа «Ліда-гніда», ды большыя хлопцы так паказалі ім, як барсук дзяцей гладзіць, што рыфмачы языкі сабе папрыкусвалі. Хоць мянушка і ўзышла, але не вырасла і не прыстала да Ліды.

Хрэсьбін, можна сказаць, і не было. Разбіў кум бабін гаршчок з кашай, раздалі гэтую кашу па кавалку ў рукі дзецям, якія прыйшлі на хрэсьбіны, і тут табе ўсе пачастункі. Ні гарэлкі, ні тарана, ні шмайкі, ні скораму — ані, ані нічога. Ды і людзей не звалі. Не было на што зваць. Вочы свае на стол паставіш?

Хлопцы раджаюцца на вайну, дзеўкі — на гора. Калі б летась увосень немцы не забралі кабана (самага лепшага забралі, укормленага), то, можа б, скварка якая вялася яшчэ, здор, затаўчына. З каровы масла не збярэш: сям'я. Хаця б крупеню, зацірку

было чым забяліць. А забяліць трэба тры разы на дзень. Снеданне, абед, вячэра. Праўда кажуць: «Я па малаку ног не валаку», улетку работа з рання і да вечара, а дзень вялікі, але каб і яго не было, то была б зусім нішчымніца. Дзякуй, што хоць лыжка малака ёсць. А калі б і каровы не было?

* * *

Палякі за Бярозу не пайшлі, зімавалі на ёй. Ці ў іх сілы не было, ці разлічвалі на больш падыходзячы, на лепшы час,— хто іх ведае. Парэчча зрабілася іх вотчынай, і адчувалі яны сябе ў ім зусім няблага, можна сказаць, як дома. Па гэты бок Бярозы, вёрст па пятнаццаць ад яе, ніякай нашай арміі не было, тэрыторыя была як бы нічыя. Людзі, якія жылі на ёй, на захад паглядалі са страхам, на ўсход — з безнадзейным чаканнем. На захадзе, за Бярозай, чужынец, на ўсходзе — кавалерыйскі полк Чырвонай конніцы. Часткі гэтага палка былі раскіданы па вёсках, кормячы коней тымі запасамі сена, якія былі ў гэтых вёсках. Полк быў расслаблены такім сваім размяшчэннем і нагадваў хутчэй перадавыя заставы, чым згуртаваную баявую адзінку. Таму белапольскія акупанты не надта баяліся яго і не толькі па начах, але і сярод белага дня з'яўляліся ў вёсках нейтральнай паласы, наганяючы на людзей страх і рабуючы іх. Бралі яны літаральна ўсё, што можна было ўзяць у сялянскай хаце: калолі свіней, жывымі лажылі на сані звязаных авечак, выварочвалі сала з кублікаў, здымалі падвешаныя шынкі і начыненыя крышаным мясам каўбухі, хапалі кажухі, аўчыны выробленыя і нават нявырабленыя, сувоі палатна, усю крамніну, воўну, нават пражу з яе. Людзі да таго разгубіліся, што не ведалі, што і куды хаваць.

Пайшлі пасланцы ў тыя вёскі, дзе стаялі коннікі. Як быць далей?

Камандзіры раілі: паведамляць ім, як толькі акупанты з'явяцца ў якой-небудзь вёсцы. Быццам ёсць сэнс у такім рашэнні. Але як паведамляць? Вёска з вёскай не былі звязаны якімі-небудзь тэхнічнымі сродкамі сувязі. Не дзынкнеш, не крыкнеш у трубку: «Алё!» Не пашлеш у паветра ўмоўны сігнал. Чым? Якой прыладай? Адзін сродак — ногі. Свае або кон-

скія. Ды ногі не маланка і нават не крылы. Пакуль адлічыш імі адлегласць з вёскі да вёскі, ды пакуль там па баявой трывозе збяруцца ў строй коннікі, ды праедуць тую ж адлегласць, якую прабег або праехаў пасланец, то вунь які час пройдзе. Налётчыкаў след прастыў.

Тады пайшла па руках у людзей зброя. То аўстрыйская, то нямецкая, то французская вінтоўка, то пісталет і патроны ў ім, то выкапаная аднекуль, доўгая, як багор, бярданка, то паляўнічая, з шырокімі, як у гарматы, стваламі, пістонаўка. Частку зброі далі са штаба кавалерыйскага палка. Сам камандзір яго, Маркатанаў, аб'ехаў са сваімі памочнікамі ўсе вёскі, якія цярпелі ад набегаў легіянераў, расказваючы, як дзейнічаць партызанам, дзе і якія выстаўляць пасты.

Стрэл справа ў лесе, стрэл злева, стрэл спераду, стрэл ззаду. Недзе пачуўся залп. У якім баку? І разабраць цяжка. Не ўехаўшы ў вёску, злыя і напалоханыя, як абкладзеныя на аблаве ваўкі, легіянеры крута заломвалі свае падводы ўбок, у цалік і хутчэй імчаліся назад за раку, у Парэчча. Там яны скрыгалі зубамі, помсліва, але не без страху паглядаючы на ўсход, адпускаючы свае звыклыя «пся крэў» непакорным «хлопам», як паны называлі звычайных сялян.

Людзі пасмялелі, пачалі адпускаць ёмкія словы і жарты ў адрас за Бярозу і ўбачылі зусім практычнае значэнне зброі.

Прынёс аднойчы дамоў рускую вінтоўку ўзору 1893 года і Масей.

— Хто даў? — хаваючы ўсмешку пад вусамі, запытаў бацька.

Бацька быў рад. Відаць было, што быў рад, толькі не надта выказваў сваю радасць.

— Сам Маркатанаў быў. Воз вінтовак прывезлі. І гранаты давалі.

— Каму?

— Максім Рыгораў забраў.

— Ён — што?

— Што? Ён старшым.

— Запісвалі?

— Запісвалі. Гранаты будуць даваць на пост. Мне заўтра на пост.

— Куды?

— Куды скажуць. Можа, аж у Слабаду.

Вёска Слабада знаходзілася па гэты бок рэчкі. І калі палякі пераязджалі на гэты бок закаванай марозам Бярозы, то з Слабады і слабодскага лесу відаць было. Ехалі яны звычайна на падводах па два, па тры чалавекі на кожнай. Падводы бралі ў навакольных вёсках за Парэччам.

Натуральна, партызанскі пост стаяў не ў вёсцы, а ў лесе ў яе ваколіцах.

Бацька ўзяў у рукі вінтоўку і пачаў соўгаць узад-уперад затворам. Хадзіў ён туга.

— Змазаць трэба было,— сказаў ён хутчэй сабе, чым сыну.

Масей глянуў у вочы бацьку. Па-першае, чым змазаць, а па-другое, ён не ведаў, як змазваюць вінтоўку.

— Зараз змажам. Алеем,— і бацька падняў указальны палец, рады таму, што так хутка даўмеўся, чым можна змазаць вінтоўку.

Узяў маленькі ўслончык, сеў на яго і разлажыў на асінавай лаўцы затвор на часткі.

Бацьку абступілі ўсе: Масей, Арына, маці, Іван, Якаў, Андрэй. Цікава было, якая яна, гэтая вінтоўка, калі яе разабраць. Бацька выняў з яе і разабраў толькі затвор. Але і ён быў з большых і меншых жалезінак і спружыны.

— Дайце кавалак якога-небудзь сухога лайна,— сказаў бацька, разглядаючы вачыма часткі затвора.

Аксеня пайшла да печы, дастала з верхняй пячуркі якуюсь анучыну і падала Піліпу. Ён старанна выціраў кожную частку затвора living рознымі бакамі гэтай анучыны, і на ёй заставаліся то чорныя, ад колішняй змазкі, пісягі, то рудая ржаўчына.

— Капні, Арына, у каціны чарапок трошкі алею.

Арына ўзяла з-пад прыпечка гліняны чарапок, які быў калісьці добрай місачкай, разбітай кімсьці па неасцярожнасці, і ўліла з аплеценай бутлі трошкі алею. Прыемны яго пах пайшоў па хаце. Алей быў з сваіх канапель, добры, чысты, без жамераў.

— Дай трошкі кудзелі,— сказаў бацька Масею, пазіраючы на Арыніну прасніцу, якая з увязанай у яе кудзелінай ляжала на лаўцы ад вуліцы.

Масей скубануў пальцамі жмут кудзеліны і падаў бацьку.

Бацька абкруціў кудзелю вакол указальнага пальца, садраў гэты кудзельны хамуток пальцамі правай рукі і давай мачаць у алей і вадзіць ім па частках затвора.

У запнутай калысцы натужна заплакала Ліда, нібы пачула, што ў хаце робіцца нешта незвычайнае, а яна гэтага незвычайнага і не бачыць. На яе плач не звярталі ўвагі. Яна мацней заплакала.

— Паглядзі,— сказаў Аксені Пілiп і ўсё мазаў затвор, не зводзячы з яго вачэй.

Па вуліцы, а тады ў двары паўз вокны прайшоў чалавек на кавёлах, рыпаючы па снезе то адной нагой, то кавёламі.

У паводзінах Піліпавай сям'і нічога не змянілася: ішоў свой чалавек, сусед Сцяпан. Марудна перабіраўся ён цераз парог у сенцы, тады — у хату. Адчыніўшы дзверы, адну кавялу перастаўляў цераз парог, намацваючы месца, дзе б яна не пакаўзнулася, хоць і быў у яе канец убіты тоўсты цвік без плешкі, тады, стаўшы да ўваходу бокам, пераносіў цераз яго нагу, вісячы ў гэты час падпашкамі на скрыпучых кавёлах, а потым ужо, абапёршыся на нагу і правую кавялу, перастаўляў левае драўлянае прыстасаванне.

Вось так: ▪ прыгожага маладога чалавека вайна зрабіла калеку. Паспрабуй цяпер на адной назе касіць, араць, скародзіць, ехаць зімой у лес у дровы, зграбаць сена, падаваць яго пластамі або віламі на стог або на воз, зярэдзіць снапы ў зярод... Паспрабуй абцясаць хоць бы жэрдку. Як?

Сусед, мусіць, бачыў, як панёс Масей дамоў вінтоўку, бо, скрыпнуўшы разы са два ад дзвярэй да лаўкі кавёламі, ён узрушана-радасна запытаў у яго:

— Што, далі?

— Ну,— адказаў Масей, стрымліваючы недзе глыбока ў душы сваю задаволенасць.

Сцяпану паказалі месца на лаўцы. Ён сеў на яе, спусціўшы адзіную нагу далоў. На ёй быў аборачны лапаць, падшыты кавалкам бела-шэрага паса, не коўзкага, але носкага. Аборкамі ад лапця была абматана суконная, ужо даволі вынашаная, да порту, які складаў увесь уток (аснова была цалкам з воўны), штаніна. Меншыя дзеці, Якаў і Андрэй, усё час ад часу кідалі свае погляды на Сцяпанаву нагу і на тое

месца, дзе павінна была быць другая нага, але яе чамусьці не было.

— Не забыўся яшчэ сабіраць-разбіраць? — папытаў ён у Піліпа, шукаючы сваімі добрымі сінімі вачыма сустрэчы з яго вачыма.

Піліп адказаў:

— Не, не забыў.— І дадаў: — А яно, што ведаеш, не забываецца.

Не забываецца. Такое, як руска-японская вайна, на якой быў Піліп, ніколі не забудзецца. Расія прайграла яе.

У гутарцы з мужчынамі Піліп казаў: «Здрада». Хто здрадзіў? Цар? Піліп не пагаджаўся, што цар у чым-небудзь мог быць вінаваты. «Камандаванне. Што ім было да нас, да салдатаў!»

Сцяпан ваяваў на дзесяць гадоў пазней за Піліпа. З немцам. Усталі на штыхі. Сцяпан немцу ў грудзі сваім рускім штыхом, а немец паспеў яшчэ кальнуць Сцяпана ў нагу. Нямецкі штых як нож-сякач, востры з абодвух бакоў. І, халера на яго, быў, мусіць, іржавы, бо нага разбухла, як бервяно, анямела,— і адрэзалі вышэй калена. Засталася ад яе невялікая кукса.

Змазаўшы і сабраўшы затвор, паглядзелі, навёўшы на вокны, у ствол вінтоўкі. Спачатку глядзеў Піліп, пасля — Сцяпан. Ніякага бляску не было ў ім, у ствале. Цёмная ноч.

— Дзе шомпал? — глядзеў на лаўку Сцяпан, папраўляючы кавёлы, уздзетыя на левую руку.

Не было шомпала. Вінтоўка была старая, і хто ведае, куды мог падзецца шомпал ад яе. Ну, а чым ты пачысціш ствол, калі няма шомпала?

Адкрылі магазінную каробку. Доўга праціралі анучай спружыну, потым змазалі алеем.

Змазаны затвор стаў хадзіць лягчэй.

— Кляпні,— сказаў Сцяпан Піліпу.

Піліп навёў рулю ў столь, націснуў на спускавы кручок, і баёк кляпнуў.

— Спружына яшчэ моцная. Важна, каб асечку не давала.

— Не павінна б. Я па гуку чую,— адказаў Сцяпану Піліп.

— Цёпла ў вас у хаце,— сказаў Сцяпан, зняўшы з галавы зайцаву шапку і расплікаючы кажух. Заплі-

каўся ён не на проразкі. З аўчыны кравец адрэзаў вузкі пасак, нажом выскобліваў з яго воўну і рабіў з яго гузікі-булдавешачкі і петлі.

— Гэ, малое, таму і палім добра,— адказаў Пілін.

Аксеня зыбала калыску спачатку нагой, націскаючы почапку зверху ўніз, тады пачала ціскаць рукамі, узяўшыся за яе берагі. Важкалка ў гэты час — жэрдка бярозавая, закладзеная адным канцом пад падоўжную бэльку,— неміласэрна пішчэла, нібы прасілася, што ёй, сухой, вельмі цяжка адным бокам церціся аб столь, другім — аб бэльку. Нарэшце, бачачы, што дзіця чагосьці хоча, раскрыла вопінку і ўзяла яго на рукі. Цесна пераплеценае па белай палатнянай полцы поясам, яно і на руках плакала, выпучвалася жыватом і дрыгала нагамі, сціснутымі той жа полкай і тым жа поясам у кучу. Тады маці павярнулася ад калыскі тварам да дашчатага памосту, на якім уночы спалі, і, палажыўшы дзіця на яго, распавіла. Яно закратала ручкамі, ножкамі і перастала плакаць.

Арына і меншыя хлопцы перайшлі да маці паназіраць за распавітай сястрой. О, у яе ножкі і ручкі як паперавязаныя ўпоперак нітачкамі — поўненькія, гладзенькія. Вочкі светлыя, светлыя, блішчыць нешта ў іх, пераліваецца, як сонечныя зайчыкі. Яна ўжо гукае — гу, гу, гу. Раток бяззубы, але чысценькі, чысценькі, і дакрануцца да яго сваімі губамі — адно шчасце. І за вушка хочацца патрымацца — такое маленькае, кволенькае і цёпленькае.

— На,— сказаў бацька, устаўшы з услончыка і аддаючы вінтоўку Масею.

Масей стаў пасярод хаты і пачаў думаць, пазіраючы ў падлогу. Куды лепш схаваць?

— На дварэ дзе-небудзь падтыкні,— здагадаўся бацька, аб чым думае сын.

— Патронаў шмат далі? — спытаў Сцяпан.

— Чатыры абоймы.

Ён узяў з лаўкі шэрую, яшчэ амаль новую сваю світку і палез рукой у правую кішэню, каб паказаць Сцяпану патроны.

Сцяпан узяў у рукі адну абойму і, пакручваючы галавой управа і ўлева, агледзеў яе. Пяць жоўценькіх з вострымі кулямі шчыльна сядзелі адзін каля аднаго ў бляшаным рыштку. Ён, Сцяпан, вызваліў адзін з іх, паглядзеў у капсуль і назад заправіў, аб-

ціснуўшы вакол яго вусікі, якія не давалі патронам раз'ехацца з абоймы ў бакі.

— Патроны добрыя, новыя,— заключыў Сцяпан.

— Дай, Арына, у пячурцы ў вузельчыку парахню,— сказала Аксеня, аглядаючы ў дзіцяці складкі ў пахвінах.— Папрэла ў яе тут, яна і плача. У-у, маленькая, балючанька табе. Бедная, аж калоціцца,— гаварыла маці, выціраючы рогам полкі папрэласці на дзіцячай скуры паміж ножкамі і жыватком.

Сухой парахнёй перасыпалі дзіцяці сцягенцы і далі пагуляць ёй распавітай. Яна кратала поўненькімі ручкамі і ножкамі, гугукала ратком, уставіўшыся вочкамі ў столь, нібы бачачы там для сябе нешта вельмі цікавае. На ёй была адна, з белага крамнага палатна сарочачка.

Цяпер ужо ўся сям'я перанесла сваю ўвагу на малое. Нават Сцяпан, сусед, і той разы са два зыбнуўся на кавёлах, ад лаўкі, на якой дасюль сядзеў, і пачаў глядзець на дзіця, якому так рады былі ўсе ў хаце. Меншыя пачыналі цмокаць сваімі губамі, казытаць кончыкамі пальцаў ёй пуп, каб дзяўчынка перанесла сваю ўвагу на іх, адарваўшы свае вочкі ад столі, і яна пачынала вочкамі знаходзіць таго, каму было патрэбна, і нават усміхалася.

Сцяпан гладзіў правай рукой свой русы чуб, густы, як у хлопца, папраўляў туды-сюды русыя вусы і ўсміхаўся прыгожым белым тварам, быццам ніколі не бачыў малых дзяцей, хоць у самога было ўжо двое.

У хату вярнуўся Масей і далучыўся да агульнай людской пацехі з дзіцяці.

Урэшце яно зашчоўкала — сцюдзёна яму зрабілася.

Маці хуценька спавіла яго і на вачах усіх дала яму цыцку.

* * *

Арына ніяк не магла зразумець сястру, тым больш пагадзіцца з ёй. Столькі за сваё жыццё пераджыць, перацярпець і раптам на старасці гадоў здурнець, набраць сабе абы-чаго ў галаву і надумацца ісці замуж. Свая хата, як мора, сын, нявестка, двое ўнукаў. Глядзі і пацяшайся. Ні табе клопатаў пра дровы, пра сена, не баліць галава, як гарод пасеяць, як яго выка-

паць. На работу не трэба спяшацца, ніхто табой не панукае. Еш што хочаш, спі колькі ўлезе. Не даспіш уранні, удзень можна прылегчы. Калі ўжо так тлумна з імі, дзяцей можна ў садзік вадзіць. Дзяўчынцы тры, хлопчыку чатыры — самыя садаўцы. Тады ты зусім будзеш царыца. Печ выпаліш, сям'ю пакорміш, свінням чаго лінеш — і работа твая ранішняя ўся. Нявестка сама дзяцей у садзік завядзе, ідучы ў сваю бухгалтэрыю. Там жа побач: сад і кантора калгасная. Сын, праўда, аграном, ён раней, чым нявестка, на работу бяжыць. Калі дык і з цёмным. Яйцо хай вып'е, малака вячэрняга з'есць. Нашча, падхлябіўшы дух, не трэба бегчы, бог ведае калі будзе той абед. А ўдзень... Што ўдзень! Улетку дзень — год. Граду прапалі. Бульбіну абматыч. Ідзі ў грыбы, у ягады. Спачатку — суніцы, тады паспеюць чарніцы. А пасля — маліны, брусніцы. І ў багуны можна схадзіць, ягады салодкія, хоць пахнуць нечым незусімным. Э-э-э, а грыбы як пачнуцца! І смарчкі, і вушы, і лісічкі, і сыраежкі, і падасінавікі, і бабкі, і белыя грыбы (баравікі і лагавікі), і казлы, і свінкі... Ды гэта ж толькі бяры, калі ахвота ёсць. На чорта тое ў такіх гадах замужжа? Маладыя ягляць замуж, дык яны маладыя. Яны не ведаюць, што такое замужжа, яны думаюць, што там мёд і рай, а не горкая рэдзька.

Хата Лідзіна стаяла ў добрым месцы, у канцы вёскі. Выгада для курыцы, клюй што хочаш і нясі яйкі, такі прастор. І качак можна трымаць, раўчак збоку цячэ і ўсё лета не перасыхае.

Сіла была, як будавалі яе. Свёкар, чатыры браты. Любое бервяно гоп — і на сцяне. Лес выбіралі не маркоўнік нізінны, а баравіну, гонкую, вынослівую, смала і стрыжань. Дзесяць метраў бярно, а яно аднолькавай таўшчыні як у камлі, так і ў верхнім адрэзе. Перaруб упускалі ў каню, у вуглах такой сцяны не будзе цягнуць холад. Праўда, зрублена хата на просты вугал, не на гладкі, але глянуць на яго люба — як па струне пастаўлены. Ды і не ў модзе быў тады гладкі вугал, не па густу быў ён тады нашым людзям.

Першая палавіна — шэсць на чатыры метры, другая, большая і «чыстая» — шэсць на шэсць. У першай печ, у другой — грубка-ляжанка. І, галоўнае, цёплая хата. Зімой у ёй — як у вуху. Вунь парубілі людзі пасля вайны хаты. Дык куды яны! І па нямец-

кі вугол, і высокія вокны, і столь пападшывалі, а жыць нельга — холад, хоць ваўкоў па такой хаце ганяй.

Праўда, дах быў нехіцавы. Не цёк яшчэ, але ведама — саламяны. Дзе палахмаціўся, дзе паплеціна была ўжо відаць — канцы саломы паадгнівалі. Сын, як стаў аграномам, накрыў шыферам. А сцены — сцены яшчэ пяцьдзесят гадоў будуць стаяць. Нават не пачарнелі, жоўтыя, як яйцо. Чарнее будыніна тады, калі лес дрэнь. У такой будыніне і шашаль, і грыб заводзяцца.

Сын са сваёй сям'ёй спіць у большай палавіне. Магла б там спаць і маці, месца б для яе ложка хапіла, але і спіць, і, можна сказаць, жыве ў першай палавіне. Ёй тут ямчэй, вальней. Яна раней устае, чым маладыя. Печ пачынае паліць, па ваду з вёдрамі да калодзежа ідзе. А бывае, што ўночы не спіцца ёй. Тады яна ўстае, каля акна пасядзіць, угледзіцца і ўслухаецца ў цёмную ноч. Паплывуць думы пра тое, што было і чаго ніколі ўжо не будзе. Думы розныя, адны — мутныя, нядобрыя, другія — святлейшыя, з імі можна было б і жыць. І пачне за голыя плечы браць холад (ведама, з-пад коўдры ды ў адной сарочцы без рукавоў, з голай шыяй), і яна палезе на печ. Чарэня цёплая, сядзі, падкінуўшы якую-небудзь лайніну пад сябе, і думай.

«Дзе ж ты падзелася, жыццё? На якой жа дарожаньцы ты са мной размінулася? Сокал мой ясны, чаму ж ты быў такі нясмеленькі, як рахманы каток? Можа б, я і не пайшла за свайго Сяргея? Можа б, бацька аддаў бы мяне за цябе? Ён быў добры, мой бацька. Добры! Пакрычаў бы, пагразіўся б і аддаў. Можна было б папрасіцца: татачка мой родненькі, не аддавай за нялюбага. Так і ў песні пяецца. Сяргея во і няма, гадочка я з ім не пажыла, а ты жывы, і мы б жылі з табой. Бог забраў тваю жонку, майго — мужыка. І мы глядзім во адзін на аднаго здалёку, як дзеці, і гаруем. Ты адзін, і я адна. А ці ж вернуцца нашы гады?»

Ліду пачынаў браць жаль, пачынала ціснуць за горла крыўда, і яна тады плакала. Плакала адна, на печы, упоцемку, выціраючы рукамі слёзы.

За сцяной спаў сын, спала нявестка, спалі ў сваіх загародках-ложках унукі. Ім ані няма справы да та-

го, што на печы плача баба, яны яе не разумеюць і разумець не хочуць. Хто ж вінаваты ў такой скалечанай яе дарозе?

Да яе паступова вярталася мужнасць. Яна моцна выцірала далонямі рук усе-ўсе слёзы з твару, міргала ўпоцемку вачыма, каб яны хутчэй высыхалі, і пачынала рабіцца злоснай і бязлітаснай. Бязлітаснай да сябе, да свайго лёсу і ў думках вымаўляла толькі адно, але страшнае, як вострая шабля, слова: «Вайна!» Колькі крыжоў, абеліскаў, колькі бязрукіх і бязногіх, глухіх і сляпых, удоў і ўдаўцоў, сірот, колькі заплаканых, быццам бяздзетных, бабулек, якія даўно забылі пра ўсе людскія дарогі, акрамя дарогі на могілкі!

Яна злазіла з печы, апраналася хутка і проста, як салдат, нічога ў вопратцы лішняга і непатрэбнага, што б замінала гаспадыні за кароткую раніцу выпаліць у печы і закругліць усю работу па гаспадарцы, і працавала. Працавала спорна, парадкам, калі работа за работу чапляецца ў прыгожы ланцужок, ані не бразгаючы ні посудам, ні вёдрамі, ні дзвярамі, перамяшчаючыся па падлозе без грукату, каб не будзіць дачасна сям'ю.

Што там гаварыць, ёй падабалася ўсё ў сваёй гаспадарцы. Двор шырокі і сухі, ніколі гразі не бывае ў ім. Наадварот, улетку ён увесь зарастае травой — мурагом, трыпутнікам, дзьмухаўцамі, паўз платы — мятай, чыстацелам. Пазней выскоквае дробная мядунка. Там-сям, паўз платы, з-пад якога-небудзь каменя, вытыркаецца і крапіва, але Ліда вырывае яе з коранем. На руку надзене брызентавую рукаўку, каб не апячы руку, і да крапівінкі парве.

А пуня. Пуня хоць куды. Вароты расчыняюцца на два бакі, высокія. Лёгка заходзіць задам машына або трактарны прычэп, калі гной вывозяць. У адной табале — сена, салома, у другой — карова, свінні, загародка для цяляці, калі гадуюць цяля. Бэлькі высока, ніколі рагамі карова не дастане, колькі б ні настаяла гною.

Стопка з вялікім прыстопачнікам. У ім рыдлёўкі, капаніцы, кошыкі, запасныя вёдры, нават куфар, у якім Ліда везла, як ішла замуж, усю сваю вопратку і прыбіранне. Сын зрабіў у стопцы печ з комінам, і цяпер не трэба ўзімку насіць у яе жар.

З двара вароты на агарод і вароты на вуліцу. У адны і ў другія машына ці трактар смела праязджаюць, нават не чырkануць аб шулы.

Пад вокнамі ад вуліцы кветнічак, абгароджаны пафарбаваным штыкетнікам. У ім растуць толькі кветкі і пахучы бэз. Тут царства чмялёў і пчол і густы прыемны пах.

Канечне, Ліда прывыкла да сваёй сялібы, да ўсяго, што тут стаіць і расце, як прывыкае чалавек да сям'і, у якой жыве, калі б...

Вось і сёння прыйшла Арына, не паспела Ліда прыбраць са стала, за якім елі ўнукі.

Дзеці ўжо пайшлі гуляць на двор, на сонца, у сандаліках на босую ножку, у лёгкіх безрукавачках, а Арына сядзіць на крэсле недалёка ад стала, паўз Лідзін ложак, засланы капай у сінюю вялікую шашку, і нібы вывучае Лідзіну хуткасць у хадзе і рабоце і ўсю яе паставу. Ліда на дваццаць гадоў маладзейшая за сястру.

Так, Арыне няма ўжо чым выстаўляцца, калі пайшоў семдзесят шосты. Калісьці мажная і поўная, яна схуднела. На плячах вырас прыкметны горб. Ад работы, ад гора ці проста старасць косці пакрывіла? Таму і блузка на ёй — шэрага старэчага колеру — не ляжыць і не ўліваецца ў яе рукі і плечы, а вісіць. І вісіць нязграбна, нібы пад ёй не жаночыя грудзі, а нежывая крыжавіна. І шыі няма. Станела, зморшчылася, як недаспелы вялы гурок. Твар сплюшчыўся, змарнеў, на складках і шчокі, і падбародак, а вочы пазападалі, звялі, і не ўбачыш, каб яны калі-небудзь свяціліся чалавечым святлом. Вось так: што ні гавары, а прыйшла да чалавека старасць.

А Ліда... Ліда во ходзіць па хаце перад ёй, перад сястрой, лёгка і хутка, ікры ног як налітыя, загарэлыя. Валасы ззаду на галаве закручаны ў куклу, і пад ёй ружовы грэбень. Калі паварочвае галаву да акна, у якое падае сонца, грэбень адлівае дзіўнымі ружовымі колерамі. Прыгожа! А шыя — як точаная. Шчокі — поўныя. Вочы жывыя, цікаўныя і хуткія. Гарэзлівыя! І, бач, што апранае, андарачок да калень, блузка без рукавоў і без каўняра. Грудзі напятыя пад цесным бюстгальтарам. Не, не, Арына даўно ўжо не носіць ніякіх нагруднікаў. Няма ўжо чаго заціскаць імі.

Калі Ліда канчае прыбіраць са стала, сёстры ідуць у вялікую палавіну хаты. Ці парадак там ва ўсім і ці ўсё там на месцы.

Так, тут — парадак. Ложак сына з нявесткай пад капай у ружовыя кветкі, з падбітымі падушкамі ў белых навалках. Ложкі дзяцей. І ў іх маці, ідучы на работу, зрабіла што трэба. І радыёдынамік, і з шырокім і высокім экранам тэлевізар — пад вышыванымі накідкамі. На белым абрусе стала — вузкая вазачка, а ў ёй — букет з рознакаляровых кветак. Ліда ўгледзелася ў вазу: пасак вады знізіўся.

— Глядзі, колькі за ноч выпілі,— сказала яна Арыне і трымала ўказальны палец на паску, які паказваў узровень вады ў вазе.

— Кветы? — адказала сястра і дадала праз якую мінуту: — На чорта вы іх ставіце?

— Чаму? Мы ўсе любім кветкі. І я, і Пеця, і Ніна. І дзеці рады, калі прыносім букет.

— Во, як малыя. Ліда, Ліда,—ківала Арына галавой,— і табе кветы наўме? Няма ў цябе нічога ў душы? Забылася?

Арына цягнула свой глухі прытомлены голас, нібы спрабуючы пачаць пра вялікае людское гора песню.

— Пайду вады прынясу,— сказала Ліда і юркнула ў пярэднюю хату па ваду. Вярнуўшыся з белым кубачкам, яна даліла з яго вады ў вазу да самага верху. А занёсшы назад, адкуль прынесла, кубачак, адказала сястры:

— Нічога я, сястра, не забылася. Што я — ужо такая дурная? Усе вы абы-што на мяне гаворыце. Во, вазьмі яго, угрызні. Палена, кардон, фарба!..

Ліда глянула на сцяну, дзе вісела яе перароблепая ў партрэт фатаграфія і партрэт мужа Сяргея.

— Аджывецца, можа, а? — перавяла яна свой погляд на сястру.— Каб я, можа, па-твойму, жывая ў ямку лягла? Наплакалася! Галава ад думоў трашчэла, і вочы на лоб лезлі. Нічога тут майго няма. Сынава. Усё яму пакіну і пайду. Хай самі сваё гора гаруюць. А мне хто памагаў яго гадаваць? Папрывыкалі ўсе, каб толькі на гатовым. А хто мне гатаваў гэтае гатовае? Забыліся, як я ў дровы ў лес сама ездзіла, і тапаром бухала, і касой махала, і бочкі з вадой на сабе ў калгасе вазіла? Беларучка я, па-твойму, во?

З двара вароты на агарод і вароты на вуліцу. У адны і ў другія машына ці трактар смела праязджаюць, нават не чырkануць аб шулы.

Пад вокнамі ад вуліцы кветнічак, абгароджаны пафарбаваным штыкетнікам. У ім растуць толькі кветкі і пахучы бэз. Тут царства чмялёў і пчол і густы прыемны пах.

Канечне, Ліда прывыкла да сваёй сялібы, да ўсяго, што тут стаіць і расце, як прывыкае чалавек да сям'і, у якой жыве, калі б...

Вось і сёння прыйшла Арына, не паспела Ліда прыбраць са стала, за якім елі ўнукі.

Дзеці ўжо пайшлі гуляць на двор, на сонца, у сандаліках на босую ножку, у лёгкіх безрукавачках, а Арына сядзіць на крэсле недалёка ад стала, паўз Лідзін ложак, засланы капай у сінюю вялікую шашку, і нібы вывучае Лідзіну хуткасць у хадзе і рабоце і ўсю яе паставу. Ліда на дваццаць гадоў маладзейшая за сястру.

Так, Арыне няма ўжо чым выстаўляцца, калі пайшоў семдзесят шосты. Калісьці мажная і поўная, яна схуднела. На плячах вырас прыкметны горб. Ад работы, ад гора ці проста старасць косці пакрывіла? Таму і блузка на ёй — шэрага старэчага колеру — не ляжыць і не ўліваецца ў яе рукі і плечы, а вісіць. І вісіць нязграбна, нібы пад ёй не жаночыя грудзі, а нежывая крыжавіна. І шыі няма. Станела, зморшчылася, як недаспелы вялы гурок. Твар сплюшчыўся, змарнеў, на складках і шчокі, і падбародак, а вочы пазападалі, звялі, і не ўбачыш, каб яны калі-небудзь свяціліся чалавечым святлом. Вось так: што ні гавары, а прыйшла да чалавека старасць.

А Ліда... Ліда во ходзіць па хаце перад ёй, перад сястрой, лёгка і хутка, ікры ног як налітыя, загарэлыя. Валасы ззаду на галаве закручаны ў куклу, і над ёй ружовы грэбень. Калі паварочвае галаву да акна, у якое падае сонца, грэбень адлівае дзіўнымі ружовымі колерамі. Прыгожа! А шыя — як точаная. Шчокі — поўныя. Вочы жывыя, цікаўныя і хуткія. Гарэзлівыя! І, бач, што апранае, андарачок да калень, блузка без рукавоў і без каўняра. Грудзі напятыя пад цесным бюстгальтарам. Не, не, Арына даўно ўжо не носіць ніякіх нагруднікаў. Няма ўжо чаго заціскаць імі.

Зразумела Арына гэты яе тон ці не зразумела? Чаму, нешта, мусіць, зразумела.

— Колькі ў цябе?

— Каго?

— Старых.

— А-а-а, курэй,— зразумела Ліда.— Дванаццаць.

— То і хопіць. Яны ж у цябе не надта і старыя. Нясуцца яшчэ, кажу?

— А кожны дзень па яечку. Як бульбы яец. Есці не хочацца. Мы і не з'ядаем іх. Дзеці бульбіну лепш хапаюць, чым яйцо. І абвару, і на скавараду разаб'ю — не глядзяць. Я тады манкі на малацэ звару і туды яечка адно, другое ўваб'ю. З'ядуць.

— Сыпіш што-небудзь ім?

— Сыплю. Круп не ядуць. А ячмень увесь паклююць. І крупы ж ячменныя.

— Не,— растлумачыла Арына.— Ячмень ім смачней, дарма, што крупы ячменныя.

— Ды выгода ў нас ім. Такі выган! Дзе казяўка, дзе чарвяк. Траву клююць.

Арына пайшла дамоў.

Памірыліся яны ці не памірыліся? Калі глядзець збоку, быццам памірыліся. А ў душы? У душу другога чалавека не залезеш.

Арына разважала сама з сабой: «Што там дзяўчыца, бацьку яна не помніць. Ёй году не было, калі палякі забілі яго. А калі не помніць, то і не так шкода, як мне. Ёй ужо лягчэй, чым мне. І не помніць брата Івана. Ён быў яшчэ малады, яго б не ўзялі ў армію, але як прыйшлі ў вёску чырвонаармейцы, сказаў: «Пайду», і яго ўзялі. Шмат хто пайшоў з чырвонаармейцамі добраахвотна. Масей пайшоў са сваёй вінтоўкай. Усе партызаны пайшлі са сваімі вінтоўкамі. Максім, іх камандзір (ён не быў тады яшчэ Арыніным мужам, а толькі часамі заглядаўся на яе, даючы ёй знак, што яна яму падабаецца), дык пайшоў са сваёй вінтоўкай, шабляй пры боку і гранатай на поясе. Потым, як разбілі палякаў і скончылася вайна, Максім з Масеем вярнуліся дамоў, ужо ў армейскай вопратцы, а Іван не вярнуўся. Канечне, Ліда не помніць ні брата, ні бацьку, і ў яе няма да іх таго шкадавання, якое бывае ў чалавека, які ведае тых, што загінулі».

* * *

Двор у Арыны быў не такі травяністы, як у Ліды. Ладны, але не травяністы. Квактуха драла сваімі кіпцямі зямлю, водзячы за сабой плойму жывых камячкоў, а яны, мала чаго знаходзячы ў ёй, усё роўна ціўкалі на ўсе свае дванцаць галасоў, патрабуючы яды і яды. «Каб двор быў травяністы, як у Ліды,— думала Арына,— то і куранятам было б больш спажывы. Казяўку б якую знайшлі, чарвяка. Мошку. А на такім уплiндраваным лабяку дзе схавацца ці казяўцы, ці чарвяку? Ды і траву самую яны б шчыпалі. Шчыплюць зялёную траву і качаняты, і кураняты. Трэба ім яна». І што за куры цяпер такія дурныя пайшлі? Даўней, бывала, заквокча курыца, дык логам будзе ляжаць на гняздзе, рукам яе адтуль не спягнуць. Колькі ні падлажы яек, дык з кожнага кураня выведзецца. І не затопча ні аднаго. А гэта чорт яго ведае, што за куры пайшлі. Пасядзіць суткі, а тады зляціць з яек і вяртацца на іх не хоча. Гэтую рэшатам накрывала, пасцілкай. От і заморкі таму, і баўтуны. Ладзіла ёй, каршуковаму пер'ю, каб хоць двойку вывела ды было к чаму падпусціць інкубатарак. Падпусцілі — прыняла, як сваіх, і водзіць.

Арына пайшла ў сенцы, зачарпнула з дзежачкі ў бляшанку пшана і панесла пад павець, дзе стаяла скаварада з вадой. «Пылі-пылі-пылі!» — паклікала яна куранят, пасыпаючы па зямлі дробныя крупы. «Квок-квок-квок»,— вяла іх за сабой дзяцівадка, разумеючы, што будзе ім яда.

Кураняты наперахапкі дзяўблі маленькімі жоўтымі дзюбкамі ядранае пшано, а Арына пералічыла іх усіх у гэты час. Усе, пакуль што ні адно не ссорылася. Накляваўшыся, не менш дружна пілі са скаварады ваду, смешна задзіраючы ўгору раткі, зяўкаючы імі, каб вада хутчэй кацілася па горлачках.

«Цяпер не тое. Усё не так. І куры, і людзі не тыя пайшлі. Бач, маладзейшая, і ў яе ўжо не тое ў галаве».

Арыне ўспомнілася, як першы раз былі ў іх у хаце нашы салдаты. На вуліцы каля платоў стаялі папрывязаныя коні з сёдламі. Хвасты ў іх былі кароценька і роўненька паабразаныя, грывы стрыжаныя.

Яна ўскочыла ў хату, а за сталом сядзяць салдаты і ядуць. Пахла печаным салам, белай квашанай капустай і кіслымі гуркамі. Чорныя, з доўгай воўнай і чырвонымі, як полымя, вярхамі, шапкі, ляжалі на лаўцы. Каля парога, прыслоненыя да сцяны, стаялі вінтоўкі. Арына туды-сюды і не ведала, што рабіць перад такімі чужымі людзьмі. Нават не сказала нічога на прывітанне. Села побач з маткай на палок і пачала хавацца за калыску.

Тады адзін з іх запытаў у маці:

— Гэта Арына?

— Арына,— адказала маці.

— Ого, якая ўжо,— заключыў ён.

— Не хавайся. Гэта Паўла нашага з Калінаўкі Ягор. Брат твой дваюрадны,— растлумачыла маці.

Усе салдаты пачалі ўглядацца ў Ягора.

— Не бойся. Свае мы,— сказаў да Арыны Ягор.

Арына адсунулася з-за калыскі ад маці. Салдаты перавялі свае позіркі на Арыну. Яна чамусьці не бачыла, хто з салдатаў які, ніводнага не запомніла ў твар, у сваёй аднамаснай вопратцы яны здаліся ёй аднолькавымі. Ягора запомніла. Чамравыя валасы, невялікія вушы, кругленькі нос, сам драбнатвары, але не худы.

Такім і цяпер ён стаіць у яе перад вачыма. Дзе ён потым падзеўся, Арына не ведае.

Неўзабаве ў хату ўвайшоў Максім. Ён быў у доўгім бякешы з перарэзам у таліі, з шабляй пры боку. Сказаўшы «добры дзень», сеў на лаўку і, не здымаючы шапкі, гаварыў і жартаваў толькі з салдатамі. На Арыну нават не глянуў, быццам і не было яе не толькі ў хаце, але і на свеце.

Пасля ўжо, як салдаты паехалі з вёскі, Арына пачула, што сярод іх быў сам Маркатанаў. Каторы з іх? Так і да гэтага часу не адказала б. Мусіць, той, што сядзеў з канца стала, што ідзе на покут. Ён быў, здаецца, ледзь-ледзь старэйшы за астатніх, шырэйшы ў плячах, і вочы ў яго былі не такія гарэзлівыя, як у тых другіх. На яе, Арыну, ён глянуў адзін раз, уважліва і пільна, і больш не глядзеў. З-за стала ўстаў першы. Першы надзяваў на галаву сваю чырванаверхую шапку. З хаты выходзіў апошнім. Так трэба было? Таму, што камандзір?

Назаўтра пасля паўдня бацька пераабуўся, пад-

вярцеўшы пад анучы сухія і лепшыя суконкі, і пайшоў кудысьці. І аж дзве ночы не было яго дома. Куды пайшоў, у хаце не гаварылі. Маці непакоілася, усё неяк трывожна глядзела ў вокны, калі хто ішоў па вуліцы, тым больш у двор. Ліда хужэй спала гэтыя ночы, маці на яе сердзілася і, узяўшыся абедзвюма рукамі за почапкі, пачынала моцна гойтаць калыску. Лідзе ад страху займала дух, і яна сціхала.

Пазней Арына ўведала, што бацька спачатку ішоў у Раўкі, адтуль з Захар'ем у Парэчча, дзе ў Захар'і нехта быў з радні. Выведаўшы тое-сёе, што трэба было Маркатанаву і што можна было выведаць, яны вярталіся назад. Так некалькі разоў бацька знікаў з дому на два-тры дні.

Потым зніклі кудысьці з вёскі ўсе партызаны. І Максім, і Масей. Куды? Ніхто нічога не ведаў. Зноў маці непакоілася. Зноў дрэнна спала Ліда, і маці сердавала на яе і калыхала яе не так, як трэба калыхаць дзяцей.

О, колькі было радасці, калі салдаты і партызаны, сабраўшыся разам, наладзілі палякам, якія ехалі на вёску Брадзец, засаду і ніводны з іх не вярнуўся назад за Бярозу! Перабілі, пералавілі іх нашы.

А аднойчы бацька пайшоў і не вярнуўся. Захар'я расказаў, як і што здарылася.

Яны ішлі па вуліцы. Бацька ўперадзе, а Захар'я назіркам за ім. Не так далёка, але каб не побачкі. Навошта трапляць двайм у адну і тую ж пастку?

Так і атрымалася. Была б пастка на дваіх, калі б Захар'я не адстаў ад Піліпа і не звярнуў потым на другі бок вуліцы і не пайшоў зусім не туды, куды яны ішлі з Піліпам.

Праўда, Захар'я не быў упэўнены, ці ведае яго Стась. Захар'я-то Стася ведае і адразу пазнаў белы мурлаты яго твар, вочы, як у быка, навыкаце, прыгорбленую цяжкаватую яго хаду, хоць быў ён ужо, Стась, у нейкім жаўтаватым шынялі, у шапцы-чатырохвуголцы, уздзетай на вязаны чахол, які закрываў вушы і шыю, ад чаго галава яго, і так вялікая, здавалася яшчэ большай. О, такога пазнаеш! На плячы ў яго была вінтоўка.

Захар'ю адразу аж закалаціла, як толькі ён пазнаў у невялікай групе легіянераў, у іх жа форме, сынка Хвашчынскага. Незразумела было адно: калі

і як папаў ён сюды, у легіянеры? Улетку ён быў дома, у Жабіках. Захар'я бачыў, як яны перад самым спасам, а потым і на спаса ехалі цераз Раўкі на сваім выязным, у сівыя яблыкі жарабку з Парэчча, паляскваючы драбінкай на жалезным ходзе. Білы ў драбінцы былі выгінастыя, ззаду і ў перадку былі такія ж, як і драбінка, з вузенькіх лёстак застаўкі. Сын і бацька сядзелі побач, апранутыя па-святочнаму, у камізэлькі і чорныя камзолы з варсістымі атласнымі каўнярамі. Сядзенне было высокае, засланае нечым рудым і мяккім. Жарабок быў зацугляны, увесь час стрыг доўгімі вушамі, спрабуючы глянуць на бакі. На раменнай аброці з бліскучымі бляшкамі нашыты былі круглыя скураныя, амаль у далонь велічынёй накладкі, каб конь па баках нічога не бачыў і не палохаўся.

О-о-о, ён тут! Тут ён, гад, затлусцелы драпежнік. А злы! Злы! Відаць, што злы. Так яму і хочацца шматануць каго-небудзь сваімі звярынымі зубамі. Бач, як накінуўся на Піліпа. Пазнаў? Пазнаў! Чаму не пазнае. З адной вёскі людзі. Другі б захінуў свайго, памог бы яму, а гэта — павялі. Павялі Піліпа, хоць ён, бедны, спрабаваў нешта гаварыць і разводзіць туды-сюды рукамі. Хаця б як выкруціўся. Хто яго ведае. Дамаўляліся сказаць, калі што якое: «Солі прыйшлі».

Солі ў тыя часы, тут, на гэты бок Бярозы, не было. Людзі даставалі яе проста ў вузельчыках. Па той, у Парэччы, была.

Захар'я даў знаць свайму знаёмаму, што Піліпа сярод вуліцы забралі, а сам пайшоў, заскочыўшы ў Раўках да жонкі паказацца, што жывы, у Жабікі. А раптам можна Піліпу чым-небудзь дапамагчы?

Пайшлі да Хвашчынскага. Усё-ткі сын яго там, а ён, бацька, тут, трэба падумаць і аб сваёй галаве, калі часамі з Піліпам здарыцца што-небудзь нядобрае. Можа... Ён жа солі хадзіў, не чаго-небудзь за тую Бярозу. Вунь людзі вазамі возяць з-за ракі тую соль, уночы недзе пераязджаючы раку. А гэта п торбачкай у кішэні пайшоў чалавек.

Хадзіў Максімаў бацька Рыгор. Чалавек ён быў адкрыты і заўсёды гаварыў тое, што думаў, заключаючы сваю гаворку адным словам: «шабаш». «Твой сын у Парэччы арыштаваў на вуліцы нашага Піліпа.

Дык трэба, каб як-небудзь яго вызваліць. Вот і ўсё, чаго я прыйшоў. Шабаш!»

Хвашчынскі спачатку разгубіўся, як пачуў, што яго сына Стася бачылі ў Парэччы ў легіянерах, апусціўся на кушэтку, якая стаяла ў пярэдняй палавіне яго вялікай хаты, і пачаў выціраць узмакрэлы і збялелы раптам лоб. З вялікай палавіны хаты выйшла жонка, невялікая дачка, пазіраючы то на бацьку, то на Рыгора, які стаяў у парозе з якойсьці скамечанай у руцэ шапкай, у світцы, у лапцях.

Нарэшце мазгі ў Хвашчынскага запрацавалі, калі ён убачыў перад сабой жонку і шасцігадовую дачку, і ён пачаў, не без логікі, выкручвацца перад Рыгорам, добра разумеючы, чым гэта ўсё пахне — і тое, што сын у легіянерах, і тым больш што яны, па нейкіх меркаваннях сына, арыштавалі Піліпа.

— Чалавек, жагнайся: што гэта ты мувіш? Няма майго сына дома. Улетку яшчэ паехаў да цёткі ў Койданава, і няма. Каб не гэтая во мітрэнга, калі б было ціха, чаго б яму там сядзець? А так вярнуцца, мусіць, не можа. Мы і самі думаем: жывы ён ці, можа, дзе і нежывы ўжо?

— Хітруеш, Болюсь. На спаса вы з ім ехалі ў Парэчча. Вярнуліся, бо там былі ўжо палякі. Шабаш! У Парэччы ваш Стась, у легіянерах. Учора яго там бачылі, і ён выдаў там Піліпа. Кажу, шабаш. Піліпу будзе, і вам тады будзе. Ідзіце і вызваляйце. Хочаш ты, Болюсь, ідзі, а хоча — яна хай ідзе.— Рыгор паказаў рухам барады на жонку.— Там ваш сын, і ён угадае вас, як угадаў Піліпа. Кажу, шабаш. Гамонкі іншай не можа быць.

— Бачылі. Хто ж гэта такі мог яго там бачыць?

— Дулю ўведаеш, хто яго там бачыў. Бачылі. Шабаш!

— Прэнтка ты пужаеш, Рыгор. Шабаш ды шабаш. Яшчэ невядома, чый верх будзе. Твой корань тут, у Жабіках, і мой тут. Нашы дзеці... Трасцу іх разбярэш цяпер. Твой Максім во ходзіць абчапаны гэтым самым. Майго, можа, білізавалі там, у Койданаве?

— То вызваляйце ідзіце Піліпа. Бо не даруем. Шабаш!

Рыгор грукнуў злосна цяжкімі, абшытымі ў елачку дзвярыма і пайшоў.

Піліпа не выпусцілі. Ясна было адно: забілі. Але

калі і як забілі, у Жабіках ніхто не ведаў. Казалі, можа б, яму нічога і не было, калі б не Стась. Стась баяўся, каб ён не расказаў у Жабіках, што ён, Стась, у легіянерах. Ды і не затрымалі б Піліпа, калі б не Стась. Хто ведаў, што ён не па гэты бок ракі, дзе гаспадарылі палякі?

Хвашчынскага забіралі чырвонаармейцы, вазілі ў штаб, да самога Маркатанава.

Што бацька! Бацька, можа, і не вінаваты, што сын падаўся ў чужую армію — у белякі. Бываюць такія выпадкі, што родныя браты ў розных арміях. Або: бацька тут, а сын там. Маркатанаў сказаў: пакуль што не чапаць Хвашчынскага. І яго не чапалі.

Як не чапалі? Пакуль што. А потым, як пачалася калектывізацыя, выслалі як кулака. І жонку, і дачку — усіх разам. Стась так і не вярнуўся ў Жабікі. Дзе ён вернецца! Яму б была не проста высылка з бацькам. Ён пайшоў бы цераз суд.

Арына села пад павеццю на калодачку, якая стаяла там, каб перасеч калі на ёй што, і задумалася. Што кураняты! Наеліся, напіліся — хай бегаюць па двары, хай ціўкаюць. Зноў шкода зрабілася бацькі, як і заўсёды, калі ўспамінаўся ■ якога-небудзь выпадку. Ліда не помніць яго, канечне, ёй і лягчэй.

У святыя дні, калі стол засцілалі белым абрусам, бацька садзіўся за яго, разгортваў перад сабой маленькі, у чорным пераплёце малітвеннік і ўголас чытаў. Спачатку ціха чытаў, не спяшаючыся і не окаючы, як бы набіраючы ў голасе сілу і разгон. А тады пачынаў расцягваць словы, доўга і высока цягнуць асобныя іх гукі, накшталт: і-і-і пры-ы-ы-ы-дзе-э-э-э! Ён сам сябе натхняў сваім голасам, верачы ў сваю малітву, і як бы бачыў недзе ўдалечыні, хто павінен быў прыйсці і дапамагчы, сказаўшы ўсяму народу праўду. У хаце рабілася ціха, і жонка, і сыны, і Арына не перашкаджалі бацьку чытаць, добра разумеючы, што ён не моліцца. Моляцца не так, не! Нешта шэпчуць сабе пад нос і хрысцяцца. І ў кут на абразы не глядзеў. Чытанне ў бацькі было нечым іншым, чым звычайнае маленне.

«О божа мой, навошта ж тады жыць, калі і бацькі даўно няма, і мацеры няма, і браты: Масей, Іван, Якаў, Андрэй — усе, усе загінулі. Чаму чалавечае сэрца не разрываецца ад такога вялікага гора? Як

трывае яно?» — думала Арына, седзячы ў цяньку пад павеццю на калодачцы.

«Забылася пра ўсё і пра ўсіх. Няма ёй ніякага гора ні за сваіх, ні за чужых,— пайшлі думкі пра сястру Ліду.— Яна клапоціцца толькі пра сябе. Пра сваё цела думае. Ох-хо-хо! Бываюць жа такія людзі. От і сястра. Аднога бацькі і адной мацеры, а як не свае, не адной крыві. Колькі вось жыву без мужыка, а каб на мужчыну падумала? У сне не было. А гэта — давай ёй замуж. Калі ўжо? Чаго? Ці табе з сынам не жыццё? Як бог, той сын. Адно любаванне, а не чалавек. Не нап'ецца, брыдкага слова нікому не скажа».

І тут Арына ўспомніла свайго сына, Валодзю, меншага ў сям'і, які рос без бацькі і з якім жыццё наканавала ёй дажываць свой век.

«Валодзя, Валодзя, а я ж рыхтавалася жаніць цябе, гуляць тваё вяселлейка, гадаваць тваіх дзетак. А падняла цябе ў паветра разам з трактарам нямецкая міна, якімі так густа была засеяна наша гаротная зямелька. І справілі табе хаўтуры, хоць дваццаць год прайшло ўжо было пасля вайны і ніхто не думаў, што будуць гінуць ад яе начыння нашы не вінаватыя ні ў чым дзеткі».

Арына сядзела пад павеццю, аблокціўшыся на худыя калені рукамі, і плакала. Плакала як заўсёды, калі ўспамінаўся сын, а тады, за ім (іменна за ім, а не перад ім) муж Максім, расстраляны сярод белага дня, пасярод вёскі, на вачах усіх яе жыхароў, сагнаных з усіх хат паліцыяй спецыяльна паглядзець, як нямецкая ўлада будзе распраўляцца з камуністамі і партызанамі. Расстрэльваў яго сам начальнік паліцыі, у нямецкай форме, у іх пагонах, у іх шапцы з высокім стаячым верхам, на ім — арол з распасцертымі крыламі, які, здаецца, так і кінецца на цябе, каб учапіцца кіпцюрамі і дзяўбці, дзяўбці сваёй крывой дзюбай у цемя. Гэтага не забыць, гэтага не выплакаць. Слёзы былі цяжкімі, ішлі аднекуль з глыбіні, ціснулі на галаву, на грудзі, на сэрца, засцілаліся туманом вочы і ані, ані не хацелася глядзець на сонца. А гэтым начальнікам паліцыі быў Стась. Адразу сэрцы ў людзей пасціскаліся.

Заціўкалі каля ног кураняты і пачалі тыкаць маленькімі дзюбачкамі ў босыя ногі Арыны. «Зноў есці захацелі»,— падумала яна.

* * *

Лета ў той год было спякотнае. Дажджоў ішло мала, здавалася — зусім не было іх, і ў паветры стаяў пыл, пахла гарам. Падымалі гэты пыл салдацкія абозы, кавалерыя, якая часта рухалася па ратуціцкай дарозе цераз Жабікі недзе ў бок Бярозы.

Хлапчукі-падлеткі прападалі каля гэтай дарогі, Арыніны меншыя браты Якаў і Андрэй — таксама. Якія крыжастыя ў кавалерыстаў коні! А як высока нясуць галовы! А якія доўгія пікі ў коннікаў! А якія блішчастыя трубы ў духавых музыкаў! І як яны прыгожа іграюць! Сабе хочацца ісці пад іхнюю музыку. З імі, за імі ўслед. Адзін б'е калатушкай у вялікі барабан, які нясе перад сабой на пузе. Другі бразгае вялікай меднай талеркай аб талерку. Трубы бываюць пакручастыя тоўстыя, цераз плечы, і маленькія.

Аркестры былі не толькі ў пяхоты, а і ў кавалерыі. Было дзіўна, як музыканты не зваляцца са сваімі вялікімі трубамі, барабанам, талеркамі з коней, якімі яны ў гэты час, калі ігралі, зусім не кіравалі і самі ні за што не трымаліся.

А іншы кавалерыст, таксама не кіруючы канём і ні за што не трымаючыся, так іграе на гармоніку — не наслухацца. А мяхі ў гармоніку, калі расцягваюцца, як пярэсты мак на градзе, такія прыгожыя.

У абозах вазы былі поўныя, цяжкія. Коні ўпіраліся ў зямлю нагамі, натужваліся, выгінаючы свае спіны. Асабліва на пяску. Везлі гарматы, кулямёты, патроны ў цынкавых скрынках, запасныя вінтоўкі і ўсё, усё, што трэба было ў арміі.

Некаторыя часці спыняліся ў Жабіках і стаялі дзень, два, а то і больш. Байцы размяшчаліся па хатах, заганяючы ў двары вазы. Коні пасвіліся на сенажаці, якую раней касілі і на якую вяскоўцы не пускалі ў гэты час сваю жывёлу. На выгане, проста на вуліцы дымілі, як піпкі, кухні, у якіх варылі байцам яду.

Адзін абоз быў дзіўны. Везлі шмат вялікіх, дном угору лодак. Казалі, гэта пантоны. На іх будуць ладзіць мост цераз Бярозу. Пантонны мост.

Было ясна — рыхтуецца наступленне на палякаў, пераход цераз раку на той бок.

У Раўках на ўзлессі стаяла батарэя, час ад часу

пускаючы снарады туды, за раку, прыстрэльваючыся. Недалёка ад батарэі быў падняты высока ў паветра дзіўны шар. У ім сядзеў чалавек і добра бачыў цераз палі і лясы, куды лажацца выпушчаныя снарады. Шар гэты быў відаць нават з Жабікаў.

У гэтым абозе, які вёз пантоны, быў, цягнучы адну запрэжку, вярблюд. Шыя выгінастая, як у гусі. Гарбаты, касматы, зусім не такая поўсць, як у каня або каровы. Ваду піў як не ў сябе — вельмі шмат. Дзівіцца збеглася шмат людзей. Дзеці — усе, з усяе вёскі.

На тычках па полю, па платах, па вуглах хат пайшлі тэлефоны. На вазах у абозе ляжалі катушкі запаснога тэлефоннага кабелю.

Ні Андрэй, ні Якаў, здавалася б — большы на два гады за Андрэя, не хацелі гуляць з Лідай. А ёй, Арыне, і мацеры не было часу. Хата засталася без мужчын. Араць, скародзіць трэба было самім жанчынам, хоць яны не рабілі раней гэтую работу, лічылася яна спроку веку мужчынскай. Сусед Сцяпан памагаў, але чым, калі сам бязногі, і запрог у сваю мужчынскую работу жонку? Ну, гуж у хамуце падцягне, атосу да аглоблі прыладзіць, калі адарвецца, пакажа, раскажа. Усё! Праўда, косы кляпаў, калі пачаўся сенакос. Ды і гэта нешта значыла, бо што — што, а сама жанчына касу не навядзе.

«Нагараваліся»,— успамінае Арына.

Нагараваліся, ды хоць страх прайшоў. Ноч не спала ні маці, ні яна, Арына, калі пачалася страляніна ў тым баку, дзе было Парэчча і рака Бяроза. Маці малілася і ўсё часцей мінуты выходзіла на двор. А Ліда — дзіўна! — спала як забітая, нібы разумела, што цяпер ужо можна спаць колькі хочаш і не трэба нікога баяцца.

Назаўтра ўранні толькі можна было і пачуць раданае з вуснаў у вусны:

— Пагналі!

— А як жа: пагналі!

— А што ж яны думалі: векаваць тут на нашай шыі?

Цяпер ужо чырвонаармейцы, якія ехалі па дарозе з Ратуціч, не спыняліся стаяць у Жабіках. Ім не было часу. Яны спяшаліся за Бярозу, куды пайшоў увесь, такі мнагалікі наш фронт.

Хлопцы-падлеткі хадзілі па тых месцах, дзе спыняліся байцы, як тручаныя, нібы згубілі нешта вельмі каштоўнае і так ім патрэбнае і ніяк не маглі знайсці. Ці дзе якая паперына, ці кардонны пусты пачак ад патронаў, кінутая бляшанка з-пад кансерваў, з якой так прыемна пахла, прабіты чымсьці салдацкі, з плоскім бокам кацельчык — усё іх цікавіла, усё яны падымалі, разглядалі і неслі дамоў.

Якаў прынёс, памятае Арына, ладны змотак тэлефоннага кабелю. Маці была аж спалохалася.

— Дзе ўзяў? Можа, украў дзе? Няможна! Гэта салдацкае,— крычала яна, пакуль сусед, бязногі Сцяпан, не растлумачыў ёй:

— Не бойцеся, нічога яму за гэта не будзе. Спяшаліся сувязісты, здымаючы тэлефон, кінулі. Проста забыліся і не заўважылі. Ім можна, заместа віткі, плот гарадзіць. Нацягнуць дзе-небудзь можна. Ён моцны.

І маці супакоілася.

Схадзілі хлопцы ў Раўкі, дзе стаяла батарэя. Адтуль яны папрыносілі пустыя снарадныя гільзы, бліскучыя, медныя, вельмі гладкія і прывабныя для вока. З гільз пахла не так, як з кансервавых бляшанак. З іх пахла згарэлым порахам. Тым не менш іх вышароўвалі, вымывалі ўсярэдзіне і з цягам часу што-небудзь сыпалі як у посуд, а яшчэ пазней з малых гільз выраблялі конаўкі. О, конаўкі выходзілі хоць куды, бо не ржавелі і не біліся, як біліся гліняныя кубкі і якіх было не набрацца.

Праз дзень вярнуўся дамоў Саўка Іванаў. Ён быў у рудых салдацкіх штанах, у салдацкай сарочцы, але без вінтоўкі і босы. Рука яго была забінтавана і падвязана цераз шыю, каб не вісела ўніз і не гэтак балела. За плячыма — не бог ведае чым напханы салдацкі мяшочак. Арына сама бачыла, як ён ішоў па вуліцы, стрыжаны і босы.

Увечары ён наказаў Арыне, каб яна прыйшла да яго. Яна пайшла.

У хаце была маці, жонка і малая дачушка, якая толькі што пачала хадзіць. Саўка ляжаў на палку на сенніку і з падушкай пад галавой. На твары яго была якаясь цёмная нямогласць. Але ён усміхнуўся Арыне і сказаў жонцы, каб тая падала рэчавы яго мяшок.

— Развяжы,— сказаў ён жонцы, калі тая падала (мяшок ляжаў на паліцы).

Жонка развязала.

— Дастань.

Жонка дастала з мяшка ні ў што не загорнутую, а проста складзеную хустку.

Арына сумелася і не ведала, браць ці не браць, не разумеючы, што гэта і навошта.

— Бяры. Табе гэта ад Максіма. Мы былі з ім у адным зводзі. Ён той гранатай, што з дому панёс, зняў кулямёт, а ў мяшку ў кулямётчыка была гэтая хустка.

Арына ўся пачырванела. Як гэта: яна толькі дзяўчына, а ён — хлопец і перасылае цераз людзей ёй падарунак? Што могуць падумаць пра яе людзі?

— Ён не ранены? — чамусьці запытала яна, каб не надта выдаваць сваю збянтэжанасць.

— Не, не ранены.

— А паляка таго ён забіў?

— Вядома, забіў. Граната рвецца ва ўсе бакі. Забіў.

— А цябе як раніла?

— Як раніла? Я і сам не ведаю, як мяне раніла. Як трымаўся гэтай, левай рукой, за вінтоўку, так і лізанула яна мяне ў руку. Чую, горача зрабілася маёй руцэ і, бачу, кроў.

— Цябе адпусцілі?

— Рана, кажуць, невялікая, ідзі дамоў, пакуль паправішся. Мы былі пад Брадцом. Там цераз рэчку перапраўляліся. Я і пайшоў. Чаравікі аддаў нейкаму новенькаму. І шапку сваю на галаву яму надзеў, каб відаць было, што салдат. Шапка — з зоркай.

— А Масея нашага не бачыў?

— Не.

— І Івана не бачыў?

— Іх не было ў нашай роце. А там, ведаеш, колькі салдат! І роты, і батальёны, і палкі. У адной толькі роце дык і зводы, і аддзяленні. Не бачыў. З Максімам мы былі разам.

Арына хацела папытаць хоць што-небудзь пра бацьку — не папытала. Дзе ён што ўведаў, Саўка! Ён быў вунь дзе! Вёрст за дзесяць-пятнаццаць ад Парэчча ўніз па рацэ. А бацьку забілі, вядома, у Парэччы. Можа, хто з парэчанскіх тое-сёе і ведае.

Саўка зморшчыўся і павёў правай рукой па па-

сцілцы, якой быў накрыты яго жывот і ногі. Раненая рука была не накрытая, ляжала ўпоперак грудзей, падвязаная на шыі. Рудая салдацкая сарочка была на грудзях расшпілена.

— Баліць? — зашкадавала Саўку Арына.

— Не гэта, не,— крануў Саўка забінтаванай рукой.

Жонка тлумачыла:

— У яго жывот. На двор ганяе. Можа, вядро прынесці? — звярнулася яна да мужа.

— Сам схаджу,— і тут жа скінуў з сябе пасцілку, застаўшыся ў белых салдацкіх, ужо жаўтаватых ад заношанасці споднiках.

Арына адразу зразумела, што заставацца ёй тут надалей нельга.

— Пайду,— сказала яна, нават не падзякаваўшы Саўку і не пажадаўшы хутчэйшай папраўкі.

Толькі на вуліцы сцяміла, што ў левай руцэ ў яе Максімаў падарунак.

Хустка была вялікая, як мора, усыпаная сінімі, зялёнымі кветкамі, уся асветленая ружовым колерам зары, з мяккімі кутасамі-махрамі па берагах, шаліновая, як гаварылі ў Жабіках на такія шарсцяныя тонкія хусткі.

Маці, глянуўшы на хустку, не абрадавалася. Наадварот, у незразумелай для Арыны злосці сказала ёй:

— Дурная. Бацькі няма, а яна рада. Ты ведаеш, чыя яна? Можа, грабленая. Укруцішся, а ў цябе нехта з галавы яе здзярэ.

Арына адразу засмуцілася. Як мала трэба чалавеку, каб засмуціць яго! Варта не тое слова сказаць — і чалавек з капытоў збіты.

«Адкуль жа ў паляка магла быць гэтая хустка? — пачала разважаць Арына.— Ясна: грабленая. Не купляў жа ён яе. Праўда: і чаго я ўзрадавалася? Можа, Максім зусім яшчэ не прыйдзе з вайны. Куля, якая трапіла Саўку ў руку, магла трапіць у галаву або ў грудзі, і яго не было б. Наталля засталася б удавой, а дзіця — сіратой. Максім не жалезны. І не зачараваны, каб куля мінала яго. А бывае, вернецца і другую замуж возьме, не яе, Арыну. Мала што ён сказаў, як ішоў: «Глядзі: вярнуся жывым — пажэнімся». Хлопцы ўсе так гавораць, а тады бяруць

другіх. А хустку не ён грабіў. Паляк грабіў. Максім толькі адабраў яе ў паляка назад. І правільна. Ніякага тут страху няма. Мама тату шкадуе».

Панесла хустку ў сенцы і схавала ў мацерын кубел з адзежай глыбока, амаль на самае дно.

Тыдні праз два Саўка памёр. У яго быў крывавы панос, і ён не вытрымаў яго. Што ні з'есць, з жывата ішла рэзаная кроў, нібы куля прабіла яму не руку, а нешта ў жываце.

Наталля за дачку і на другі ж дзень назаўсёды пакінула Іванаву хату, нібы Іван і яго хата былі вінаваты ў тым, што памёр Саўка і яна, маладая, аўдавела. Пайшла да свайго бацькі, дзе былі адны сёстры, аж, акрамя яе, чатыры, і зусім яшчэ малы брат Мікола.

Крывавым паносам пачалі хварэць не толькі ў Жабіках. Панос ахапіў увесь свет, і ніхто яго не лячыў, і ніхто не гаварыў і не думаў, адкуль ён і чаго. Асабліва касіў ён дзяцей. Гэта, казалі, таму, што дзеці елі ўсякае сыр'ё: яблыкі, боб, бручку, моркву, зялёны гарох, ягады. Кожны дзень у Жабіках былі хаўтуры. Кожны дзень званілі ў звон на могілках.

Якаў і Андрэй звяліся ў нітку і ледзь хадзілі. Якаў (ён вадзіў ужо ўдзень пасвіць каня) дык не мог роўна на кані сядзець. Паложа галаву на грэбень і едзе лежачы.

У Ліды і то жываток быў слабенькі, хоць яна, акрамя матчынага малака, нічога яшчэ не ела.

Аднойчы сустракае Болюсь Арыну і кажа:

— Я хачу, дзеўка, з табой пагаварыць.

— А што?

— Што? Хварэюць людзі, во што. А хварэюць таму, што няма чаго есці. У вас ё яшчэ які кулак мукі на зацірку ці, можа, ужо і мала?

Арына смыкнула плечукамі і не ведала, што сказаць Хвашчынскаму.

— Вара нешта маці. Анадась хлеб пякла. Ды ў ім столькі грэцкай шусты, розных калючак, што і не праглынуць, калі б без малака ці жыдкай стравы.

— То папытай у маткі. З бацькам мы добра жылі. Прыйдзе лета — ён і возьме ў мяне ці мяшок жыта, ці ячменю на блін. А тады адкосіць мне з хлопцамі. А цяпер ні яго, ні хлопцаў, і касіць няма каму. Ох-хо-хо, вайна. Бог ведае, чым гэта ўсё скончыцца.

Арыну ўзяла злосць, яна не ўтрымалася, каб не выказаць таго, што зараз было ў яе на сэрцы.

— Кончыцца. Чаму не кончыцца, дзядзька. Палякаў пагналі, вот і канец.

— А як назад вернуцца? Бывае так.

— Не вернуцца, не пужайце нас. А за бацьку вам не пройдзе. Хай толькі хлопцы прыйдуць з салдатаў.

— Дзеўка, не гавары. Не тое мувіш. Я тут богу душой не вінаваты. Стась уцёк з дому без маёй волі. Мы з маткай так крычалі на яго! А ён: «Пайду! Я паляк і павінен быць у войску польскім». Сама ведаеш, не маленькая. Нас толькі завуць шляхтамі. Якія мы палякі? Мы такія, як і вы. Роўныя мы з вамі. Ніякія мы не палякі. Я Роўду Ягадскага праклінаю. Дзеці яго вучыліся ў Парэччы ў польскай школе. І мяне ён падахвоціў. «Аддавай,— кажа,— і свайго. Там настаўнікі надта граматныя». Там яго, у гэтай польскай школе, і заразілі панскім духам гэтыя надта граматныя настаўнікі. Не гневайцеся на нас, дзеўка, за бацьку. Ні я, ні жонка мая не вінаваты.

— Бацька рабіў вам. І хлопцы памагалі. Чаму вы не захацелі ісці ў Парэчча, каб вызваліць яго?

—Як, дзеўка? Куды? Фронт. Хто мяне там ведае? Злавілі — расстрэл па ваеннаму закону.

— Сын жа ў вас там. Хто б вас расстраляў? Стась ваш там.

— Там...— Болюсь быў не задаволены тым, што людзі ведаюць, дзе яго сын. Было б лепш, каб не ведалі.— Раз бачылі, дык, мусіць, там. А тут у мяне жонка. Малая дачка. Гаспадарка. Калі б пайшоў у Парэчча, і калі б нават не папаўся вартавым пры пераходзе на той бок, і калі б нават знайшоў Стася... Ну і што? Што тады б далей было? Як тады я мог бы вярнуцца дамоў? Між двух агнёў. Як тады мне было б?

Арына не разумела такіх абставін, калі чалавек не можа падзяліць сябе на дзве часткі.

— Прывялі б бацьку і жылі б, як жылі. Хто б вам што зрабіў? Жылі б.

— Маладая ты, дзеўка, і нічога не разумееш. На два кані адразу не сядзеш. Сын вінаваты, хай яго і судзяць, калі што якое. Можа, яшчэ і бацька твой вернецца дадому. Можа, яшчэ і жывы. Як той казаў, бабка і так і гэтак варажыла. А мая душа хай будзе

чыстая. І рукі мае не ў крыві. Дабра якога дам, калі з харчам у вас нявыкрутка. Так і матцы скажы, што дам. Бог ведае, жней усё роўна буду наймаць. Хай касцоў у вас ужо няма, а жаць і ты ўмееш, і маці ўмее.

Сварка з Хвашчынскім не атрымалася, хоць Арына адчувала, што вінаваты ён у смерці бацькі і што сын яго, Стась, такі самы, толькі што малады.

І ўсё ж такі хадзілі яны з маткай жаць да Хвашчынскага, хадзілі чатыры дні. І бралі з сабой на цэлы дзень Ліду з калыскай, і калыхаў яе ў полі на цапках знясілены паносам васьмігадовы Андрэй.

Што Лідзе! Не помніць яна нічога гэтага. Таму ёй і лягчэй. Таму і замуж уз'яглілася.

* * *

Дзеці гулялі на двары, дружна і мірна. У іх было шмат лялек і цацак і не менш фантазіі, каб рабіць з гэтымі лялькамі і цацкамі, а таксама з гэтых лялек і цацак неверагоднае. Пластмасавыя красуні, ружовашчокія, з валасамі і сінімі вачыма, з голасам, калі іх клалі. Гумовыя кракадзілы, падобныя на людзей, толькі з хвастамі, якія папрырасталі да ног назаўсёды. Мяккія зялёныя жабы, якія, калі іх ціскануць, умелі квакнуць. Куркі і пеўнікі з чырвонымі шышачкамі і вельмі маленькімі дзюбачкамі. І былі козлікі, і былі сабакі, і мядзведзі, і розныя рыбкі, маржы і кіты. З кубікаў можна было будаваць розныя дамы, а потым лёгка разбураць іх і зноў будаваць. А ўзяўшыся за шнурочак, так можна было качаць па двары якую-небудзь каляску ці грузавік, што яна ці ён грымелі як на сапраўдным бруку і цягнуліся ўжо па зямлі то дагары, то бокам.

Ліда пасядзела трошкі на ганку, любуючыся гульнёй унукаў, падумала: «Хай гуляюць». Устала і пачала глядзець, дзе кошык, каб пайсці ў агарод і пашукаць, ці не адскочыла за суткі якая травіна.

Прайшла баразной паўз граду цыбулі. Пер'е было ўжо ў пядзь, сіняе. Вяршкі не сохнуць. Самае галоўнае, каб у цыбулі не сохлі вяршкі, тады яна парасце. А калі сохнуць вяршкі, тады ў карэнні пад цыбуляй чарвякі. Тады падлівай яе ці разведзеным у вадзе попелам або дустам.

На цыбульнай градзе кончык часнаку. Ён не сохне і ніколі нічога не баіцца. Пер'е яго плоскае, як бы сухое, нібы балотная асака, але пахне густа і прыемна.

Бураковае бацвінне пачынала ўжо налівацца чырвонымі пражылкамі. Добра маладыя чырвоныя бурачкі разам з бацвіннем, калі зварыць іх з каўбухом і заправіць смятанай.

Махорчыкі морквы цягнуліся да сонца марудна. Рост морквы вунь пад восень. Яна расце, можна сказаць, да самай зімы.

І гуркі чыстыя, палоць няма чаго. Ужо выпусцілі трэці ліст, шурпаты, большы, чым два першыя, гладкія, з белым водбліскам.

Памідоры ў ножках пажаўцелі, ліст пачаў налівацца густой сінню. У некаторых завязваюцца пуплікі. Хутка яны распусцяцца, і доўга будзе відаць жоўты цвет, пакуль не завяжуцца смешныя, нібы супленыя, ягадкі.

Ліда выйшла на бульбяны палетак. Ён быў ладны, сотак трыццаць. Нядаўна паганялі, яшчэ і дажджу не было пасля таго, як паганялі, і баразёнкі не аб'ехалі, не абсыпаліся. Ступаць босымі нагамі па мяккай, трошкі як бы халаднаватай зямлі было прыемна. Тут трава хавалася паўз самыя гнёзды карчоў, так што часамі і не заўважыш яе. Асабліва асот. Учора не было, а сёння ўжо і выскачыў з вострымі шаблямі свайго брыдкага лісця. А корань які ў яго. Як ні вырывай, а ўвесь не вырвеш. На метр, можа, у зямлю ідзе, калі не больш.

Высочваючы асот, Ліда доўга хадзіла па бульбе, то па барознах уздоўж, то пераступаючы з баразны ў баразну ўпоперак. Усходы нічога сабе, роўныя, але траплялiся месцы, дзе не ўзышла, а дзе — толькі яшчэ прабівалася. Заляжалася, не нагрэлася, а некаторая, заснуўшы, так і не прачнулася.

І задумалася...

«Узбурылася, выгнала, можна сказаць, з хаты сястру. А ці яна мне не свая? Гора ёй, ясна. Як забілі Максіма, яна яшчэ так-сяк трымалася. Дзеці былі з ёй, і ў сям'і было весялей. А ўжо як Валодзю пахавала, зусім з капыцця далоў звалілася. Не, яна не памрэ, жыць яна будзе доўга, як мама, але цяжка ёй».

Ліда насабірала маладога асоту поўны кошык і панесла свінням.

Адчыніла загародку ў пуні і вывернула на саламяную падсцілку траву. Свіней было двое: рабыя, аднаго прыплоду, але кабанчык быў таўсцейшы і большы, чым яго сястра падгалістая свінка. Яны любілі маладую траву і ахвотна пачалі цяпкаць яе.

Толькі зачыніла пуню, як з-пад павеці, з гарышча, закрычаўшы ў лёце, чмякнула на зямлю шэрая курыца. І не паспела яна раскрычацца як мае быць, прыбег з лужка, юркнуўшы пад вароты, чырвоны певень і давай, скрывіўшы галаву на бок, супакойваць яе, буркочучы нешта. Курыца ў адзін момант аціхла, і ён павёў яе за вароты на лужок, дзе пасвіліся астатнія куры.

«Каршукова пер'е»,— злосна падумала Ліда пра пеўня з высока паднятай угору чырвонай шышкай, са шпорамі на нагах, якія ён высока падымаў, калі ішоў, з шматкаляровым паўкругам расквечанага хваста.

«Без яго куры пайшлі б у шкоду. Цягнуцца па чужых дварах, прысядаюць перад любым чужым пеўнем».

Зноў села Ліда на ганак, чакаючы, пакуль прыйдуць новыя думкі, ці з'явіцца новая работа.

Сяргей яе, муж, быў невысокі. Усе яны, і браты яго, і бацька, былі невысокія, толькі цягучыя, працавітыя, маўклівыя.

Барыс не такі. Высокі, лёгкі. Просты, блізкі. Не злы. Нават калі было Лідзіна вяселле, ён быў на ім, імкнуўся ўвесь час трымацца ў яе на вачах, нават браў танцаваць, пакуль яшчэ не прыехаў жаніх па маладуху. Ліда абвівала вакол шыі лёгкі плед ад вянка (у Жабіках казалі «брэд»), каб не перашкаджаў кружыцца ў танцы, і ахвотна падымала расслабленыя рукі перад Барысам у адказ на яго запрашэнне.

Калі пасадзілі маладуху за стол і пачалі дарыць ёй хто што мог, зрабілася ўсім цяжка, асабліва перад пачаткам. І Ліда расплакалася. Чаго? Што гэта за такая пакутлівая хвіліна? Можа, менавіта ад яе, ад гэтай хвіліны, пачнецца жаночая доля з тым набыткам, што зараз ёй людзі паскідаюць? А ці вялікім акажацца гэты набытак? Чаго не пашкадуе радня? Як ацэняць яе, маладуху, людзі?

Хросны бацька падняўся за сталом і папытаў на ўсю хату: «Ці ё тут бацька, маці? Ідзіце да стала, да роднага дзіцяці».

Маці падышла да стала, праціскаючыся скрозь поўную хату людзей, і раней, чым блаславіць дачку на новае жыццё і падарыць ёй шчасце-долю і нешта з маёмасці, заплакала. Слёзы гарохам пакаціліся па яе ссупленым твары, губы пачалі перасмыкацца, і голас яе, калі загаварыла, дрыжэў — здавалася, вось-вось зусім перарвецца. Дрыжэў і кубак у руцэ, які паднеслі ёй, каб яна глынула з яго квасу.

Маці выканала свой нялёгкі рытуал развітання з дачкой, а дзе бацька? Не было бацькі!

І Ліда, злажыўшы ў кучу далоні і падняўшы іх у сябе над галавой, загаласіла над сталом: «Татачка мой родненькі!»

Рэдка хто з жанчын не выцер раптам пачырванелыя вочы.

* * *

Прыйшоўшы ўвечары з работы, Пятрок распрануўся да трусоў у сенцах і выйшаў на ганак, каб на двары памыцца. У гэты час маці ўпускала ў двор карову.

— Майка, Майка, Майка,— ласкава гаварыла ёй Ліда, каб карова была яшчэ больш рахманай, добра стаяла, калі дояць, і прыпускала ўсё малако, ні кроплі не затрымліваючы ў сваім вымі.

Зачыніўшы карову ў пуню, яна звярнулася да сына:

— Пеця.

Сын павёў тварам у бок маці:

— Што, мама?

— Чакай: што гэта я хацела сказаць табе? З галавы выскачыла. Ты што зараз будзеш рабіць?

— Мыцца буду. Не бачыш, што голы?

— Дзеці ў хаце?

— У хаце.

— Добра, мыйся. Я пайду карову падаю.

Узяўшы ў сенцах бляшанае вядро, яна пайшла ў пуню, і Пятрок пачуў адтуль той жа мяккі ласкавы голас маці:

— Майка, Майка, Майка...

Наліўшы ў лахань вады, Пятрок паставіў яе сярод двара на траву. Рукі, твар, шыю і галаву мыў стоячы, крыху нагнуўшыся над лаханню. Ногі — седзячы на нізенькім услончыку.

Памыўшыся, узяў з плота вафельны ручнік і выцерся ім, асабліва моцна націраючы рукі, грудзі, плечы і лыткі. Па ўсім целе разлілася прыемная цеплыня. Не тая, ад якой пацеюць, а тая, ад якой наліваюцца чырванню і дужэюць.

Сонца зайшло ўжо за лес, але неба было яшчэ досыць чыстае і светлае, зусім сцішанае, як бывае ў дзіўны час паміж днём і ноччу. Вячэрнім пахам пацягнула з лесу. Птушкі, стаміўшыся за дзень, маўчалі.

Маці прайшла з пуні з поўным вядром пеністага малака. Пятрок пайшоў услед.

Вячэраючы, успомніў:

— Ты нешта хацела сказаць мне, мама?

— А-а-а, во. Ну што я хацела сказаць? — Ліда нібы трошкі разгубілася, быццам вінаватая ў нечым.— Во, праўда. Ты не запісаў, казалі, Восіпу нешта, і ён цябе аблаяў.

Не, не гэта хацела сказаць Ліда сыну, не гэта. Не хапіла смеласці. Дакуль жа маўчаць? Хопіць маўчаць. Трэба сказаць і... пайсці. Хай жывуць сваёй сям'ёй. Не маленькія.

— Трэба было ў два сляды паскародзіць бульбу, а ён зрабіў адзін след. Што яму можна запісаць? Работа зроблена не да канца. Хай канчае.

— Правільна. Не ўступай. Хай брэша. Я, як была звеннявой, не ўступала. У маім звяне чэсна ўсе працавалі.

Дзеці сядзелі за сталом на кушэтцы паміж бацькам і маткай, баба — цераз стол насупраць, на крэсле.

— Еш, Віцька, еш. Смятанка свежанькая. Кароўка табе дала. Бачыў, якая прыгожая наша Майка? Рожкі кругленькія. Не колецца, дзетак не чапае. Еш, каток, еш,— гаварыла ўнуку баба.

Перад ім стаяў сподачак са смятанай, у руцэ — тонкая скібачка белага батона, якой ён мачаў смятану.

Бацька абняў рукой сына за плечкі, нахіліўся над ім, пазіраючы на яго кругленькі твар, і дадаў да таго, што сказала баба:

— Ён слухае бабку. Маладзец. А калі не будзе слухаць, то бабка ўсердзіцца і пойдзе ад нас. Хто тады з табой будзе гуляць?

Бабка ўскінула зыркія свае вочы на сына, каб убачыць, што ў яго на твары, і перавяла зноў іх на ўнука. Сынавы словы кальнулі яе ў самае сэрца, і яно, як птушаня, страпянулася, каб не даццa ў чужыя рукі. «Ён здагадваецца, што я хацела яму сказаць, ці проста палохае сына, што бабка можа пайсці з дому? — падумала Ліда.— Хай. А я вазьму і скажу ім сёння, што даўно мелася сказаць, але не гаварыла».

Пятрок, безумоўна, чуў цераз людзей і жонку, што яго маці быццам не супраць была б пайсці замуж за восаўскага Барыса, трактарыста, але каб прыдаць гэтаму якое-небудзь рэальнае значэнне, дык не прыдаваў. Старыя ўдовы і ўдаўцы на словах і жэняцца, і замуж ідуць, але гэта толькі на словах. Мусіць, проста жартуюць, каб хоць як-кольвечы ўцешыць сваё адзіноцтва і не думаць аб хуткім канцы свайго жыцця. Гэты самы Барыс знаходзіў прычыну, каб тады-сяды спыніць свой трактар, не глушачы матор, каля іх хаты і на мінутку зайсці ў двор або ў хату, калі сама Ліда не выходзіла да яго на вуліцу. Пятрок сам бачыў гэты трактар каля свайго двара, чуў, як ён калаціўся сваім маторам і пыхкаў у паветра невялічкай дымавой піпкай. І жартам не прыдаваў значэння, калі жанчыны гаварылі:

«Глядзі, Пеця, каб мурзаты Барыс не павёз на трактары ў Восава тваю маці».

— Малако, Танька, не выпіла. Стаканчык маленькі. Што тут засталося? Хлып — і няма,— падахвочвала бабка ўнучку.

Дзеці былі белавалосыя, сінявокія — па бацьку з маткай. У самой Ліды вочы чорныя і валасы бліжэй да чорных, чым да светлых. Сын Пятрок па той радні, па бацькавай, не па Лідзінай.

— Во што хацела я вам сказаць,— Ліда палажыла на стол сашчэпленыя ў пальцах рукі, глянула, нічога не хаваючы ў вачах, на сына, тады на нявестку:— Прыходзіла Арына. Ёй прывезлі ўжо інкубатарных куранят. А вы сабе будзеце браць ці не будзеце? Прадаюць ужо ў Парэччы.

Ніна недаўменна глянула на свякруху, тады па-

вяла белым тварам у бок мужа. Яна ніколі не рашала такіх пытанняў. Ніколі нічога ў гаспадарку не купляла і ніколі нічога не прадавала. Гаспадары яны, маці і сын.

— Чаму ты, мама, пытаеш у нас? Ты ж ведаеш, што мы з Нінай і во з імі, са сваімі дзеткамі, умеем толькі есці. Гатовае. Рабі як лепш. Бяры ці не бяры. Як хочаш.

Пятрок усміхнууся, занадта шырока, па-дзяцінаму (Ліда прывыкла да такой абыякавай яго ўсмешкі), і гатовы быў пакінуць застолле, як маці падняла правую руку з растапыранымі пальцамі і павяла ёй у бок сына.

— Стой, Пятрок, ты не смейся. Я не буду ў вас, і мне вашы кураняты не трэба ўжо. Я кажу: калі возьмеце, дык самім трэба будзе даглядаць ужо іх. Удзень вас дома не будзе, а іх трэба пакарміць і глядзець, пакуль маленькія, каб сарока не пахапала або які збродлівы кот не паеў. Як сабе хочаце. Хіба Ніна на работу не пойдзе, пакуль дзеці падрастуць. Тады сабе бярыце.

І сына, і нявестку як хто гарачай вадой абліў. Яны нават не глянулі адзін на аднаго. Як сядзелі за сталом, так і абвялі на сваіх месцах.

І сядзелі б так, калі б не дзеці, якія закрataліся паміж бацькам і маткай, сын палез на шыю да бацькі, дачушка тулілася і лашчылася да маці.

Гэта праўда, што іх бабка пакіне?..

Ніна павінна будзе ўстаць у шэсць гадзін раніцы. Выпаліць у печы. Наварыць свінням бульбы, адцадзіць, патаўчы, размяшаць з мукой, несці ў пуню і выліць у карыта. А бульба ў стопцы, у засеку. Браць яе голымі рукамі непрыемна. Яна шархаціць, аж нутро скаланае, бо на ёй пясок. А чыгуны ў сажы, бо, ведама, полымя абвівае іх у печы мутна-чырвонымі языкамі, пакідаючы на баках копаць. Разведзеную ў вядры вадой бульбу з мукой маці доўга размешвае рукой, то засоўваючы яе на самае дно, то кружачы паўз берагі яго, ціскаючы месіва ў жмені, каб не было камякоў.

А тады трэба падаіць карову, працадзіць малако, перамыць цадзілку і павесіць, каб сохла. Трэба мець пад рукамі памытыя сухія гладышы, каб было ў што цадзіць. У пуні глядзі, каб не наступіць на што,

не ўмазацца. Потым, як на шыллі, глядзі, каб не праваронiць пастуха. Праваронiш — вунь куды будзеш гнаць перад сабой наўгрунь жывёліну. У яе будзе матляцца пустое вымя і ляскацець капыцце, а сабе дыхавіцу нагоніш.

Сабе нешта трэба прыдумаць на снеданне, дзецям. Уставіць на дзень у печ абед. Глядзі, каб ён не прыгарэў, не выкіпеў. Мыць горы посуду, лыжак, відэльцаў.

Каб і прыпечак быў чысты, і под у печы без вугалля і попелу. І дзе тое гусінае крыло, якім прыпечак змятаюць, пільнуйся.

І каб у чалешніку сажа не сабіралася і не навісала, бо так або іначай камякі яе будуць трапляць то на скавараду, то ў чыгунок са стравай.

Падлогу пратры мокрай анучай у той хаце, а тады ў гэтай. У гэтай натоптана, не толькі пыл, але і пясок, бо кухня.

І як тады Ніне з такімі рукамі ісці ў бухгалтэрыю, дзе на іх усе глядзяць? А яны будуць свяціцца мутным бляскам. У скуру паўядаецца тлушч і сажа. Іх не адмыеш.

А дзеці? Дзеці?

Пятрок вылез з-за стала моўчкі, хоць Віця і сеў у яго на шыі. Ён занёс яго ў другую палавіну хаты і апусціў на неразабраны свой ложак, камечачы і капу і не асцерагаючыся накідак на падушках.

Ніна прынесла дачку на руках і, убачыўшы, што робіцца на ложку, абурылася.

— Вы што? Зусім ужо звар'яцелі?

Яна пасадзіла дзяўчынку на канапу і пачала рыхтаваць дзецям пасцелі.

Пятрок падумаў: «Цяпер яна будзе злая, калі праўда, што маці пойдзе ад нас».

Маці сабе прыйшла памагаць класці дзяцей спаць. Яна зняла з Віці дзённую вопратку і надзела спальную рабую піжаму — доўгія і раскошныя штонікі і сарочку з рукавамі і з выразам на шыі.

Дзеці паспелі за дзень натаміцца і адразу заснулі.

Пятрок чамусьці шчоўкнуў быў уключальнікам тэлевізара, але зараз жа выключыў. Што гэта ён: дзеці заснулі!

Маці выйшла ў пярэднюю палавіну і пачала слаць сабе пасцель.

Пятрок схадзіў на двор, а тады, вяртаючыся назад, затрымаўся ў матчынай палавіне.

— Ты, мама, праўда надумалася адкалоць нам штуку? Мяне нешта аж скаланула, як ты сказала.

— Во дурны. Чаго? Я ж не ўміраю. Як памру, тады шкадуй мяне. Я ж здаровая. Сам бачыш: раблю ўсё. Ем. Пайду, сынок. Жывіце. Не маленькія. Свая сям'я.

— І табе нас не шкода?

— Шкадавала, як трэба было. Ведаеш. Хто цябе выгадаваў, вывучыў? Без бацькі. Адна.

— Мама! А табе трэба, трэба, трэба ісці?

— Трэба! — рашуча адрэзала маці.

— Дык тады бяры яго ў нашу хату. Будзем разам жыць. Што мы чужыя, ці што? Памірымся.

— Я казала. Не хоча. У яго свая хата, навейшая, чым наша. Гарод дужа добры. Нашто яму тут ціскацца з вамі, каб вы на яго абы-як глядзелі?

— Не будзем абы-як глядзець, мама. Мы ж цябе любім. І Ніна, і я. І дзеці. Як мы будзем без цябе жыць? Нам будзе цяжка.

— Нічога. Ад работы людзі не паміраюць, і вы не памрыцё. Самі працаваць будзеце.

— Ды тут не ў рабоце дзела, мама. Проста сорамна перад людзьмі. Скажуць: «Мацеру выжылі!» А ці мы сварыліся калі? Я буду думаць, пакуль буду на свеце жыць: маці пакрыўдзіў. А? Не ідзі нікуды.

— Нічога не будзе, сынок. Раз рашыла, пайду.

— Тады такі варыянт зробім. Паслухай мяне. Можна гэтак зрабіць. Будзе ямчэй, і нам будзе лягчэй. Ты будзеш у нас на вачах, мы — у цябе. І дзецям баба свая будзе. Мне, як спецыялісту, дадуць калгасную кватэру, і мы з Нінай пойдзем туды. А ён хай ідзе ў нашу хату. На наша дварышча. І ў нас гарод добры. Не ведаем восаўскай зямлі? Наша зямля не горшая, чым іх. Во: выгада курам якая! Машыны паўз нас не ходзяць, пылу няма. Лес во побач. Курорт, а не сяліба!

— Мала што! У яго сад, казаў, добры.

Пятрок падумаў: «Так, саду тут няма. І чаму гэта ніколі не было ў мяне думкі пра сад? І каб хоць колькі дрэў пасадзіў. Адну грушу. Летніх якіх дзве, жытнікаў хуткаспелых. Антонаўку адну-дзве. Не для сябе, дык для людзей. Для дэкарацыі. Каб не казалі:

«Саду няма». Так, няма саду. Маці не магла яго пасадзіць, а сам я проста з-пад увагі выпусціў». Матцы сказаў:

— Цяпер сады не ў цане. Вунь у калгасе сорак гектараў, і яблыкаў столькі, што і збыць няма дзе. Валяюцца, гніюць пад нагамі. Ніхто не пільнуе іх. Ніхто не лезе ў сад красці яблыкі. Наеліся людзі. Што той сад. А трэба сад, дык можна пасадзіць. Праз тры-пяць гадоў і яблыкі будуць. Традыцыя такая ў старых людзей захавалася: ёсць сад, дык і слава табе ёсць, а няма саду, дык і славы няма. Мама, тут жывіце. Навошта вам той сад? Цяпер за яблыкі грошай не набярэш. Нікуды я цябе не пушчу.

Маці хмыкнула ўголас і ўсміхнулася.

— Гаспадар нада мной знайшоўся. У цябе ёсць Віцька і Танька. Ты іх, куды трэба, пускай, а куды не трэба, не пускай. Ды змалку глядзі, а то дзеці цяпер такія пайшлі, што пасля за локаць сябе будзеш кусаць. Толькі не ўкусіш.

— Добра, мама. А як не паладзіце? У старых людзей бываюць звычкі. У яго свая радня. Пачнуць грызці цябе сваім кагалам. Слава нядобрая пойдзе. Як мне тады?

— Аглоблі не заварочваць. Збяруся і дамоў. Не пусціш? Хата будзе стаяць. І дзіцяці ў прыполе не прынясу. Што табе? Радня сама сабе жыве, ён сам сабе. Адна дачка. Дык яна замужам, дзеці ўжо свае. Прыедзе — пагасцюе. Прыму як чалавека, калі будзе добрая ды разумная. Я па іх багацце не іду, і яно мне не трэба. А ты кажаш, слава? Мая слава даўно ўжо ззаду. Твая — уперадзе, і ты глядзі, каб яна была ў цябе чыстая. Бывала, скажу старшыні: «Круглік, нам конь трэба». А ён: «Ліда, ты баба не з дурных. У цябе конь будзе больш стаяць, чым працаваць. Вунь твая бочка з аглоблямі». І пакажа, дзе наша бочка на колах, у якой мы вазілі гноевую жыжу і іншую падкормку пад лён. Запрагаемся і вязём на сабе. Во было звяно! Не тое што цяпер, каб усё на машынах ды гатовае. І дабіваліся! Давалі з гектара па дванаццаць-трынаццаць цэнтнераў ільноваланна і па дзевяць-дзесяць семя. Працавалі, і нам была слава.

— Мала што! Тэхнікі не было. Гаравалі людзі.

— Тэхнікі... Коней не хапала! Але ахвота да пра-

цы была. І працавалі людзі. Ідзі спі. Дзяцей пабудзіш.

— Ды яны спяць. Дзе ты іх пабудзіш. Каб і захацеў пабудзіць, дык не пабудзіш. Ты, мама, падумай. Я ў цябе адзін, і ты ў мяне адна. Хто нас пашкадуе, калі мы самі сябе не будзем шкадаваць? Даўно маё сэрца не на месцы было, калі ад каго пачую, што ты хочаш замуж ісці. Але я думаў, што гэта толькі жарты. Не жарты, мама, не? Што ж гэта ты надумалася? Мне і цётка Арына казала: «Крычы, Пеця, на мацеру. Што яна — здурнела?»

— Не жарты, сынок, не. І не здурнела я. Ані. Ідзі спі.

* * *

Не толькі бочку на сабе вазілі. А попел як сабіралі, курыны памёт.

Тут Круглік даваў каня, нічога не скажаш, бо рабілася гэтая работа пераважна зімой, а зімой, як-ніяк, і коням вальней, чым было ўлетку. На сані ставілі некалькі бочак, часамі жалезных, а часамі драўляных. Ехалі па вёсцы і спыняліся каля кожнага двара. Заходзілі ў хату са сваім бляшаным вядром і рыдлёўкай.

— Добры дзень. Попел сабіраем.

Гаспадыня зараз жа адсланяла печ, вымала адтуль такія-сякія чыгункі з вадой ці са стравай, адчыняла юшку, каб пыл пайшоў у комін, а не на хату, калі будуць браць попел, і гаварыла:

— Бярыце.

А тады, накінуўшы на плечы якую ватоўку і ўсунуўшы ногі ў старыя боты ці валёнкі, вяла гасцей у стопку, калі там ужо сабралася яго, попелу, у якім-небудзь бачку, куды кожны дзень раніцай высыпалі жар, каб памяшканне награвалася і мароз не памарозіў бульбу.

— Куры? — задавалася гаспадыні не першы раз адно і тое пытанне.

У адных куры сядзелі пад павеццю на якіх-небудзь дошках ці на бэльках, акуратна выкладаючы на іх свае амаль сухія круцялькі, у другіх — дзе-небудзь на пуні, на гарышчы, у трэціх — у спецыяльна збудаваных куратніках. Залежала ад гаспадара,

як ён глядзеў на курэй, варты яны чаго-небудзь у гаспадарцы ці не варты, каб ім аддаваць увагу, ну і ад яго спрыту да работы.

Прыстаўлялі лескі і лезлі пад самы дах павеці або на гарышча пуні, з вядром і рыдлёўкай, і сашкрабалі памёт у вядро. Або ішлі ў куратнік.

Мароз, конь не хоча на вуліцы стаяць, а бабы ад хаты да хаты, з двара ў двор, з вёдрамі і рыдлёўкамі, пакуль не напоўняцца бочкі, што на санях. І нічога, толькі шчокі на сіверы гараць і снег пад нагамі парыпвае. А рукам і не сцюдзёна. Патрэш іх, патрэш добра, то рука ў руку, то рука аб руку, чырвонымі зробяцца, і цёпла. На нагах буркі з галёшамі. Папрывязваеш іх, галёшы, аборкамі якімі — падніз, накрыж і за галёнку — каб не здзіраліся, і ідзі куды хочаш і як хочаш, назе мякка, лёгка, цёпла. У валёнках ногі як даўбешкі, нязручна ў валёнках на рабоце.

На калгасным двары ў ільнаводаў была пуня, дзе і ссыпалі яны свае ўгнаенні. Пуня была ладная, калі б хапала бочак, то можна было б і ў бочках пакідаць попел з памётам, каб потым вясной не пыліцца з ім, яшчэ раз насыпаючы ў бочкі або ў скрыні на калёсах. Ды дзе ты набярэшся гэтулькі бочак, каб заставіць усю пуню? Галоўнае было ў тым, што попел заставаўся ў пуні сухім, пакуль рассяваць яго на полі. Сухі — значыць, угнаенне якаснае.

Рассяваць па полю попел, як сабіраць, ссыпаць або насыпаць у тару, работа пыльная. Але на двары ўжо стаіць вясна. Сонца свеціць, прыгравае ў галаву, у плечы. Неба чыстае, і далёка відаць усё на ім. Птушкі вяртаюцца з выраю і ляцяць не высока. Рады, што вярнуліся дамоў жывымі. Пахне ў паветры лазовымі коцікамі. Дыхаеш лёгка, глыбока. І радасна. Чаго радасна, не ведаеш, а радасна.

Ведаеш, што лён будзе расці, раз наступіла пара. Вось толькі яшчэ трэба пратруціць насенне і пасеяць, і ён будзе расці.

Палоць лён цяжка, але весела. Зямля злеглася, пылу ніякага, дыхаеш прыемна. Добра відаць, дзе гарчак, дзе асот, дзе якая свірэпчына. І бачыш, куды нагу паставіць, каб не надта патаптаць пасевы. Сцяблінкі лёну не крохкія, не паломяцца, але не хочацца ступаць на іх, прыціскаць да зямлі. Яны ўстануць, канечне, устануць, ды трэба час. Выбіраеш месцы,

дзе яны радзейшыя або пусты лапік. Не абувалі нічога на ногі. Босая нага мяккая, не цвёрды абцас і не падэшва. І лягчэй, ямчэй босай нагой хадзіць улетку па полю.

Калі лён падымецца і няма ў ім травы, тады поле прыгожае. Адзін колер, як якое зялёнае возера. Ну, а калі зацвіце, тады яшчэ прыгажэйшае. Тады хочацца спяваць песню: «Лён, лён, лён...»

Так, гэта калі праходзяць дажджы і няма засухі. А калі прыпячэ сонца, ды на небе ні хмурынкі, і так стаіць тыдзень, і другі, і трэці і пойдзе над зямлёй пыл і над галавой адны званкі жаваранкаў — не грымне, не стукне, не бліснe? Тады што? Тады ў галаве званкі зазвоняць, і не дадуць спаць, і яда ў рот не палезе.

Добразычлівы Круглік усё зразумее і спагадліва скажа:

— Дзеўкі, запрагайце ў сваю бочку каня і вазіце ваду. Палівайце, колькі можна. Загон пальеце, і то добра. Можа, калі водаправод пралoжым на ваша поле, тады будзеце са шланга паліваць, як пажарнікі. Ух, будзе вады! Дажджавалку якую-небудзь можна будзе прыдумаць.

«Дзеўкі». Гэта каб падбадзёрыць жанчын. Дзеўкі — значыць, маладыя, моцныя, ім усё па сіле і нічога не страшна.

Былі гады, калі і паліванне не памагала. Грады не заўсёды можна выратаваць, а тут — поле. Але палівалі. Каб сумленне пасля было чыстае. Не, не адно сумленне. Быў плён за працу, і дзеля яго працавалі.

Зараз што льнаводам! Камбайн цярэбіць і абівае, а трасту — на льнозавод.

Тыя часы для льнаводаў былі куды не такія. Трэба было рукамі, жменькамі вырваць увесь лён і павязаць у снапы. Таму ў Жабіках і гаварылі не церабіць, не рваць, а іменна браць лён. Пабярэш, у снапы павяжаш, добра пасохнуць галоўкі на сонцы, калі надвор'е пагодлівае, і кожны снапок пранікам абабі. Няма пагоды, захмурылася, скажам , неба, і пайшла ў паветры ліпкая вільготнасць, садзі на ёўню, сушы і абівай на таку. Чыста абівалі, каб галоўкі не засталося.

Тады — на сцелішча.

О-о-о, колькі разоў Лідзіна звяно было ў раёне ў

перадавіках! Сама яна і гадзіннік на руку атрымлівала, і крэпдэшын на сукенку. Тады гэта быў самы модны, самы прыгожы і самы дарагі жаночы набытак. Дабыць яго было як вады ў Сахары.

І было... Аж не верыцца, што так магло быць. Ідзе Ліда ўвечары з сушні дамоў, а насустрач ёй, як з-пад зямлі, Барыс.

— Ты? — здзівілася Ліда.

— Я. Хіба не ўгадала?

Апрануты па-святочнаму, пабрыты, адэкалонам ад яго пахне. Падае Лідзе руку.

— Не трэба, Барыс. Бачыш, якая мая? І сама я мурзатая. Лён тром. Работа такая.— І паказала Барысу сваю далонь.

— Не мірам мазаны. Працуем і самі мурзатымі бываем.

Ён узяў Лідзіну руку ў абедзве свае рукі і пакалаціў, як патрабуе вясковы этыкет.

— Цяжкая работа? — глядзеў ён Лідзе ў вочы, каб улавіць яе настрой.

— Пытаеш. Лепш прыйшоў бы ды памог, чым языком шкадаваць,— жартавала Ліда.

— Лён церці? — адказаў Барыс, добра ведаючы, што з веку лён труць толькі жанчыны.

— А што лён? — знайшла Ліда выйсце.— Будзеш ламаць нам на ламаху, а мы будзем толькі чысціць на тынёнках. Убачыш, як работа пойдзе.

Барыс падумаў.

— На ламаху? — паўтарыў за Лідай і глянуў кудысьці ўбок.— Бадай, на ламаху можна. Тут трэба рука мужчынская.

Ліда думала, што быў звычайны жарт і з яе боку, і з боку Барыса. А Барыс і прыйшоў назаўтра ў жабікаўскую сушню, якая стаяла наводшыбе ад вёскі, каля глінішча, дзе была глыбокая яма з вадой, бо сушні, не ўрокам кажучы, часта гарэлі.

Ліда сумелася, глянуўшы спачатку на ўсіх сваіх жанчын, такім поглядам, які гаворыць: «І чаго яго чорт прыгнаў?»

Барыс зразумеў яе.

— Прасіла? Я і прыйшоў. Хто ж, думаю, пашкадуе бедную ўдаву?

— Калі не бедны ўдавец,— уставіла сваё слова адна жанчына, Дар'я.

— Правільна. Бедны ўдавец,— згадзіўся з Дар'яй Барыс.

— Дык што ў цябе, дома сваёй работы няма? — не разумела Ліда.

— Чаму няма? Адпрасіўся. Сказаў, жаніцца пайду. А на жаніцьбу з арміі і то адпускаюць.

Ясна было. Барыс жартуе. Але і жарт сам па сабе голым не бывае — заўсёды нясе ў сабе кроплю праўды.

Барыс распрануўся, шукаючы вачыма на дашчатай сцяне сушні які-небудзь сучок, дзе можна было б павесіць ватоўку.

— На дварэ,— сказала Ліда.— Не так запыліцца. І наша там вопратка.

Барыс выйшаў з ватоўкай пад пахай на двор і адразу ўбачыў высока, пад самай страхой, на спецыяльна паўбіваных цвіках жаночую апратку.

Сама сушня, дзе сох лён, была з тоўстых, праўда, не новых, бярвенняў. У пазах жаўцеў яшчэ не счарнелы мох. Відаць было, што будыніну нядаўна аднекуль перавезлі і добра самшылі, каб дух з яе ніяк не мог прасочвацца вонкі. Тая ж палавіна, дзе цёрлі лён, была на каркасах, абабітых дошкамі. Тут цеплыня і не трэба была. Тут абы не ішоў дождж і не круціў перад вачыма вецер кастру. А каб не так стаяў у памяшканні пыл, у самым стропе даху была выцяжная дзірка, якую можна было на выпадак патрэбы і засунуць. Засаўка гэтая адсоўвалася і засоўвалася вяровачкай здолку.

Барыс глянуў угору на гэтую дзірку, як вярнуўся знадворку, і падумаў: «Правільна. Вентыляцыя павінна быць».

— Наш мікраклімат,— усміхнулася Барысу Ліда, калі ўбачыла, што ён глядзіць угору.

— Так і павінна быць,— адказаў ён і пачаў глядзець вакол сябе, пацiраючы далонь аб далонь, гатовы да працы.

Ліда паказала яму на ламаху, якая стаяла на сваіх нагах-растапырках першай ад дзвярэй, якія вялі ў самую сушылку. Яна была доўгая, не раўня мяліцам.

Барыс уважліва агледзеў ламаху, падняў за ручку язык і ляпнуў ім. Хацеў ісці ў сушылку па тра-

сту, але Ліда, глянуўшы на яго яшчэ даволі не вынашаную і чыстую рудую гімнасцёрку, сказала:

— Самі будзем выкідаць.

— Чаму самі?

Барыс адсунуў засаўку, прымацаваную да сцяны, і адчыніў дзверы.

Праз іх хлынуў выпушчаны на волю дух, які пах сухой трастой.

Барыс пастаяў крыху збоку дзвярэй і, сагнуўшыся, ступіў цераз парог сушні. Застукаў цапкамі, зашамацеў там, і на ток паляцелі павязаныя так-сяк бабкі лёну.

Жанчыны пачалі разбіраць іх кожная сабе.

Зноў зачыніўшы сушню, Барыс сказаў:

— Я паламлю іх вам, тады будзеце браць.

— Нічога, пакуль ты наломіш, мы гэты, цёплы, будзем церці,— адказала Ліда.

Барыс браў добрую жменю трасты за вяршкі і ламаў языком мяла, а тады, перавярнуўшы,— за мяккія ўжо камлі і ламаў вяршкі.

Работа пайшла зладжана і хутка, як на фабрычным канвееры. Пад ламахай толькі і чулася: хрась-хрась-хрась, а дзесяць мяліц толькі і ведалі: лясь-лясь-лясь выслізжанымі дубовымі языкамі аб не менш выслізжаныя дубовыя шчокі. Барыс стараўся, каб жанчынам увесь час была работа, жанчыны ж, адчуваючы вока чужога чалавека, сабе імкнуліся не расхаладжвацца.

— Закурыў бы хоць,— пачала ўрэшце жартаваць Ліда,— а то жывымі нас адсюль не выпусціш.

Барыс зразумеў, да чаго хіліцца сказанае, і зрабіў перапынак.

— Можна і закурыць. Пакурым.

Ён сеў на ламаху, тварам да жанчын, і пачаў агледаць дах павеці, у якой церлі лён.

— Чаму не курыш? — пачуў ён Лідзін голас і ўбачыў перад сабой у яе руцэ вялікі яблык-«цыган». Яго частавалі тым, што елі самі.

— Чаму не куру? — перапытваў ён, беручы ў Ліды яблык.— Таму што няма чаго. Папяросы дома забыўся.

— О гэтак: забыўся. Мой дык раней есці забудзецца, чым табаку,— умяшалася Дар'я.

— Маніць, бабачкі. Не курыць ён.

Жанчыны памаўчалі, нібы вызначаючы цану таму, добра ці нядобра, што чалавек не курыць. Адна, старэйшая за Ліду, сказала:

— Яно і відаць. Чалавек чысты, акуратны.

— А ў майго ж, бабачкі, пальцы жоўтыя. Сам усох, пасупіўся. А ўсё смокча і смокча. Смярдзіць увесь дымам гэтым. Авэй, авэй. Здаецца, каб пажыць з чалавекам, які не курыць.

Зневажаючы свайго, Дар'я хваліла Лідзе Барыса. Наўмысля, з сваёй бабскай хітрасці, ці так у яе атрымалася?

Барыс з'еў яблык, кінуў костку яго ў мялінне і падняўся на ногі.

Зноў захраскала ламаха, засакаталі, як сарокі, сваімі сухімі языкамі мяліцы.

На абед Ліда вымушана была весці Барыса з сабой, хоць і не рыхтавалася да гэтага абеду, у думках нават не дапускаючы, што ён можа прыйсці. На смех ці на радасць?

А уласна, на які смех? Ён удавец, і Ліда ўдава. Які тут можа быць смех? А можа, яны яшчэ і пажэняцца? У яго дзяўчына, у яе хлапец. Разабрацца, дык якія гэта дзеці? Двойка. Бываюць вунь выпадкі, па васьмёра сабіраюць у адну сям'ю. І жывуць. Трэба толькі, каб была дысцыпліна і не дзялілі бацькі, каторыя свае, а каторыя чужыя.

Ой, радасць... Як жа цябе мерыць? Колькі ж ты павінна выспяваць, каб не сарваць цябе з дрэва жыцця горкую? Гэтулькі пагараваўшы, і пагаладаўшы, і пакалеўшы, і пабачыўшы страху і нядобрых людзей, як жа цяпер не хочацца, каб прыплыло на твой бераг, узвалілася табе на галаву — на грудзі рагатае, касматае, нечалавечае абы-што. Не хочацца!

— Вяду цябе, Барыс, дамоў на абед, а частаваць няма чым. Прызнацца, не думала я, што прыйдзеш.

— Без хлеба, без бульбы сядзіш? Бульбу ж, здаецца, выкапалі ўжо?

— Які ты хітры. І хлеб, і бульба, і малако, і сала — усё ёсць. Але ж ты госць? Гарэлкі не раздабыла.

— У-у, ты! — Барыс смыкнуў тварам угору і ўсміхнуўся.— Быццам я толькі і жыву гарэлкай. Не трэба мне, Лідусь, гарэлка. Па мне хай сто гадоў яе не будзе. Не падумаю. Я ўжо даўно свой, а не госць.

Вазьму і не пайду сёння ад цябе. Вот табе будзе і госць.

— Сур'ёзна?

— А якая можа быць несур'ёзнасць?

— А карова? Парсюк?

— Цешча дагледзіць.

— І цешчы застануцца?

— Зарабіла. Усё жыццё каля мяне круціцца. То мые, то грады поліць, то каўбасы чыніць, то масла са смятаны б'е. На тваім пажыву.

— Добра. Але не трэба мне такі голы жаніх.

— Ну і квіты. У мяне дачка. Хай ёй будзе і мая карова, і парсюк — усё, усё, усё. А нам з табой — што заробім. Не пракормім сябе сваёй работай? Пракормімся.

Пакуль ішлі і жартавалі, не заўважылі, як і ў Лідзін двор трэба зварочваць.

Абед быў просты: тушоная бульба з цыбулінай і салам, цёпленькая, якую гаспадыня дастала з печы, малако-пастаялка, хлеб, кіслыя гуркі. Два сырыя яечкі ляжалі на сподачку, каб не раскаціліся часамі далоў і не разбіліся. Пра іх Ліда сказала:

— Я дык сырых не люблю. А некаторыя п'юць. Можа, вып'еш?

— Гэта калі гарэлку падымаюць, тады сырымі яечкамі закусваюць.

— Яшчэ раз кажу: прабач. Не чакала я цябе.

— Прабачыў і ем. Нябось, як буду ў цябе, тады будзеш крычаць і паглядаць з-за вугла, каб нідзе ні з кім не выпіў. Ведаю я вашу бабскую пастацыю. Скажаш: «Не пі!» І нагой тупнеш. Дзе твой малы? Нешта я не бачу.

— Малы? У школу ходзіць. Але мяне ўдзень дома няма, дык ён са школы і да цёткі Арыны. Там абедае і гуляе да вечара, пакуль, як з дзіцячага сада, не забяру. А твая?

— Мая? Калі мне яе глядзець? У бабулі сваёй. Можна сказаць, там і жыве. А ты хочаш, каб цешчы маёй нічога майго не засталося.

— Барыс... Мы яшчэ і жартуем! Сіротамі дзеці во растуць. Каля сваіх, каля чужых. Хоць кажуць: «Мачыха не маці, а вотчым не бацька».

— Адплакалі, хопіць. Хто смяецца і жартуе, той многа жыве. Не чула?

— Чула, толькі не гэтак. Не хачу гаварыць, пакрыўдзішся.

— На цябе? Ніколі.

— Жыць многа хочаш?

— А як жа. Што мы бачылі? У нас яшчэ ўсё ўперадзе. Як у тых маладых ды нежанатых. Каб карову самому не даіць і ў печы не паліць. Табе — каб не касіць і дровы самой не сеч.

— І мяне шкадуеш?

— Быццам не ведаеш.

— А я думала, толькі сябе.

— Даўно б жаніўся, каб шкадаваў толькі сябе.

— А мог бы.

— Мог, канечне. І ты магла б пайсці.

— Я... Мая доля жаночая. Ідзеш не за таго, за каго хочаш, а за таго, хто бярэ. Як падумаю... Чаму ты не ўзяў мяне тады, як я была дзеўкай? Можа б, мы во і жылі б. Цябе ў вайну не забіла, і я жывая. Уступіў, а цяпер пазіраем адзін на аднаго, як кот на сала. І хочацца — і боязна. Каб лапай у пастку не папасці.

— Цяпер ужо не ўступлю. Смелым за вайну стаў. Вазьму і не пайду сёння дамоў.

— А дачка?

— З бабай пойдзе. Не прывыкаць.

— Не хачу. Людзі скажуць: «Сучка. Ад дзіцяці адбіла». Забірай дачку. Па закону.

— Навошта дачку? Цябе забяру. У прымы не хачу і не думаю. Каб толькі чуць: прымак, прымак... Быццам ты не варты жанчыны, да якой прыйшоў. Бачыла, якая мая хата? Не раўня тваёй. На нямецкі вугол. Пафарбавана ўсё, выгладжана. Цяпер — у трактарысты іду. Вучыцца буду гэтую зіму ў МТС на механізатара. Забірай сына і — да мяне, ніякай гавэнды. Лад, Ліда, усё. Законніца ты мая!

Барыс вылез з-за стала і пацалаваў Ліду ў лоб, нібы ставячы пасля ўсёй размовы ўсеўладную кропку, прадыктаваўшы сваю волю Лідзе. Так яму чамусьці здалося.

* * *

1942 год, другая восень вайны.

Калгас у Жабіках падзялілі вясной. Падзялілі на пайкі зямлю ў полі, насенне са склада, коней з агуль-

най канюшні, плугі, бароны. Дзялілі на душы. У Ліды дзве душы: сама і сын.

Коней не хапіла на кожны двор. Яно, можа б, і хапіла, калі б захавалася цалкам усё пагалоўе. А то, вядома, мітрэнга і неўсталяванасць. Нехта схапіў каня пры эвакуацыі. Не з сваіх, а з прахожых і праезджых. Лепшых забралі паліцэйцы. Ездзілі на іх або радні сваёй пааддавалі. Так што конь выйшаў на некалькі двароў, у залежнасці ад таго, колькі душ мелі двары.

Лідзе было цяжка ў гэты час. Трэба было самой, як мужчыну, весці ўсю аднаасобную гаспадарку. Чакаць чаргі на каня. Араць, скародзіць. Пачапіўшы сявалку на шыю, браць з яе жменяй насенне і рассяваць яго па ніве, якую ёй адвялі. Работа гэтая была для яе не навука. Зжылася яна з ёй хутка і рабіла не горш якога мужчыны. Ведама, маладая і здаровая.

Але ж сын быў малы, Пеця. Ён толькі-толькі пачаў хадзіць. Калі к Арыне на цэлы дзень занясе, а часцей за ўсё замкне ў сваёй хаце аднаго, паставіць якой-небудзь яды на падлогу, а сама на работу. Часамі ў поле брала, асабліва калі жала сваю паласу жыта, якое падзялілі на корані.

Калі траплялa чарга на каня, тады трэба было ўдзень яго напасвіць і на начлег весці перад днём сваёй работы. Клопат. А тут сын на руках.

А сена на карову як было накасіць? Касы ў руках дагэтуль не трымала. Мусіла касіць. Не гэтак роўна і гладка, як косяць мужчыны, але касіла. Праўда, трава не лажылася ў пакос-шнурок, клочкам раскідвалася па ўсёй паласе, ды бяды тут мала: пакосы ўсё роўна трэба разбіваць, каб хутчэй сена сохла. Серп адчуваеш у руках, рэжаш ім ёмка і проста. А каса, чорт яе ведае, як ні махні, дык носам у зямлю дзеўбанеш. Трэба было злаўчыцца. Нездарма прырода падзяліла людзей на мужчын і жанчын, а работу — на мужчынскую і жаночую.

Добра, што хоць на коней узяліся мужчыны касіць сена кагальна, па-калгаснаму. У адным месцы, не дзелячы на дзяжачкі, скасілі, а жанчыны памаглі сушыць, і там жа, на сенажаці, скідалі ў стагі. Зімой, па меры патрэбы, будуць браць стагі і вазенкамі развозіць на кожнага каня. Так яшчэ будзе і зручней,

бо гумнаў і пунь тых, дзе хавалася конскае сена, цяпер у людзей няма.

Доўга раіліся і меркавалі з жытам. Адны казалі: зжаць агульна, змалаціць калгаснай малатарняй на калгасным таку і ссыпаць у калгасны свіран, а тады разважыць людзям на душы. А калі накрыюць нямецкія ўлады ды хапнуць увесь гэты намалочаны хлебец? Прыехаў летась увосень з Парэчча нямецкі камендант, увесь у зялёных арлах і абчапаны пісталетамі, гранатамі, аўтаматамі, і падвёў лінію ў кнізе бухгалтарскага ўліку: вам — нам. Так што і дзяліць не было чаго на працадні паміж калгаснікамі.

Другія казалі: не ссыпаць намалочанае зерне ў агульны свіран, а раздаваць з-пад малатарні, кожны дзень пасля малацьбы, увечары. Тут была такая-сякая рацыя ў параўнанні з першым варыянтам.

Тады трэція сказалі: зжатае і звезенае жыта будзе ў агульнай калгаснай аборы? То згоняць людзей і змалоцяць, колькі ім трэба. І падзялілі на пні.

Ну і валтузні было са снапамі. У каго былі мужчыны, пачалі ставіць зяроды такія-сякія і зярэдзіць туды. Бабы сушылі дома паўз платы, на платах, пад стрэхамі паўз будынкі. Ды хутчэй абівалі іх сярод двароў на посцілках пранікамі, ветрылі наабіванае і захіналі як можна было ад наглага нядобрага вока. О-о-о, хлеб! Каму не трэба ён, незалежна ад таго, якія ў чалавека валасы, вочы, як ён апрануты і якую ступеньку займае ў грамадстве?

Ліда ўправілася ўжо са сваёй аднаасобнай летняй гаспадаркай і зараз, мутным асеннім днём, сядзела на кукішках пад павеццю і перабірала бульбу па гатунках: вялікая, насенка, дробная. Перад ёй стаялі тры кошыкі, адпаведна названым калібрам. У стопцы было дзеля гэтага тры засечыкі: вялікі, меншы, яшчэ меншы.

Бразнулі веснічкі, і яна падняла вочы: хто будзе ісці? І ў свядомасць, і ў душу кальнула штосьці нядобрае і брыдкае, літаральна гэтак, нібы яна ўбачыла ў лесе каля сваіх ног гадзюку. Пад павець ішоў у зялёнай пакамечанай нямецкай форме начальнік жабікаўскай паліцыі Рыкач.

— Прывецік, каралева,— усміхнуўся ўсім сваім прыпухлым тварам.

— Добры дзень, Зеня,— адказала Ліда, устаючы на ногі.

— Бульбачку сартуеш?

Ён абвёў вачыма кучу бульбы, тады як бы нехаця падняў іх, свае вочы, на гару стопкі і паравёў на гару пуні.

— Думаеш, сядзіць хто там? — заўважыла Ліда, імкнучыся глянуць Рыкачу ў вочы.

— Ад вас усяго можна чакаць. Толькі не дагледзь,— ён смыкнуў плечуком, на якім вісеў аўтамат, і апусціў на момант твар уніз.

— Не выспаўся, Зеня, а? — паспрабавала Ліда хоць трошкі ўлагодзіць чымсьці абуранага і раззлаванага начальніка.

— Адкуль ты ведаеш? — нібы злоўлены на нечым, схамянуўся Рыкач і ўпёрся бялкамі ў чырвоных пражылках на Ліду.

— Што я ведаю? Нічога я не ведаю,— спалохалася Ліда, дапускаючы ў думках, што ўночы магло штонебудзь здарыцца калі не з самім Рыкачом, дык у паліцыі або ў ваколіцы. Тым больш што...

— Не ведаеш? А-а-а, юда. Не ведаеш! Авечку з сябе робіш. Зараз з аўтамата прашыю, рэшата з б... зраблю і хоць ноч спакойна пасплю.

Ён паправіў аўтамат на плячы, выпаліў чаргу брыдкаслоўя, крутануўся туды-сюды і ўгледзеўся ў Ліду.

— Яй-богу, нічога не ведаю, Зеня. Я толькі бачу, што вочы ў цябе чырвоныя, ну і злы ты, не выспаўся.— Ліда штучна, без унутранай патрэбы на гэта, засмяялася.

Рыкач адразу палагоднеў, нібы да гэтага ён быў у ролі з напісанай п'есы, а зараз — такі, якім бывае заўсёды: спагадлівы, разумны, і не чужы, і не жорсткі.

— Хадзем у хату, Ліда. Мне трэба з табой сур'ёзна пагаварыць.

— А бульба? Трэба, Зеня, перабраць. Хто ж за мяне гэтую работу зробіць?

— Я табе, калі хочаш, полк баб прыганю. За мінуту перабяруць.

— Здурнеў, Зеня? Што на мяне людзі скажуць?

— Зеня, Зеня,— передражніў Ліду Рыкач.— Я табе Зяновій Іванавіч, а не Зеня. Кажу, пайшлі ў

хату. Тут справа датычыцца майго жыцця, твайго, а можа, і яшчэ чыйго. Не бульбай тваёй пахне. Бульбу перабярэш. Не сягоння, дык заўтра. А можа, яна табе і зусім не трэба будзе. Другі хто будзе есці.

Ліда забаялася. «Што ён вярзе? Няўжо з Барысам што?» — падумала сама сабе. Потым шырэй пайшло кола думкі. Чаму толькі з Барысам? Барыс ёй не радня. Калі дзе і папаўся, дык яна тут не пры чым. За яго ёй нічога не будзе. А калі дзе браты Якаў, Андрэй аб'явіліся? Ды калі ў рукі немцам ці паліцыі папаліся? Яны былі камсамольцы, можа, іх цераз фронт у тыл перакінулі, на тэрыторыю, якую яны ведаюць, і яны папаліся?

Адчула, як глыбока ў цела пайшоў холад, і яе ўсю пачало калаціць. Хаця б гэты д'ябал не заўважыў, што яна так спалохалася і яе калоціць ліхаманка страху. Тады яму і карты ў рукі.

— Калі так, хадзем. Дужа табе смерці маёй захацелася. А пра сваю галаву ты калі-небудзь думаў? — сказала Ліда і сама сабе здзівілася: ніякага трымцення ў голасе. Злосць і нянавісць да Рыкача памаглі ёй так хутка ўзяць уладу над страхам, галоўнае — не выдаць яго, гэты страх.

Ужо ў хаце, ложачы на стол шапку нямецкага рэйха і аўтамат вытворчасці таго ж самага гаспадара, адказаў Лідзе:

— Прызнацца, пра сваю галаву я ніколі і не думаў,— і сеў у канцы стала на ўслончык, які стаяў паўз сцяну як толькі з дзвярэй направа.

— Дурной не шкода? — падкрэслена груба заключыла Ліда і ўзяла на рукі сына, які дагэтуль адзін гуляў на падлозе, гаворачы яму: — Маленькі мой, адзін гуляеш, без мамы, не баішся, салдацік мой.

— А можа, партызан? Ці паліцэйскі? Кім будзеш? — і Рыкач прыжмурыў вока, каб развесяліць малога.

Пеця, тулячыся да мамы, бокам і не ласкава глядзеў на яго, хоць бачыў ужо не адзін раз. Рагатая зброя і незразумелая вопратка палохалі малога. Хлопчык быў поўненькі, але мурзаты, ручкі таксама не чыстыя. На ножках сінія мультовыя штонікі і вязаныя ваўняныя шкарпэткі.

— Чужы дзядзя, баішся? — гладзіла Ліда па пле-

чках сына.— Не бойся, сынку, не бойся. Ён адзін, а мы з табой удваіх.

— А во, на стале,— лопаў рукой па аўтамату Рыкач і глядзеў на хлопчыка.— Роту скашу такіх, як вы. Што роту! Абы патроны былі.

Ліда села на кушэтку, паставіўшы побач з сабой за стол сына.

— Кажаш, дурная мая галава? — Рыкач імкнуўся быць з Лідай абыходлівы, вочы яго павузелі і падабрэлі, чырвоных пражылкаў на бялках амаль не было відаць.— Я б не сказаў. Мне пакуль што з ёй шанцавала. Хлопцы вербаваліся на будоўлі, ішачылі ў калгасе, у розных прамгасах, а я ў краме сядзеў. Лёгка, сам чысценькі. У мяне цукерачка, пернічак, гарэлкі магу глынуць, каб неба ружовым было. Жылося во, як таму кормніку, пакуль растрату не прышылі. Праўда, пamaдзеў трохі ў турме, пакуль у лагер не папаў. А ў лагеры — зноў крамнікам быў. У мяне ў краме тапчан, не начаваў нават у агульным бараку. Сам на кухню за абедам схаджу. У мяне ўсё, усё было. Адэкалонам ад мяне пахла. Дзяўчаты за мной! Ліда, паверыш? Любую, абы жаданне было. А ты кажаш, дурная мая галава. Цяпер во, начальнік паліцыі! Не трасуся ў лесе пад мокрым кустом ад страху, холаду і голаду, як гэты твой дурань, Барыс, што сёння ўночы ў цябе быў. Гада хацеў у тваім двары палажыць, так брыдка глядзець мне робіцца на яго, з яго ссутуленай хадой, з прыгнутай галавой. Адразу відаць, па яго хадзе, што чалавек ён ненармальны, баіцца ўсіх за свае ўчынкі і за свой стан жыцця. Трэці раз, Ліда, хацеў я палажыць яго на тваім двары. Не ведаю, што мяне стрымала. Ужо цэлюся — і не магу. Верыш, Ліда?

У душы Ліда захвалявалася. Ды нельга выдаваць сябе перад чалавекам, які носіць зброю і шукае, каго б забіць.

— Ад акна цягне, трэба во падвой ставіць. Хадзі, сынок, на ручкі, а то яшчэ ў галоўку нацягне.

Яна выдумала, ад акна не цягнула, надвор'е было ціхае, а ў шыбах дзірак не было. Ёй неяк трэба было пераключыцца, як кажуць музыканты, на новы рэгістр.

— Не веру,— адказала Ліда.— Калі б ты ўбачыў Барыса на маім двары, рука ў цябе не закалацілася б.

Ты б яго даставіў мёртвага вунь куды. Табе нехта нешта нагаварыў. Чаго гэта ён будзе хадзіць да мяне? Дурны ён, ці што? Загубіць мяне? Як той казаў, чуў звон, ды не ведаеш, дзе ён.— Яна пагладзіла белую галоўку сына, імкнучыся глядзець на яго тварык і вочкі. У яе паставе было: «І слухаць не хачу, дзе хто што вярзе». А ведала: быў у яе сёння Барыс. Быў! Нехта ж бачыў, раз вядома стала Рыкачу.

Вочы яго спачатку былі вывернулі бялкі (Ліда гэтага не бачыла, гладзячы сына па галоўцы і ўглядаючыся ў яго тварык), ён ледзь-ледзь не грукнуў кулаком па стале, але стрымаўся, разумеючы, што злосць тут нічога яму не дасць, наадварот, Ліда яшчэ больш замкнецца ў сабе і яшчэ больш неўзлюбіць яго. Рыкач усміхнуўся:

— Ліда, не прыкідвайся. Глядзі на мяне. Куды ты глядзіш? Не апускай вачэй. Я гавару табе чэсна і прыйшоў з табой пагаварыць як свой чалавек. Я не Хвашчынскі, які забіў твайго бацьку, твайго брата Масея і мужа тваёй сястры. Хадоры, здаецца.

— Не, Арыны.

— Во, Арыны. Дарма, што я ў паліцыі. Я свой чалавек. Мы з веку тут свае, мясцовыя, і павінны падтрымліваць адзін аднаго. Я ў заключэнні быў. Калі з нашых месцаў — свой, значыць, зямляк. Хлеба яму якую пайку. Рызавіну якую, каб чалавек не абмарозіўся. Ого, марозы там! Ты ведаеш, я не п'яніца. Я магу выпіць, калі трэба, але не п'яніца. Я пры дзеле ні-ні, ні ў рот.

— Добры? — з'едліва ўставіла Ліда.— Чаго ж ты тады ў паліцыю пайшоў, калі такі?

— У паліцыю? — Рыкач на момант задумаўся, шукаючы адказу на гэтае Лідзіна пытанне.— Я табе скажу, ты вот так туды-сюды, думаеш, усё проста. Быў цар, а тады стала савецкая ўлада. Хто на яе бок перайшоў, той жыў да гэтай вайны добра. А тыя ўсе яго цараняты ды юнкерыкі зямлю параць. І касцей іх даўно ўжо няма. І цяпер: мяняецца ўлада. Разумееш, што такое ўлада? — Рыкач выкаціў бялкі з чырвонымі пражылкамі і ўставіўся ў Ліду.— Не разумееш. Яна корміць таго, хто да яе бліжэй стаіць.

— А пры савецкай уладзе ты галадаў?

Рыкач смыкнуўся ўсім тулавам:

— Не галадаў. Чаго так галадаў! Жыў. Але калі

гэтая ўлада кончылася, мне таксама разам з ёй на дно апускацца?

— Ты добра ведаеш, што кончылася? Бач, вучоны які.

— Я не вучоны. Вучоных без нас хапае. Мы — кабылка. Радавыя. Зразумей, што я цябе шкадую і не хачу, каб ты з-за гэтага дурня гінула. Забяруць цябе немцы ў лагер разам з ім,— Рыкач паказаў на малога.— Не выскрыпаеш ты там. Амба. Канец табе там будзе. Ты мне не верыш. А я тры разы сам падпільнаваў яго, як ён ішоў да цябе і ад цябе. Я сядзеў у алешніку і мог яго ўзяць са сваімі хлопцамі, калі б яны былі са мной, цёпленькага. Дурны як бот. Кругом вочы, пасты, засады, аўтаматы тарчаць, пісталеты, а ён ідзе. Колькі разоў я ў Паддуб'і іх бачыў, як яны пераходзілі рэчку. У Суччы бачыў на кладках. Падымай аўтамат, на мушку — і ніводнага жывога. Я табе кажу, дурні. Скажы, Ліда, каб не хадзіў ён да цябе.

— Бачыў — чаму не сказаў? Дзе я яго ўбачу? — наўмысля грубаватым голасам гаварыла Ліда, усё яшчэ думаючы, што Рыкач выпрабоўвае яе.

— Не верыш. Пасля пашкадуеш. Я табе яшчэ адну ісціну скажу. Ведаеш, дзе твой бацька? Не ведаеш?

— Адкуль жа мне ведаць. Я была меншая во за яго.— Ліда паказала на сына.— Казалі, пайшоў за Бярозу солі, а яго там схапілі і не пусцілі. Дзе ён падзеўся, так і не ўведалі. Можа, дзе жывы? Парабкам, можа, дзе ў Польшчы ў паноў?

— Э-э-э, Ліда: солі. Хітруеце. Не солі ён пайшоў. Яго злавілі як шпіёна. Ён перайшоў лінію фронту. Такім у ваенны час расстрэл. Яго паслаў камандзір кавалерыйскага палка Маркатанаў. А брат твой быў партызан. І Максім, ваш зяць, быў партызан. Максім быў начальнікам у гэтым атрадзе. Бацьку твайго памучылі, звязалі рукі і жывым галавой у палонку, пад лёд. Вот, разумееш?

Лідзе зрабілася аж мутарна. Яна пасадзіла на кушэтку малога і пайшла паўз печ да вядра з вадой. Напіўшыся, яна чамусьці глянула за печ, тады ляпнула дзверцамі нізенькай самаробнай шафы з посудам, быццам нечага шукаючы там, разагнулася, зачыніўшы шафу, і пачала ўглядацца праз акно на

двор, нібы там заўважыўшы штосьці незразумелае. Смерць бацькі рабілася зусім уяўнай і канкрэтнай, аб якой здагадваліся, якую дапускалі, але ў якую, раз не бачылі, ані не хацелася верыць.

Выцершы вусны, яна вярнулася да кушэткі, узяла на рукі сына і зноў села на сваё ранейшае месца.

— Дык, кажаш, жывым пад лёд?

— Вот так, пад лёд.

— Адкуль ты ведаеш?

— Каб не ведаў, не гаварыў бы. Так што твой бацька па цяперашніх спісах паліцыі і гестапа праходзіць як партызан у тую вайну. А брат Масей і зяць Максім як партызаны і як камуністы, якія выслалі Хвашчынскага. Максім быў старшынёй калгаса да вайны. Ты ведаеш. Іх сын Хвашчынскага Стась і пастраляў сваёй рукой тут жа ў вас у Жабіках, як толькі прайшоў фронт.

— Бачыла.

— Бачыла, а ў галаве сваёй нічога не пакінула. Стась Хвашчынскі, ён цяпер начальнік раённай паліцыі, так і сказаў мне: «У Жабіках партызанскае гняздо. Калі што арэчы выткнецца, страляй маёй рукой. Пасярод вуліцы, уночы, удзень, адным словам, калі будзе патрэба». Петры, што на свеце робіцца.

— Не дурная, петру. Другі год ужо петру. І тапаром, і касой, і пранікам, усім петру. Мне толькі незразумела, калі табе далі такую волю і сілу, чаму ты да гэтага часу ў Жабіках нікога не забіў? Аднаго б, другога, і пайшла б твая слава ўгору. Страляй. Чаму не страляеш? Яго б во стукнуў па галаве якой даўбешкай, як яўрэяў летась увосень білі пад Каменем.— Ліда павяла тварам на сына.

— Даеш, даеш, Ліда. Упікаеш, вучыш. Нікога яшчэ не біў па галаве даўбешкай. І не бачыў, як яўрэяў білі.

— Не заслужыў яшчэ, не паклікалі на такую высокую работу. Не перажывай: паклічуць яшчэ.

Рыкач усміхнуўся і рашыў аджартавацца перад Лідай:

— Бабу самы злы сабака не перабрэша. Брашы, не пакрыўджуся, Ліда. Сам сваіх біць не буду. Пакажуць пальцам, скажуць узяць, вазьму. А скажуць страляць, і страляць буду. Такая служба. І ў мяне бацькі ёсць, і радня ёсць.

— Яны рады, што ты ў паліцыю пайшоў?

— Мусіць, рады, раз я пакуль што з паліцыі ў партызаны не пабег.

— Прымуць, думаеш?

— Думаю, што прынялі б, пакуль яшчэ крывёй не запырсканы. Прынясу ім аўтамат, гранаты, два пісталеты. Прымуць. Наладзь мне сустрэчу з імі для перагавораў. Сувязная! Шпіёніш, перадаеш ім усё.

— Мала.

— Што мала?

— Плата малая.

— Галаву хочаш?

— Толькі.

— Галаву пакуль што не панясу. Шкадавата. Пабачым, што далей будзе. А далей, Ліда, во што, апошняе. Шпіёніць у нас няма чаго. Трыццаць паліцэйскіх і я, начальнік. Ні самалётаў, ні танкаў, ні гармат. Але калі яго застукаюць у тваёй хаце і мне скажуць узяць цябе як сувязную, я вазьму. Павінен буду. А пакуль што падумай. Я пайду. Мне няма часу.

Рыкач устаў, падышоў да Ліды, нахіліўся над хлопчыкам і сказаў яму:

— Скажы, сынок: дурная твая мама? Дурная.

Хлопчык адвёў свае вочкі ад нядобрых вачэй нядобрага дзядзькі, прытуліўся да грудзей маці, да яе чорнай ватоўкі-безрукаўкі, якая пахла сырой бульбай, і зажмурыўся.

Рыкач у гэты час чмокнуў Ліду ў правую шчаку.

Не паспела Ліда асэнсаваць яго пацалунак, як ён надзеў на галаву шапку, ускінуў на плячо аўтамат і, зачыняючы дзверы, сказаў:

— Дагаварыліся.

«У чым, як дагаварыліся?» — мільганула ў галаве ў Ліды думка. А тады і думкі, і пачуццё агіды, і страх — усё знікла.

Ліда доўга сядзела з хлопчыкам на руках, не крануючыся і быццам не дыхаючы, не ведаючы, што рабіць і з чаго пачынаць, хоць работа была, якую пачала з раніцы, пакуль хлопчык, закалыханы цішынёй і матчынай ласкай, не заснуў у яе на руках.

Яна панесла яго ў тую хату, ціхенька палажыла на ложак, прыкрыўшы да шыйкі пасцілкай, а сама, як была, у абутку, у безрукаўцы, прылягла на ля-

жанцы, каб паназіраць за сынам, як ён будзе спаць, і трошачкі адпачыць, супакоіцца. Ляжанка была цёплая, на дварэ стаяла восень, і людзі патрошку цяплілі ўжо печы, і Ліда моцна заснула.

Для іх яна была вось з якой сям'і. Толькі б які карэньчык, толькі б ледзь-ледзь было зачапіцца за што. Яна з партызанскай сям'і ад нараджэння. Сям'я яе праходзіць па спісах і належыць раптоўнаму або паступоваму (гэта будзе залежыць ад канкрэтных абставін вайны) выкараненню. Ліда да канца не разумела гэтага. Яна разумела сябе і сваю ўладу, а як ёй было зразумець людзей, якія?.. Яна спрачалася з Рыкачом як з чалавекам, бацькі якога жывуць не за морам, а ўсяго ў недалёкай вёсцы гэтага ж раёна. Чым ён лепшы за Барыса, за Ліду?

Ён быў паліцэйскі і ў любы час за лучынку мог знайсці прычынку. Яго слова перад немцамі — закон для жабікаўцаў.

* * *

Спала Ліда салодка, але нядоўга. Трывожна падхапілася, нібы адчуваючы за сабой недазволеную раскошу, і села на ляжанцы. Першым позіркам яе на свет быў позірк на ложак, дзе спаў накрыты пасцілкай да самай шыйкі сын. «Хай паспіць»,— падумала Ліда. Яна пайшла ў пярэднюю палавіну хаты, знайшла ў скрынцы стала іголку і, уцягнуўшы ў яе вушка рудую, пад колер панчох, нітку, уважліва зацыравала ўсе дзірачкі.

Ёй трэба было нешта рабіць. Некуды ісці, з некім пагаварыць, параіцца. Яна адкруціла з галавы хустку, паглядзелася ў люстэрка, ці не ўмурзалася, і зараз жа палажыла яго на акно. Глядзець у люстэрка не хацелася. Не да люстэрка было. Каб была якая крываносая, булатая, аднабокая, можа б, і Рыкача не ведала б, і ён бы яе не заўважыў, і не было б нічога таго, што зараз навісла над ёй.

Зараз прачнецца Пецця, яны паабедаюць, і яна пойдзе да сваіх. Бульба паляжыць. Пад павеццю нічога ёй не зробіцца. А можа, і сапраўды, як сказаў Рыкач, яна і не трэба будзе ёй.

Калі Пецця прачнуўся, яна памыла яму мокрым канцом ручніка твар і ручкі і пачала карміць. Пецця,

як і мыцца, не хацеў есці, але яго трэба было так-сяк пакарміць, і Ліда тое-сёе амаль пад прымусам утаптала яму ў рот. А што — ложку кашы бульбянай і, можа, паўкубачка малака, якое ставіла ў печ, каб яно там пусціла жоўтыя скалкі і было смачнейшае. Сама не ела. У галаве стаяла другое, больш важнае, чым яда. Раз юда прадаўся, ён ні перад чым не спыніцца і можа зрабіць што захоча. Іх улада, і ім вера. Бач, сплёў у адно месца: і бацьку, і братоў, і Максіма. Барыса прыплёў. Бяры і вешай. Ёсць за што!

«Што ж гэта я нешта ані нічога не думала пра сябе, быццам улада наша, савецкая, а я як была, так і засталася на старым месцы, смелая, незалежная, крытыкуючы і высмейваючы каго хачу, у тым ліку і Рыкача, быццам ён наш, савецкі, работнік, міліцыянер які-небудзь ці фінагент?» — падумала Ліда.

— Сынок, я пайду далёка-далёка, на ручках цябе несці маме цяжка, ты ўжо вялікі, пабудзеш у бабы Ганны. Пагуляеш, пакуль я прыйду. Я не забаўлюся. Я хутка.

Сынок нічога не адказаў, але важна, што не плакаў, і маці здалося, што ён згодзен з тым, што яна яму сказала. Не першы раз заставацца яму ці ў людзей, ці дома без мамы, не першы раз разумець і шкадаваць маму, але не ўмець хоць чым-небудзь дапамагчы, акрамя таго, што глядзець на яе шырока адкрытымі, чыстымі, як блакіт неба, вачамі?

Ліда ўздзела на ногі гумавыя боты на мяккай падкладцы, апранула ватоўку, не новую, але больш-менш прыстойную, укруціла хлопчыка ў коўдру і, замкнуўшы хату, панесла да суседкі Ганны, добрай бабулі.

На вуліцы нікога не было, людзі, дзе хто, заняты работай. «Марозу не будзе»,— думала Ліда, бо неба не яснела і не чырванела, як бывае ўвосень перад марозам, а было зацягнута коўдрай недажджавых хмар.

Налева пайшла прагаліна, а за ёю, метраў за сто ад вуліцы, могілкі.

Ліда адвярнулася ад могілак і пачала глядзець уперад, уздоўж вуліцы. Хаты, паўз якія яна колькі год хадзіла амаль кожны дзень, здаліся ёй сёння чамусьці не такімі, якімі яны бачыліся дагэтуль. Кожная, як жывая і маладая, выстаўлялася ці гладкім і прыгожым комінам, ці новым дашчаным дахам, ці

абшытым шалёўкай вуглом, ці разнымі аканіцамі, белымі расшытымі фіранкамі за празрыстым шклом акна, кветкамі ў слоіку на ім.

Раптам сэрца яе ўздрыганулася. Вось тая хата, дзе размясціліся яны. І недзе ён тут жыве, галоўны юда. Ліда не была ў ёй усярэдзіне. Казалі, зрабілі двух'ярусныя нары і ўсе разам спяць на іх. Называюць казармай. У двары ў вялікай пуні — коні. Колькі, Ліда не ведае. То выходзячы на вуліцу, то заходзячы ў двор, з вінтоўкай на плячы, у паддзёўцы з павязкай на рукаве, перавальваецца з нагі на нагу вартавы. Боты хромавыя, бліщчаць, халявы высокія і вузкія, да самых каленяў. Ліда сказала яму «дзень добры», ён пакланіўся ёй і ўсміхнуўся. Чаму чалавек рады? Што боты хромавыя на нагах? Вінтоўка на плячы?

Калі выслалі Хвашчынскага, у доме было праўленне калгаса. Цяпер во яны сталі тут гаспадарамі.

Ліда не азірнулася на будыніну па сваіх памерах як абору, з плоскім гонтавым дахам, з чатырма вокнамі на вуліцу, без шчыту, замест якога быў косы гонтавы, як і ўвесь дах, лабяк.

Дом Хвашчынскага зрабіўся цяпер на здаровым целе вёскі болькай. Болька спачатку смыліць, тады торгае, калі нарывае, тады, туга нацягнутая, баліць, а пасля — гною колькі з яе і застаецца сцягнутая рубцамі ямка, як ужо зажыве.

Масей пабудаваўся, як вярнуўся з польскага фронту, на правы бок вуліцы. На старым дворышчы не толькі хата, а ўсе будынкі спарахнелі ўжо былі. У глыбіні двара, каля пуні, утварылася ямка, у мокрыя гады, увосень яе нічым нельга было загаціць, квокала і квокала пад нагамі, нібы дрыгва на балоце. Гацілі салому. А вясной пачыналі капаць як гной, і капалі да самай зямлі. І зямля была чорная, яе таксама капалі. Во так выкапалі сабе гора. І старую хату, і ўсе старыя будыніны спалілі, папілаваўшы на дровы.

Лесу далі, і Масей паставіў спачатку хату-пяцісценку, а пасля, спакваля, за год-два па будыніне, пуню, стопку і нават клець. Хай усё будзе новае!

На старым дворышчы цяпер агарод, грады.

Ліда глянула цераз частакол і ўбачыла на ім Масееву жонку, сваю братаву Просю. Прося вырывала

з зямлі і церабіла буракі, скідаючы іх, ужо без бацвіння, у адну кучу.

Ліда павіталася з ёй.

— Можа, што? — спытала Прося, пільна ўзіраючыся Лідзе ў твар.

— Нічога! — адказала Ліда.— Схаджу, думаю. Паглядзець, пагаварыць захацелася.

— Вочы ў цябе нейкія... і сама чырвоная.

Ліда пачала праціраць рукамі вочы:

— Малы на руках заснуў. Дык я яго на ложак, а сама на ляжанку і задрамала.

— Быў хто ў цябе?

— Ды гэты... начальнік, што ў Хвашчынскага хаце.

Ліда сказала ціха, нібы баялася, каб ніхто не пачуў, што ў яе быў Рыкач. Толькі кіўнула галавой у той бок, дзе была казарма паліцэйскіх.

— Хадзем тады ў хату,— зразумела Прося.

Ліда ўважліва паглядзела на яе: пастарэла Прося, нос пабялеў, шчокі пасупіліся, вочы паўпадалі. А па гадах не старая яшчэ: усяго сорак тры. Дзіва што! Масея забілі на вачах. Чацвёра дзяцей, ужо ладныя, хлопцу большаму шаснаццаць гадоў, могуць у Германію схапіць. А ён рослы. А што будзе далей?

— Дзе яны ўсе? — запытала Ліда, маючы на ўвазе дзяцей.

— Юрка з Косцікам пайшлі ў лес. Зрання, і во няма яшчэ.

— Без абеда?

— Бульбу з сабой бяруць. Напякуць там. Смаляк які дабудуць на падпалку.

Не смаляк шукалі ў лесе кожны дзень хлопцы, хоць і неслі ўвечары, прыцемкам тое-сёе з дрэва дамоў. Яны проста баяліся ўдзень быць дома.

І дзяўчынкі баяліся. Таксама сыходзілі на дзень аж на той канец вёскі, да цёткі Палагеі.

— Мама там? — паказала Ліда на большую палавіну хаты.

— На ляжанцы,— адказала Прося, развязваючы хустку.

— Мама, дзе ты? — сказала Ліда, пераступіўшы парог другой палавіны хаты.

— Ліда? — паднялася і села на грубцы маці.— Як ты?

— Нічога, мама. Жыву.
— Усё паробіла?
— Бульбу перабіраю,— адказала Ліда.
— Хлопец дзе?
— Ганне ў хату ўкінула.
— Цяжка несці,— здагадалася маці.
— А цяжкі ўжо,— адказала Ліда.— Ён абы-дзе гуляе, прывык.— І акінула вокам хату. Не было парадку ні ў чым. Тры ложкі, і ўсе тры незасланыя. Як спалі, так і кінулі. На падлозе натоптана. Пяску!

Тым часам у першай палавіне нехта загаварыў з Просяй.

Ліда глянула праз адчыненую філёнгу дзвярэй: Сцяпан аднаногі, іх сусед. Быў ён з папірачкай, ступаў на драўляны пратэз смела, але ў хаце — паціху, асцярожна, каб не стукаць ім аб падлогу і не пакідаць на ёй ямак ад круглай жалязякі-наканечніка.

— Бачу, што пайшла. Што там, думаю, у цябе,— першым загаварыў Сцяпан.

— Добра, што вы прыйшлі, дзядзька Сцяпан. Хадзіце сюды, у гэтую хату, я нешта скажу вам. Тут мама. І ты, Прося, хадзі.

Расселіся на ложках, на незасланыя пасцелі.

— Бацьку легіянеры ўтапілі. Звязалі рукі і жывога пусцілі пад лёд, галавой у палонку.

Усе змоўклі, нібы чакалі выбуху бомбы, якая вылецела з самалёта і павінна была недзе тут дакрануцца зямлі.

Першай глыбока ўздыхнула маці. Худы падбародак яе заторгаўся, а вочы хуценька заміргалі, выкачваючы раз за разам гарошыны слёз.

— Уведала ад каго? — глянуўшы на старую, тады на Ліду, запытаў Сцяпан.

— Стась Хвашчынскі вучыў сваіх паліцэйскіх, як трэба знішчаць людзей. І казаў, што ў нас, у Жабіках, партызанскае гняздо. Каб нікога не шкадавалі і... У мяне аж мароз па целе пайшоў. Кінула бульбу перабіраць... «Ты,— кажа,— сувязная».

Сцяпан пакратаў вусамі, угледзеўся ў якуюсь адну кропку, задумаўся.

Жанчыны маўчалі, чакаючы, пакуль чалавек рашаў, як павесці гаворку далей.

— Больш нічога не казаў? — павёў Сцяпан тудысюды галавой.

— Ай,— махнула Ліда далонню рукі,— гаварыў, дык і не перакажаш. Мне зрабілася страшна. «Можа,— кажа,— другі хто будзе бульбу тваю есці?»

— Ён,— усміхнуўся Сцяпан.— Далей?

— «Да цябе,— кажа,— ходзіць Барыс, і я сёння хацеў забіць яго ў тваім двары». Я кажу: «Чаму не забіў?» А ён кажа: «Цябе пашкадаваў». І такім добранькім размаляваў сябе. «Я,— кажа,— і ў Суччы іх бачыў, і ў Паддуб'і бачыў, каб не свой, усіх з аўтамата перакасіў бы».

— А быў Барыс у цябе сёння?

— Быў.

— Апасна. Трэба, каб не хадзіў.

— Дык ён і сказаў так: «Хай Барыс не ходзіць. А то...»

— А то можа быць, я разумею. Смелы, збродлівая бэсція! Ён жа не спіць у казарме. Павячэрае, пасты паставіць і пайшоў. Спаць лажыцца ўдзень, пасля абеду. Во цяпер ён спіць.

— Вочы чырвоныя. Я і казала яму: «Не выспаўся?» А ён: «З-за вас выспішся».

— Во, бач? — Сцяпан падняў угору ўказальны палец і матнуў ім.— Пачакай: а да цябе ён не чэпіцца?

— Не дужа так. Але казаў: «Падумай, з якой ты сям'і». Нямецкім лагерам палохаў. «Загінеш,— казаў,— там».

Сцяпан падумаў, сказаў:

— Во што. Ты пакуль што дома не начуй. Усё можа быць. Вазьмі хлопца на рукі і да каго-небудзь. І Барысу трэба сказаць, каб ні нагой пакуль што. Ён пільнуе яго каля цябе. Настойлівы, гад! Яго трэба баяцца.

— Да нас пераходзь, і будзем разам жыць. Гінуць, дык у адной хаце, разам усім,— сказала маці.— Хата вялікая, хопіць месца. Хлопец будзе запучаны.

— А гаспадарка? — паглядзела ў бок маткі Ліда.

— Сходзіш, дагледзіш. Не да гаспадаркі цяпер.

— А я — не. Я б не гэтак,— гаварыў Сцяпан.— Сягоння ў аднаго, заўтра ў другога пераначаваў. Каб ён і не ведаў, дзе твой начны адрас. Яго задушыць — як плюнуць. Пятлю на шыю, і нават не захрапе. Ён за ўсімі цікуе, і за ім цікуюць. Вышэй юда сядзіць. У Парэччы, начальнікам паліцыі. Хвашчынскі. За-

біць Рыкача, ён жа дашчэнту спаліць усе нашы Жабікі і нас усіх жывымі не пакіне. Во дзе яна, загваздка! А таго ўзяць не так проста. Ён жыве ў паліцэйскім будынку. Акно з кратамі, з металічнай сеткай, каб ніхто не ўлез і бомбу не кінуў. Праўда, кожную раніцу купаецца ў рацэ адзін.

— Цяпер? — здзівілася Прося.

— А што цяпер? Ёсць такія, што і зімой купаюцца. Здаровы як вол. Нажарэцца, кроў у ім гарыць. Яму трэба ахаладзіцца. А жыць спадзяецца доўга і добра. Бераг ад вады адмураваны каменем. На беразе іх казарма. Ён спускаецца з гэтага берага і купаецца. Калі б снайперская вінтоўка, яго б з лесу, з-за лугу, можна было б і прыкалоць да гэтага мураванага берага. Або з вады якім-небудзь кручком, як рыбіну, зачапіць і на дно. Не будзе яго, тады мы гэты наш жабікаўскі гарнізон ф-фу і садзьмом. Пасцерагайся пакуль, кажу, Ліда.

Сцяпан устаў з ложка, хіснуўшыся на пратэз, надзеў на стрыжаную «под польку» галаву кубанку з скураным верхам, хоць на двары была яшчэ далёка не зіма, і, не зашпіляючы сваю мультовую, без футравага каўняра, «паўсуконную», як казалі ў Жабіках, паддзёўку, крануў да дзвярэй.

— Ну, добрага табе, Ліда... Глядзі. Пайду,— сказаў ён, азірнуўшыся на хату і пераступаючы парог трошкі бокам, бо ў плячах ён быў шырокі, тут яшчэ папірачка гэтая, ну а расчыненая палавінка дзвярэй была, трэба сказаць, вузкаватая.

Жанчыны колькі часу пасядзелі моўчкі, тоячы ў сабе кожная сваю думку, а тады Ліда, маладзейшая, быццам выкінуўшы з галавы ўсё нядобрае, прутка падхапілася, папраўіла на галаве хустку і сказала, павёўшы тварам у бок Просі, тады маці:

— Эт! Неяк будзе. Не мы першыя, не мы апошнія. Калі нам жыць, дык будзем жывы. А калі не жыць, дык доля наша такая. Уй, колькі цяпер людзей ідзе на той свет!

Маці злезла з ляжанкі і пачала хадзіць па хаце, нешта сваё шукаючы і не ведаючы, дзе палажыла.

— Пайду,— сказала Ліда, быццам адлучылі тут ад яе ўвесь страх і небяспеку, якія так нізка віселі над ёй.

— Ужо? Пагуляй,— спагадліва прасіла маці. Сы-

ноў, можна сказаць, і няма. Жывы два тыя, што на вайне, ці не? Не ўведаеш. А гэта во самая меншая. Каб жа мужчына, а то бабскага роду, і трэба ёй баяцца. Чаго? Што яна каму зрабіла?

— Не, мама, трэба бегчы. Там Пецця. Карова прыйдзе. Ну, чым ты мне паможаш? Ці я табе? Вайна. Сама як-небудзь буду выкручвацца. Можа, яшчэ ў партызаны пайду.— І яна засмяялася.

— Не грашы богу. Трэба ты там дужа. Баба.

— А калі нявыкрутка будзе? Здацца, каб у лагер забралі?

— За што?

— А бацьку за што забілі? Масея?

Сапраўды было над чым падумаць: хто забіў бацьку, Масея? Хто? І за што?..

* * *

...Ліда сказала ўранні:

— Заўтра, дзеткі, я ад вас паеду. Не будзе ў вас бабы. Як вы тут будзеце без мяне?

Сказала так, каб чуў і сын, і нявестка. Сказала не то з затоенай радасцю, не то са скрухай. Яна хвалявалася, ясна. Зламаць тое, што гадамі складалася і ўсталёўвалася і да чаго ўжо так прывыкла?

Сёння субота, а заўтра нядзеля. Заўтра па Ліду павінен прыехаць Барыс, і з заўтрашняга дня нешта пачнецца з самага пачатку. Для яе, Ліды, для Барыса, для сына з нявесткай, для ўнучанят.

«Віця, Танька, кацяняты сляпыя, як жа вы?..»

Не, расчульвацца нельга. Ліда разумела гэта. Хай будзе як будзе, як рашыла, як атрымалася, як склалася яе жыццё.

За дзень яна прыбрала ў хаце, як трэба было, па яе густу, прыбраць, паглядзела, падумала, што ўзяць з сабой, а чаго не браць (не за мора едзе, а ў Восава, не вельмі далёкую суседнюю вёску), што паставіць на стол, калі сядуць частавацца...

Яна ўхмыльнулася сама сабе, калі наткнулася ў думках на словы «жаніх» і «маладуха». Яны будуць частавацца? Яна, Ліда, і Барыс? Тым не менш, як ні крытыкуй сябе і ні адганяй слоў «жаніх» і «маладуха», яна, Ліда, ідзе замуж. Не жарт і не спектакль.

Браць нічога з сабой не трэба, акрамя хатулька з такой-сякой пераменкай. Пасцель трэба ўзяць. Бог ведае на чым ён там, адзінокі мужчына, спіць. Падгорне што-небудзь пад сябе, раўня сабаку ў будцы, нямытае, непрасаванае, падхопіцца і пайшоў. Хочаш, каб удавец на добрай пасцелі спаў.

І рабочае адзенне трэба ўзяць. Печ трэба паліць, карову даіць, палоць — адным словам, гаспадарка, як і ў кожнага вяскоўца.

Трэба сказаць Арыне, каб прыйшла, і Прося хай прыйдзе. Маладых не трэба. Што ім да нас, хай нават свае. Мы для іх старыя людзі, і яны думаюць, што нам ужо ані нічога, акрамя смерці, не трэба.

І ўсё ж, нягледзячы на сваё досыць ужо старое і цвёрдае рашэнне, Ліда пачынала губляць волю і бянтэжыцца. Можа, сапраўды трэба было паслухаць сястру Арыну і выкінуць з галавы дзяцінуую дурносць? Дзе ж ты знойдзеш ужо тое шчасце, калі гады прайшлі і іх ніхто табе не верне, калі б і хацеў вярнуць? Ці мала жанчын, якія замужам не былі і не думаюць у сталым узросце пра замужжа? А яна ж, Ліда, была? Была. І ўнукі ёсць. Ці не лішняга ёй захацелася?

Яшчэ не позна рашыць так і так, як Лідзе захочацца. Можна пасядзець за сталом, паабедаць і сказаць яму: «Добра, Барыс, што ты прыехаў. Пасядзелі во, пагаварылі, цяпер, жанішок, дадому. Я пажартавала. Куды ўжо мне тое замужжа?» Ён не пакрыўдзіцца. А калі і пакрыўдзіцца, дык хай крыўдзіцца. Колькі было ўжо той крыўды! Нічога, адыходзіў, зноў цяплеў. Хай жэніцца. Яна не загарадзіла яму дарогу.

Так і не рашыла нічога, спаць лягла з няпэўнай, неакрэсленай думкай.

А калі назаўтра гадзін у дзесяць убачыла ў акне Барысаў «Запарожац», пачула, як ён чмыхнуў і як ляснулі яго дзверцы, зусім абвяла і абяссілела. Усё ў ёй закалацілася, і калі б было не сорамна сына і нявесткі, заплакала б. Мінута, да якой яна так доўга ішла, такая горкая!

У двор ішлі ўдвух: Барыс і механік сельгасмашын, вядомы на ўсю ваколіцу гарманіст, маладзейшы за Барыса гадоў на дзесяць, Лявон.

«Без гармоніка? — мільганула ў галаве ў Ліды.— Значыць, нічога не будзе. І ў Барыса ў руках ні сумкі, ні кашолкі. Так нешта заехалі. Некуды едуць»,— рашыла яна. Добра, што яна нідзе нікому нічога не казала, адно, што пажартавала з унукам і ўнучкай. Сын і нявестка даўно прывыклі да яе «пайду», наадварот, будуць рады, калі ўбачаць, што яна ўжо нікуды не ідзе. Добра, што і Арыну з Просяй не паспела ўчора запрасіць, думаючы, што тады, як пачнецца, сама збегае і прывядзе.

Ліда сустрэла гасцей на двары. Барыс быў у ботах «джымі», або «вуціны нос», хромавых, наваксаваных да бляску, у рудым, новым вайсковым галіфэ, у бастонавым цёмна-сінім пінжаку, у белай, як лілея, сарочцы з гальштукам і ў саламяным капелюшы. Лявон быў у светлым касцюме, без гальштука, без шапкі, у жоўтых, з дзірачкамі туфлях. Ад абодвух моцна пахла духамі. Адзін і другі павіталіся з Лідай за руку.

— Ну як? — запытаў у Ліды Барыс.

— Нічога,— некалькі здзіўлена адказала Ліда, быццам не разумеючы, пра што пытае ў яе Барыс.— Нармальна.

— Тады выгружаемся? — глядзеў на Ліду Барыс.

Ліда смыкнула плечуком і адказала:

— Што ў вас: дровы?

— Ну,— адказаў Барыс і дадаў:— Каб цяплей і весялей было.— І пайшлі з Лявонам да машыны.

Адтуль Лявон ішоў з гармонікам, а Барыс — з цяжкой сумкай.

— Я ж казаў, што будзем каньяк тады піць. Каньяк, Лідусь, праўда.

І падняў пакрыўку сумкі. Так, у ёй сапраўды было поўненька жоўтых бутэлек.

— Здурнеў? — упікнула Барыса чамусьці Ліда.

— Шкадуеш?

— Твайго?

— Бачу, што зашкадавала. Зразумей цяпер, дзе тваё, а дзе маё. Я твой, ты мая, а ўсё, што ў нас, наша. Прызнайся, шкода стала?

— Во гэтак! Выдумаў нешта.

У хаце Барыс і Лявон віталіся за руку з Пятром і яго жонкай.

Дзецям «дзед» даў па плітцы шакаладу.

6 Зак. 767

Пятрок запрасіў гасцей у другую палавіну хаты і паказаў на мяккую канапу са спінкай і на крэслы.

Пераапрануўшыся ў нешта лепшае, больш пярэстае і больш дарагое, Ліда, у белых басаножках, стаяла перад мужчынамі і гаварыла:

— Ты, Лёня, пасядзі тут, паглядзіце тэлевізар ці пайграйце на гармоніку, а мы з Барысам з'ездзім па Арыну і Просю. Я забылася ўчора ім сказаць. Я ім казала, але раней, не ўчора.

На дварэ было ціха, сонечна. Зялёная трава, зялёны лес, дрэвы паўз вуліцу зялёныя. Ехалі як плылі, туды-сюды памаленьку валюхаючыся. Вёска. Пад калёсы можа папасці курыца, качка, гусь, а то і дзіця.

На вуліцы на лавачках там-сям сядзелі або каля двароў стаялі. Часцей жанчыны.

Ліда імкнулася не разглядаць па баках людзей, каб не падумалі, што яна задаецца, едучы, лічы, на сваёй, легкавой машыне. Глядзела толькі ўздоўж вуліцы. Адно паглядзела ўважліва на будынак праўлення калгаса, пастаўлены на колішнім дворышчы Хвашчынскага. Тут ёй налічалі працадні. Тут яна бывала кожны дзень, выносячы з яго, гэтага будынка, радасць або засмучэнне.

Спыніліся каля Масеевай хаты. Ліда забегла ў яе і сказала Просі, каб яна апраналася, яны ж паедуць па Арыну, якая жыла пад той канец.

Арына не ўзрадавалася іх прыезду, моўчкі пераапранулася, моўчкі выйшла разам з Лідай на вуліцу і моўчкі села ў машыну. У руках у яе быў якісь вузельчык, зроблены з насоўкі. Апранула яна доўгую шырокую спадніцу і каптан з сіняга, у дробную белую капеечку. Хустку ўкруціла белую ў чорныя кропачкі.

Толькі спыніліся каля Масеевай хаты, як і Прося выйшла. На ёй каптан быў белы, спадніца светлашэрая, хустка ў кветкі. Твар не стасаваў яе адзенню — пасуплены, бледны. У Арыніным твары, хоць таксама пасупленым і немаладым, была такая-сякая чырвань.

Застолле было невялікае — чужых нікога. Але і яно хутка ажывілася. Мужчынам Ліда была паставіла шклянкі, але Пятрок прыбраў іх са стала, сказаўшы:

— Каньяк стаканамі? — і паставіў перад кожным па кілішку.

Налілі і не ведалі, што і каму першаму казаць, каму першаму падняць кілішак. Як ні кажы, вяселле не вяселле, а нейкі рытуал, і ён мае свае законы.

Арына зразумела, што яна павінна пачаць гэты рытуал, і, не падымаючыся, сказала:

— Няма тут у хаце ні бацькі, ні маці, хай маё слова будзе вам і бацькавым, і мацерыным, хоць самі вы ўжо і бацька і маці. Але калі ўжо так, глядзі, Барыс, і ты, Ліда, глядзі, каб не насмяшылі людзей, каб не было сорамна ні яму,— Арына павяла тварам на Пятра,— ні нам усім. Будзьце ўсе здаровы.

Тут яна зрабіла кілішкам перад сабой круг, выказваючы гэтым самым павагу да ўсіх, хто сядзеў за сталом, паднесла да асмяглых вуснаў і адпіла з яго трошкі.

Ліда сказала, асушыўшы свой кілішак да дна:

— Каньяк... Слава адна. А што ў ім такое?

— Чаму слава? Не адна слава. Па-першае, не смярдзіць, не якая там самагонка. У горле не дзярэ. І галава пасля не баліць,— глядзеў на Ліду цераз стол Барыс, абараняючы каньяк ад астатніх відаў пітва.

Яны селі за стол не побач, а насупраць. На покуце Арына з Просяй.

За сталом доўга не сядзелі. У кілішках, у бутэльках застаўся каньяк. На талерках — вяндліна, каўбаса, яечня, вінегрэт з буракоў і кіслай капусты, густое малако.

— Пайшлі на двор, на сонца,— не сказала, а загадала Ліда і панесла за дзверы адразу два крэслы.

І Пятрок узяў два крэслы.

На двары знайшоўся яшчэ невысокі ўслончык, шырокі, на растапыраных ножках.

— Машыну трэба было ў двор. Няёмка: стаіць на вуліцы,— сказала Прося, быццам машына разумела, ёсць да яе якая павага або няма.

— А што ёй? Мы ж бачым,— адказаў дзядзіне Пятрок.

— Не, Пеця, у двор трэба,— падтрымала Просю Арына.— Што яна,— Арына паказала на Ліду,— на вуліцу пойдзе на яе садзіцца? У двор трэба. Жаніх заязджае ў двор. З двара малудуху вязуць.

Расчынілі вароты і загналі машыну ў двор. Зноў зачынілі вароты.

Лявон, седзячы на крэсле, пачаў памаленьку тое-сёе іграць, быццам правяраючы галасы гармоніка, свой слых і спрыт пальцаў. Прыгожа ён іграў, чула і тонка. Іншы дык сячэ песню або танец, а ў яго яны выцякалі як бы з яго душы, а не з гармоніка.

Хто сядзеў, хто стаяў.

Дзеці хадзілі кругом машыны і ўсё мацалі гладкія яе бакі, ручкі, шкло.

— Лёня...— злажыўшы на грудзях голыя рукі (яна была ў блузцы з кароткімі рукавамі), пачала Ліда заказваць гарманісту то любімую песню, то жаданы танец.

Гармонік паступова набіраў сілу, свой, уласцівы толькі яму, разгон, сваё, сатканае з сотні колераў, гучанне, і ніхто не заставаўся абыякавым да яго ігрння.

— Лёня, «Падгорна»...— заказвала Ліда.

Паслухаўшы два-тры калены мелодыі, яна пачала падпяваць гармоніку:

> Ты, Падгорна, ты, Падгорна, шырокая вуліца,
> Ад чаго маё, Падгорна, сэрца так валнуецца?

Ліда лёгка, надзвычай рухава, як дзяўчына, падхапілася з крэсла, сціснула пальцы ў кулакі і, размахваючы рукамі, схіліла набок галаву, прытупнула нагой і вельмі доўга, з асалодай цягнула апошні гук: а-а-а... Гук гэты ішоў з глыбіні душы, быў адрасаваны бясконца далёка і кранаў самыя лепшыя, самыя прыгожыя яе галасавыя звязкі.

Гэта была песня яе маладосці, акружанай палямі, лясамі, зімамі, вёснамі, цёплымі летнімі вечарамі, кветкамі на лугах і на вокнах у гліняных слоіках, смехам дзяўчат і хлопцаў, іх прыпеўкамі і песнямі пад гармонік на вуліцы ў начной вясковай цішыні, жнівом, сенакосам, грыбамі і ягадамі ў родных лясах, пахам снапоў і свежага жытняга хлеба... Маладосць. Яна прайшла? Не, маладосць не праходзіць. Яна адсоўваецца толькі трошкі далей; перастае выстаўляцца на пярэдні план, каб не насіць драпін на сваім твары. Яе выпускаюць на круг рэдка, але бывае, што выпускаюць.

Арына і Прося глядзелі на Ліду ўважліва, твары

іх нібы застылі ў вялікай немаце, калі чалавек пачынае ўнікаць у сутнасць непадробна шчырага і далучацца да чалавечай шчырасці. Жанчыны, прыгнечаныя гадамі вайны і сваім непапраўным шматгадовым удоўствам, нібы памаладзелі і ледзь папрыгажэлі ў сваіх паставах.

Ліда так аддалася сваім пачуццям, што перастала глядзець на каго-небудзь з прысутных, нібы вакол яе нікога не было, нібы гукі гармоніка плывуць аднекуль з блакітнай вышыні, а яна глядзіць туды, у далёкі блакіт, дзе гэтыя гукі нараджаюцца, і злёгку падхоплівае іх, падтрымліваючы сваім голасам. Надзіва прыгожа рухаліся яе поўныя, налітыя шчасцем плечукі, прыгожай была ў гэты час яе шыя, прыгожая яна была ўся як жанчына.

— Вальс, Лёня. Нам з Барысам.

Яна не назвала вальс. Якая розніца? Яны ў Лявона былі ўсе без якіх-небудзь музычных зрываў. Плаўныя, лёгкія, задумлівыя.

Ліда палажыла сваю загарэлую па локаць руку на плячо Барыса, і яны пайшлі перабіраць нагамі па зялёнаму мурагу двара, лёгка, смела, зладжана, як танцавалі трыццаць пяць гадоў таму назад, калі ён быў хлопцам, яна — маладой дзяўчынай. Барыс — трошкі прыгнуўшыся, Ліда — адкінуўшы галаву так, каб быць у полі зроку партнёра.

Прося паківала галавой, сказаўшы Арыне (яны сядзелі побач на ўслончыку):

— Бач, як яны...

— Ну,— пацвердзіла Арына і ўздыхнула, паглядзеўшы кудысьці ўбок. Тады зноў да Просі:— Што яны — мы з табой?

— Маладыя.

— Чорт яе бяры, хай ідзе. Ёй яшчэ трэба замуж. Я толькі баюся, каб не разбегліся.

— Хай разбягаюцца. Дзіця ў прыполе не прынясе. Дзяцей у яе ўжо не будзе,— супакойвала Прося Арыну.

— Я не пра дзяцей. Сваім непрыстойна.

— Цяпер кідаюць. Не ўжывуцца і разыходзяцца. Гэта не даўнае.

— Сабакі,— сказала Арына пра тых, хто, ажаніўшыся, разлучаюцца.

На вуліцы пачалі памаленьку збірацца дзеці,

а потым дарослыя. У вёсцы гэтак: пачулі гармонік — туды. Тым больш што іграў Лявон. Слухаць яго любілі ўсе.

Наспяваўшыся, натанцаваўшыся, Ліда села на крэсла і палажыла рукі на калені. Абвяла вачыма сына, нявестку, глянула на Арыну з Просяй, якія сядзелі зладжана на ўслончыку, кінула вокам на машыну, каля якой па-ранейшаму былі заняты дзеці, потым — цераз плот на вуліцу.

Там былі людзі. Яна іх убачыла, устала з крэсла і сказала музыку:

— Занавісь апускаецца. Пайшлі, Лёня, у хату.

У хаце доўга яшчэ сядзелі за сталом, дзе хто, як папала. Гаворка была звычайная, якая бывае ў такіх выпадках, калі людзі збіраюцца з нагоды хрэсьбін, іншых нязначных падзей. А потым зноў паднялі па чарцы, і Ліда сказала:

— Знаеш, Барыс, завязі ты іх дамоў,— і паказала на Арыну і Просю,— і паедзем.

Барыс, гатовы выканаць загад, падняўся з-за стала, але Арына запярэчыла:

— Не паедзем. Самі зойдзем. Так не заведзена. Мы павінны адправіць цябе.

— Правесці? — усміхнулася Ліда.— Хай будзе па-вашаму. Тады грузімся, Барысок. Дзе сумка?

Яна ўзяла з-пад кушэткі чорную гаспадарчую Барысаву сумку, паставіла яе на беражок стала, схапіла вокам, што ў ёй было, і дастала дзве некранутыя бутэлькі, сказаўшы нявестцы:

— Вазьмі, Ніна. Схавай. Можа, калі трэба будзе.— І да Барыса:— На, занясі ў машыну.

Барыс панёс, паслухмяна выконваючы жаданне Ліды.

Ліда пачала браць з шафы і складаць горкай на разасланую на падлозе прасціну такую-сякую пераменку і звязваць у хатуль.

У хату ўвайшоў Барыс.

— Пасцель? — чамусьці пытала ў яго Ліда.

— Не трэба ніякай пасцелі,— адказаў ён.— Ёсць у мяне і падушкі, і коўдры ватныя і байкавыя, і капы, усё ёсць. Навошта? Нічога не трэба. Як кажуць, удавец не хлопец.

Ліда згадзілася. А калі трэба будзе, пасля прыедуць і возьмуць.

— Пасцелю трэба было. Як гэта ты? — не згаджалася Арына.

Ліда махнула ёй рукой, што значыла: «Раз не трэба, дык і не трэба».

Яна не ведала, што ёй рабіць: браць хатуль і несці ў машыну ці...

— Сама не нясі. Яны хай нясуць,— вучыла яе Арына.— Сядзь, пасядзім.

Сабраліся ўсе і селі дзе хто.

— А дзеці дзе?

Ніна збегала на двор па дзяцей.

— Ну, цяпер прашчайся.

Апошняе слова Арына вымавіла з хрыпам у горле і заплакала.

Ліда пацалавалася з сынам, з нявесткай, потым узяла на рукі Віцю і абцалавала, Таньку ўзяла на рукі і яшчэ мацней, чым Віцю, абцалавала. Дзеці нічога не разумелі і не даваліся, каб баба іх так цалавала. Навошта? Шчыкотна і непрыемна.

Калі ж стала развітвацца з Арынай і Просяй, сабе расплакалася і доўга не магла стрымацца, каб не плакаць.

Заплакаў Пятрок, заплакала Ніна.

Барыс не ведаў, што рабіць. Міргаў вачыма, і ў самога выкаціліся на вочы слёзы.

З чаго? Ліда памятае, калі яна ішла замуж першы раз: такога жалю не было.

Арына дрыжачымі рукамі развязвала свой вузельчык.

— Вы думаеце, мне вас не шкода? — загаварыла ў слязах Ліда.— А тату? А маму? А Івана? А Масея? А Якава? А Андрэя?

Залажыла рукі за галаву і загаласіла, як галосяць на могілках.

— А мае ж вы дарагія! А мае ж вы родненькія! А да смертачкі не забыць вас!

— Не трэба, Ліда, хопіць, а то людзі падумаюць, што ў нас тут хаўтуры,— супакойвала яе Прося, узяўшы за рукі.

Калі выходзілі з хаты, Арына сыпнула Барысу з Лідай пад ногі ячменю.

А тады яшчэ сыпнула пад машыну, калі яны ўжо селі ў яе.

— Як-небудзь будзеце жыць, не бядуйце занадта. Што ж зробіш. Падгадавала вам гэтых во пылянят, Віцьку і Таньку. У другіх сем'ях няма баб. Вайна ўсё зламала,— суцяшала Пятра і яго жонку Арына, калі, правёўшы машыну, зноў вярнуліся ў хату.

Пятрок маўчаў. Ніна, прыбіраючы са стала, была злая. Ні на каго не глядзела, залішне неабыходліва бразгацела талеркамі, відэльцамі, нажамі і лыжкамі. Чаго? На каго? Ашукалі ў нечым?

— Цётка, паглядзі,— паказаў пальцам на вешалку Пятрок.

— Што? Капялюш забыўся? — здзівілася Арына. А потым быццам пасвятлела ў твары.— Дарма, хай вісіць. Забярэ.

— Ты, Пеця, нічога не разумееш. Кажуць, добра, калі жаніх што-небудзь забываецца. Тады ён ужо тут будзе свой, і з жонкай будзе добра жыць,— растлумачыла Прося.

Пятру захацелася неяк улагодзіць, уцягнуўшы ў гаворку, Ніну. Непрыемна, калі ходзіць паўз цябе хто-небудзь надзьмуты.

— Сядзь, Ніна,— узяў ён жонку за руку, калі яна прыбрала са стала.— Работу паробім пасля. Цяпер усё будзем рабіць удваіх. Раней устанем, пазней ляжам. Паробім, ты не перажывай. А то мы сапраўды зрабіліся былі з табой арыстакратамі. Усё мама ды мама. Мама мяне адна гадавала і гаспадарку вяла. А час які быў! А мы з табой удваіх. Раскісла ты.

Ніна села на кушэтку, і яе за шыю абшчапіла Танька. Ручкі яе былі вымазаны ў шакалад і ў пясок.

— Спадабаўся табе Лявон? — гаварыў Пятрок у твар жонцы, імкнучыся глядзець ёй у вочы.

Ніна яго не ведала (сама яна не мясцовая). З якога боку ён мог ёй спадабацца або не спадабацца?

— Іграе добра,— адказала Ніна і глянула на Арыну, на Просю, быццам яны павінны былі сказаць штосьці сваё пра яго.

— Іграе... Партызанскі разведчык! Яму было ў вайну... Колькі? Дваццаць дзевятага года нараджэння. Хлапчуком быў, во. У Парэчча хадзіў, у другія вёскі. Куды пасылалі. Рызыкоўны быў хлопец. Цётка Арына, раўкоўскі Захар'я — гэта яго дзед?

— Дзед.

— Во, дзед. Стары такі. Піпку курыць. Гадоў, можа, сто яму.

— Не, сто не будзе.

— Ну, дзевяноста, можа.

— Дзевяноста будзе,— згадзілася Арына.— Ён з нашым бацькам дружыў.

— Чуеш? — гаварыў Пятрок Ніне.— З нашым дзедам дружыў. І хадзілі разам у Парэчча, за лінію фронту. Дзеда там... Ну, ты ведаеш. А ў гэтую вайну таксама хадзіў. Ад партызанаў. Калі і малога з сабой браў, Лявона. Во хто такі Лявон.

— Яго і цяпер усе хваляць. Работнік!

— Бацька ў яго не родны. Яго бацьку забілі. Цётка Арына, як яго бацьку забілі?

— Як забілі? Ён быў дужа памаўзлівы. Нячысты. Тут у нас быў Пятрок, і ў яго была дачка Матруна. На начлезе згвалціў гэтую Матруну. А тады прыжыў адной дзеўцы жывот, а замуж не ўзяў. Яна і радзіла гэтага Лявона. Дзеўка была смелая, узяла ї падпаліла іх. Яны счубіліся біцца. «З-за цябе»,— кажа большы брат ды гэтаму, меншаму, Васілю, аскалёпкам нейкім па галаве. На смерць! Прыгожая дзеўка была і пайшла з хлопчыкам у Восава замуж.

— Сабаку сабачая смерць,— заключыла Прося.

— Правільна,— згадзіўся Пятрок і глянуў у твар Ніне, ці павесялела яна.

Дзяцей не палажылі ўдзень спаць, і яны, не дачакаўшыся вечара, заснулі на кушэтцы як пабітыя. Устануць, пакуль пачне цямнець, ці не ўстануць?

Карова Майка ішла ў двор нясмела, задзірала морду і сапла ў ноздры, ловячы нязвыклыя для яе пахі. Нюхала дол, па якім праехалі колы машыны.

— Майка, Майка, Майка,— упрошваў яе не хвалявацца Пятрок.

Даілі яе на двары, падставіўшы пад морду цэбар з парэзанай бульбай. Пятрок чухаў ёй шыю, а Ніна даіла. Аднак яна не вельмі добра стаяла, раз за разам перастаўляючы заднія ногі і адчуваючы, што яе не гэтак цягаюць за цыцкі, як цягала гаспадыня і як патрэбна было цягаць.

* * *

— Дык ты Андрэеў сын?

— Сын.

— А завуць цябе як?

— Андрэй. Андрэй Андрэевіч.

— Маці цябе так запісала?

— Выходзіць, што маці.

— Бедная Алеся! Дык яна тады ўжо была таўстая табой? Там яна ўжо цябе і радзіла?

— Выходзіць так, цётка Ліда. Каб не радзіўся, то і сюды не прыехаў бы, на радзіму.

Што ён сказаў: на радзіму? Мусіць, так: дзе нарадзіліся бацькі, там радзіма і іх дзіцяці.

— А фамілію якую ты пішаш?

Ён усміхнуўся, і Ліда тады ўбачыла: выліты Андрэй. Зубы дробныя, радкавыя, верхняя губа трошкі выкасана ўгору, чарнявыя бровы, вочы крамянёвыя і валасы... Не, валасы ледзь-ледзь святлейшыя, бо яна, маці, Алеся, была белавалосая. Смяецца гэтак, як Андрэй. І складкі тады ў яго на лобе і каля вушэй гэткія цёмныя, як у Андрэя.

— Фамілію нашу бацькаву: Шыкаў. Андрэй Андрэевіч Шыкаў.

— Як ты гэта?

— Як? Проста. Спачатку быў Хвашчынскі, а як падрос, як расказала мне маці пра ўсё, пра дзядзьку Стася, я падаў, куды трэба, заяву, далі аб'яву ў газету, і стаў Шыкавым. Корань бацькаў. Ён быў Шык, а я — яго сын, Шыкаў. Мне маці казала, што ён быў камсамолец?

— А як жа. Камсамолец. А пасля і парцейным стаў.

— Гэтага мне маці не казала.

— Дзе ж яна табе скажа? Яе ўжо не было тут у нас. Пачакай. У трыццаць першым годзе іх выслалі. Андрэю тады было дзевятнаццаць гадоў. А мне ішоў дванаццаты. Я тады была ў чацвёртым класе. А яго як забралі на фінскую вайну, так і не адпусцілі з арміі. Ён ужо там быў нейкім камандзірам.

— Я, цётка, пісаў у ваш ваенкамат. Калі яшчэ ў школе вучыўся. Маці кажа: «Напішы, жывы твой бацька ці не?» Мне паведамілі, што загінуў на Бранскім фронце ў чыне капітана.

— Ну. Мама ж пенсію за яго палучала. Дык, я кажу, я тады ў школе вучылася. «Кулакоў вязуць»,— нехта сказаў. А была якраз пераменка. Мы на вуліцу. Тры хурманкі. На адной нейкая паклажа. Пер-

шай ехала гэтая хурманка. Тады, на другой,— ваш дзед з бабай, а побач з хурманкай ідзе твая маці і наш Андрэй. Спачатку я рада стала, як убачыла Андрэя, а потым падумала: «Чаго ён з імі?» Баба згорбілася, укуталася ў нейкую посцілку. Восень ужо была, на дварэ золасць. На трэцяй хурманцы, ззаду, яшчэ двое. Хто — я так і не ведаю. Малая была. Андрэя з камсамола хацелі сключыць.

— Не выключылі?

— Не. Крычалі толькі дужа на яго. І дома крычалі, і на ячэйцы. Хто гэта ведаў, што ў іх так далёка зайшло. Жаніцца хацеў. Не далі мы. Ого!..

— А я, цётка, скончыў ваенную акадэмію і ўжо даслужыўся да падпалкоўніка.

Гэтым Андрэй нібы сказаў і сам сабе, і цётцы: «Добра, што лёс яго склаўся іменна так, як склаўся, а не іначай».

— Ты ваенны? — здзівілася Ліда.— А чаму ты ў такой адзежы?

— У адпачынку. Зняў форму, надзеў касцюм і паехаў.

— Ясна, ясна,—ківала галавой цётка.— Такі вялікі чын ты ўжо выслужыў!

— Чын не дужа вялікі. У маіх гадах бываюць генераламі.

— А дзядзька твой, Стась — гад. Я б яму ніколі не даравала. Ты ж быў у Жабіках? Табе расказвалі?

— Чаму, усё расказвалі, ведаю.

— Во, Андрушка, якія бываюць звяры сярод людзей. Страх адзін!

Ліда падняла перад сабой кулакі і пакалаціла імі, нібы яе прабіралі дрыжыкі.

— Сагнаў у кучу ўсіх людзей і сваёй рукой пастраляў Масея нашага і Максіма Рыгоравага. Нашай Арыны мужыка. Ты ж гэта ведаеш? Расказвалі табе ў Жабіках?

— Ведаю. Расказвалі.

— Вот вам, кажа, камуністы і партызаны. Адпомсціў. Усіх настрашыў. А за што? За тое, што бацьку нашага жывым пад лёд пусціў? Гад, гад! Мы ж табе даравалі, не кранулі твайго бацькі, як ты нашага ўходаў? Ведалі, што ты, а не хто іншы. Ведалі. І Масей, і Максім былі партызанамі, вінтоўкі ў іх былі. Трах — і не было б на свеце. Сказаў ім

Маркатанаў не чапаць, і яны не забілі. Дык вось якія мы, а якія яны! Ну і яго, гада, укоталі, не пакрасаваўся надта.

— А Маркатанаў?..

— Кавалерыя тут тады ў нас стаяла. Камандзір. Маджараў было сярод іх шмат.

Андрэй кіўнуў галавой. Ведае з гісторыі, што венгры-мадзьяры ваявалі на нашым баку ў грамадзянскую вайну.

— Колькі ты быў у Жабіках?

— Адну ноч начаваў у цёткі Просі, а другую — у цёткі Арыны.

— Табе не казалі там, як яго зарэзалі?

— Казалі, што партызаны падпільнавалі недзе, а як, не казалі.

Ліда ўстала з крэсла, адчыніла шафу і, зняўшы з вешалкі, выставіла перад Андрэем вайсковы мундзір, увешаны медалямі і ордэнамі.

— Во,— сказала яна, зноў павесіўшы ў шафу.

— Гэта фрэнч цяперашняга майго мужа, Барыса. Ён яго надзяе ў вялікія святы. Некаторыя за партызаншчыну, некаторыя за работу. За работу і «Запарожца» далі. Вобласць. Прэмія такая. Дык ён і яшчэ адзін партызан з Парэчча... Бачыў, якое цяпер наша Парэчча? Горад. Праўда? Ты ж цераз Парэчча ехаў?

— Горад. Прыгожы, трэба сказаць. Такая рэчка! Такі жалезабетонны мост!

— Льнозавод пабудавалі. Трасту здаюць туды, і ўсё. Самі цяпер не труць лён рукамі, на тынёнках, як мы церлі. Ого, рай цяпер з лёнам, не тое, што нам было. Я ўвесь час у калгасе лён расціла.

— Казалі, цётка, у вас таксама ўзнагароды ёсць?

— Чаму ж, ёсць. Адзін называецца Працы, а другі — Леніна. Там яны, у Пеці, сына майго.

— Я, цётка, бачыў, ён мне паказваў.

— Праўда? — здзівілася і ўзрадавалася Ліда.— Ты ў Пеці быў?

— А як жа? За два дні ўсіх абышоў.

— Добра, што зайшоў. Калі свой, дык і прызнавай радню. Зракацца радні нельга, калі яна не такая, як твой дзядзька. Ага, во. Дык я пра яго не дакончыла. Слухай. Узяць трэба, а як? А ён купацца любіў уранні ў рэчцы. Восень, а ён усё роўна купаўся.

Спусціцца к рэчцы. Так — бераг, адмураваны каменнем. Масток адным канцом у ваду. Скіне адзежу, паложа на гэты масток, а сам бух у ваду. Выведалі, калі, што. Ты, праўда, жанаты? Ці, можа, адзін жывеш, як я ўсё жыццё адна пражыла, а пад старасць здурнела і замуж выйшла.

— Жанаты, цётка. Сорак пяць гадоў і каб нежанаты быў? Жонка ўрач. Двое дзяцей, Барыс у восьмы клас пойдзе, а Ксюша — у чацвёрты.

— Пачакай: маю маці Аксеняй звалі.

— Ведаю, што бабу Аксеняй звалі. Хай і ў мяне расце Аксеня.

— А ў тваёй мацеры, акрамя цябе, дзеці былі яшчэ?

— Не толькі былі. Ёсць. Двое. Хлопцы. На заводзе абодва. Жанатыя. Дзеці ёсць.

— О-о-о! Дык у тваёй мацеры шмат унукаў. Добра. Як яна?

— Анічога яшчэ. Трымаецца. Толькі сівая ўся. Не ўспамінае жыццё з бацькам. Душыліся, кажа, працай самі і людзей душылі.

— А чалавек яе?

— На пенсіі. Але жвавы. Добры быў, як бацька. Не скажу, што я ў вотчыма рос.

— Прыгожая яна была. Карціна, а не дзеўка. Андрэй, хоць ён мне і брат, не такі прыгожы быў.

— А якая ў мужчыне можа быць прыгажосць? Здаровы, не дурны, не гультай, чэсны — вот і ўсё. Што болей трэба чалавеку? Мужчыну.

— Ну, і яшчэ ж у мяне два браты было: Іван і Якаў. Іван з польскай вайны не вярнуўся, а Якаў — з гэтай. У Якава жонка была, двое дзяцей. Большай восьмы год ішоў, меншай — шосты. Усе ўцякалі ў лес, як немец наступаў. А самалёт лётаў і кідаў бомбы ці з кулямёта касіў. Вера яго жонка звалася. Яна дзяўчынак за ручкі і сабе бегчы. Бомба на іх — і на кавалачкі ўсіх парвала. Сям'і як і не было.

— Мы не бачылі гэтага. Вам было цяжэй, чым нам.

— Бацька не хацеў аддаваць яе за Якава. Страляў у іх над галавой.

— Як страляў?

— Яны ўвечары сядзелі на вуліцы на прызбе. А ён як выскача з двара ды як бухне ў іх над гало-

вамі з бярданкі. Не хацеў, каб яна ішла за Якава. Смешны быў такі.

— Смешны? — здзівіўся Андрэй такой слабай характарыстыцы.

— Смешны. Ён і ў калгас спачатку, казалі, не ішоў. А потым пайшоў і рабіў конюхам. Надта любіў коней.

— А ў вайну як ён?

— Памёр. Выгналі паліцэйцы людзей лес паўз шашу высякаць, каб партызаны не рабілі засад паўз дарогу. Ён сказаў нешта паліцэйскаму, а той яму ботам у спіну, у самы крыж, як дзогне. Пад сябе мачыўся, не ўставаў і памёр. Ці почкі адбіў, ці пазваночнік пераламаў.

Андрэй уздыхнуў. Шкадуй ці абурайся... А ўсё гэта было.

— Чаму ён не хацеў, каб дачка ішла за Якава?

— Сям'я вялікая. Тры браты. Трэба дзяліцца.

— Ясна,— паківаў галавой Андрэй.

— Хацеў ён аддаць сваю дачку... Тут у нас, у Восаве, жыў дзядзька цяперашняга майго мужа Ігнат. А ў яго быў толькі адзін хлопец, а то — дзеўкі. Сюды ён хацеў аддаць сваю Веру. Не за Якава.

— Зразумела,— кіўнуў галавой Андрэй.

— Во, дык я табе не даказала. Выведалі яны, высачылі. Мой і яшчэ адзін з Парэчча залезлі ўночы пад гэты масток, у ваду, дыхалі праз трубкі. Толькі ён раздзеўся і спусціў ногі з мастка, яны хап за іх і галавой яго ў ваду. А тады яшчэ нажом па горле і палажылі на масток, каб бачылі, што ён не сам утапіўся, а зарэзаны. Дні праз два адзін гарнізон у раёне змялі, тады — другі, а тады і наш. І не было ў нас пасля гэтага ніякага гарнізона. Вот, Андрэйка.

Ліда доўга глядзела ў твар пляменніка, нібы ён быў малы, і яна ўхіліла ад яго вялікую бяду.

— Смела,— крутнуў галавой Андрэй.— Малайцы.

Ліда ўстала, пайшла па хаце, гаворачы:

— Есці табе трэба нешта даць.

— Не трэба, цётка, я не галодны.

— Мала што: госць.

— Я, цётка, у Жабіках ў лесе быў, тут у вас паўз дарогу бачыў: столькі акопаў!

— Чаму ж ім не быць. Тут у нас сотая дзявізія ваявала. Немец прайшоў вунь куды, не думалі ўжо

пра сваіх. Тады бачылі: нашы! Перарэзалі немцам шашу, занялі фронт у некалькі вёсак, ад Ратуціч, цераз Жабікі, Восава і да Шавярніч. Такі быў бой! Колькі папалілі нямецкіх танкаў — страх! Дзяўблі, дзяўблі яе немцы з усіх бакоў, так і не ўзялі. Пайшла дзявізія далей. Казалі, выйшла к сваім.

— Выйшла. Па кнігах ведаю. Ёй камандаваў генерал Русіянаў.

— Не ведаю. Генерала мы не бачылі. А салдатам есці давалі, памагалі, чым маглі. Так шкода было іх, як пакідалі яны нас! А тады назад фронт ішоў. Вот і акопы.

— А не пазарасталі.

— Акопы?

— Ну.

— Акопы не пазарасталі. Ігліцай, лісцем, сухім галлём прысыпаліся, берагі паапаўзалі, а каб зусім пазарастаць, дык не пазарасталі.

## РЭКІ ЎПАДАЮЦЬ У МОРА

Сёння 28 лістапада. Цёпла, хоць не адзін год у гэты час лажылася зіма і ўсе лічылі, што прыходзіла яна сваёй парой. Уранні плюс 2, плюс 4, удзень да плюс 10, часамі волглы туман або плывуць нізкія калматыя хмары, на выгляд дажджавыя, але без дажджу, калі не лічыць дажджом кароткачасовую, як кажуць сіноптыкі, морась. І нават калі выглядае сонца, то не калючае, а зусім лагоднае і мяккае, як летняе, і не вяшчуе марознай ночы. Даўно праплылі ў небе на цёплы поўдзень прыгожыя кліны жураввоў, дзікіх гусей, развітальна махаючы кончыкамі крылаў, як далонямі рук, роднай зямлі і балотам, у якіх выведіся і выраслі. Пачуўшы іх галасы, камень і той гляне ўгору.

Сумна ці радасна, калі бачыш над сабой клін гэтых небывала грацыёзных і дасціпна дысцыплінаваных птушак і чуеш іх галасы, якія, як токам, б'юць у самае сэрца? Дакладна ведаеш, што яны б загінулі зімой, калі б нікуды не паляцелі з родных аселіц, і ведаеш, хоць не вельмі дакладна, што пералёт не блізкі і не з лёгкіх, што не ўсе яны вернуцца назад, на радзіму, а толькі частачка, каб прадаўжаць свой род, нягледзячы на ўсю складанасць яго лёсу. Увосень налічыш у кліне не адзін дзесятак птушак, бывае, да сотні і больш, вясной клін маленькі, цяжкі, нізкі. Не многа ў ім птушак, але гэтыя перамаглі і вярнуліся дадому. Вялікая цана перамогі, але нічога не зробіш, без яе не пражыць. Ведаеш, але шкадуеш, што яны ляцяць ад нас кудысьці, у нязведаныя для нас далі.

Даўно і шпакоў не відаць. Гэтыя, звычайна, перад адлётам у вырай вяртаюцца з сенажацяў і лясоў, добра там падкарміўшыся, да сваіх шпакоўняў. Паспяваюць каля іх якімсьці крэктам, зусім не так, як вясной, палазяць усярэдзіну сваіх хатак, нібы заручаючыся на доўгую дарогу благаславеннем ад іх, родных хатак, і знікаюць. Знікаюць, як і іншыя птушкі, да самай вясны, не гуляючы ў вырай і не рызыкуючы сваёй галавой, як часта робяць гракі і нават дзікія качкі.

Ды што гаварыць пра гракоў! У народзе гавораць, калі хочуць упікнуць каго-небудзь у чым: «Грак ты».

Гэта значыць: неразумны, не кемлівы, абмежаваны, залішне даверлівы і іншае ў гэтым родзе.

Яны гнездаваліся ўлетку на старых бярозах могілак. Могілкі, усе, добра відаць мне ў акно. Гракі рана ўстаюць, позна кладуцца. А бывае, што і ўночы крычаць, асабліва з вясны. Клапатуюць каля гнёздаў? Пільнуюць, каб не заняў хто іх? А можа, раяцца паміж сабой у чым-небудзь?

Гуртавая птушка грак, што ні кажы. Селяцца і жывуць калоніямі. На могілках, на ўзлесках. Падыдзеш, дзе яны крычаць на дрэвах, і палічы: не адзін дзесятак гнёздаў налічыш. І гнёзды робяць усе ў адзін і той жа час, нясуць і нясуць у сваіх дзюбах сухія палкі, нібы сумесна ўзводзяць якое-небудзь адно збудаванне. Гэтак пчолы мёд носяць у вулей: адна ляціць дамоў, другая з дому.

Потым, вывеўшы дзяцей, вялікімі чародамі кружылі над полем, над сенажацямі, над блізкімі лясамі, часцей за ўсё к вечару спускаючыся да сваіх пустых гнёздаў, ныраючы ў вецці бяроз і іграючы мноствам галасоў цудоўную грачыную мелодыю, ад якой не забаліць галава, не зробіцца мутарна, пад якую салодка спіцца, хоць слухай яе кожны дзень, усё лета і з лета ў лета.

З пахаладаннем у кастрычніку, як і ўсе пералётныя птушкі, гракі былі зніклі, паляцелі на поўдзень. Але, мусіць, не паспелі далёка адляцець ад родных месцаў, як адчулі жоўтымі палкамі ног і металічным адлівам чорных пер'яў, што ў паветры нашмат пацяплела, і павярнулі назад, зноў на радзіму. Не маладыя, першымі павярнулі старэйшыя, ведаючы сваімі грачынымі галовамі, што ў прыродзе пацяпленне бывае і што гэты мяккі час восені і нават зімы зусім няблага можна правесці дома, дзе нават коршуны свае і ведаеш, як ад іх абараніцца (не выпінайся толькі з гурту). А што датычыцца яды, то ёю хоць масты масці, абы на зямлі снегу не было. Яна на бульбяных палетках, на проста ўзаранай на зіму раллі, на зялёных жытнёвых рунях, на сенажацях, на агародах, каля двароў і ў дварах (тут нават трапляюцца ў вылітых памыях ласункі), на дарогах, на дварах жывёлагадоўчых фермаў. Граку яда заўсёды знойдзецца. Гэта не бусел, якому давай жаб, гадзюк, якія пахаваліся ўжо даўно ў земляныя норы. А гракі

во, быццам прайшла ўжо зіма, зноў пахаджваюць па палях, па агародах, пільна аглядаючы кожную пядзю яшчэ не замёрзлай зямлі, нават сядаючы на стрэхі будынкаў, на платы двароў, звешваючы дзюбы ўніз, ці не можна чым пажывіцца ў двары. Толькі не падымаюць такога вэрхалу, як вясной. Ведаюць: не той час, зіма на носе.

Дрэвы даўно голыя. Надзіва чыста голыя. Бывала, ужо снег, мароз, звычайная зіма, а на асобных галінках, на вяршках матляецца, як прыпаянае, сухое жоўтае лісце. І будзе матляцца хто ведае дакуль, да вясны, пакуль не пойдзе па капілярах новы сок, не пачне карміць жывую тканку, а яна ў сваю чаргу не адштурхне ад сябе мёртвае, непатрэбнае, што зацяняе сонца, не прапускае паветра. Не было маразоў, і дрэвы спакваля паспелі апусціць з кожнай галінкі кожны ліст, зацягнуўшы месца яго прыпаю тонкай плеўкай.

Цёпла да лістапада. Да плюс дзесяці. Пупышкі смародзіны і агрэсту рашылі глянуць, што робіцца ў прыродзе, чаму ім, пупышкам, зацёснутым у цёмную абалонку, цесна. Натужыліся з сярэдзіны, і футлярык змілаваўся — трошкі раздаўся па шву, глядзяць праз зялёненькую шчылінку яны, пупышкі, на свет сіні. Куды вы? Рана, восень. Ды і свет не надта сіні. Цьмяны і трошкі сумны.

Во каторы дзень дзьмуць злыя вятры. Не вельмі халодныя, без снежных калючак, але рэзкія, хуткія, свішчуць у правадах, у галінах дрэў, у шчытах дахаў, і стогнуць сосны і елкі, бо кроны іх густыя, і даводзіцца моцна ўпірацца ў зямлю, напружваць бакі, грудзі, плечы, каб не паваліў лайдак-свавольнік. Але доўга ён цёплым не будзе. Недзе шарханецца аб лёд, аб снег, і панясе з сабой холад па ўсёй зямлі, і не здабраваць тады вам, дурныя малыя пупышкі,— загінеце. Сціскайцеся ў камячкі, шчыльненька лісток да лістка, бо хто ж тады першы будзе вясну сустракаць, калі не вы, не лісткі парэчак і агрэсту? Адны лазовыя коцікі? Мала. Пралескі не дрэва. Пралескі — трава, краскі. Праўда, і на іх прыемна глядзець, але век у іх кароткі, не паспееш палюбавацца, як і няма ўжо пралесак.

Вятры ўвосень хоць і злыя, ды, мусіць, трэба яны, раз дзьмуць. А як без іх было б? Над гарадамі

стаяў бы ўдушлівы смог, не было б чым дыхаць, над пустынямі, над тропікам — гарачыня, над ледзянымі полюсамі — калеліца, якую не перанёс бы не толькі чалавек, а і тамашнія жыхары, як белы мядзведзь, якая-небудзь нерпа, цюлень. Пагрэе бакі на цёплым пяску, як на печы, узмакрэюць лоб, падпахі і ляціць як апантаны, каб дзе хутчэй ахаладзіцца,— на халодны лядок, на снег, пакуль не прабяруць дрыжыкі. Вось так і лётае, гойсае па ўсёй зямлі вецер, і няма яму ні перашкод, ні супынку. Над гарамі і густымі лясамі пуза падцягне, над далінамі і ўпадзінамі выпучвае. Хто яго спыніць? Навошта спыняць, калі ён не толькі перамешвае і ачышчае паветра, але і нясе з сабой, гоніць перад сабой, як кемлівы пастух статак, хмары, з якіх ідзе дождж, без якога і жыцця не было б на зямлі? Бывае, што валіць з карэннем або ломіць дрэвы, бурыць слупы з тэлеграфнай ці электрычнай праводкай, зрывае дахі з хат, нават падхопіць і шыбне ўбок такую машыну, як трактар. Ды хто пры вялікай і ўсім патрэбнай рабоце можа ўлічыць дробныя выдаткі яе? Не хадзіць, каб не стаптаць абутку? «Скачы, Мацвей, не шкадуй лапцей»,— спяваюць, злёгку жартуючы, людзі.

Калі глядзіш на вывернуты з карэннем (жоўтым, разам з жоўтым пяском на іх) сасновы краж, думаеш: якая, аднак, патрэбна сіла! Здзіўляешся і зайздросціш гэтай сіле. Толькі не паглядзіш і не памацаеш гэтую сілу. Дзе яна? Адзін розум так-сяк адказвае на пастаўленае самому сабе пытанне.

Так, сасна была крышку наводшыбе ад сваіх сясцёр, якія маглі б у нейкай меры падзяліць паміж сабой жорсткую сілу ветру. Карэнні яе, лапы, не ўпіліся глыбока ў глебу, нават не было сярод іх пастарнака, які б пракалоў сабой земляны пласт на патрэбную глыбіню...

Увечары, упацёмку ўжо заспяваў на сваім седале певень. Некалькі разоў пракукарэкаў у куратніку, глушачы прарэзлівым голасам усю сваю курыную сям'ю. Ні павагі, ні сораму: яму так хочацца.

А мне ўночы, на сваёй звыклай пасцелі і ў сваёй хаце, не так спалася, як спалася ўчора, усе гэтыя дні, калі надвор'е было ветранае. Коўдра быццам зрабілася цяжэйшай, бялізна быццам алубянела, павет-

ра да цела не прапускае. Тапіў грубку я ўчора, не больш, а ў хаце дух.

І толькі ўранні, на дасвецці, калі выйшаў на двор, зразумеў, чаму ўвечары певень спяваў, чаму ў хаце быў дух большы, чым звычайна, і чаму сон быў не такі, якім павінен ён быць. Неба было ў зорках, паветра стаяла нерухома, а на дахах відаць была марозная шэрань.

«Вось як яно бывае,— падумаў я.— Нечакана. Кукарэкнуў певень, і ўсё перамянілася».

Калі развіднела, я паглядзеў на тэрмометр: мінус 2. Для такога часу (канец лістапада) мала. Тым не менш, з'явіліся на платах, на сценах будынкаў сініцы, смела пайшлі на прастор куры з-пад павеці, прыляцела чародка вераб'ёў і абляпіла сабой голую сліву, паглядаючы на сярэдзіну двара, ці не засталося што-кольвечы ад курынага сняданку. На немалой вышыні, хутка і імклівa, прамчаўся тупадугі эскорт галубоў. Я добра ведаў, куды яны ляцяць: да зернясховішча, да жывёлагадоўчай фермы, дзе лягчэй, чым у якім-небудзь іншым месцы, можна тое-сёе з'есці.

А ў ветранае надвор'е нікога з гэтых птушак не было відаць. Вось вам і вецер. У ветранае надвор'е коні на пашы, як правіла, паварочваюцца задам у той бок, адкуль вецер, і збрыдаюць, калі ім не перашкаджаюць, за будынкі або ў лес, гледзячы, што бліжэй. Сарока касабочыцца, і здаецца, ані не можа ляцець, калі не жартуе з ветрам, бо ад такой крывадушнай, хітрай і шкоднай птушкі, як яна, усяго можна чакаць.

Удзень неба зацягнулася не надта густой коўдрай асенніх хмар. Марозу як і не было, і я выйшаў прайсціся дзеля вока туды-сюды і падыхаць чыстым, без крупінкі якога-небудзь у ім пылу, паветрам. Хай не прападзе мой дзень, пакуль усе дарогі і сцежкі снегам не замецены і можна пятляць па зямлі ў любым кірунку, абы на нагах былі гумавыя боты, а ў руках добры кій.

Кажуць, на вялікай дарозе нараджаюцца вялікія думкі. Але я не пайшоў па вялікай дарозе. На ёй мне ўсё знаёмае. Знаёмыя людзі, трактары, аўтамашыны, радзей — конь, запрэжаны ў калёсы. Калёсы будуць з тым ці іншым дэфектам, не адно, два колы

будуць выкручваць абадамі на дарозе васьмёркі, і будзе ехаць на іх, на калёсах, які-небудзь стары дзядзька, пенсіянер, у якога больш жадання праехаць іменна на кані, чым жадання прывезці або завезці што-небудзь. Цяпер увага тэхніцы, якая дае і груз, і хуткасць, і ўсё патрэбнае, з чым звязана праца і жыццё чалавека. Я адчыніў з двара варотцы на свой агарод і баразёнкай па пераараным бульбянішчы, паўз яблыні свайго невялічкага садка, памаленьку накіраваўся ў вялікі калгасны сад.

А мой сад... Які мой сад! Паўз суседаў тын справа — кустоў з пяток парэчак побач з ім, паўз гэты ж тын, столькі ж кустоў агрэсту, дзве слівы-цукроўкі. З вялікіх дрэў — груша-гнілянка, адна пепінка, дзве антонаўкі, салодкая-ранняя і салодкая-позняя, дзве жытніцы з невялікай кіслінкай, на адной яблыні чыста жоўтыя, а на другой чырванабокія.

Ледзь не напісаў: «Мне яблыкаў хапае». Смешна гаварыць у нашай мясцовасці пра яблыкі. Ходзіць паміж людзей барадаты анекдот. Запыталі ў Сібіры ў нашага беларуса:

— Казалі, у вас яблыкі на дарогах валяюцца. Гэта праўда?

— Праўда,— пацвердзіў без усякай хітрасці беларус.

— Ха-ха-ха-ха! — засмяяліся сібіракі.— І гэты такі, як той. Вось дык нацыя!

Яны не верылі, што яблыкі маглі валяцца без усякай увагі да іх з боку людзей на дарозе. Мне не тое, што хапае яблыкаў сваіх, я вельмі быў бы рад, каб у мяне хоць адно вядро набраў іх хто. Гніюць пад дрэвам. Суседу аддай? У суседа яшчэ болей іх. Каровы ядуць, але ў мяне каровы няма. Парсюкі пападаюцца кожны год на гадоўлю (вядома, на сала) такія, што глядзець не хочуць на гэтае кіслаццё. Калі яшчэ салодкія, дык з'есць два, тры, астатнія лычам пакачае і рота не разявіць. З'еў бы, калі б быў такі, як раней сяляне гаварылі пра свінню: «Худая, як засланка».

За вайну людзі нацярпеліся, нагаладаліся, таму накінуліся на зямлю з патроенай энергіяй: «Давай, матухна!» І яна дала. Дала ўдосталь не толькі хлеба, малака, сала, а і яблыкаў. Наўтыкалі ў глебу столькі фруктовых дрэў (і на сваіх сялібах, і на кал-

гаснай зямлі), што аж занадта. Не разлічылі. Лішняе папрасілі, і прырода дала. Цяпер хоць прасі прабачэння: «Даруй, усеўладная матухна. Дужа хацелася пад'есці ўсяго».

Пад грушай маёй улетку густы салодкі пах і рой зялёных вялікіх мух і іншага крылацця, што далёка чуе салодкае. Што за дрэва! Даўней бы сказалі: «Заморскае». Кожны год, нібы акунуўшыся ў мыльную пену, абсыпаецца цветам-беллю, і, дзе была кветка, гронка пладоў. І як вытрымлівае? Яблыня не вытрымала б, паадвіхалася б суччa. Груша мацнейшая, у ёй сучча не адвіхаецца. Толькі паабвісае ўніз і ледзь дыхае пад цяжарам спачатку зялёных, цвёрдых і важкіх, нібы ўсярэдзіне ў іх нябачныя валавяныя грузілы пладоў. Ледзь пачалі жаўцець, зараз жа здымай — салодкія і мяккія. Хочаш — вары варэнне з брусніцамі, хочаш — так еш.

Ды колькі чалавеку трэба гэтага самага варэння? З груш вары. З агрэсту вары. З парэчак вары. Са сліў вары. З яблыкаў вары. З суніц вары. З малін вары. З чарніц... Навошта? Жывот не мора і не бяздонная бочка.

Так, багатая прырода-матухна!

Яблыкі быццам і не трэба, тым не менш я ўважліва аглядаю кроны яблынь, прымяркоўваючы, якія сукі вясной трэба будзе абрэзаць, каб не заміналі іншым сукам і галінкам і каб плады, якія вырастуць, былі буйныя і сакавітыя. Што ж яго, дрэва гэтае самае, раз яно вырасла, ссякаць? Трэба падтрымліваць і яго знешнюю прыстойнасць, і ўраджайнасць.

Ледзь не забыўся: у мяне яшчэ ад вуліцы паўз плот слівы і бузіна. Сукі іх цераз плот звісаюць на вуліцу. Той-сёй, ідучы сцяжынкай узбочыны, адарве прыемную для вока плод-ягаду і пакаштуе.

Я ўспамінаю свае далёкія дзіцячыя гады і думаю: як жа ласа мы, дзеці, глядзелі на фруктовыя дрэвы, на якіх сярод лісця бялелі яблыкі, гарэлі чырванню ягады-вішні, звісалі ўніз маленькімі бомбамі, цямнейшыя, чым яблыкі, грушы-дулі. Хапелася нам іх, бо не было. Сады былі як пад забаронай. Чаму людзі не садзілі іх? Дрэвы ж не трэба ні карміць, ні паіць. Зямлю высушвалі або цень на яе кідалі, і пад яблыняй не расло так, як расло на чыстым месцы? Можа. Зямлі селяніну не хапала, не хапала хлеба, і ён вы-

мушаны быў увесь свой век глытаць сліну, зусім свядома адмаўляючы сабе ў раскошы і ласунках, да якіх адносіліся і яблыкі.

Гумавы бот я пераношу цераз баразну, якая з'яўляецца мяжой паміж маім агародам і агародам аднаго з суседзяў, і з якойсьці незразумелай асалодай іду па залужанаму загону гэтага агарода. Спачатку тут было жыта. Вясной пасеялі па ім канюшыну. Калі зжалі жыта, яна была амаль на ўзроўні ржэўніку.

Прыемны малюнак: мяккія цёмна-зялёныя лісткі яе так і просяцца ў рот цяляці, трусу, зайцу. Конь, карова таксама ахвотна хапаюць яе напоўніцу, але ж яны сталыя, ім можна абы-якой травы пад'есці, да шорсткай лугавой асакі.

Два гады касіў гаспадар на гэтым загоне густую, да палегліцы, чырвонагаловую пахучую канюшыну, стаўляючы капу каля капы, лепшую яду ці для каня, ці для каровы. Два ўкосы, як правіла, трэці ўкос меншы, хочаш — касі, а не хочаш — спасвай ці кідай як дар прыроды на асенні перыяд збродлівай ненаеднай жывёле, якая так-сяк уцякае ад пастуха і ўжо ў якасці санітара падбірае на полі ці агародзе тое, што не паспелі падабраць або пакінулі з-за дробязнасці і непатрэбнасці ўсім багатыя ўвосень людзі.

На трэці год на гэтым загоне, па канюшынішчы, пасеяў цімафееўку. Праўда, падрапаў жалезнай бараной і здобрыў зямлю белым мінеральным угнаеннем. «Соллю», як ён сам называў гэтае ўгнаенне. Трава парасла, высока і густа выкінуўшы свае белавата-бухматыя шышкі. Зноў два леты стаяла капа каля капы ядкога сена, пахучага, хоць лажыся ў капу і спі ў ёй.

А тады, на пятае лета, па гэтым жа загоне пасеяў новы сорт культурнай травы — аўсяніцу. Яна, калі высыпае, сапраўды падобна на авёс, толькі трошкі святлейшая, чым зялёны авёс.

Аўсяніцу, як і цімафееўку, трэба касіць зараз жа, як толькі яна высыпала, іначай хутка пабялее, як салома, і сена будзе неядкое.

Успамінаюцца недалёкія гады, калі сенажаці былі бедныя, дзічэлі, зарасталі, як шчоткай, нізкарослым сіўцом, якога каса не брала, слізгаючыся, як па якім дроце, па ім, і касіць трэба было з расой,

а касец павінен быў мець моцны пуп і жалезны абруч на жываце.

Люблю ісці ў абутку па ржэўніку, па скошанай сенажаці, ведаючы, што нагу не праб'еш і не пракалеш, і чуючы, як шоргаюць ногі аб пнюшкі зжатай або скошанай расліннасці. Адчуванне ў мяне гэтае з дзяцінства. Радасць, што ўраджай не прапаў, а прыбралі.

Пакідаючы травяную (залужаную, як кажуць аграномы) дзяжку агарода, я пераходжу невялікую палявую дарогу, са слядамі трактарных гумавых шын і звычайных конных калёс і на момант спыняюся перад шырокай і глыбокай канавай, зарослай лазняком, дробным і нават ладным бярэзнікам. З другога боку канавы роўным радам досыць высокія ўжо голыя ліпы. На камлях кара цёмная, шурпатая ўжо, угары, у кроне, гладкая, чыстая, чырванаватая, нечым падобная да цела чалавека. Можа, таму ў чалавека такая павага перад ліпай, быццам і яна, як і чалавек, здольная адчуваць непагадзь, сцюжу, мароз?

Чапляючыся рукамі так-сяк за кусты лазы, я перабіраюся цераз канаву і трапляю ў бязмежны рай саду, пасаджанага ў пасляваенны час. Вялікі сад. Вялікі па сваёй плошчы і ў сваёй шахматнай прыгажосці. Уперад глядзіш — алейка, дрэва ў дрэва, як па шнурочку, назад глянь — алейка, управа ці ўлева — алейка, наўскасяк павядзеш вокам — таксама роўнай лініяй алейка. Усе дрэвы амаль аднаго ўзросту, і ў камлях, і ў кронах. Абрэзаны пілкай-нажоўкай лішнія сукі, месцы абрэзаў зафарбаваны маслянай, не падуладнай вадзе, фарбай, каб не пачалося гніенне гэтых месцаў і гніль не пайшла згубным метастазам у ствол. О, чалавек любіць акуратнасць і зручнасць. Калі рабіць абрэзку, дык па-гаспадарску, з думай аб будучыні кожнага дрэва. Шахматна пасаджаны сад — прастор для яго дагляду. Едзе фурманка, ідзе трактар па міжрадкоўі, нават камбайн. Апыляй дрэвы, апырсквай, ары і скародзь глебу пад імі.

Рай тут будзе ўлетку, калі вырасце ў калена трава, калі з'явяцца і пойдуць у рост яблыкі, драць горла будзе драч (месца яго песні ніяк нельга вызначыць: ты пайшоў на яе, а яна ўжо ззаду ў цябе або ў іншым баку), калі кішма кішаць у шапаткой гушчэчы лісця птушкі (шпакі, вераб'і, сарокі і рознае

дробнае пернацце), калі шэрая зязюля пачне лічыць, колькі ж урэшце ў такім цудзе чалавечай працы дрэў, і не палічыць, пералятаючы з яблыні на яблыню,— лічыць не ўмее вышэй некалькіх дзесяткаў ці вока вузкае, каб ахапіць такую плошчу? І калі выставяць пчаляры роўнымі радкамі сотні дзве рамачных вуллёў, сініх, зялёных, карычневых, блакітных, белых, і калі з іх ляткоў пойдзе ў працу нястомная пчала, напаўняючы сваім голасам іваскова-мядовым пахам усё наўколле. І пачынаеш сумнявацца: гэта пчаляр Міхей у белым халаце і ў зялёнай сетачцы на твары, добра знаёмы табе чалавек, ці трапіў ты ў казку, і гэта ніякі не Міхей, а чараўнік з той жа зялёнай, знаёмай з дзяцінства, казкі? Так, тут улетку рай.

Цяпер тут голыя дрэвы, вельмі падобныя адно на адно, выстраеныя ў радкі, нібы на прадзімовай паверцы: ці ўсе яны, ці ў належнай форме, ці няма на каторай непатрэбнага ўзімку як лішняга грузу лісця, ці не засталіся на каторай учэпістыя, чытай — па нейкіх прычынах недаспелыя яблыкі. У форме. Гэта ім гавару я, чалавек, іх дарадчык, які ўсё-ўсё помніць аб іх, аб яблынях, з моманту пасадкі — і якія былі ямкі з кучачкамі пяску каля кожнай, і як пасадзілі жывыя, расахатыя дубчыкі ў гэтыя ямкі і кожны прывязалі саломай да калка, вышэйшага, чым любы дубчык. І як кожную восень абвязвалі кожнае дрэўца яловым лапнікам, каб заяц у снежную і марозную бясхлебіцу не абкаціў на іх кару.

А ўвесну развязвалі лапнік, і ён знямогла абвальваўся на сырую зямлю, і дрэўцы рады былі, што дачакаліся пары, калі скінулі з іх шубы і стволікі пабялілі чымсьці белым, нібы надзелі белыя суконачкі, зусім лёгкія, не футры з лапніку, і сонца не так пякло ў стволікі. І ўсміхаліся зялёнымі лісткамі сонцу, вясне, людзям, жыццю, і красаваліся так некалькі год без клопату і на выгодзе, пакуль людзі не сказалі:

— Малады сад цвіце.

Саду зрабілася цяжэй. А як жа. Ён і павінен быў стаць тым, чым стаў, узваліўшы на свае зялёныя плечы мармуровую бель квецені, суцэльны, нібы з вялізнага паднябеснага купала, звон і гуд пчол і чмялёў, потым на ўсё лета тоны яблыкаў. Кожнае дрэва, кожная маленькая галінка паасобку.

І вось ён цяпер даў столькі яблыкаў, што ніякія бочкі, ніякія машыны, ніякія закуткі і скрынкі магазінаў, ніякія фруктасховішчы не могуць умясціць іх.

Знялі вартаўнікоў. Ідзіце, бярыце, людзі, каму колькі патрэбна. А кучы іх як ляжалі, так і засталіся ляжаць. Доўга ляжалі, пакуль не пусцілі на асеннюю атаву ў сад жывёлу і тая не даела іх.

Цяпер сад пусты. Ні яблыкаў, ні атавы, ні жывёлы, ні пчаліных вулляў, якія звезлі на зіму ў памяшканне. Праўда, часамі апануюць яго шырокім заходам птушкі, сойкі не сойкі, ладныя, шэрыя, галасы, як у соек, папішчаць, палётаюць, ці няма дзе яшчэ якога яблыка, і паляцяць у другое месца. Снегіры паціўкаюць, шукаючы на дрэвах ежы.

Летам, калі кроны ў лісці, відаць толькі агульны іх абрыс. Зараз жа кожная галінка навідавоку, і зразумела, чаму і куды яна нахілена. Да сонца, на паўднёвы ўсход. Зранку, калі яно толькі падымаецца над зямлёй, схапіць яго першыя праменні, іх першую цеплыню, першую прыгажосць. Усе дрэвы быццам трошкі скасабочаны на паўднёвы ўсход. Рэдка каторае не паддаецца гэтай агульнай сонечнай настальгіі, стаіць, нібы адлітая з металу, у строга вытрыманай форме, не зважаючы, з якога боку свеціць сонца, не дазваляючы сваім сукам выстарчацца туды, куды яны не павінны выстарчацца, незалежна ад таго, ценявыя яны ці не ценявыя.

У дрэў, як і ў людзей, таксама свой характар. І свае рысы ў кроне, калі ўважліва прыгледзецца. Аднойчы я ішоў садам са сваёй малой дачкой, у пяты клас яна хадзіла.

— Бачыш? — сказала яна, паказаўшы на адну з яблынь.

— Што?

— На кітайца подобная.

Я спачатку сумеўся. Дрэва, падобнае на кітайца. У якой меры гэта магчыма?

— Чым? — пытаю ў дачкі.

Яна нібы ўсердзілася на мяне і рэзка адказала:

— Нічога не разумееш.

Яблыню гэтую называюць у нас кітайкай. На ёй растуць маленькія яблычкі памерам з вішнёвую ягаду, смуглыя. З іх робяць варэнне, дарэчы са сваім пахам, смачнае.

Мне хацелася, каб дачка нейкім чынам аргументавала сказанае. Яна не аргументавала. Не аргументавала, праўда, перада мной. У душы ці ў галаве яе была гэтая аргументацыя. Іначай яна б не сказала, што яблыня нагадала ёй кітайца.

Я зразумеў дачку. Абрыс кроны, размяшчэнне на ёй сукоў, лініі галінак, прасветы паміж імі (яблыня толькі напукнулася і не накіпула на сябе лісцяное покрыва) стваралі пэўнае падабенства твару чалавека мангольскай расы і нават выклікалі асацыяцыю смуглявага колеру. Але чаму дачка не захацела размаўляць са мной, чаму ў яе з'явілася такое ўражанне?

Летам не адзін раз праходзіў паўз яблыню, на якой цяпер, увосень, убачыў вялікае, як вавёрчын хаўлук, згароджанае з галля сарочае гняздо. Каля дарожкі, якая ішла праз самую сярэдзіну саду. Хавала яго ад людскога вока пышная лістота. Не скажу, што гэта было для мяне навіной. Я часта бачыў гнёзды сарок і галак на дрэвах прысад людных дарог і тлумачыў сабе гэта адным: чалавек зрабіўся лагоднейшым, перастаў разбураць птушыныя гнёзды, з якіх наедак не надта (а былі часы, калі ён карыстаўся гэтым наедкам, нават гнаўся за ім), і птушкі пацісннуліся ад сваіх лясных ворагаў пад абарону чалавека. Навіной для мяне было толькі тое, што гняздо было іменна тут, на гэтай яблыні, каля гэтай дарожкі, па якой я часта хадзіў, і я нібы ў нечым пабагацеў, падабрэў, быццам у збудаванні гэтага канкрэтнага сарочага гнязда і я прымаў удзел, шчэпліваючы галінку з галінкай, высцілаючы сухой травой дно.

Дзіўнае несуладдзе: сарок не любіў і не люблю, а гнязду быў рады. А можа, гэтая нелюбоў да іх — толькі адно чалавечае жаданне выправіць у нечым такую прыгожую, вёрткую, нястомную і разумную птушку, як сарока? Алах яе бяры, мы да яе яшчэ вернемся, і я тады пакажу вам, якое ўсё ж такі гэта недарэчнае стварэнне — сарока. А пакуль на голай яблыні пустое яе гняздо, і я радуюся, што яно тут ёсць, быццам даўно не хапала яго тут.

Яблыні бачылі вакол сябе бульбу, кармавыя буракі, капусту, моркву, бабовыя сумесі, ячмень, авёс. Урэшце зрабілі, як кажуць, залужэнне, з году ў год падсяваюць травы, рассяваючы ўвесну па іх фосфар-

на-калійныя ўгнаенні. Фу, шумяць і цвітуць яны, і цэлае лета сячэ іх сіласны камбайн, ядуць каровы зялёную падкормку і даюць пеністы духмяны сырадой. Чаму падкормку? Таму што ўлетку ганяюць кароў пасвіць і там іх асноўная яда.

Я перасякаю ўпоперак сад і стаю перад былым рыштам з супрацьлеглага боку. Ён заплыў і зарос драбналессем, кустарнікам. Месцамі відаць цераз яго каровіны сцежкі-пераходы. Тут быў ладны ўжо бярэзнік, не толькі прыгажосць, але і добрая зялёная сцяна-перашкода для ветру. Як вядома, вецер саду не набытак і не знаходка, наадварот, немач і згуба. Прыйшоў сквапны чалавек, пассякаў і пацерабіў бярозкі на дровы і павазіў на калгасным кані ў свой двор. Я, можна сказаць, накрыў яго на месцы злачынства, калі ён клаў воз. Высокі, магутны ў сваёй паставе, з чырвонымі далонямі рук, трошкі гарбаносы і даўгатвары, ён на момант сумеўся, калі я падышоў да яго і павітаўся. Хутчэй за ўсё яго збянтэжыла мая абыходлівасць, стрыманасць і знешняя павага да яго. Яму было б лягчэй, калі б я грымнуў знячэўку цяжкім словам, якім не скалечыш, не заб'еш, але выкажаш свае адносіны да таго, каму адрасуеш. Я доўга глядзеў на круглага гнедага, з чорнай грывай каня, які так раздабрэў за восень, на калёсы з аднымі, якія тарчаць угору, без драбіны, ручкамі, на доўгае бярозавае ўзгалоўе, па якім заднюю вось разам з коламі можна было пасоўваць далей — бліжэй, у залежнасці ад таго, якой даўжыні былі дровы, пахваліў і каня, і калёсы, а чалавек усё не ўступаў са мной у патрэбны чалавечы кантакт, нібы я быў з нейкай неіснуючай лясной аховы, а ён папаўся мне, і яму трэба было нейкім чынам выкручвацца і апраўдвацца перада мной. Ён пачаў хутчэй класці на воз дровы, доўгія, вастраверхія, з чорнай шурпатай карой на камлях бярозкі. Яны аж свісталі ў паветры, калі ён паварочваў каторую вакол сябе, каб пакласці камлём уперад, як кладуць нестандартны тапорнік. Яму не падабаецца, што я доўга стаю, не іду сваёй дарогай, якой ішоў. Ёсць людзі, якія не любяць, калі глядзіш на іх работу, на іх саміх, калі яны працуюць. Я гэта ведаў. І я б, можа, не ўглядаўся ў гэтага чалавека, калі б ён рабіў не тое, што ён рабіў, а так сказаць, законнае, што робяць усе людзі, на поўную

меру свайго сумлення. У дадзеным выпадку мне трэба было яго пакараць, і я караў яго, караў доўга і неадступна, сочачы за кожным яго рухам, за паваротам галавы, шчыльна мацаючы вачыма яго замашчоленую на пузе і рукавах ватоўку, яго кірзавыя боты з досыць пабялелымі халявамі, на шапку-вушанку штучнага футра, шмат гадоў ношаную, амаль счарнелую. Нарэшце, перавязваючы воз вяроўкай, ён не вельмі прыязна глянуў на мяне, быццам часу ў яго было ў абрэз, загаварыў:

— Дровы.

А сам сабе, мусіць, думаў: «Раз, два перавяжу, за лейцы і паеду. Што ты мне! Стой сабе тут».

— Дровы,— адказаў я.

— А што тут? Дома, можна сказаць. Не ў лясніцтве. Заплаці. І асіну якую-небудзь дуплянатую дадуць. Ні жару, ні духу з яе. А гэта — бяроза. Адно — што сам насек. Пяты воз вязу. І яшчэ будзе.

Ён павёў тварам у той бок, дзе паўз канаву ляжаў пацярэблены бярэзнік.

— А розак бабам будзе на венікі! Хай ідуць і падбіраюць.

Узяў каня за лейцы і targануў імі.

Хада яго была смешная: ківаўся ў бакі, горбіўся, нібы воз вёз не конь, а ён сам, а ногі нібы сунуў, пяты ў кучу, наскі ўрастапыр.

Праехаўшы метраў з паўсотні, азірнуўся. Не на мяне, не на тое месца, дзе браў дровы, а ўніз, на зямлю, па якой каціліся колы, на іх лінію па травянішчу, ці не крывая яна. Лінія была роўная, нібы хто яе нацягнуў. Гаспадар даў кірунак каню правільна, конь ішоў на дарогу паміж яблыння як належала ісці, і гаспадар больш не азіраўся.

«Калі ж ён сек?» — падумаў я. Учора я тут не быў. З тыдзень, мусіць, не быў. Во і хапіла часу, каб палажыць маю прысаду. Спляжыў, нячыстая сіла. А я і не думаў пра тое, што нехта можа пусціць у ход тапор. Я клапаціўся пра іншае. Пра тапор я і не думаў. Лесу людзям мала? Не ўрокам кажучы, у нас ён яшчэ ёсць. То санітарныя высечкі, то прасвятленні, то буралом (дзесяцігадовай даўнасці каладдзё ляжыць). Маленькі шэры жучок з доўгім носікам з'явіўся быў вясной. Дашчэнту аб'ядаў маладыя лісткі на бярэзніку, асінніку і перабіраўся ўжо на ліпнік,

які ахінаў сад з гэтага боку, ад вёскі. На бярозках маіх нічога было не засталося, толькі тырчэлі голыя тоненькія галінкі, нават здавалася, што яны ўжо сухія. Улетку так: убачыў дрэва без лісця, значыць, ведае кожны, усохла. Прыляцеў самалёт і папырскаў пэўным прэпаратам тыя месцы, дзе сабрала нялёгкая чорныя раі гэтага самага даўганосіка. Бярозкі мае паспелі выкінуць новае лісце, густа зазелянелі і зусім паспелі набраць да восені патрэбную сілу.

Цяпер ім ніхто і нічога не дапаможа. Выклікай хоць якія самалёты, хоць колькі гэтых самалётаў, іх, бярозак, няма. Можа, каб я застаў яго з тапаром, якім-небудзь чынам не даў бы яму сячы? Цяпер позна. Скрозь паўз канаву адны розгі і белыя бярозавыя пні. Падбірайце розгі, бабы, і вяжыце венікі. Сіратліва глядзеў у неба нізкаранслы хмыраз, паблытаны лазняк, ствараючы сабой хутчэй туманную, чым раслінную лінію заслоны. Не, гэта не заслона. У купе з дрэвамі хмыраз меў сілу, без дрэў ён нішто, як нішто вялікая сям'я без карміцеля.

О-о-о, я разумею. Тут ніхто бярозак не садзіў. Яны выцягнуліся ўгору самі, пасля таго як канавакапальнік прасунуўся і пакінуў за сабой свой след — шырокі і глыбокі рышт. За ім было балота не балота, а досыць немаладая нізіна, калі дакладней сказаць — субалаціна, на якой месцамі запоўненыя вадой сталёвага колеру выгары і ўлетку не высыхалі. Вакол выгароў — высокая густая асака. Па ўсёй нізіне, метраў на сто ўшыркі і, можа, на кіламетр ці паўтара, як мяркуе вока, як цягнуўся сад, з ім побач, рос лес. У ім былі на вышэйшых месцах досыць ладныя дрэвы: сосны, вольхі, бярозы, асіны, часамі траплялася елка, не гаворачы пра розны вербалознік і кустоўе лазы. Траплялася і каліна, аздабляючы ў бязлісты час года ўсё ўзлессе чырвонымі прывабнымі ягадамі. Лес быў прыродная заслонай для ўсяго саду, не лічачы таго, што даваў месца гнездавання, як кажуць арнітолагі, для качак, кнігавак, іншага дробнага птаства. Увечары ці раніцай, ныраючы сярод пышнай і разнастайнай зеляніны, агалашаў наваколле сваім пераліўным плёскатам нястомны і ўсемагутны салавей.

Калі ён спявае, быццам нічога асаблівага і не знаходзіш у яго песні. Ну — голас, бясспрэчна, моцны

для такой маленькай шэрай птушачкі, якая хаваецца ад людзей,— шчасце, знаходка, падарунак лёсу. Канечне, варыяцыі, вадаспады гукавыя. Не варона са сваім кра, не сарока, не галка, не верабей, не шпак і не жаўранак, які па песеннаму майстэрству стаіць вышэй за ўсіх названых і нават не названых птушак. Гэта калі слухаеш. А калі не чуеш? Хацеў бы паслухаць, а няма каго. Няма салаўя ў тым месцы, дзе калісьці спяваў і ты чуў яго песню. Быццам асірацела мясціна, і ты згубіў нешта ў сваім жыцці.

І пачынаеш разумець: лесу таго няма, дзе ён жыў і спяваў. Кажуць, што салаўю патрэбна каліна, калінавы пах, калінавая раса і калінавыя ягады. Дзе ж ты возьмеш тую каліну, калі ў нізіне не засталося ніводнага дрэва?

Склалася нядобрая звычка: калі дзе на калгасным полі лясок, дык яго трэба знішчыць. Па-першае, за яго ніхто нічога не спагоніць, гэта ж не дзяржаўны лес, па-другое, ён быццам замінае паляводству (аб'язджайце яго, машыны), адсякаючы ад агульнай засеянай плошчы нейкую яе частку. Тым больш калі райсельгасупраўленні часцей і часцей патрабуюць ад калгасаў: пашырыць, узараць, скарыстаць. А якія гэта ляскі? Яны не сёння з неба зваліліся на нашы палі. Ім не па гадку і не па дзесяць. Гэта тая ці іншая, як кажуць, няўдобіца, на ёй нічога не расло, і людзі пакідалі яе лесу. Лес вырас. Не сеяны, не скароджаны, дажджамі змочаны, вятрамі абвеяны. І расце, як у сябе дома, як на сваёй радзіме. Добра ў нас лясам, яй-права. Растуць у любым месцы, толькі час дайце, які патрэбен дрэву, каб вырасла.

Лясок высеклі. Ветрык усміхнуўся. «Вот добрыя і разумныя людзі»,— падумаў. Падскочыў, гайсануў і памчаўся наўпрасткі па полю, балазе ніпто не затрымлівае яго бег, упірацца ні ў што не трэба, ні аббягаць, адным словам — воля. Узгорак залысіў, відаць жоўты пясок на ім, нізіну, дзе рос лясок, тым жа жоўтым пяском засыпаў.

Вучоныя паглядзелі, падумалі і сказалі па-вучонаму: «Эрозія».

У шмат якіх стэпавых месцах, дзе няма лясоў, каб зменшыць ветравую эрозію, садзяць полеахоўныя лясныя палосы. Колькі працы і сродкаў на гэта кладуць! А ў нас, дзе лес вырас сам, без капейкі выдат-

каў на яго рост, людзі млеюць па гэтай самай эрозіі, быццам выпрошваючы яе ў прыроды, бо не ведалі і ніколі не бачылі, што гэта за такая эрозія, раз так прыгожа яе назвалі.

Лясок за садам высеклі. Кустарэз зрэзаў кусты, згарнуў у кучы, іх шаколінне аблілі саляркай і спалілі. Чыста стала, дзе быў лес, цяпер поле.

Не, не поле. Полем нізіна так і не стала. І ўзаралі яе вялікім балотным плугам, і прадыскавалі, і драпачамі скарodзілі, але зямля не дала таго, чаго хацелі ад яе. Не звярнулі ўвагі на тое, што нізіна замкнутая, нідзе ніякіх варот, ніякага сцёку. Адзін ход вадзе — уніз, у зямлю. Ары не ары, прысмокча ўзаранае, і бубка бубку не родзіць. Нават трава не пайшла так, як спадзяваліся. Не спрачаюся, будзе час, калі чалавек з дапамогай пэўнай сістэмы дрэнажу, навучыцца ўлагоджваць такія землі, і яны парадуюць яго вока вартай увагі аддачай. А пакуль што перада мной — сапсаваны кавалак прыроды, закінуты, здзічэлы, у каровіных слядах — кадоўб'і, у купінах, пакрыты там-сям нягеглым, бляявенькім метлюгом, да якога нават жывёла не дакранецца, такі ён некарысны і нясмачны. Блішчаць цёмнай асенняй вадой выгары, берагі іх паабсованы, счэрнены капытамі, жывёла спрабуе з іх на смак ваду.

Вясной плачуць над нізінай белапузыя кнігаўкі. Сядуць, адпачнуць трошкі на ўзбочыне, зноў падымаюцца ў паветра і снуюць цэлы дзень уздоўж і ўпоперак нізіны, бо бачаць пад сабой шмат вады, і плачуць, плачуць. Выводзяць яны тут дзяцей ці не выводзяць, не ведаю. Бадай, не выводзяць. Дзе ты схаваеш іх на такой гале?

І дзікая качка часамі крычыць у раннія ці начныя часы. Далёка чуваць яе дзярготкі голас, за кіламетр і больш. І ёй тут схаваць сваё гняздо наўрад ці можна.

Салавей не вяртаецца на сваё старое месца. Голасу яго не чуваць. Нават няма куста, на які б ён мог сесці.

Я пераходжу субалаціну на другі бок, дзе пачынаецца поле, на якім раслі кармавыя травы. Іх скасілі і прыбралі на сілас, на сянаж, на сена. Травы былі добрыя, у калена. І прыбіраць іх было прыемна, бо зямля роўная, гладкая, не тое што ў нізіне. Нават

калі б я не быў тут улетку, і то сказаў бы, што добрыя, бо на зрэзах відаць тоўстыя камлі іх і няма паклычанай палегліцы, якая б па сваёй нягегласці не папала пад нож уборачнай машыны. Я падумаў: «Вось тут, на такой зямлі, і трэба наводзіць культуру земляробства. Над ім ніколі не плакалі кнігаўкі. Чаго? Яно не іх. Яно — поле і належыць аднаму ўраджаю, больш нікому.

Што кінулася ў вочы мне на гэтым полі — мышыныя паселішчы. У адным месцы нарыта пяць-шэсць земляных бугорчыкаў, у другім месцы, крокаў за некалькі ад першых, тое самае. Між бугорчыкамі дзветры норкі. Зусім свежанькія, відаць, жыхары норак толькі што вылазілі з іх або ўлазілі. А з адной гэтай вёсачкі ў недалёкую суседнюю такую ж вёсачку — трошкі пакручастая, жолабападобная, вельмі добра вытаптаная мышынымі лапкамі, выкаўзаная мяккімі пузцамі, шэранькая, як і сама мыш, дарожка. Што звязвала невялікія па колькасці норак гэтыя мышыныя паселішчы? Дзве сям'і ці адна падтрымлівалі паміж сабой, мяркуючы па добра ўтоптаных дарожках, частыя зносіны?

Такіх паселішчаў было на полі не адно. Пільны, шэры велікакрылы коршун-мышалоў не бачыў з паветра, як пад густым покрывам травы снавалі па сваіх «асфальтаваных» дарогах мышы. А ўвосень яго не відаць над палямі, і мышы зусім смела, як людзі з вёскі ў вёску, снуюць з аднаго паселішча ў другое.

Вось хутка ціскане мароз, закуе зямлю ў сваё шэрае жалеза, абваліцца на палі глыбокі снег, а мыш як жыла, так будзе і жыць у сваёй норцы, маючы не бог ведае які багаты стол, не так ужо цёплае жытло, не вельмі ваўністае футра. Якая ж вялікая жыццёвая сіла закладзена прыродай у гэтым маленькім стварэнні — мышцы!

Норкі мышыныя не надта глыбокія, асабліва там, дзе поле з вясны не арэцца, як тут, дзе была трава. Фыркаючы носам і дзеручы лапамі, сабака лёгка дастае мыш. Тое самае робіць і ліс. Аднак на гэтым полі раскапаных сабачымі лапамі мышыных нор я не бачыў, хоць сляды сабак на суседнім, толькі што ўзараным на зіму полі, былі.

— Сабакі не тыя пайшлі,— казаў мне адзін дзядзька.— Другі хлеба ў рот не возьме, а ён табе

будзе мыш пад зямлёй шукаць. Мая дачка казала, у Маскве ёсць такія сабакі, што не ўсякую каўбасу ядуць.

— У Маскве? — спачатку нібы здзівіўся я.

— У Маскве! — аж таргануўся дзядзька.— Жывуць у горадзе, а сабак трымаюць. У хаце! Чорт яго ведае што такое. Хочуць, каб псінай смярдзела?

Я ведаю, што некаторыя гараджане трымаюць сабак. Разумею тых, што хоць раз у тыдзень, а то і ў месяц, ускінуўшы стрэльбу на плечы, хочуць пабадзяцца па асеннім або зімовым лесе, топчучы зручным для нагі юхтовым ботам бясшумную лясную падушку, напоўненую снегам і лісцем. Забіць не заб'еш, бог з ёй, звярацінай і птушацінай, а нахадзіцца находзішся, утаміцца ўтомішся, надыхацца надыхаешся, ды якім паветрам, тым, якое пахне кіславатым яловым лапнікам, звонкай зелянінай сасновых іголак, смалой, якая і бязлітаснаму марозу не паддаецца, галінкамі бярэзніку, альхой, рабінай, багуннікам у нізінах, які ў любую пару года ап'яняе, і здзівішся філіграннасці вежачак нярослага, вечна маладога ядлоўцу, і можаш нават праваліцца, здавалася б, на зусім памёрзлым балоце, усёй нагой, да калена і вышэй, і нават адчуць, як цераз высокую халяву, нібы электрычны ток невялікага напружання, пайшла ўніз прыемная, але досыць небяспечная ў зімовы час макрынь. І ўбачыш на ўзлессі або нават у лесе дзіўнае размяшчэнне зайцавых слядоў, фігура за фігурай, узор своеасаблівай пляцёнкі: след за следам па адной лініі ўперад, два сляды ў бакі пад імі як падстаўка. І адразу зразумееш, па адлегласці фігур адна ад адной, хутка вушасты бег ці проста быў на шпацыры, выглядаючы і вынюхваючы сабе ежу (карыну якую абгрызці). Заяхкае сабака, панюхаўшы гэтыя сляды. Значыць, яны свежыя, ганчак можа падняць беляка або шарака. А бывае, што і не падыме, заяц як скрозь зямлю праваліўся, ганчак вярнуўся з высунутым языком, узбуджаны, аж калоціцца ўвесь, а заіца няма. Ты зноў паказваеш яму на зайцавы сляды, гаворачы:

— Вазьмі! Вазьмі!

Што ён возьме? Ён браў гэты след. Заяц скінуў яго, гэты след, на вялікай дарозе, дзе сотні мацней-

шых пахаў ад машынных колаў, чым ледзь улоўны пах зайцавых лапак.

Заяц хітры. Ён заўсёды так робіць. Калі за ім гоніцца сабака, ён імкнецца выскачыць на вялікую дарогу, хаваючы гэтым самым свой след ад дурнога ганчака. Часамі нават урываецца ў вёску, свядома трапляе ў, здавалася б, самыя людныя месцы, як машынны двор або жывёльная ферма. Чалавека ён не баіцца, чалавек з голымі рукамі нічога яму не зробіць, а пакуль апамятаецца ды разважыць, зайцаў і след прастыў. Трэба ж урэшце неяк ратаваць сваё цёплае футра. Ды і мясам зайцавым не грэбуе той-сёй паласавацца.

Сабака асабліва хвалюецца, калі губляе зайцаў след, робіцца як апантаны, зусім не звяртаючы ўвагі на сваю знешнюю прыстойнасць. Падскочыць то задам, то перадам, пішчыць, і скуголіць, і глядзіць на гаспадара не то вінавата, не то бездапаможна.

А гаспадар? Што гаспадару? Гаспадару не трэба хвалявацца. Дастаткова таго, што ўведаў, што тут, у лесе, заяц ёсць, што можна будзе не сёння, дык хоць калі-небудзь натрапіць на яго свежы след, і сабака зноў язка заяхкае, ідучы па гэтаму следу. І загарыцца ў душы надзея і вера, што ты хоць калі-небудзь, ды ўбачыш яго жывога, гэтага самага зайца, і нават, прыцэліўшыся, возьмеш на мушку і бабахнеш са сваёй двухствольнай гарматы, ды так бабахнеш, што аж скаланецца ў мазгах, а наваколле перад вачыма засцелецца сінім, трошкі падобным на лясную зімовую сінь дымам.

Што: няма зайца? Не забіў? Трошкі збочыў. А можа, павысіў ці нават панізіў. З аднаго моманту не так лёгка папасці, тым больш у прадмет, які рухаецца з хуткасцю кулі.

Тут я хачу зрабіць маленькае адступленне ад тэмы, каб сказаць, як я аднойчы страляў у зайца. Было ўлетку, калі біць звяроў ніхто не б'е і наогул ніхто ніякім паляваннем не займаецца. Спакусіў мяне сам заяц, нібы рашыў пакпіць з мяне, што ніякі я не паляўнічы, хоць і трымаў стрэльбу, і ніколі яго, зайца, не заб'ю.

Жыў я на самым канцы вёскі, дзе адкрывалася поле, насупраць вокан лажок, за ім — лясок, і жыхары лесу зусім не звярталі ўвагі на тое, што я тут жыву,

вершачы свае маршруты як і вяршылі да майго пасялення на гэтым месцы, не думаючы, што я магу ўяўляць сабой нейкую небяспеку для іх жыцця. Надвячоркам, калі сонца вялікай жоўтай кружэлкай вісела ўжо амаль над самым лесам, упіраючыся праменнямі ў маю хату і яе вокны, з ляска па лажку пракандыбаў каля самай маёй стопкі на аблогу, якая была каля агарода, шэры вялікі заяц. «Ах ты,— падумаў я.— Гэтак? Я ж табе пакажу, калі ты і не бачыш таго, што тут жыве чалавек, якога ты, звер, павінен заўсёды за вярсту абыходзіць». На сцяне ў мяне ў хаце вісела аднастволка набітая, з пістонам на цыліндэрку. Я за яе і на двор. На дарогу, за стопку, дзе павінен быў быць заяц.

Тут. Сядзіць на травяной аблозе, круглым задам ка мне, нібы грэючы яго пад апошнімі праменнямі заходзячага сонца. Я стрэльбу к плячу, мушку ў проразь і ціскануў пальцам на спускавы язычок.

Заяц не крануўся з месца, і я падумаў, што трапіў яму ў самае, мусіць, сэрца. Раз звер не паспеў нават пачуць стрэлу і адчуць прадсмяротны боль. Мяне тут жа кальнуў уласны папрок: «Навошта?»

Калі ж я стаў падыходзіць бліжэй да свайго трафея, каб паглядзець, куды я трапіў яму (я страляў крокаў з дваццаці-трыццаці, не больш), заяц не вельмі прытка пакуляўся па аблозе ў поле. Я яшчэ прайшоў па яго дарозе ўслед за ім, уважліва ўглядаючыся ў аблогу, ці няма дзе пырскаў крыві, і прыйшоў да вываду: не папаў. Так, так, не папаў. Я, мусіць, спяшаючыся, ціскануў не толькі спускавы язычок, а і стрэльбу ці ўніз, ці ўбок, а заяц не рвануўся бегчы ад майго стрэлу бадай таму, што не ўспрыняў яго як сігнал небяспекі. Нехта каля будыніны хлопнуў дошкай. Заяц гэта чуў не раз. Так яму здалося.

Мне зрабілася лёгка, што зусім бясшкодна для зайца скончылася маё паляванне. Жыве ж у чалавеку чортава жылка: стрэліць, забіць! Яна, думаецца мне, ідзе з тых часоў, калі адзіным сродкам існавання для чалавека быў забіты звер або птушка.

Не бядуй, паляўнічы, што не папаў у зайца. Ы-ы, яго і біць не трэба. Скажы дзякуй лёсу, што ты пабыў у лесе і ўбачыў, каго можна было ўбачыць.

І дзякуй сабаку, які ўмее ўзяць след не толькі зайца, але і падыме ў цябе перад вачыма з снежнай

пячоры рабчыка або курапатку, скрыўленым вокам заўважыць на дрэве вавёрку, і яна будзе даверліва з сука глядзець на яго, а ён, сабака, будзе рэдка, вантробна, гаўкаць на яе.

На схіле нядоўгага дня, нягледзячы на мароз, ты адчуеш, што зрабілася так цёпла і ўтульна, быццам кожнае дрэва не дрэва, а каларыфер, з якога сыходзіць цяплынь, і захочацца прысесці і добра ўгледзецца ў зімовы свет, які вакол цябе.

Дзе прысесці? Можна рукавом вопраткі згарнуць снег з пянька і апусціцца на яго. Не, на ім засталася такая-сякая намаразь, і холад праз штаны пранікае да цела. Ты ломіш сушняк, кладзеш агонь і першым чынам пачынаеш грэць змакрэлае месца, якое дакранулася да пянька. Нагрэўшы, пачуеш, што і з нагой у цябе нешта не зусімнае. А-а-а, ты праваліўся, і ў халяву папала вада. Расце агонь, каля яго шмат сухога галля і яловы лапнік на ім, ты здзіраеш з нагі бот і сушыш мокрую анучу, падстаўляеш сапло халявы полымю, каб яно сваёй гарачынёй і ўсярэдзіне крыху падсушыла бот, і грэеш босую, расчырванелую ад вільгаці нагу.

Ты з усіх бакоў сухі, твар твой і рукі чырвоныя, проста лопаюцца ад гарачыні, перад полымем, і ты далей ад агня, як на пасцелі, бокам, на локаць, лажышся на лапнік. Вунь у верхавінах елкі тонка піўкаюць самыя-самыя маленькія сініцы. Есці хочуць?

І ты лопаеш па кішэнях або ўспамінаеш, што ў цябе ў сумцы, каб перакусіць на паветры. І ты з апетытам ясі, як ніколі не еў дома, вярней, у горадзе, ні ў рэстаране самага высокага класа, ні ў хатнім прыгатаванні. Рыбная кансерва ў тамаце, любой маркі каўбаса, нават звычайны зельц з храсточкамі — усё перамянілася, абнавілася, пераехаўшы ў новае месца, пасмачнела, і ты толькі цяпер, тут, у лесе, пачынаеш па-сапраўднаму разумець, якія ж неразумныя тыя гараджане, што ў свае выхадныя або святочныя дні імкнуцца захапіць столік у рэстаране або ў кафэ. Што там, акрамя звону талерак і пітных стымулятараў? Яны тут, у лесе, не трэба. Смешна, што нехта знаходзіць у іх, у гэтых стымулятарах, нешта такое...

А калі ты не забыўся прыхапіць з сабой добры кавалак звычайнага свінога сала, зрабі ўласным складанікам ражончык з сырога дрэва, накалі на яго

скварку і ў полымя. Як яна затрашчыць, як яна засквірчыць! Трымай у левай руцэ вялікую скібку хлеба і раз за разам вымай сала на ражончыку з агню і падстаўляй пад яго хлеб. Дзюрчом будзе бегчы з набухлай і пажаўцелай скваркі тук, толькі вадзі ёй, скваркай, па ўсім хлебе, па ўсёй скібцы. Такі пойдзе пах! Сабака зяўкне ротам і запішчыць, просячы хоць паспытаць такой небывалай ежы.

Які ж паляўнічы не пачастуе свайго адзінага памочніка і прыяцеля на паляванні — сабаку!

Так, у горадзе ёсць сабакі і ў тых, хто ніколі і не сніў пра паляванне. І трымаюць не ганчакоў і не здаравенных аўчарак, як паставых каля ўласных хатніх набыткаў, а знявечаных за доўгія гады свайго недарэчнага існавання рознай масці і фігурацый выжлікаў. Можа, чалавек створаны так, каб жыць у купе і ў суседстве хоць з якой жывёлінай? Карову ў гарадской кватэры не паставіш. І месца, і кармы, подсціл і гной... А маленькі, пакрыўджаны ад прыроды крывалапік хай жыве. У яго ж і вочкі, і вушкі, і чатыры ножкі, і такі-сякі хвосцік, і слізкі носік — чым не жывёліна? Не сімвал, вылеплены з гліны сабака.

Не скажу, што на неўзараным полі ўвосень зусім не цікава. Наадварот, на ўзараным менш цікава. Тут толькі ралля. Дзе з вывернутым жаўцяком, часцей — без яго. Можаш прасачыць па перавернутых доўгіх градках-баразёнках, роўна ішоў трактар з канца ў канец або пятляў, бо руляваў ім не вельмі клапатлівы чалавек. На неўзараным жа — сляды ўборачных машын, вышыня зрэзаў, стыкі кожнага захода пры камэнні, сляды жывёлы, тое, што яна пакідае пасля сябе, у прыватнасці каровы ці козы, ямачкі на голых, па невядомых прычынах, месцах, дзе купаюцца дробныя птушкі, ну і мышынае разнароднае жыццё, у якіх тут, як у звяроў у лесе, сваё царства. Тут уцалела такая-сякая травінка. Касілі, граблі, каровы даядалі тое, што не ўзялі нажы, а яна сухая, зжаўцелая, нейкім чынам паднялася і стаіць, схіліўшы набок махрыстую вярхушку. На неўзараным полі можна сесці, можна нават прылегчы, абапёршыся на локаць. І не таму, што ты стаміўся, а таму, што пад нагамі ў цябе чыста, акуратна, раслінная падсцілка, якая з вякоў прываблівае чалавека хоць на хвілінку зліцца з ёй. Ляжы, падпёршы бок локцем, і любуйся на-

ваколлем. Той вялікі сад, які ты толькі што перайшоў, зусім не так выглядае адсюль, як з боку вёскі. Здаецца сінейшым, меншым, скразным, быццам лазовым хмыразам. А вёскі амаль і не відаць за ім, толькі і бачыш сіласную вежу, вадакачку, сушылку-элеватар, двухпавярховы будынак школы. Самому не верыцца, што ў вёсцы, у якой ты пражыў столькі год, так шмат старых дрэў, за якімі і хат не відаць. Тут над табой праляцяць вароны, часамі крумкачы. Шастане чародка свойскіх галубоў, асцерагаючыся аднаго — коршуна з паветра. Чутна, як гудуць і гудуць на шашы машыны, мільгаюць у прасветах бярозавых прысад, і ад іх ходу, здаецца, пакалыхваецца пад табой глеба. А там — палявая дарога, у хмызняку па баках. На ёй зараз ціха, і хатка, што стаіць у полі каля яе, дзе захоўваюцца мяшкі з мінеральнымі ўгнаеннямі, адпачывае.

Не, поле — не толькі тое, якім ты яго зараз перад сабой бачыш, а галоўнае, што ты пра яго ведаеш, якім ты яго за шмат гадоў тваёй сувязі з ім адчуваеш. Ва ўсе поры года, ці на ім жыта, пшаніца, ячмень, авёс, грэчка, ці бульба, лубін, травы, яно прыгожае. Прыемна глянуць, калі яно ўзарана, забаранавана і ляжыць у маленькіх камячках, чакаючы сяўбы. А калі праб'юцца зялёныя зубчыкі ўсходаў, хто не схіліць галавы, не прыложыць шчакі да пульхнай і цёплай зямелькі за яе лагоднае і шчодрае мацярынства? А калі зробіцца скразным зялёным дыванам, быццам пад гэтай зелянінай і зямлі ніякай няма, а ёсць цёплае жывое цела, у якім бурліць кроў і тыхкае сэрца, калі гэты зялёны дыван пачне мяняцца ў колеры, густа цямнець, а тады жаўцець, наліваццa і спець і пойдзе хвалямі пад подыхам ветрыку з краю ў край, узрадуецца і ёкне сэрца. «Хаця б не засушыла, хаця б не пабіў град, не палажыла ніву бура і ліўні...» — пачынаеш хваляваццa кожнай жылкай сваёй душы, як хвалюецца кожным коласам, кожнай сцяблінкай поле, і думаць, і забягаць думкамі наперад, і вяртацца далёка назад, у мінулае. Полю няма канца, ні ў прасторы, ні ў часе. І няма меркі, якая б дакладна сказала, якое яно ў сваёй прыгажосці.

Ты на ім у лазовых лапціках, у падранай світачцы хадзіў пастушком, пасвячы авечак і свіней, першы раз узяўся за ручкі плуга і пайшоў босымі нагамі, вы-

сока закасаўшы штаны, па мяккай раллі за бараной, браў з сявалкі, пачэпленай на шыю, жменю за жменяй валавяных па сваёй вазе зярнят і рассяваў іх па ніве пад каманду сваёй левай нагі. Цябе палівалі дажджы на гэтым полі, рубца сухога не заставалася на табе, толькі злізваў з губ прэсныя кроплі дажджавой вады, якая цякла па твары. Над тваёй галавой грымеў гром, бліскалі маланкі і білі перуны, трапляючы часамі ў людзей і коней, на якіх працавалі. Ты тут жаў, ты тут касіў, звозіў на возе снапы. І ты тут убачыў першы трактар і першы камбайн. І тваёй радасцю тут быў першы калгас і першы крык адчаю, калі пачалася вайна. Поле!..

Люблю... Не, словам «люблю» не выкажаш свае адносіны да поля. «Люблю» гавораць часта, і не толькі жанчынам. Забываюць і не вяртаюцца. Перастаюць любіць? Так? Усё свядомае жыццё не магу, каб адвярнуцца і забыць, не прыйсці і не пахадзіць па полю, не паглядзець з канца ў канец, памаўчаць і падумаць разам з ім. Не магу. Нават лес, на ўсё багаты і прыгожы, не можа параўнацца з полем. Яго не ахопіш вокам увесь адразу, ён выстаўляе табе адзін толькі бок. А поле, як можа ахапіць вока, усё перад табой. Ці ўзгорак, ці лагчына, ці глінішча, ці так які кар'ер, ці роўнядзь, якая захапляе дых, да самага схілу сіняга неба,— усё перад табой. І які ўраджай — бачыш, і колькі торп саломы пасля камбайнавага жніва — таксама можаш палічыць.

Скажам, едзеш цягніком і глядзіш у акно. Праехалі лес, хай гэта будзе нават зманлівая тайга, і ты нічога не ўбачыў. Хуценька прабеглі, прамільгалі сосны, елкі, вечна зялёныя, цярплівыя і мужныя, гулка прагрымелі рэйкі пад коламі, і ты толькі і можаш сказаць сабе ў думках: «Та-а-к». А што гэтае «та-а-к»? Захапленне, здзіўленне, таямніцы вялікага лесу, якія і за ўсё жыццё, прачытаўшы горы кніг, не раскрыеш?

Скончыўся лес, і выехаў цягнік на поле. Адразу вакол пасвятлела. І ў вагоне, і на душы. Цягнік пайшоў больш марудна, цішэй, быццам у лесе было яму чагосьці страшна, тут — не, на полі ніколі не страшна. Разглядайце, пасажыры, якое яно. Ваша, дома, такое ці не такое? Разглядайце і параўноўвайце са сваім полем. Вунь вёска, хаты. Тут ані няма чаго ба-

яцца, гэта не ў лесе, дзе я бягу, спяшаюся, і сам не ведаю, чаго спяшаюся. Мусіць, паказаць вам новае поле.

Я пакідаю поле і, абагнуўшы нізіну, зноў вяртаюся ў сад.

Каля самай канавы пад лазовым кустом — пер'е. Тут адбылося сутыкненне супрацьлегласцей. Трагедыя для птушкі, якую з'елі, і радасць для таго, хто з'еў. Ходзячы па полі і ўзлессі, вельмі часта сустракаеш такія вось кучачкі пер'я. Аднаго не даводзілася бачыць: шкілета птушкі, якую з'елі. Мяркую, калі не памыляюся, драпежнік расправіўся са сваёй ахвярай тут, дзе валяецца пер'е, збольшага, а потым панёс здабычу ў больш зручнае для яго месца, дзе не трэба азірацца па баках, а няз'едзенае можна прыхаваць на наступны абед. Птушкі, як і многія звяры, не пазбаўлены кемлівасці рабіць такія-сякія запасы ежы, калі ёсць такая магчымасць, у прыватнасці, зоб поўны, і ніхто набытае не адбірае.

Я пачаў прыглядацца да пер'я, з якой жа птушкі было яно. Большасць белага. Сарока? Наўрад, бо сярод чорнага знаходжу шызае. Голуб. Сарочае было б адно чорнае. Іх тут у нас, свойскіх галубоў, больш чым курэй у вёсцы. Дзе якое пустое гарышча — яны і яны. Буркуюць на будынках, распускаюць крылы, дэманструючы разнастайнае сваё апярэнне, і цалуюць галубак у дзюбачкі. А па свайму апярэнню — і белыя, і шызыя, і сінія, і карычневыя, а часцей за ўсё — мешаніна розных колераў. Лясны голуб — той толькі шызы, або, як гавораць у нашай мясцовасці, сівалезы.

Зусім нядаўна было тое, калі мы ведалі толькі лясных галубоў, шызых. І вось новае: гарадскія галубы вельмі лёгка прыжыліся ў вёсках, і ім тут лепш, чым у горадзе. З ядой лягчэй, прастор, паветра. Праўда, калі б не коршун, якога няма ў горадзе.

Аднойчы я ішоў паўз машынны двор нашага калгаса, мінаючы двухпавярховы цагляны будынак, на гарышчы якога жыла ўжо досыць немалая, у некалькі пакаленняў, стракатая ў сваім апярэнні галубіная сям'я. Раптам у паветры над названай будынінай нешта моцна лопнула, нібы нехта вялікі страсянуў вялікую пасцілку. Я ўскінуў вочы ўгору. Чарада галубоў узвілася ўгору, а задніх і крайніх з

іх, кідаючыся то ў адзін, то ў другі бок, імкнуўся дагнаць коршун. Аднаго яму ўдалося адлучыць ад чарады і пагнаць у процілеглы бок, к дому, з даху якога галубы ўзляцелі. Хуткасць палёту ў коршуна была большая, чым у голуба, але калі драпежнік вось-вось насцігаў голуба і гатовы быў хапануць яго сваімі кіпцямі, голуб збочваў або кідаўся ўніз ці ўгору, і коршун не паспяваў на вялікай хуткасці манеўраваць за ім. Неўзабаве голуб юркнуў у акенца на гарышча, а коршун, злосны і незадаволены, паляцеў над домам зусім не ў той бок, куды паляцела чарада галубоў.

У думках я пахваліў голуба, што ён усё ж такі выкруціўся ад смерці (у чыстым полі, бадай, загінуў бы бедны гулька).

Што давялося мне бачыць аднойчы! Іду я гэтым самым садам, па якім зараз хаджу, не вельмі спяшаюся, але і не асабліва ўглядаюся, бо не на прагулку іду, а на работу. Раптам перад маімі вачыма цяжка, як бы з неахвоты, узлятае шэрая птушка, а з-пад яе нешта пабегла. Гляджу: курыца. Трошкі прабегла і села. Я да яе. Не ўцякае. Я бяру яе на рукі і бачу: на плячах паміж крылляў выдзяўбана вялікая ямка, яйка ўлезла б, калі б туды палажыць. Работа коршуна. Сядзеў на жывой курыцы і дзяўбаў. Есці жывую істоту. Нельга ўявіць сабе чаго-небудзь больш жорсткага. Вось гэта драпежнік! Ці можа быць да яго ў сэрцы хоць маленькая літасць? Воўк нашто ўжо грубы і бязлітасны, а жывую здабычу не есць. Задавіць, а тады ўжо, калі здабыча невялікая, з касцямі патрушчыць. Коршун жа есць птушак жывых. Крукамдзюбай вырываючы па частачках тканку за тканкай, орган за органам, пакуль не дабярэцца да пячонкі і сэрца.

Я не ведаю чаму, але птушка, трапіўшы ў кіпці коршуна, не крычыць. Гэтая курыца, пра якую я расказваю, не падавала ніякіх прыкмет жыцця, калі ён яе еў, не крычалі іншыя куры, калі ім на плечы садзіўся коршун. Яны кідаюцца ў лёт, уцякаюць і крычаць толькі тады, калі драпежнік з'явіцца ў паветры і нападае на іх, а ўжо ў лапах яго — як мёртвыя. Што гэта: шок, калі істота перад неадольнай небяспекай губляе голас, здольнасць рухацца і нават адчуванне болю?

Аднойчы ён напаў у маім садку на маіх курэй.

Іх крык мяне насцярожыў. Я туды. Куры пахаваліся ў кусты парэчак, а ён, коршун, спусціўся на зямлю, ходзіць сваімі брыдкімі жоўтымі нагамі-крукамі паўз кусты, каб заўладаць якой. Куры, як дурныя, глядзяць на яго, не крычаць і не ўцякаюць.

Таксама бачыў я, як ён лавіў сароку. Напаў на яе ў паветры, вынырнуўшы аднекуль з-за дрэў. Колькі разоў было, што вось-вось возьме яе, тым не менш яна выкручвалася ад яго і не надта ўлягала наперад, нібы сочачы за ворагам, калі і адкуль ён будзе нападаць, каб хіснуцца ў апошнюю долю секунды ўбок або ўніз, прапусціўшы драпежніка міма сябе. Зрабіўшы новы круг у паветры, ён, добра нацэліўшыся, зноў стралой пайшоў на яе, і калі я ўжо канчаткова рашыў, што буду сведкай развязкі гэтага паядынка (так, з боку сарокі гэта быў паядынак за жыццё), сарока робіць правал, нібы пад ёй не было ніякага паветра, уніз і падае ў кусты перад садам. Коршун не вярнуўся больш і не стаў шукаць, куды падзелася сарока, зразумеўшы, мусіць, што асноўная пазіцыя, з якой можна было ўзяць ахвяру, згублена, усе іншыя пазіцыі пры лоўлі птушак, акрамя як у паветры, яму супрацьпаказаны.

Прызнацца, шкадавання да сарокі, нават у самы крытычны для яе момант, у мяне не было, наадварот, мне хацелася, каб яна зведала ў сваім жыцці і такі боль, і такі страх, і такі канец, які яна прыносіць маладым птушанятам, не гаворачы пра шкоду, што яна наносіць птушынаму свету, крадучы з гнёздаў яйкі. Такая экалогія, калі б драпежнік паядаў драпежніка, мне па душы. Ты ясі, і цябе хай ядуць, а тых — мацнейшыя.

Не магу забыць, як з высокіх бярозавых могілак коршун выгнаў на чысты прастор маленькую птушачку і як яна, просячы паратунку, адчуваючы і чуючы набліжэнне сваёй смерці, крычала. У яе была яшчэ адна магчымасць: нырнуць уніз у зялёны бульбоўнік. Яна не паспела гэтага зрабіць, вельмі мала заставалася ў няшчаснай часу, каб што-небудзь прыдумаць і ўратавацца ад гурмана свежай птушаціны. Ён яе хапнуў сваім кручкам, ледзь яна пачала зніжацца ў паветры, і больш ні гуку. Тут жа каля могілак, сеўшы на шулу абгародкі, ён пачаў вышчыпваць з яе пер'е. Натуральна, яна была яшчэ жывая. Ён еў яе

жывую, як еў жывымі ўсіх птушак, якіх да гэтага лавіў і еў...

Колькі часу таму назад, калі дрэвы не былі яшчэ голыя, а толькі скідалі сваё лісце, я сядзеў на беразе нашай рачулкі ў тым месцы, дзе меліяратары яшчэ не кранулі яе. Плыла яна пакручаста па сенажаці, лес з аднаго боку, лес з другога. Вада ў ёй здавалася цёмнай, нават крыху чырванаватай, больш цяжкой і густой, чым бывае ўлетку. Над сенажаццю, над прылягаючым да яе лесам даволі высока ў паветры рабіў круг за кругам адзінокі коршун і пасылаў на зямлю сваё шчымлівае «кіў». Ён не стрымліваў сябе ў сваім плачы, як не стрымлівае чалавек, развітваючыся з нябожчыкам. Аб чым плакаў коршун? Настойліва, доўга, пакуль чорная пляцёнка яго кругоў не знікла ў далёкім асеннім небе. «Якое ў яго гора?» — падумаў я тады пра коршуна.

* * *

Чалавек не любіць няпэўнасці. Яна выбівае яго з нармальнага рытму жыцця, ломячы ўсякія планы, папярэднія разлікі, надзеі. Няпэўнасць і ў клімаце, як і ў жыцці, нязручная. Бо як жа ты абыдзеш прыроду, калі ты з ёй адно цэлае? Што яна табе пасцеле, на тым ты і ляжаш.

— Бывала,— расказвае дзевяностагадовы, зусім не сівабароды і не дзед, а дзядзька на аўтобуснай станцыі нашай вёскі,— прыйдуць пакровы — пачынаюць людзі свіней калоць на сала. У адным, глядзіш, канцы пішчыць, у другім, чуеш, запішчэла.

— Пакровы? — пытаюць маладзейшыя, якія зусім не арыентуюцца ў часе па рэлігійных святах.

— Пакровы... Гы — ганарыцца дзядзька, што ведае ў перакладзе на сучасную мову, калі пакровы.— Запомніце: заўсёды ў адно і тое чысло: 14 кастрычніка.

— Кастрычніка? — зноў здзіўленне, што дата даўно прайшла, што на дварэ ўжо канец лістапада.

— Кажу: 14 кастрычніка. Свіней людзі калолі ўжо, чынілі каўбухі, каўбасы, косці секлі і салілі, нічога не псавалася, не цвіло і не пахла. А гэта во закалі, калі на дварэ як у якім калодзежы,— ён махнуў рукой у бок акна, за якім было і цёпла і вільготна

і ніякіх прыкмет таго, што надвор'е ў хуткім часе пераменіцца.

— Дзядзька, я чула, што соль не такая была,— выказала сваю думку сярэдніх год жанчына.— Лепшая, казалі, соль была. Пасалі, і нічога не псуецца.

— Соль? — здзівіўся на гэты раз дзядзька.— Хто гэта табе такі разумны сказаў? Раней соль была салёная і цяпер салёная. Соль салодкай не будзе. Як раней з зямлі, з шахтаў, або з мора яе здабывалі, так і цяпер адтуль жа здабываюць. Як яна можа быць не гэткая?

— А я вас, дзядзька, ведаю. Вы з Жураўка. Пахомам вас завуць.

Дзядзька раптам пасвятлеў, павесялеў і адказаў:

— Бабы мяне далёка ведалі. На ўсю, як дастаць, ваколіцу.

— Праўда, дзядзька. І тыя, што ніколі не бачылі вас, ведалі. Вы самапрадкі рабілі.

— Во! — падняў ён угору перад сабой указальны палец і паглядзеў вакол сябе на людзей.

— Цяпер, мусіць, не робіце?

— Табе трэба яна?

— Самапрадка?

— Ну.

Жанчына павяла ўбок тварам і схіліла набок галаву.

— Во,— зразумеў чалавек, што не можа быць гаворкі ў цяперашні час пра самапрадку, як пра верацёны, пражу і кросны.— І так — кожнай. Каму ж я рабіць іх буду? А рабіў. І як рабіў! Самому не верыцца.

— Зараблялі, мусіць, добра, калі такая ахвота была рабіць,— уставіў нехта збоку.

Дзядзька ўсміхнуўся.

— Жыў, як цары даўней жылі. Цугам ездзіў. Цяпер каб вам такія заработкі, вы б у мой бок не глянулі.— Дзядзька смыкнуў плячамі, як бы падцягнуўся, рыхтуючыся да нечага больш рашучага і важнага, чым гаварылася тут, на аўтастанцыі, і пачаў: — Далатцы ўсякіх памераў: вузейшыя і шырэйшыя, стамескі, свярдзёлкі, пілкі і такія і гэткія, такарны станок, разцы да яго. А дрэва якое трэба было! Каб бяроза, ды сухая, каб пералетавала, ды добра пад бэлькай над духам высахла. Робіш не каму, а людзям,

не хочаш, каб слава пра цябе нядобрая пайшла. І ўдзень і ўночы скрыгаеш і скрыгаеш. На сябе паглядзець некалі было, не тое што каб выспацца ды ўслухацца, ці не баліць дзе што, як цяпер прыслухоўваюцца ды ойкаюць, у бальніцах парогі абіваючы.

— І нічога не балела?

— Во гэтак. Чаго яно будзе балець? Калі чалавек робіць, дык не будзе балець. У мяне і зубы свае. Жалезныя людзі ўстаўляюць. Страшна.

— Праўда?

— Глянь,— дзядзька разявіў рот і паказаў жанчыне свае зубы, праўда, жаўтаватыя, але цэлыя.

Ён быў у новай ватоўцы, у простых чорных штанах, у юхтовых ботах. Шапка-вушанка, з скразным рудым футрам.

— Куды вы едзеце?

— Куды... Трэба было на ранген (аўтобус прыходзіў, мяне дома не было), дык хвельчарыца наша праходу мне не дае. Адзін я з вёскі не прайшоў ранген, дык во еду. Баяцца, каб не захварэў.

— А праўда, дзядзька. Жывіце здаровым, навошта вам хварэць. Жыць добра.

— Што добра, то добра. Падпасачка наняць на адзін дзень, радоўку за карову адбыць, дык плоціш пяць рублёў, і гнаць ніхто не хоча. Пяць рублёў! А ведае ён, каторы, што такое пяць рублёў? Кіло хлеба ў магазіне 16 капеек. Цяпер лічы: што такое пяць рублёў. Гэта два пуды і больш хлеба. За дзень. І корміш яго, і ў торбу на абед не ведаеш, што даць, каб улагодзіць.

— Праўда,— пацвердзіла жанчына.

— Не казаў бы, каб няпраўда. Даўней такога падпасачка на ўсё лета, ад снегу да снегу, браў гаспадар за тры пуды. А цяпер за лета, ходзячы ў падпасках, колькі б можна было зарабіць? Слоў няма, добра жыць. Дарасламу не сорамна б у падпасках хадзіць.

— Пастухі цяпер у дзіфіцыце. А як вы думалі. Настаўніка лягчэй знайсці, чым пастуха. Настаўніка з раяна прышлюць. А пастуха? Род іх неравёўся,— умяшалася другая жанчына, кірпатая, у вязанай сівой хустцы, у плюшаўцы, сур'ёзная. Сказала і зноў глядзела ў акно, на шашу, па якой снавалі машыны, на голыя галіны бярозавых прысад, між якіх вісеў

туман. Сур'ёзны чалавек лішняе не гаворыць, такі быў выгляд у жанчыны.

— Рабіў я самапрадкі. Вы толькі пералічыце, што ў ёй: кола, стойка, ножкі, шпуля, спіц адных у коле, сабачка... А кожнае вытачы, вымайструй, выслізжы, пафарбуй, давядзі, каб нічога не скрывілася, не пера-касела. Тры пуды мы бралі за самапрадку. Што гэта па-цяперашняму? А каму і дзешавей аддасі. Ведаеш, што ў чалавека няма. А без самапрадкі як было жыць?

Дзядзька Пахом выцягнуў уперад галаву, убачыўшы за акном аўтобус, і падняўся з лаўкі, сказаўшы пры гэтым:

— Наш.

Ужо амаль у дзвярах, выходзячы на пасадку, дадаў як бы самому сабе:

— Зімы ў гэтым годзе да Новага года не будзе.

Я не пайшоў на двор услед за ім, бо чакаў аўтобуса ў супрацьлеглы бок, мне трэба было з'ездзіць на лесазавод, дзе можна было дабыць у любую пару года такіх-сякіх драўляных абрэзкаў на паліва, я толькі падумаў сам сабе: «Да Новага года зімы не будзе. Чаму? Адкуль такая ўпэўненасць? Сіноптыкі ў сваіх прагнозах блытаюцца, як малады заяц у канюшыне, а тут нічога пад рукамі і такая прадбачлівасць».

Я шмат сустракаў такіх дзядзькоў, дзядоў, якія метка стралялі ў надвор'е на цэлыя месяцы ўперад, і тым не менш ніколі не ўгадвалі. Я ахвотна слухаў іх, калі яны ўспаміналі мінулыя гады, і смяяўся, пацяшаўся, як з дзяцей, калі спрабавалі нешта ўгадаць наперад.

Так было. Было і тое і другое. Было, калі снягі былі такія глыбокія, што, акрамя як на лыжах, чалавек не мог ісці ні па полю, ні падацца ў лес. Як шамнеш нагой, дык і не выцягнуць яе, змяніцца няма як. А калі так-сяк і выцягнеш, дык зараз жа другой увязнеш, яе цяпер выцягвай. Бокам каціцца?

Але людзі чамусьці бокам не каціліся, не даводзілі сябе да такога выключнага становішча. Станавіліся на лыжы. Праўда, лёгкія асінавыя або кляновыя лыжы з загнутымі насамі былі не ў кожнага, пра іх трэба было клапаціцца з лета, падбіраючы, сушачы і выгінаючы адпаведнае дрэва, на што былі здольныя толькі заўзятыя паляўнічыя. Большасць жа мужчын,

у выпадку неабходнасці, бралі дзве сухія дошкі, закруглялі ў іх канцы, прапякалі шылам дзіркі ў гэтых канцах, уцягвалі аборкі ў дзіркі — і лыжы. За аборку падымаўся ў момант пасоўвання нагі ўперад нос адной лыжыны, потым — другой, і едзь хоць на край свету. Шырыня і даўжыня такіх лыж магла быць любая, чалавек сам вызначаў гэтую мяжу, каб не правальвацца, а зусім спакойна і ўпэўнена перамяшчацца па снежнай роўнядзі. О, колькі я паездзіў на такіх лыжах, і за табой амаль ніякай лыжні, не тое што цяперашнія фабрычныя, на якіх ездзіць толькі па цвёрдай дарозе, а не па цаліку.

На конях у лес ездзілі толькі па самых галоўных дарогах, дзе снег убіваўся кожны дзень мноствам саней і конскіх капытоў. Такая дарога к сярэдзіне зімы падымалася значна вышэй сярэдняга ўзроўню снежнага мора і ніколі ўжо не замяталася мяцеліцай. Затое размінуцца дзвюм сустрэчным фурманкам на ёй было не проста. Конь, які павінен быў збочыць, неахвотна пагружаў пярэднія капыты, нібы ў ледзяную ваду, у калючую снежную мешаніну, потым правальваўся ў яе да самага пуза, да хамута ўвесь, плыў колькі метраў паўз крутую сцяну дарогі і нарэшце з вялікім напружаннем і спрытам, абарачваючы сані (гаспадар павінен быў трымаць іх за намаражню, каб не абярнуліся), уздзіраўся на яе, як на якую скалу.

У такія зімы дровы секлі ў лесе пераважна каля дарогі, і пераважна бярэзнік, бо бярэзіна і сырая, дробна паколаная і ўкінутая нанач у печ, добра гарэла і давала шмат жару, частку якога трэба было занесці ў стопку, каб бульба не памерзла. Сушнік з глухіх лясных месц даставалі толькі рослыя, сярэдніх год мужчыны, топчучы дарогу ў патрэбны бок самі, а потым ужо, па пратаптанаму, накіроўвалі каня, запрэжанага ў сані-дрывотні. Часамі два-тры разы трэба было траляваць адтуль звычайны воз дроў на вялікую дарогу.

Зайцы не бегалі па полю, як любяць бегаць звычайна, спісваючы яго карункамі сваіх слядоў, бо тапіліся ў снезе, а ежы ніякай так і не знаходзілі. Найбольш пранырлівыя пранікалі цераз людскія дарогі ў гумны, дзе можна было здабыць саломіну, сеніну, бадыліну канюшыны. Але і ў гумне зайца чакала не-

прыемнасць за непрыемнасцю. Уранні прыходзіў гаспадар калаціць каровам трушанку, браць каню і авечкам сена. У яго ў руках былі граблі, двухраговыя драўляныя вілкі, усе закуткі ў сваім гумне ён добра ведаў і аглядаў, каб не было чаго-небудзь нежаданага, і натуральна, след зайца ніяк не мог заставацца незаўважаным. Я быў малы, але добра памятаю, як мой старэйшы брат прынёс з гумна марозным ранкам шэрага беланогага зайца, забітага граблямі ў сенніку, куды ён залез з голаду. Некаторыя цягнулі за сабой у гумно не толькі саначкі, на якіх вазілі самацягам корм жывёле, але і вялі сабаку. Вот тут беднаму зайцу было хоць на месяц скачы — гаспадар, сабака, платы, вароты, у полі снег, заяц гэта ведаў, гону не набярэш, і ён ляцеў як куля, дарожкай з гумна на гаспадарскі двор, вырываўся праз якую-небудзь дзірку на вуліцу і імчаўся па вёсцы, уцякаючы ад крыкаў людзей і гаўкання сабак.

Цяжка было звярам у такія снягі. Ваўкі ўночы ішлі ў вёску і бадзяліся па ёй да самага рання, цярпліва чакаючы, калі выскача ў дзірку з-пад варот які-небудзь дурны сабака і ўляжа за адным з іх, пакуль другі не накрые бяздумнага смельчака ззаду. «Ай-яй-яй, ай-яй-яй»,— шмат у якіх хатах пачуюць праз заледзянелыя вокны сабачы прадсмяротны лямант. І шкода зробіцца гаўкі, як чалавека, ды ваўкоў не дагоніш, недзе зусім блізка за вёскай пакінуць яны ад вернага служкі невялікае крывяное качавішча і рэшткі таго, што было ў сабачым каўбуху. Ваўкі падмацаваліся і цяпер дзён колькі будуць ляжаць у густым лясным зарасніку, слухаючы прыемную густую цяплынь у жыватах і ва ўсім целе. Толькі б паляўнічыя не натрапілі на іх след, не абышлі і не абклалі з усіх бакоў, не пачалі галёкаць, свістаць, біць палкамі аб гулкія камлі дрэў. А лепш за ўсё, каб во зараз пад раніцу мяцеліца і затынкавала, загладзіла на снезе ўсе сляды і дзіркі. У вёсцы сабак шмат, гэтага, што з'елі, людзі забудуць хутка, а гаспадар выгадуе за лета сабе новага (шчанят хапае, іх нават, лішніх, топяць у копанях), якога наступнай зімой зусім будзе дастаткова на снеданне двум ваўкам.

Здаралася, што гаспадар, пачуўшы якатанне свайго сабакі, падхопліваўся з пасцелі, змахнуўшы з сябе дзяругу, хапаў на бягу кажух і паспяваў яшчэ

выскачыць праз усе дзверы і запоры на вуліцу, апякаючы аб снег босыя ногі, але не было выпадку, каб воўк кідаў тое, што трапляла ў яго зубы, іначай не было б прыказкі: «Вырвеш, як у ваўка з зубоў».

Помню, як у адну з снежных зім, мужчыны, дагледзеўшы жывёлу (тады яшчэ жылі аднаасобна) і паснедаўшы вялікімі драўлянымі лыжкамі з агульных, адна на ўвесь стол, гліняных місак, сабраліся на гурбе, вышэйшай за плот, і глядзелі ў адзін бок, на поле, дзе сядзеў недалёка ад агародных платоў нехта руды, нехта ладны, воўк не воўк, сабака не сабака, і глядзеў мордай у вёску. Калі воўк, дык чаму ён не баіцца людзей, не ўцякае, калі ж сабака, дык чаго ён там — набеглы, шалёны? Мужчыны доўгаваражылі, і воўк-сабака з месца не скранаўся, быццам, абліты вадой, змёрз у такой паставе і будзе стаяць усю зіму, пакуль не прыгрэе сонца і не расплавіцца пад яго праменнямі і снег, і лёд, і ўсё, што скоўваецца марозам.

Гэта быў воўк, прыкуты да вёскі голадам. Відаць, ён усю ноч хадзіў па вуліцы, але ў яго не было ні сябра-загоншчыка, ні сябра ў засадзе, і паласавацца сабачынай яму так і не пашанцавала. І вось ён, глытаючы сліну, сядзеў воддаль ад вёскі і, не зважаючы на людзей, вечных сваіх ворагаў, чакаў... Чаго? Пакуль якое-небудзь зялёнае шчаня, падбадзёранае людскім «кусі», падбяжыць да самай воўчай ляпы і застанецца толькі праглынуць яго?

Збегалі да паляўнічага Ахрэма і сказалі яму, што ці не воўк сядзіць на полі за агародамі. Ахрэм, як і ўсякі паляўнічы ў такіх выпадках, не марудзіў і, ускінуўшы стрэльбу на плячо і цягнучы лыжы на аборцы, неўзабаве быў на гурбе каля мужчын. Але як толькі ён, глянуўшы на воўка, стаў на лыжы і аддзяліўся ад мужчын крокаў на некалькі на агарод, звер падняўся на чатыры нагі, стуліўся, прыгнуўшы галаву, нібы адчуўшы ўсёй сваёй поўсцю, што ў яго зараз будуць страляць, і стулепы, крыва, бокам, працуючы пярэднімі і заднімі нагамі, якія правальваліся ў снег, падаўся ў поле, далей ад вёскі.

— Порах пачуў,— рашылі мужчыны.— У яго нюх востры.

— Не порах. Дзе той порах. Стрэльбу ўбачыў. Яму ж відаць: над плячом тарчыць.

— Можа, і ўбачыў. Стары, бачна, хітры.

— Ды не. Яны пад старасць, ці воўк, ці дзік, як п'яныя. Адбіваюцца ад ганні ці чарады і цягаюцца абы-дзе, хоць паленам па галаве бі.

Быў у нас сабака Жук. З выжлаў, чорны касматы, бліскучы, бліскучы, вочкі разумныя, карыя, як у чалавека. Жывы і вёрткі, хлеб хапаў, як падкінеш угору, у лёце. Калі брэша на чужога, дык глядзіць на яго ногі і меціцца, каб укусіць за іх. Без гаспадара, гэта значыць, нашага бацькі, жыць не мог і знаходзіў яго па слядах, па паху, куды б той ні пайшоў. Спаў ён у пуні, дзе стаяў конь, на вуліцу і на двор уночы не мог выбягаць. Недзе за поўнач, пасля другіх пеўняў, бацька, як і заўсёды, пайшоў палажыць каню свежага сена. Коней раней кармілі часта. Патрошкі, але часта: увечары на прыцемку, потым перад сном, нарэшце ўночы, як я ўжо сказаў, і ўранні. Калі бацька адчыняў канюшню, Жук на некалькі часу, пакуль гаспадар перакінецца словам-другім з канём і дасць яму сена, выскачыць на двор і абнюхае яго. На гэты раз малы злюка так заліўся каля варот, што аж стаў папярхацца, нібы на вуліцы за варотамі нехта стаяў і дражніў яго. Бацька адчыніў варотцы на вуліцу, выставіў з-за шулы галаву і крыкнуў:

— Кусі, Жук!

Жук мільгануў чорным клубком між бацькавых ног на вуліцу і, адчуваючы ззаду ў сябе моцную падтрымку чалавека, з усіх ног памчаўся за тым, хто толькі што стаяў за варотамі.

Бацька не бачыў, як воўк хапаў Жука. Пачуўшы, як сабака спачатку ненатуральна піснуў, а потым тонка і баязліва заякатаў, зразумеў, што тут стаяў іменна ён, воўк, і так зладзюга ашукаў чалавечы розум, што і прыдумаць чаго-небудзь хітрэйшага нельга было.

За воўкам не пабег, стаў як укапаны, пакуль зусім не знік голас сабачкі і не перасталі брахаць па сялу іншыя сабакі. Толькі, казаў, на плячах пад кажухом выступіў пот, а па скуры галавы прайшоў калючы холад.

Пасля Жука добрага сабакі ў нас так і не было. Памятаю аднаго мутна-чорнага, вялікага, таўстамордага, цельмаватага, які на каго б ні брахаў, дык брахаў у неба, быў заўсёды падхлябісты, нібы яго ніхто

ніколі не карміў, нават за катом не мог па-сабачы рванудца. Падкінеш яму хлеб угору, дык ён праўдзе яго вачыма ў паветры і потым пачне шукаць долe, дзе ён упаў. Добры і разумны сабака — знаходка. А дзе ты набярэшся тых знаходак?

Нешта прыкметнае з сабачай эліты папалася мне было пазней, калі я стаў ужо самастойным гаспадаром, меў свой двор, карову, усё астатняе, што павінен мець вясковы жыхар у сваім займішчы, каб жыць нармальным незалежным жыццём і не пабірацца па радні ці суседзях. Зрабіў з дошак добрую будку, наслаў сухога, з дымнай вясновай прэллю сена ў ёй і зачыніў мяккага рудзенькага, з кароценькай мордачкай і невялікімі вушкамі сабачку. Адлучаны ад маці, яе малака і такіх жа цёпленькіх і мякенькіх, як сам, братоў і сясцёр, ён тры дні без перапынку якатаў, спадзеючыся, што нехта павінен пачуць ні ў чым не вінаваты яго голас, зняць з яго, малога сабакі, няволю і вярнуць у сваю сабачую сям'ю. Пасля, перанудзіўшыся і добра схуднеўшы, пачаў са смакам есці і дурэць са сваім рудым хвастом, насіць у зубах розныя палкі, атопкі і рыззё і лавіць за хвасты курэй.

Сабака вырас адменны, нібы нідзе не было ў яго ніякай радзімы, акрамя майго двара, узышоў, як грыб, на ім і вырас. Поўсць кароценькая, прыемна было гладзіць яго ці па спіне, ці па мордзе, пачынаючы ад пысы і аж за вушы. Жук наш любіў лізацца са сваімі, у твар лізне, за рукі, калі яго гладзілі. Гэты — не. Не вылузваўся і не шчыраваў, калі яго гладзілі, наадварот, нібы хаваў сорам у сваіх зеленаватых вачах, што яго гладзяць, хутчэй імкнуўся вызваліцца ад таго, хто гладзіў, адыходзіў убок і не думаў, каб падняцца пярэднімі лапамі на грудзі гаспадара.

Перад суседзямі, перад знаёмымі, якія хадзілі часта да мяне, хвастом не махаў, не лашчыўся да іх, не ішоў ні на якое збліжэнне, не тое што каб выпрошваць хоць які пачастунак. Скібка хлеба ўранні, скібка ўвечары — такі быў яго паёк у мяне. А гладкі быў. У целе і ў сіле.

Чужы кот на двары не патыкайся (свайго не чапаў). Аднойчы высунуўся з частакола якісьці шэры, з худымі каленямі ног і пачаў блізарукімі кацінымі вачыма разглядаць, куды яму ў чужым двары падацца. Руды (так мы звалі свайго сабаку) адным, як

тыгр, прыжком накрыў бадзягу, і ў таго толькі косці хруснулі ў грудной клетцы.

Наступнай вясной, зрабіўшыся ўжо сталым сабакам, улёг на пасту за каровай. Ні да пастуха, ні да падпаскаў не ішоў, не глядзеў на іх і не вымальваў у час абеду яды ў іх. Пастух не мог цкаваць ім кароў, калі каторыя вярнулі ў шкоду або адбіваліся ад чарады. Руды не наймаўся і не прадаваўся. Увесь дзень ён трымаўся каля сваёй каровы, ці ляжыць, ці стаіць каля яе. Іншых кароў не чапаў, не брахаў на іх, не цургаў за хвасты, і яны не баяліся яго і не настаўлялі яму сваіх вострых рагоў.

Прызнацца, такая ўвага сабакі да каровы з свайго двара здзіўляла. Такіх выпадкаў у нашай мясцовасці я не назіраў. Бывае, што сабака здружыцца з пастухом (не свой, чужы) і дзень пры дні служыць яму. Але такі служака не хоча ведаць, чые гэта каровы, свае ці чужыя, брэша на любую, на якую пакажа пастух.

Вяртаецца ўвечары з паствы чарада кароў, чорных, рабых, сівых, каўбатых і падгалістых, таўстарогіх, як валы, і розных па сваіх вымях і хадзе, часта няўклюднай. Недзе ўперадзе чарады, з высока паднятай маленькай у параўнанні з тулавам галавой, упрыгожанай двума чырвонымі вушкамі і паднятымі над імі паўкругам тонкіх рагоў, шырокім упэўненым крокам, зусім не ляскаючы капытамі, ідзе аднамасначырвоная мая Майка. Ці трошкі ўперадзе, ці амаль побач бяжыць трухам у чарадзе Руды, з тонкай невялікай мордачкай, з закручаным хвастом, з гладкай поўсцю на круглым тулаве — карціна, а не сабака. Калі ж апярэдзіць карову, спыніцца і пастаіць хвіліну, азіраючыся, пакуль тая падыдзе.

Мне сказалі:

— Навяжы, а то заб'юць.

Забілі.

Я спрабаваў узяць яго на ланцуг, не даўся. Мне, гаспадару, не даўся. Не даўся нават папружку на шыю надзець. Шкода сабакі, з характарам быў, ды што зробіш!

Сабак у нас, можна сказаць, і не навязваюць. Рэдка хто. Людзей, якія трымаюць у сваіх дварах сабак на ланцугу, калі сказаць па шчырасці, быццам і

не любяць, то жартам, а то і зусім усур'ёз называючы рознымі, не заўсёды бяскрыўднымі мянушкамі.

Я помню зімы не толькі занадта снежныя, але і зусім, можна сказаць, маласнежныя, амаль бясснежныя. Груда, калі зямля ўмацавана невялікімі марозікамі, і ні сняжынкі да палавіны студзеня. І помню студзень, калі грымеў гром і людзі, замест саней, пачыналі ладзіць калёсы, верачы ў тое, што цыган пасля каляд (сярэдзіна студзеня) прадае кажух. Таксама помню часы, калі снег зусім прападаў у пачатку лютага і не лажыўся болей, хоць з дня на дзень чакалі яго, бо патрэбна была санная дарога.

Наіўны Пахом з Жураўка напэўна сам сябе за локаць шчыпаў, калі, выйшаўшы ўночы на двор 1 снежня, пераканаўся, што прыйшла зіма. Па календары, як і павінна прыходзіць. Сімвалічна-дакладна.

Кожны дзень мароз узмацняўся, кожны дзень патрошкі таўсцела снежная коўдра, і літаральна на вачах сталі рэкі, нават такія вялікія, як Бяроза, паехалі людзі на санях, падвязалі дзеці канькі і размялі сабе каўзель, набылі цану кажухі, валёнкі, рукавіцы, і ахнулі са сваімі прагнозамі сіноптыкі, бо зусім не ўгадалі ў сваім месячным прагнозе надвор'е ў снежні. Мароз узяў уладу адразу, усёй сваёй сілай, вышэй трыццаці.

Сіноптыкі апраўдаліся, тлумачачы, адкуль і чаго прыйшоў мароз, і нават глянулі ў сінаптычныя архівы за некалькі дзесяцігоддзяў і пацвердзілі, што такіх маразоў у адпаведны час не было... Уй, не было, а выскачыў і ўладарыць, і ў нашай вёсцы пазамярзалі ўсе калонкі з вадой, і людзі загрымелі круцёлкамі калодзежаў, зліваючы з іх застаялую, зрудзелую за лета і восень ваду, і кароўнік, як сярод пустыні, раптам апынуўся без вады.

Я гавару з нашым калгасным аграномам, які лепш за мяне памятае імперыялістычную і грамадзянскую войны, бо трошкі старэйшы за мяне, удзельнічаў у фінскай 1939 года і ў Вялікай Айчыннай вайне. Ён ведае зімы розныя, цяжкія і лёгкія, падводзіць пад іх свае высновы, як чыста практычныя, так і тэарэтычныя. Зіма і павінна быць зімой, сур'ёзнай і прынцыповай, як мужчына, а не плаксівай бабай, з адлігамі і непатрэбнымі перападамі тэмпературнага рэжыму. Калі адразу мароз, зямля прамярзае грунтоўна

і рунь спыняе свой рост у дужым стане. Добрая ж снежная коўдра, пасланая на такую зямлю, без адліг, гарантуе выхад азіміны на вясну ў выключным выглядзе, бо яна не пападпрэла пад лёдавай скарынкай, ветры на галашчоку не агалілі яе кволых карэньчыкаў, не паспела растрэскацца глеба. Як аграном ён аддаваў перавагу азімым перад усімі астатнімі культурамі. Можа, прынамсі, таму, што іменна толькі з іх, з жыта, людзі атрымліваюць сапраўдны хлеб, жытні хлеб, якому няма роўні сярод самых лепшых булак і ўсіх кандытарскіх выпечак.

— Зімовыя адлігі нічога чалавеку, акрамя шкоды, не даюць. Яны яго ашукваюць, расслабляюць і ўрэшце нясуць грып, прастуду.

Аграном за стабільную, моцную снежную зіму, да якой чалавек, не чакаючы ніякіх паслабленняў, прывыкае і па-даросламу прызвычайваецца супрацьпастаўляць сябе холаду.

Я разумею яго, ён думае пра жыта. Аграном ведае, што гаворыць, бо трэба ж некаму ведаць і быць прынцыповым у ацэнцы з'яў прыроды, зыходзячы з агульналюдскіх меркаванняў, а не з таго, што ў некага няма кажуха або валёнак.

Быў час, і ў мяне не было ні кажуха, ні валёнак, і я сядзеў усю зіму босы, голы, у адных зрэбных штанах і ў такой жа сарочцы, зрэдку прахукваючы цёплым паветрам з рота капеечную дзірачку ў акне, затынкаваным тоўстай белай намараззю.

Нам казала наша маці, малым дзецям:

— Не сядзіце каля акна, галовы забаляць.

Галовы нашы балелі, калі мы доўга сядзелі каля акон, гэта праўда. Але, як я пасля зразумеў, не ад чаду, а ад холаду, мы проста прастуджваліся, бо тэмпература каля акон была не бог ведае якая, вада ў вядры, якое стаяла на лаўцы, каля акна, насупраць печы, замярзала. Захочаш напіцца, возьмеш за вушка кубак, хоп у вядро, а там лёд. Асабліва ўранні, пасля ночы, калі і мароз большы, чым удзень, і ваду доўгі час ніхто не чапаў.

Калі ж на дварэ мароз слабеў і шыбы нашых вокнаў пачыналі ў верхніх частках праясняцца і памаленьку вызваляцца ад намаразі, я хапаў з качарэжніка шырокую драўляную лапату ў рукі і бег на двор пагарэзіць з гурбамі снегу, босы, зусім голы, як быў

у хаце. І ваяваў там са снегам да таго часу, пакуль не пачынала нясцерпна калоць у ногі. Ніхто не папярэджваў мяне, што прастуджуся або захварэю, не крычаў, каб хутчэй вяртаўся ў хату. Жартавалі толькі:

— Што, пасаліў ногі?

А нагам было па-сапраўднаму «салёна», калола ў самыя косці, хоць было крычы, толькі я не крычаў, бо мяне ніхто не шкадаваў, што маім нагам сцюдзёна, ніхто мне не спачуваў, наадварот, з мяне смяяліся, быццам я выдаю сваю невыноснлівасць і несур'ёзнасць.

Добра помню паездку ў лес зімой па дровы са старэйшым братам. Я абуў лапці, пад анучы падвярцеў такія-сякія суконкі, каб не памарозіць пальцы ног. Світка ў мяне ўжо была свая, перашытая са старой світкі дарослых. Я яе апрануў, паддзеўшы стары матчын каптан, падперазаўся, разы два абкруціўшы вакол сябе саматканы вузкі пояс. Шапка-вушанка, старая, штаны тыя ж, зрэбныя, адны. Рукавіцы, абшытыя старой суконкай. Зімой ехаць на санях па снежнай дарозе прыемна. Застаялы доўгімі начамі ў пуні конь бяжыць і па вёсцы, і па полі ахвотна, не чуючы за сабой ні саней на кляновых палазах, ні двух седакоў на іх, мяне і старэйшага майго брата. У нас ахапачак сена, якое мы паложым каню пад морду, пакуль будзем рэзаць на дровы якую-небудзь сухастоіну, піла, тапор, уткнуты лязом у шчыліну пярэдняга воза, і вяроўка, каб увязаць потым дровы. Брат правіць канём, трымаючы ў руках звітыя ў тры столкі з пянькі лейцы, стоячы на каленях на сене, я ззаду і трошкі з боку ад яго, каб бачыць каня, як ён бяжыць, і дарогу, па якой бяжыць. Хамут са скураным вяршком на лямцы, раменныя падгузы і сядзёлка з раменным церассядзельнікам, скрыпучыя сырамятныя гужы, закручаныя на аглоблях, круглая дуга з вербалозіны ўвесь час не выходзілі з майго поля зроку, і я бачыў і разумеў, што яны добра нацягнуты, змацаваны належным чынам, і мы толькі таму і не баімся пускаць каня на ўвесь яго бегавы крок, што ў нас моцная і правільная вупраж. І разумеў, што заверты ў нас у санях таксама належныя, амаль з новых вяровак, таму не парвуцца, і аглоблі з іх не выпчаўкнуцца, брат правяраў іх, і аглоблі, і заверты, перад

тым як запрагацца. Я назіраў за братам і зразумеў тэхніку гэтай праверкі і ўвесь парадак запрагання каня. Во, бачыш, конь бяжыць, і дуга на гужах не хлямне, аглоблі не вагаюцца ўніз-угору, а што снег, зрываючыся з капытоў, ляціць на перадок саней і часамі трапляе аж у вочы нам, няважна, бо конь бяжыць хутка. А ў душы такое салодкае адчуванне, нібы плывеш на якім судне па снежнаму мору!

Стоячы каленямі на сухім сене, я чуў, што я ў адных зрэбных штанах, што праз іх лёгка пранікае холад да самай скуры маіх лытак, ікраў і сцёгнаў, і быў рад, што еду ў лес, і на дробязі не мог звяртаць увагі.

У лесе цішэй стаў бегчы наш конь. Брат відавочна стрымліваў яго, нацягваючы лейцы. Ведама, дарога тут не такая простая і відная, як на полі, тут павароты, крукі і розныя аб'езды. Тут трэба і па баках уважліва глядзець, раптам дзе сухастоіна з-за дрэў адкрыецца і трэба будзе паставіць каня, абысці яе кругом, топчучы снег, і абстукаць тапаром, як яна гучыць, цесануць, ці не гнілая. У лесе зусім пацяплела, я нават перастаў чуць, што я ў адных зрэбных штанах (а можа, кроў мая разагрэлася?). Конь быццам запараваў, над галавой і густагрывай шыяй была відаць пара. На сядзёлцы, я толькі тут, у лесе, убачыў, жоўтыя медныя дужкі, праз якія прасоўваўся церассядзельнік, і такія ж накладкі, каб сырыца шмулявалася іменна аб іх, не аб скураны верх сядзёлкі. Брат нічога мне не казаў, і я маўчаў, нічога не пытаў у яго, быццам гаварыць тут было па нейкіх прычынах забаронена, трэба было слухаць і ўглядацца ў высокія сосны з узнятымі ўгору сукамі і цёмныя, не менш высокія елкі, сукі якіх, прысыпаныя цукрыстым снегам, звісалі ўніз, утвараючы пад сабой павець. І трэба было бачыць зусім-зусім голы асіннік, і ў чорным крывым суччы алешнік, і ў пацерках пупышак, якія аж сукі нагіналі, белацелы бярэзнік. І ў гэтым лясным маўчанні я чуў часамі, як скрыпелі сырамятныя гужы ў хамуце, недзе аж у клешчах і ў хамуціне, сплеценай з балотнага мячэйніку і моцна прыкручанай аборкамі да клешчаў, і як на паваротах шорхаўся белы кляновы полаз аб снег узбочыны. І трэба было бачыць пні з высокімі белымі шапкамі-стаўбунчыкамі. Варта было намаляваць ніжэй шапак вугалём вочы, нос, рот, закругліць бараду, і гатова

нявыдуманая фігура, не то дзед-мароз, не то жабрак-казачнік з якой-небудзь казкі.

Брат нарэшце з калень апусціўся на сані бокам і пацягнуў за правую лейчыну. Конь нырнуў, як у якую будыніну, пад вецце вялікай елкі, і я ледзь паспеў прыгнуцца, каб не шарханула мне лапнікам па вачах.

Праехаўшы колькі лесам па цаліку, мы паставілі каня, падкінуўшы яму сена, а самі ўзялі пілу і тапор і пайшлі да дрэва, якое павінны былі зрэзаць. Снег быў не вельмі глыбокі, мне па калена, але шчыльны, ісці па ім было цяжкавата. Я стараўся пападаць у сляды брата, хоць адной нагой пападу ў яго след, а другой у цалік, і то лягчэй.

Брат абтаптаў ствол сухой елкі, глянуў угору, на яе суччa, на вышыню, тады на каня, ці не дастане яна яго, калі паваліцца, плюнуў сабе на левую руку (ён здзеў рукаўкі, каб ямчэй было трымацца за ручку пілы) і сказаў мне:

— Давай,— маючы на ўвазе пілу, якую нёс я.

Мы пачалі пілаваць дрэва з пня. Камель быў зверху сухі і цвёрды, як жалеза, піла доўга дыркала, не хацела ісці ў рэз, пакуль брат не патрымаў яе другой рукой за палатно.

— Станавіся на калені,— сказаў мне брат, бачачы і разумеючы, што мне вельмі нязручна цягаць пілу за ручку абедзвюма рукамі, стоячы на нагах і сагнуўшыся. Мне не было чым дыхаць, закалаціліся ногі, і замлела спіна. На каленях было куды лягчэй, трэба было працаваць толькі рукамі, ногі і спіна зусім не напружваліся.

Але ўсё роўна неўзабаве ўтаміўся. Памкнуўся распеpазацца. Брат не дазволіў, сказаўшы:

— Прастудзішся.

Ён узяў тапор, які тырчэў у снезе тапарышчам угору, і пачаў падсякаць дрэва з супрацьлеглага боку. Піла толькі зіўкала, яе гук як бы затухаў тут жа на месцы, каля камля дрэва, тапор жа пайшоў развінацца па зімовым лесе пошчакам, то глуха і нізка, як бугай, калі рыхтуецца рыкнуць, то порстка і тонка, адгукаючыся ў кожным далёкім і блізкім дрэве.

Я ўстаў на ногі, ступіў некалькі крокаў убок, каб трэска не трапіла ў вока, і тут жа пачуў над галавой у сябе голас дзятла. Ён абкружыў елку, якую мы ва-

лялі, сеў на адну з недалёкіх суседніх хвой і ўсё чыркаў, пералётваючы з сука на сук, скаланаючыся пры кожным «чык-чык» усім сваім стракатым (чорным, чырвоным і белым) пер'ем, не то хвалячы нас, што мы валім сухастоіну, у якой не будуць больш пладзіцца лясныя шкоднікі, не то абураўся нашым учынкам як гаспадар усяго сухастойнага лесу, пад карой якога ён знаходзіць сабе чарвей і корміцца імі.

Мы доўга працавалі каля елкі, пакуль зрэзалі, абцерабілі і раскражылі, кожнае палена даўжынёй на чатыры тапарышчы, пакуль брат, зрабіўшы з сухіх яловых сукоў кліны, не пабіў таўсцейшыя напалам і нават некаторыя на чвэрткі (елка білася і была не задорыстая і не касая, хоць клёпкі з яе рабі), а дзяцел не пакідаў нас. Чарвякі з цёмна-карычневымі бліскучымі галовамі, белыя, тоўстыя, быццам з белай халоднай гумы, сапраўды былі ў дрэве, то пад карой, якую мы па магчымасці счышчалі, то нават у сярэдзіне драўніны, у сваіх норах-праточынах, калі расколанае палена развальвалася на палавінкі.

А можа, дзяцел разумеў, што калі ссякаюць сухастоіну, дык і яму што-небудзь высыплецца з яе і ён падмацуецца, таму прыляцеў, пачуўшы гукі нашага тапара?

Мы налажылі з братам воз, увязалі вяроўкай і паехалі. Калі выехалі на вялікую дарогу, брат сказаў:

— Сядай на воз.

Я ўскочыў на воз, сеў на дровы, спусціўшы ногі ўніз, а брат, даўшы мне ў рукі лейцы, крочыў ззаду.

Конь ішоў не так хутка, як бы мне хацелася, на полі, у адрозненне ад лесу, было сцюдзёней, вецер нейкі па ім туды-сюды час ад часу шастаў. Я пачаў кратаць рукамі, то згінаючы, то разгінаючы пальцы ў змакрэлых ад снегу ў час работы рукаўках, падымаць на дрывах то адну, то другую нагу. Пальцы маглі трываць, суконкі, відаць, хоць і сырыя, не змерзліся яшчэ, брала мяне за калені, бо штаны пабялелі і стаялі як бляха, скуры было балюча да іх дакрануцца.

— Злезь з воза і прабяжы,— сказаў брат, заўважыўшы, што я пачынаю відавочна прадаваць, як кажуць, дрыжыкі.

Брат на хаду ўзяў з маіх рук лейцы і пагнаў каня

амаль трухам, сам бег побач з возам, і я бег услед за санямі.

І, трэба сказаць, я ўвагрэўся, рукі трошкі калолі толькі ў кончыках пальцаў, і за калені не брала, скура на іх зрабілася аж гарачая. Ужо ў вёсцы я зноў ускочыў на воз, каб трохі адсапнуцца, тут было цяплей і зацішней, чым на полі, і, мусіць, мне хацелася, каб мяне ўбачылі, што я ездзіў з братам у дровы і еду вось дадому, спакойны, сталы, як дарослы, на возе відаць ушчэмленая паміж двух паленаў піла і тапор побач з ёй.

— Ідзі ў хату,—сказаў брат у двары,— я сам каня адпрагу.

Распрануўшыся, я пачаў хукаць у рукі, а потым матаць імі ў паветры, каб хутчэй адарваўся ад іх холад.

— У ваду, сынок, у ваду,— гаварыла маці і зачарпнула з вядра меднай конаўкай вады, ставячы мне яе на лаўцы. Я ўсунуў пальцы рук у ваду і доўга іх трымаў там, пакуль немата не паднялася ўгору па жылах і не знікла недзе вышэй локцяў.

Калі рукі трохі адышлі, маці паўтарыла:

— Я сказала, у ваду. Цяпер лезь на печ і разувайся.

Пакуль я грэў у халоднай вадзе рукі, штаны на каленях адталі і пацямнелі, зрабіліся мокрыя і непрыемна ліплі да ног. Нічога, на печы высахну.

Разуўшыся, я павесіў на шост мокрыя анучы і вільготныя суконкі, кінуў у куток таксама вільготныя аборачныя лапці і рашыў паглядзець, чаму так шчыплюцца калені, нібы хто пацягнуў па іх драчкай, што бульбу дзяруць. Засунуўшы штаны аж на сцёгны, убачыў, што калені былі занадта чырвоныя і ў крыві. Скура ад холаду патрэскалася? Не, мёрзлымі штанамі паабдзіраў.

— А, нічога, абсохнуць і пажывуць,— махнула рукой маці, супакойваючы мяне.

Меншы брат сеў са мной побач на печы, паглядзеў мне ў твар, ці не плачу я, і, перавёўшы вочы на мае аголеныя ногі, запытаў:

— Дужа баліць?

— Не,— адказаў я, не жадаючы, каб ён думаў, што я нейкі пакрыўджаны.

— Пакажы,— і ён навёў адстаўлены ўказальны палец на адно маё калена.

— Парні,— адказаў я, разумеючы, што ён хоча дакрануцца да калена, каб сапраўды пераканацца, ці баліць мне.

Ён дакрануўся мяккай шыпушкай пальца раз да нагі і паглядзеў на мяне, тады другі раз, мацней, чым першы, і павесялеў, што я не войкнуў.

— Не баліць,— пацвердзіў я і пачаў глядзець у столь, быццам ног у мяне і не было, але я ездзіў у лес, перамёрз, як і ўсякі, хто зімой пабудзе ў лесе, і проста грэюся на печы.

— Ваўка не бачылі?

— Не. Ён удзень хаваецца.

— А зайца?

— Мы ехалі па дарозе.

— І ваверкі не бачылі?

— У хайлуку яна зімой ляжыць. Рэдка калі вылазіць. Калі дужа ўжо есці захоча. Дзятла бачылі.

Пра дзятла малы не хацеў гаварыць. Што дзяцел! Птушка. Вот каб звера. Птушка пыр і паляцела. Звяры па зямлі ходзяць. І бывае страшна, калі іх бачыш, як, напрыклад, ваўка. Ну, а зайца ці ваверку вельмі хочацца злавіць. Яны такія добрыя і мяккія, хоць да шчакі прытуляй, калі б можна было іх прылашчыць, скажам, як сабаку.

Ваўка я пазней часта бачыў. І забітага і жывога. Часамі на такой блізкай адлегласці, што і не падумаў бы.

Было гэта ў 1945 годзе, вясной. Недзе яшчэ на захадзе грымела вайна, а ў нас было ўжо ціха, і мы хадзілі па сваіх дарогах, нікога не баючыся. Я ішоў з свайго раённага мястэчка дадому. Дарога пралягла праз досыць немалы і немалады лес, які быў у маёй памяці, як я яго помню, нязменным: у асноўным сасновы, пахучы, густы, з мядовымі верасамі, і мноствам кветак-сону вясной. Пераплыўшы з людзьмі на лодцы раку Бярозу, я выйшаў на патрэбную мне палявую дарогу, мінаючы вёску, якой належала поле, з выключным настроем пайшоў у бок лесу. «Хутка год, як я хаджу па гэтай дарозе, цераз гэты лес амаль перад кожным выхадным»,— падумаў я, заручаючыся нейкай унутранай падтрымкай, як гэта бывае перад кожнай, хай нават самай маленькай, дарогай ва

ўсякага чалавека. «Нічога не здарылася, не? Не. Ну і цяпер не здарыцца». Гэта ўжо была, бадай, не думка, а нейкі стан душы, які і перадаць звычайнымі словамі нельга.

На полі нікога не было, і ўперадзе перада мной ніхто па дарозе не пайшоў.

Раптам, калі я быў ужо недалёка ад лесу, палахліва азіраючыся назад, трымаючы адной рукой рагі вялікай хусткі на грудзях пад барадой, быццам захінаючы сваё цела ад некага, ішла насустрач мне збянтэжанай ступой жанчына.

— Што? — паспяшаў я сваім пытаннем ёй на дапамогу.

Не без прычыны чалавек нечага баіцца. Хто-небудзь з непрыстойнымі думкамі на дарогу выйшаў? Жанчына была сярэдніх год, не брыдкая з твару, у пінжаку, ногі голыя, без панчох, але ў чаравіках з кароткімі халяўкамі, на нізкім абцасе — словам, мужчынскіх.

— Воўк,— стаяла яна на дарозе бокам да лесу, трымаючы рагі хусткі пад барадой і пазіраючы ў бок лесу, быццам воўк мог выскачыць за ёй на поле.

— Воўк? — не да канца я разумеў тое, што гаварыла жанчына.

— Воўк,— паўтарыла яна, на гэты раз падаўшыся тварам уперад, хітнуўшыся крыжам назад, не тлумачачы, чаму яна так спалохалася ваўка, якога не навіна ўбачыць у нашых месцах і сустрэчы з якім мала хто прыдае якое-небудзь важнае значэнне. На тое ён і воўк, каб, убачыўшы яго, трошкі зжагнуцца, крыкнуць ту-га, свіснуць, а ён у сваю чаргу, убачыўшы чалавека, павінен сцепануцца, зрабіць злом у сваёй дарозе і пабегчы ў іншым напрамку, чым бег дагэтуль.

— Пабег?

— Каб жа пабег. Воўк бы яго браў, хай бы бег, я б і пайшла, як ішла. Стаіць! Ляпу разявіў і стаіць на дарозе. Во гэтак, на самай дарозе.— Жанчына адпусціла рагі хусткі, махала адной рукой, тады другой, паказваючы, як і дзе стаяў воўк, падаючыся тулавам і ўправа і ўлева, быццам з гэтага і патрэбна было пачынаць, каб нейкім чынам актывізавацца і нешта зрабіць, павінен жа звер паверыць у перавагу чалавека над ім.

Я здзівіўся. Сказаць праўду, не чакаў гэтага, не чуў пра падобнае ад канкрэтных, знаёмых мне людзей, у самога не было такой сітуацыі — воўк на дарозе з разяўленай пашчай. Шалёны? Дурны? Тут можна падумаць球 рознае.

— У вас у руках нічога не было?

— Нічога. Так я ішла.— Жанчына развяла рукі, вывернуўшы далонямі ўгору.

— Пайшлі,— сказаў я сваёй выпадковай спадарожніцы, чамусьці не надта верачы ў яе страх. Мне здавалася, што яна не дакладна перадала сваю сустрэчу з ваўком, бо ў страху, як кажуць, вочы вялікія.

— А можа, сабака? Згубіў гаспадара і шукае, да каго б прыбіцца. Вялікі?

Жанчына на хаду завязвала рагі хусткі за шыю, ступала побач са мной лёгка, трошкі мітуслівá.

— Не сабака, не. Воўк. Убачыце, што воўк.

«І ён стаіць там?» — падумаў я.

Падышоўшы да лесу, я ступіў крок у яго бераг і ўзяў з сваёй заўсёднай хованкі сваю дарожную палку, яблыневую, абкараную, белую, сухую, моцную, як жалеза, і па сваёй вазе як жалезную.

Мы прайшлі не так многа па вузкай лясной дарозе, мінулі цёмную, парослую густым сасновым падсадам сярод высокіх, даволі вынослівых галаствольных хвой лагчыну і падняліся на вышэйшую баравіну, як жанчына пачала хавацца за мяне, пераходзячы з левага на правы бок дарогі, гаворачы:

— Вунь ён стаіць. Не бачыце?

Я павярнуў галаву да жанчыны, дзівячыся яе раптоўнай збянтэжанасці, і падумаў: «Чаго яна?» Калі ж глянуў, не спыняючы хаду, налева, убачыў не больш як крокаў за дзесяць ад сябе ваўка. Ён стаяў нерухома, прыгнуўшы галаву ўніз, зусім сабраны і падрыхтаваны, каб напасці на таго, каго ён, здавалася, чакаў. Відаць былі пярэднія ногі, шыя, галава з разяўленым чырвоным ротам, астатняя частка тулава была схавана ў нізкім маладым хвойнічку.

Я глянуў на жанчыну, усміхнуўся, падняў над плячом у сябе сваю, на гэты раз сапраўды патрэбную мне, нібы адлітую з нечага важкага і пружыніста-моцнага палку і пайшоў прамцом, як на звычайнага вясковага сабаку, на абнаглелага звера. Жанчына тулілася за мяне справа, нібы воўк чакаў іменна

яе, а не каго-небудзь іншага, і мог накінуцца, калі яна хоць колькі аддаліцца ад мяне.

Я ўзяў ужо сваю палку ў абедзве рукі, падняў угору, каб во праз некалькі крокаў дзогнуць ёй па доўгаму разяўленаму лычу, як воўк вертануўся перад маім носам у сасоннік, зрабіў скачок, другі і знік у глыбіні лесу.

Некаторы час мы стаялі з жанчынай моўчкі на лясной дарозе, пазіраючы ў той бок, куды пабег воўк, і ў другія бакі лесу вакол сябе, ці няма якой небяспекі яшчэ. Было ціха.

Я падышоў да камля адной гонкай сасны і пачаў высока, вышэй сваёй галавы, біць палкай уздоўж ствала. Па лесе панесліся высокія, нібы білі ў медны звон, гукі.

— Усё, не прыбяжыць,— сказаў я сам сабе, але так, каб чула і жанчына.

— Я ж вам казала,— загаварыла жанчына.

— Палку трэба браць,— павучаў я яе, быццам і яна, як я, магла так смела і рашуча пайсці на звера.

— Ой, што вы! Страх адзін,— і яна павяла ўбок галавой, не жадаючы слухаць майго настаўлення.

Мы пайшлі. І калі ўжо прайшлі ладны кавалак лясной дарогі, не надта ўезджанай калёсамі, усыпанай паабапал сухім сасновым шыгаллем, я пачуў у нагах і нават у руках вяласць і знямогласць, нібы на некаторы час скура на ўсім маім целе змярцвела. Што я: таксама, як і жанчына, перапалохаўся? Бадай, нервовае перанапружанне.

— Ведаеце, мне гэта ўпершыню.

— Не чулі? Цяпер кажуць...

Чуў, што ёсць ваўкі-людаеды. Там ухапілі дзіця, там...

— Уй, каб вы бачылі, як яны задавілі ў нас леснікову кабылу. Летась увосень. І каля самай лесапілкі. А побач бензабаза і машынны двор. Зусім звечара. Сторож расказваў: «Чую, нешта як раўне. Я ўгору з двух ствалоў бах, бах. Пасвяціў ліхтарыкам — кабыла ляжыць».

Усю лясную дарогу (кіламетры з чатыры) мы гаварылі пра ваўкоў.

Размову нашу абарвала не толькі поле, на якое мы выходзілі, але і развілка дарогі: жанчыне трэба было ісці прама, а мне ўправа. Я занёс у бераг лесу

сваю палку, паставіўшы ў гушчэчу маладой невысокай елачкі, каб з дарогі не відаць была і не паваліла-ся, а спадарожніца мая ў гэты час пазірала мне ўслед, ці далёка я пайду.

Вярнуўшыся, я сказаў ёй:

— Буду ісці ў той бок — вазьму.

— Добра вы прыдумалі,— адказала яна.

Паварочваючы на сваю дарогу, я чамусьці глянуў на чырвоныя, добра налітыя голыя ікры ног жанчыны і падумаў: «А можа, яны, голыя ногі, так раз'ятрылі апетыт у звера, што ён аж ляпу разявіў і настойліва дамагаўся ўкусіць чалавечыны, да якой, відаць, прывык за вайну?» І я, ідучы сухой палявой дарогай, адзін, пачаў успамінаць іншыя факты, звязаныя з нападам ваўка на чалавека, нават з хапаннем дзяцей.

Пазней я сам гаварыў з вучнем, якога быў ухапіў воўк, але якога ўсё ж адабралі людзі. Ён скончыў нашу школу. Вёска яго была маладворная, хат якіх з дзесяць, лес быў з усіх чатырох бакоў, а дубы раслі нават на вуліцы. На вуліцы, сярод белага дня, звер і зрабіў сваё злачынства.

— Дык як ён цябе? — хацелася мне больш дакладна ведаць, як воўк можа браць дзіця, як яго нясе, ці страшна дзіцяці, ці баліць, калі ён трымае яго за невашта зубамі, але мой субяседнік нічога гэтага не помніў, таму і не мог задаволіць чыёй бы ні было цікаўнасці. Ён толькі паціскаў плячамі і ўсміхаўся сваім адкрытым, сінявокім, трошкі пабітым шротам воспы, тварам і адказваў:

— Хто яго ведае. Малы быў, не помню.

Успрыманне жыцця ў дзяцей занадта непасрэднае, нават пачатак самага трагічнага і страшнага розум іх не асэнсоўвае, таму і ў памяці з гэтага трагічнага ці страшнага нічога не застаецца.

Пасля вайны за якіх два дзесяцігоддзі ваўкоў былі амаль усіх знішчылі. Білі і труцілі, і ўжо можна было не баяцца ні за сябе, ні за жывёлу. Аднак за апошнія гады яны зноў распладзіліся і пачалі ў летнія часы, калі калгасныя цяляты начуюць дзе-небудзь пад адкрытым небам у спецыяльных кашарах, даваць ведаць аб сабе.

Пасядзелі паляўнічыя некалькі начэй каля кашары і ўбачылі, як звяры бралі цялятак. Двух ваўкоў забілі, астатнія ўцяклі. Вось так: хочаце тры-

маць улетку жывёлу ў лагерным рэжыме, як цяпер кажуць заатэхнікі, выстаўляйце ўзброеную варту.

Зусім нядаўна, у гэтую восень было. Злез малады чалавек, яшчэ хлопец, з аўтобуса і пакрочыў знаёмай дарогай у вёску, дзе жылі бацькі. Ужо цямнела, але які можа быць страх, калі за ўсё жыццё хлопца нічога ніколі на гэтай дарозе не здаралася.

Астатняе расказаў шафёр, які чыста выпадкова натрапіў на крывавую расправу звяроў над чалавекам.

— Я б нічога гэтага не бачыў, калі б не затрымаўся ў гэтай вёсцы. Брыгадзір кажа: «Пачакай трошкі». Я і чакаў, пакуль сцямнела. Дачакаліся мы чалавека, які нам патрэбен быў (скажам адкрыта: кладаўшчыка запчастак для машын; я ў іх быў на ўборцы бульбы, і яны абяцалі мне, як будзе, адну запчастку), уключыў фары і памаленьку пакаціўся па дарозе, задаволены і сваім рабочым днём, і тым, той часткай, што вёз з сабой. Лесам ехаць не так і многа, кіламетры са два да шашы. Еду я, высвечваю яго, то адзін бок, то другі. Дарога грунтовая, даводзіцца то ўправа, то ўлева пятляць, аб'язджаючы горшыя месцы. Толькі я так павярнуў улева і выхапіў фарамі гэты бок дарогі і лесу, не сказаць, што занадта спалохаўся ці аслупянеў, але сумеўся нечаканасцю. Сабакі (мне здалося, што сабакі, пра ваўкоў і думкі не было) кіёўчаць некага. Я сігнал машынай. «Каго ж вы,— думаю,— чэрці, злавілі тут? Казу дзікую? Зайца?» Толькі я прасігналіў так, адзін у лес, другі ў гэты бок, цераз дарогу ўправа, а трэці задраў галаву і глядзіць у мой бок, на машыну. Пад'язджаю бліжэй, і гэты юркнуў у лес. Якія сабакі? Ногі ў іх ладныя, і самі — куды там сабаку! Ваўкі, зразумеў я. Падымаецца з зямлі чалавек. Рукі ўсе ў крыві, куртка падраная. «Ты што,— кажу,— п'яны? Можа, заснуў быў тут?» Ён яшчэ гаварыў. Спачатку яны вялі яго амаль ад самай шашы, пасвечваючы сінімі агеньчыкамі вачэй зводдаль, тады пачалі набліжацца, урэшце наблізіліся, пачалі хапаць за вопратку, за рукі, якімі ён бараніўся, і павалілі. Казаў, анямеў і не мог крыкнуць, як правалілася куды ўсё. Я пасадзіў яго ў кабіну побач з сабой і ў раённую бальніцу. Назаўтра ўранні памёр. Ці заражэнне якое, ці што, не ведаю. Каб хто расказаў, не

паверыў бы. Сам, сам сведкай быў і бачыў усё гэта!

«Воўчая зграя». «Рвуць, як ваўкі». «Вырвеш, як у ваўка з зубоў». «Зубы, як у ваўка», «Воўчы апетыт», «Накінуўся, як воўк». Колькі ж у народзе ходзіць падобных выразаў, звязаных з воўчай ненасытнасцю і жорсткасцю!

«Воўча галава». Гэта ўжо не толькі пра галаву вялікую, на тоўстай шыі, паўсцістую, а пра чалавека з нядобрымі думкамі, небяспечнага, бязлітасна-жорсткага, нячыстага на руку.

Мне, маломý, не раз даводзілася бачыць, як воўк хапаў з авечай або свіной чарады ягня або парася. Чыстае поле, і лес далекавата. Пасуцца спакойна рахманыя авечкі, ад якіх прыемна пахне воўнай, і пастухі сядзяць або стаяць каля іх. І раптам жывое возера калыхнулася моцнай хваляй у адзін бок, у другі, нібы сама зямля пачала гойдацца пад авечкамі і насіць іх туды-сюды. І пакуль пастухі апамятаюцца ды разбяруцца, што адбылося, ён ужо, трымаючы ў зубах закінутага на шыю баранчыка, далёка апынецца ад чарады, прастуючы з добрай здабычай у лес. Дзе ён быў? Як і калі падкраўся? З-пад зямлі вылез?

Ваўка ў народзе не толькі не любяць, але, трэба сказаць, і асцерагаюцца. Смяльчак скажа: «Ваўка баяцца?», выказваючы пры гэтым сваё зазнайства і фанабэрыю перад тымі, хто не вельмі смелы. Разважлівы адкажа: «Хто яго ведае: усяк бывае».

І я скажу: бывае.

Мне даводзілася страляць у яго. Не вельмі баіцца. Толькі гляне адкуль што, скасабочыцца, часамі падтуліць хвост, каб куля не адбіла, і не рване на ўвесь свой падцягнуты жывот, у які ў спрыяльных умовах без усякіх цяжкасцей напхае 10—12 кілаграмаў свежага мяса, не пабяжыць на ўсю расцяжку. «У мяне страляць? Глядзі, двухногі. У мяне чатыры нагі. І зубы не тваім раўня».

Я сказаў, што ваўка ў нас ужо амаль не было. Ды і, можна сказаць, не было. Калі я сказаў «амаль», дык хутчэй меў на ўвазе не самога звера, а тых людзей, якія ўсё яшчэ яго помнілі, недзе нешта пра яго чулі і не маглі, каб не папалохаць таго-сяго ім. І вось — вучоныя. Як жа так: без ваўка? Экалогія не тая. Пачнуць парушацца суадносіны ў жывёльным

8*

свеце. Ніхто нікога не будзе баяцца, не будзе ад каго ўцякаць, наступяць умовы для поўнай атрафіі мышцаў і неадольная лянота... Дзічына аслабее і пачне дохнуць. У лесе стаіць смурод, пад нагамі хвасты, капыты... Ні ў ягады схадзіць, ні ў грыбы. І выдалі ваўку індульгенцыю на жыццё. І пашпарт новы. У старым у графе «прафесія і спецыяльнасць» было напісана: «драпежнік». У новым напісалі: «санітар».

Нарадзіла ваўчыца вясной пяцёра ваўчанят. Да восені яны ўжо ваўкі. Яды не набрацца. Па пашпарту яны санітары. Але ні трухлых грыбоў, ні гнілых калод і пнёў, ні нават свежага суччa і ламачча ў дзялянках не ядуць. Шукаць у дрэвах розных чарвякоў і казявак — дзюба трэба, як у дзятла. У ваўка — зубы.

Недалёка ад воўчага логава жыла маладая ласіха. Хмыраз, побач балотца, дзе і вада, і мох. Вакол трава і лістота. Корму! «Раджу дзіця тут»,— падумала ласіха. І нарадзіла.

Ваўчыца даўно бачыла ласіху, але, пакуль была адна, не чапала, хоць ведала, што мяса ў ёй шмат і неблагога. Так-сяк здабывала сабе на жыццё, а ласіха была ў галаве, на чорны дзень. Шэрая ведала, што абродзіцца і будзе ў яе такая нявыкрутка, калі завыюць дзеці, хоць, у пошуках ежы, у вёску іх вядзі. Ды і не ўзяла б яна адна ласіху.

Асеннімі доўгімі начамі, калі сырое паветра запахла конскім гноем, поўсцю кароў, авечак, коз, бульбянішчам палёў і яшчэ бог ведае чым, ад чаго смокча пад лыжачкай, маладыя ваўкі, выпружыньваючы ўперад — пярэднія, узад — заднія свае ногі, заскуголілі, запішчэлі і высока паднялі ў паветра хор выцця, голас у голас, тады голас цераз голас, з перапынкамі і падхопамі, з дыезамі і бемолямі, з лягатамі і падбрэхамі. Ласіха, уладкаваўшыся начаваць пад навіссю яловага суччa, скаланулася і паднялa галаву. Хор быў нядобры. Не чуць бы яго ніколі. Ён рэзаў сваёй какафоніяй не толькі вушы. Калацілася душа і пачынала моцна-моцна біцца сэрца, быццам асобна існавала ад ласіхі і разумела, што вось-вось трэба будзе выручаць яе, ласіху, яна павінна будзе ўцякаць ад зграі, якая пачала свае спеўкі. Ласіха ляжала бокам, вольна, як дома, зусім

не думаючы, што нехта ўночы можа паграджаць ёй. Паміж заднімі і пярэднімі нагамі, трохі сагнутымі ў каленях, як у якой загародцы, каля самага мамінага цёплага пуза, якое пахла салодкім малаком, спала маладое, вушастае і цыбатае ласяня. Яно не разумела яшчэ, чаго сярод ночы мама раптам занепакоілася і па жываце яе пайшоў ледзь улоўны, нібы бурбалка за бурбалкай, перакат. Воўчае выццё яно чула ўпершыню.

Ласіха не вытрымала, устала. Устала і малое, спінкай тулячыся да боку мацеры, час ад часу ўздрыгваючы, ці ад таго, што была ноч і яно хацела спаць, ці ў нейкай меры адчуўшы незразумелую яму небяспеку. «Калі б быў у малога бацька, было б лягчэй»,— падумала ласіха. Вясной яго задушылі ваўкі. Ён пайшоў на іх (на таго, што быў спераду) з рагамі і пярэднімі нагамі, а другі, якога ён не бачыў, як шылам, кальнуў яго сваімі зубамі ў сцягно. Знячэўку ён падаўся назад, быццам прысеў на ляжкі, хаваючы іх ад наступнага ўколу. Той жа воўк, што быў спераду, узвіўся ў паветры, нібы штурхнуты якой батутай, і замкнуў на горле ломля клямар сваіх зубоў.

Ласіха доўга блукала па лесе адна, дрыготка прыслухоўваючыся да кожнага трэску сучка, шукала месца, дзе не было б ваўкоў і можна было б жыць, нікога не крыўдзячы і каб на цябе ніхто не ляскаў зубамі.

І вось абвясціліся, гудуць, зусім не саромеючыся сваіх галасоў, якія выходзяць з брыдкіх глотак. Адно толькі лета пажыла без страху, цяпер во зноў калаціся. Каб хоць не малое. Яна памятае сваіх бацькоў, калі яна сама была малая. Калі дзе забрэша які сабака, яны малое паміж сябе і павялі куды патрэбна. Траплялася, што бацька рагамі і капытамі адганяў сабаку далёка, тады зноў вяртаўся. Удвaіх не адзін.

Спачатку з'елі малое, адлучыўшы ад ласіхі, а неўзабаве і яе.

Такім чынам, удава-ваўчыца (ваўка забілі з ружжа недалёка ад цялячай фермы) зусім лёгка выжыла сама, бо сярод лясных жыхароў не было мацнейшага і нахабнейшага за яе, і не толькі выжы-

ла, а дала такі прыплод, які цяпер будзе трымаць у сваім падначаленні ўсіх чатырохногіх цэлай ваколіцы.

Я разгаварыўся аднойчы з адным паляўнічым, які не толькі мае стрэльбу і добрага ганчака, але і дыплом за вышэйшую навучальную ўстанову, асабістую бібліятэку з падборам кніг энцыклапедычнай важнасці і, я б сказаў, галаву.

— Іван Іванавіч,— пачаў я,— ваўкі...

— Ваўкі? — глянуў ён мне ў вочы.— Вы хочаце ведаць маю думку.

— Быццам.

— Быццам,— паўтарыў ён.— А я ніколі яе не хаваў і не баяўся сваіх думак. Тут можна гаварыць без ўсякага «быццам». Быццам мы з вамі не людзі і не маем права думаць і разважаць. У народзе перамагае тое, пра што думаюць (і, скажам, чаго хочуць) большасць людзей. Калі мы дачакаемся з вамі сацыялагічнага даследавання ў гэтым пытанні і ўзважым усе рэальныя факты лясной экалогіі і нават эканамічныя дадзеныя, што вынікаюць з гэтай экалогіі, мы прыйдзем да адной і адзінай высновы: усе драпежнікі павінны быць знішчаны.

Ён выцягнуў уперад свой доўгі твар з пакатым лобам і выгнутай палазком барадой і глядзеў на мяне вострымі, але светлымі і яснымі вачыма.

— Ну, задаволены?

— Ці задаволены я? Як сказаць. Чалавек, які шукае ісціну, не можа быць задаволены адным. Часамі звычайныя меркаванні важней за самую непрымірымую катэгарычнасць. Катэгарычнасць, калі сказаць вам, як гладкая каменная сцяна. Ні на яе, ні цераз яе. І не відаць перад сабой нічога. Стаіш перад ёй як сляпы.

— Разумею, вам трэба меркаванні, доказы — інача гаворачы, тая самая сцяна, толькі з працэсам кладкі, муравання, так сказаць. Цагліна да цагліны, рад на рад, вышэй і вышэй.

— Во-во. Меркаванні прыцягваюць, ты расцеш з імі і адначасова ўрастаеш у іх, робішся іх часткай.

— Вось вам прырода,— Іван Іванавіч павёў над столікам, за якім мы сядзелі, доўгай, з тонкімі доўгімі пальцамі, рукой, зрабіўшы ў паветры круг. Воўк есць ласёў, дзікоў, коз, цялят нашых, кароў, коней,

сабак, а мы забіць яго не можам. Баімся парушыць нейкую выдуманую экалогію. У некаторых краінах даўно ўжо няма яго, і нічога, не плачуць людзі. Вы калі-небудзь елі ласяціну?

— Смачнае мяса. Выключна смачнае.

— Іменна, што выключна смачнае. А мы аддаём яго ваўку. З якой рацыі? Вера ў нас такая, ці што? У Індыі існуе культ каровы. А ў нас — ваўка? Я разумею клопаты аб прыродзе. Мы ў лясах косім сена ласям, каб зімой ім лягчэй было перанесці бяскорміцу і холад. Вяжам венікі, валяем асіннік, ставім соль-лізунец, сыплем бульбу, буракі. Казулі, зайцы, ласі, дзікі, падмацоўвайцеся. І раптам — самапаяданне.

— Самапаяданне? — не зразумеў я.

— Самапаяданне. Чысцейшай маркі самапаяданне. Магчымасці, якія ў ёй закладзены і якімі можа карыстацца без страт для прыроды чалавек, яна пачынае з'ядаць сама. Ды што ж мы — слупы?

— Вы маеце на ўвазе драпежнікаў?

— Іменна. Лось сам сябе не з'есць. Яго есць воўк. А паколькі воўк — таксама прырода, дык мы сутыкаемся на справе з самым аголеным самапаяданнем. Давайце паможам прыродзе пазбавіцца ад яго. Мы ж хвалімся, што з'яўляемся гаспадарамі не толькі ў грамадскім жыцці, але і ў прыродзе. Давайце?

Вочы Івана Іванавіча чакалі майго адказу.

— Давайце,— матнуў я галавой.

Іван Іванавіч смактануў папяросу. Дыму не было, яна патухла. Ён не кінуў яе і не стаў прыкурваць, шамнуўшы запалкамі ў кішэні.

— Траваядныя па травінцы, па лісточку цэлы дзень, усё жыццё сабіраюць. Працуюць. А ён — гатовае. І працу прыроды, і працу нас з вамі. Па якіх такіх правілах? Вы скажаце, што мой падыход у адносінах да прыроды занадта меркантыльны. У наш час, пры катастрафічным росце насельніцтва, на планеце, якая ў сваім аб'ёме не павялічваецца, трэба ўмець лічыць. Калі я быў школьнікам, кітайцаў было шэсцьсот мільёнаў. Цяпер іх удвая больш. Некаторыя вучоныя сцвярджалі, быццам адзін сусветны акіян, не лічачы сушы, можа пракарміць трыста мільярдаў людзей.

— Цяпер у нас?

— Цяпер у нас недзе пад чатыры. Параўнайце дзве гэтыя лічбы! Чытаю апошнія выказванні досыць нядрэннага акіянолага: «Акіян — пустыня, дзе на тысячы кіламетраў ніякіх умоў для жыцця». Усе жыхары вады кормяцца планктонам. А планктон — каля сушы, вакол астравоў. Да чаго я хілю? Мы залішне аптымісты і кідаемся вялікімі кавалкамі. Калі створыць прырода што-небудзь лішняе, акрамя таго, што яна можа тварыць кожны дзень, дык давайце мы возьмем у яе гэта самі. Не іменна карміць розных тыграў, ваўкоў і ўсю мясажэрную брыду.

Іван Іванавіч дастаў з кішэні запалкі, чыркануў адну аб драла і паднёс да папяросы.

Я расказаў яму, што адзін наш вучоны выявіў у адной мясцовасці мыш не мыш, звярка не звярка, вельмі старажытную па свайму роду і далёкай ад нас геалагічнай эпохі. Мясцовасць абвясцілі запаведнай і пачалі вывучэнне гэтай мышы.

Іван Іванавіч зацягнуўся дымком, выдыхнуў яго і ўсміхнуўся.

— Мыш?

— Мыш,— сказаў я.

— Гэта, мусіць, выхухаль. Выхухаль?

— Можа.

— Мінулыя геалагічныя эпохі ніхто не верне. Ні маманта, ні іхціязаўра, ні яшчараў-гігантаў, ні той расліннасці. Практычна знікаюць сланы, вярблюды. Пад небяспекай конь. А што датычыцца імкнення захаваць на зямлі ўсё, што на ёй было і ёсць, рабіць бачнасць неўмяшання ў законы прыроды, дык яны па меншай меры абсурдныя. Давайце не будзем чапаць пустазелля. Хай буяюць асот, сабакарнік, блёкат, крапіва, свірэпка, адуванчык, дзядоўнік, драсён, гугаль. Раз іх стварыла прырода, дык яны патрэбны. Нашы культурныя расліны, авёс, жыта, ячмень, пшаніца, грэчка павінны вытрымаць не лёгкую барацьбу з імі. Тады яны будуць сапраўды ўстойлівыя. Хай каларадскі жук да цурак аб'ядае лісце бульбоўніку, ляціць за Урал, на Каўказ, куды яшчэ, прайшоўшы з захаду на ўсход усю Еўропу, не паспеў дабрацца. Не так важна, што ў нас не будзе хлеба, бульбы, мяса, затое мы будзем... О-о-о, мы будзем! З'явіцца з космасу які-небудзь Гуманоід, жыхар не

нашай планеты і скажа: «Зямляне! Паляцелі са мной. Я знайшоў вам планету, дзе на дрэвах растуць каўбасы, хлеб — з зямлі, гатовымі боханамі, як у вас каменне па полі». Вас задавальняе такая перспектыва? — глянуў ён на мяне і ўсміхнуўся.

Я сабе ўсміхнуўся, адказаўшы:

— За такім Гуманоідам можна было б ляцець.

Ён расставіў у бакі рукі і замахаў памаленьку далонямі, імітуючы лёт птушкі.

— Паляцелі,— і пайшоў, а на вуліцы дадаў без усякіх жартаў:

— Гняздо ваўчыцы ведаю. Магу звадзіць і паказаць. Трэба будзе пабраць. Вы часамі не маеце патрэбы ў ваўчаняці?

— Як?

— Як. Маглі б узяць і гадаваць. Воўк! Вялікага выкармілі б. Ішлі б з ім, а людзі б глядзелі, а сабакі ўцякалі б у свае двары і захліпаліся б ад брэху. Такая футра была б на ім! Вы б яго часалі. Шкрабніцу купілі б, што коней чысцяць.

— Канечне, такая рамантыка! Толькі, Іван Іванавіч, навошта яна ўжо мне ў маіх гадах? Я спрабаваў трымаць маленькую вавёрку, зайца маладога. Пажывуць і здыхаюць. А ў суседа ў скрынцы разам з трусамі заяц вырас як конь. Шарак такі. У рукі не даваўся. А пра ваўка кажуць: «Колькі ні кармі, у лес глядзіць».

— Што ж вы хочаце: крыважэрная істота. На ўсё жывое ён глядзіць як на кроў і мяса, якімі добра можна падсілкавацца. Якое ў яго можа быць прымірэнне ці абыходлівасць ці з чалавекам, ці з жывёлінай? Свая псіхалогія, да скону.

Мы трохі ўхіліліся ўбок. Нічога. Быў у нас такі клопат, і мы з чалавекам параіліся. Дзякуй, Іван Іванавіч, што адказалі на наша пытанне. Хай адказалі па-свойму, не так, можа, як каму бачыцца і думаецца. Ды нейкая добрая макавінка ўсё ж ёсць у вашым адказе. Добрага вам здароўя!

Вось і тая наша дарожка, на якую мы былі выйшлі. Добры дзень, дарожка! Неабыякавыя мы да цябе. Хто не марыў ва ўсе часы і вякі пахадзіць, праехаць па табе і ўбачыць зіму не з акна хаты, а іменна ў полі, у лесе, праз якія ты пралягаеш.

Так, зіма... Не адзін дзесятак гадоў запісваў я

тры разы на дзень надвор'е і не паразумнеў. Тэмпература плюс-мінус, напрамак ветру, ападкі, хмарна або ясна. Быццам не толькі каму-небудзь, а нават мне самому не трэба была гэтая работа. Нічога не магу сказаць, якая будзе ні гэтая, ні наступная зіма. Ні калі пачнецца, ні якія будуць маразы, снягі. Якія будуць вятры, з якога боку. Ці будуць гурбы. Роўнае будзе снежнае пакрыва ці паздзірае, пазганяе яго з палёў у лясы і вёскі і будзе горбіцца рабое поле ад марозу, распранутае і безабароннае. У лепшым выпадку, што я магу сказаць пэўна, дык гэта прачытаць у сваіх запісах, якая была зіма ў такім і такім годзе. Калі вымерзлі ў нас і ўсохлі амаль усе сады, кляны і арэшнік. У якім годзе пабаяліся марозу толькі адны слівы, не развінуўшы на тонкіх галінках пупышак, гэтыя галінкі і паўсыхалі. Даўно ці нядаўна былі зімы, як у нас кажуць, сіроцкія. Гэта значыць цёплыя, калі капае і капае са стрэх і куры маглі напіцца гэтай вады кожны дзень. Калі былі завейныя зімы, машыны буксавалі на дарогах, толькі і цягалі іх трактарам, а сцежку з двара на вуліцу раскапвай ці не раскапвай — дарэмна, на вачах, як ■ якой помпы, задзімае. Зімы бываюць розныя, мала падобныя адна на адну, як не падобны сваімі характарамі і густамі людзі. З самага снежня пачне круціць, ціснуць, сярдзіта шпуляцца калючым, як металічныя іголкі, густым і цяжкім, як пясок, снегам, жорстка і ўладна запануе не толькі на зямлі, але і ў паветры. І рэдка калі ўбачыш сонца, і не здымеш з рукі рукаўку, і не падвяжаш угору на шапцы вушы. Іншая ж і снегу дасць не менш, чым тая вар'ятка, і высцеле гэты снег роўна і па-гаспадарску як у полі, так і ў лесе, каб усёй зямлі было цёпла, не павымярзала ні канюшына, ні жыта, ні карнявыя пупышкі лугавых траў. Не ўзвіхраецца смерчам вятроў, не запаляе марознай чырванню неба ні на захадзе, ні на ўсходзе. Лагодна ўсміхнецца з-за бялявай рэдзі воблакаў мяккім і жоўтым, як жаўток варанага яечка, сонца.

Мне даспадобы такая зіма. Прыйдуць да самага двара дружнай чародкай курапаткі, парыюцца ў смецці, якое высыпалі на агарод, нешта патрэбнае знойдуць у ім і з'ядуць і далей пададуцца ў сваім дзённым маршруце. Ясна і ціха, далёка відаць любая

небяспека, і мароз зусім не такі, каб хаваць птушкам у пер'е свае лапы і галовы.

Чорны цецярук умясціўся ў голым вецці бярозы і, нібы якіх казявак, клюе і клюе нешта. Што? Ён клюе бярозавыя пупышкі. На галаве ў яго гарыць чырвоны агеньчык шышкі. Цёпла і радасна. І цецеруку, і таму, хто глядзіць на яго.

Чаго ён прыляцеў на гэтую бярозу, якая каля дарогі ў полі? У лесе дрэў мала? Пупышкі на ёй смачнейшыя, чым на лясных бярозах?

Не здзіўляйцеся і не імкніцеся разгадаць паводзіны ўсіх птушак і звяроў. Вось ланцужок мышыных слядоў. З палявой дарогі прабегла метры тры ўбок і знікла пад снегам. Норка відаць. Што трэба было мышцы на гэтай дарозе, па якой трактары, грузавыя машыны ўвесь дзень не сціхаюць? Чым-небудзь паласавацца? Пацярушаная салома, камочкі тарфакрошкі...

Чаго зайцы наслядзілі ўвесь касагор паўз дарогу? Нарада якая ўночы ў іх тут была?

Чаго было хадзіць тут лісу? Вунь дзе ён выйшаў з кустоў, доўга ішоў па шляху і павярнуў з яго роўненькага, як струна, у кусты. Слядкі яго невялічкія, трошкі большанькія, чым у ката, акуратненькія, ні абвалаў, ні восыпаў. Ліс не заяц, не пятляе туды-сюды, не вынюхвае кожную купіну, кожны пень і куст. Ідзе ціха, пільна, хітра, наўпрасткі, калі куды намеціў.

Во, гэты след успрымаеш іначай. Нешта здрыганулася ў табе, усе мышцы твайго цела быццам хуценька ўзбударажыліся і занялі новыя пазіцыі. Гэта не мыш, не заяц, не ліс. Лапа з чалавечую далонь. Адна пята яе з лісаў след. Воўк. Выхад на дарогу ёсць, а дзе звярнуў ■ яе?

Цёмны сасоннік здаля нібы ў дыме. Бярэзнік выглядае святлей. У ім больш прасветаў, бо сучча без лісця, голае і не можа стварыць шчыльны скразны фон.

А вунь і горад, адкуль усю зіму, з самага ранню і да цёмнага вечара, возяць тарфакрошку. Горад. Як назваць іначай гэтае месца? Не капцы, не торпы, не кучы, не сцірты — дамы. Дом за домам. Чатырохвугольныя, шырокія, прадаўгаватыя, з двухскатнымі дахамі, прыцярушанымі снегам, як і ўсякія дахі. Па-

між іх снуюць, як у самым людным горадзе, машыны розных марак і трактары. Кожная ідзе сваёй дарогай, кожная падстаўляе сябе пад разумны коўш пагрузчыка. Дамы гэтыя — тарфакрошка, нарыхтаваная ўлетку. Яе вязуць ва ўсе калгасы раёна, вязуць на прычэпах і ў кузавах машын. Знайдзіце лепшае ўгнаенне, чым прыгатаванае з жывёльнага гною і тарфакрошкі!

Не балота, а залатое дно. Дзесяць год возяць з яго гэтае бураватае золата. А яшчэ на колькі хопіць?

Не, зіма павінна быць моцнай, не гнілой. Зімой людзі маюць патрэбу ў цвёрдым, скаваным маразамі грунце.

* * *

Вясна спачатку пачынаецца ў душы. У думках, у чаканні. У цвёрдым веданні і перакананні, што яна прыйдзе. Як ёй не прыйсці? Як яна можа не прыйсці, калі прыходзіла заўсёды, і летась, і залетась?

Пасля зімы — і без вясны? Як гэта? Прорва? Чорныя тартарары? Не можа гэтага быць. І ніколі не было. Лету папярэднічае вясна, і недзе ў канцы студзеня (а што ў лютым, дык пэўна) чалавек пачынае даваць ёй месца ў сваёй душы.

Дыктар радыё чытае заяўку аднаго з слухачоў: «Прашу выканаць песню «Калі цвітуць сады». І гукі названай песні зліваюцца з добра знаёмымі табе гукамі вясны ў вялікую сімфонію славы жыццю. Так, сады цвітуць вясной, вясна дае пачатак жыццю ўсяго расліннага і жывёльнага царства.

У місачках, у слоіках, у драўляных скрыначках сеюць насенне памідораў і ставяць пасудзінкі на вокны. Цеплыня ў хатнім паветры, вільгаць і спажыўныя рэчывы ў зямлі, якой напоўнены і місачкі, і слоікі, і скрыначкі. Трэба сонца. Яно пайшло ўжо на вясну і калі не зранку, дык пад вечар гляне ў вокны хаты. Хапайце, памідорныя плюскавінкі, яго святло. Чуйце яго сваімі бакамі і выносце туды, адкуль сонца, тоненькія храсточкі. Памідорную расаду высадзяць на грады вясной, недзе ў самай сярэдзіне, а то і ў канцы мая. Калгасы таксама вясной панясуць з парнікоў на свае агародныя плантацыі

расаду не толькі памідораў, але і капусты, бручкі, рэдзькі, рэпы.

Калі б падлічыць словы, якія людзі ўжываюць у другой палавіне зімы, то самым шматлікім, бадай, было б слова «вясной».

З пачаткам марозаў увосень да нас прылятаюць з больш паўночных лясоў снегіры. Іх можна бачыць у вёсцы ў садах, на дрэвах вулічных прысад, на ягадных кустах, проста на платах і будынках. Яны ўважліва і спакваля аглядаюць кожны сучок, кожную галінку, ці не пакінула лета што-небудзь для іх, выгнаннікаў, чарвяка, мошку, ягадзіну, і галасы іх, нечым падобныя да галасоў уяўных маленькіх арганчыкаў, кранаюць за душу. У самыя маразы і снягі снегіры ўглыбляюцца ў густыя і цёплыя яловыя лясы і не бываюць у вёсцы. Тут хацяб пракарміцца чарнамазым вераб'ям, галкам, сарокам, варонам залётным. Так, вераб'і часамі забіраюцца ў коміны печаў, каб пагрэцца, і бачыш іх чорнымі, вымазанымі ў сажу, камінары-камінарамі.

І вось зіма, цяжка нагружаная гурбамі снягоў, тоўстымі панелямі льдоў, сапілкамі мяцеліц, узяла пераваліз палёгкай усміхнулася. Ёй цяпер палягчэе, з гары ісці не тое, што драцца на гару, і яна не будзе такой злой, усе яе напружанні і стаpанні цяпер будуць ззаду, можна не толькі ўночы, але і ўдзень прылегчы і задрамаць. Хай і сонца пасвеціць, і вецер хай адпачне.

І паружавела неба, пасвятлела вакол, паяснела. Снегіры вылецелі з лясной гушчэчы на адкрытыя месцы, на ўзлессі, на драбналессе паўз розныя ручаі і нізіны. Што там, на палях, на дарогах? Можа, праталіны зачарнеліся?

Ляцяць яны чародкамі, чырванагрудыя, з бярозкі на бярозку, з рабінкі на рабінку, з куста на куст, піўкаюць. Пералёт іх запаволены, пешаход зусім паспявае за іх перамяшчэннем. Нават хапае часу прыгледзецца да птушак, добра ўслухацца ў іх галасы.

Ой, не, галасы іх цяпер не тыя. Не стомленасць і неабыякавасць у іх. Упэўненасць, самавітасць, вера ў хуткі прыход вясны. Чырвоныя грудкі і ружовае неба. Маленькія арганчыкі пачынаюць мелодыю вясны.

А гэта? Што гэта за птушка сярод снегіроў? Упоперак сівалезых плячэй белыя палосы. Дзяцел. Плечы дзятлавы. Такі маленькі дзяцел? Па велічыні снягір. Але ж снягір ёсць снягір, а гэта — дзяцел у мініяцюры.

Якія ж у яго грудкі? Чырвоныя ці не чырвоныя? Можа, калі грудкі чырвоныя, і такія снегіры бываюць?

Я бяру ў поле зроку толькі гэтую птушку, адну, менш увагі аддаючы астатнім. Снегіры нікуды не спяшаюцца, пералятаючы з дрэва на дрэва, з аднаго боку дарогі на другі, але ў адным напрамку. Мяне не заўважаюць і не баяцца. Я для іх зусім пабочны прадмет, праўда, які рухаецца, але рухаецца без якой-небудзь небяспекі для птушак. Пераступаючы з нагі на нагу, пільней пачынаю ўглядацца ў маленькага дзятла. Вось ён уліп лапамі ў зломлены і ўжо прытрухлы верх нятоўстай бярэзіны. Рытмічна запрацаваў малаточак яго галоўкі. Э-э-э, бачу, бачу... Зусім добра бачу: грудкі і падпуззе — звычайны сівалезы птушыны пушок, ніякай чырвані, а на лобіку — чырвоная кукарда. Дзюба тонкая, вострая, толькі такой і даставаць чарвякоў у трухлым дрэве. Я падышоў да яго зусім блізка, метры за два ад той бярозкі, вяршыню якой ён дзяўбаў. Не баіцца, дзяўбе і дзяўбе. Мне хацелася яго сагнаць і паглядзець, як ён будзе ляцець. Пляскаю ў далоні. Ноль увагі, нібы не чуе. Чым шыбнуць? Маленькі камячок торфу пад нагамі. Бяру яго і шыбаю ў дзятліка. Ляціць і чырыкае.

Дзятлаў голас. Дзятлаў. Толькі танейшы і слабейшы, чым у звычайнага нашага пярэстага дзятла. Голас трубы вялікай ці малой не зблытаеш з галасам любога іншага музычнага інструмента. Голас дзятла большага ці меншага пазнаеш сярод безлічы галасоў іншых птушак. Дзяцел гэта, дзяцел. Толькі чаму такі маленькі? Адкуль ён? Проста не вырас? Пазнырок? І такім можа застацца? Не вырасце больш? А можа, вясной возьме моц, калі добра прыгрэе сонца і яды ў лесе стане ўдосталь?

Мне не даводзілася бачыць, каб дзятлы лёталі чародамі або далучаліся да чарод хоць якіх-небудзь птушак. Іншых інтарэсаў, акрамя працы на дрэве, у яго няма.

А гэты? Ды са снегірамі.

Пасля я расказаў пра бачанага дзятліка мясцоваму лесніку, чалавеку ўжо немаладому, памяркоўнаму і разважліваму.

— Маленькі?

— Маленькі. З снегіра.

— Дзіўна. Я, прызнацца, не бачыў такога. І бляднейшы, чым нашы?

— Нешта ад багунніку. Сівалезасць ва ўсім апярэнні.

— Ну, вядома. Нашы дзятлы яркія. Кожнае пяро ў іх як адлітае. Я думаю, што з снегірамі ён прыляцеў, адтуль, адкуль і снегіры.

— Паўночны?

— Выходзіць. Таму і лётае з імі. Куды ж яму аднаму.

Свяцілася ружовасцю неба, яшчэ зацягнутае шэранню зімовых тumanоў, і гарэла на лобіку маленькага дзятліка чырвоная кукарда, і пачынаў іграць арганчык, складзены з галасоў чырванагрудых, вельмі тактоўна-сціплых сваёй прыгажосцю снегіроў, і рабілася на душы лёгка, бо ўсё гэта: і ружовасць, і чырвань, і галасы маленькага арганчыка — злівалася ў нешта адно цэлае і было звычайным пачаткам вясны.

Вясна! Во, глядзіце на яе, якая яна. Не зусім яшчэ яна. Гэта яе пачатак.

Неба ачысцілася, і адкрылася ўсё, як хапае вока. Неба — блакітны цудоўны звон, і нібы меднае біла ў ім — сонца.

На старой бярозе, якая расце на вуліцы, сядзіць маленькая жаўтаватая птушачка, з ногаць, і без перапынку, на адной і той жа ноце, праз пэўныя інтэрвалы часу, пасылае, нібы радыст, пазыўныя свайго голасу: піў, піў, піў. Яна не тапырыцца, як тапырыцца верабей, не кружыцца вакол сябе і не раскрывае шырока дзюбу. Расахатае, пакуль што голае вецце бярозы, і яе ў гэтым вецці нібы хто адліў у адзін і той жа час, у адной форме і выставіў на сонца з надзеяй, што ажывуць калі-небудзь.

У такія дні ў хаце не сядзіцца, не чытаецца і не пішацца. У прыродзе пералом. Паветра не тое. Пахі не тыя. Бачнасць стала далёкай і вельмі дакладнай.

Вунь па полю ідзе высакавольтная электралінія.

Добра відаць белыя жалезабетонныя слупы, крыжавіны на іх, кубкі ізалятараў, тоўстыя драты, ад слупа і да слупа, цераз лясы і ў сінюю бяскрайнасць. Канты на слупах відаць, і нават быццам бачыш металічную арматуру з дратоў і прэнтаў усярэдзіне непахісных і даўгавечных стаякоў.

Недзе на сярэдзіне паміж тарпой і цыстэрнай — чатырохвугольны лапік маладога хвойніку. Тут была дзялянка скразной высечкі. На яе месцы ўзняўся маладняк. Сінь старога лесу, з усіх трох бакоў цямнейшая і гусцейшая, чым сінь маладой дзялянкі, быццам сонца пасылае ёй праменняў больш, чым на такую ж плошчу старому лесу. Аднак дрэўцы-равеснікі, ствараючы сабой адзін светла-зялёны колер, далёка не аднолькавыя па вышыні. Розніца гэтая відавочная.

Я выйшаў на вуліцу і стаю каля сваіх варот, пазіраючы ў адзін канец вёскі, тады ў другі.

Выйшаў з варот і мой сусед з левага боку, таксама пенсіянер, чалавек, вольны ад якой бы там ні было штатнай работы. У ватоўцы, падпяразаны папружкай, у гумавых, як і я, ботах, у рудой вушанцы, вушы якой не апушчаны, а звязаны на тасёмачкі наверсе. Ён падаўся ў мой бок, я крыху ў яго. Стаім і патроху размаўляем. Кажу:

— Як, Рыгор Тарасавіч?

Ён глянуў на неба, потым на мяне, уважліва і даверліва, і адказаў:

— Што «як». Вясна. Добра. Во, вязуць,— павёў сусед барадой у правы бок вёскі, адкуль ішоў трактар, цягнучы за сабой высокі прычэп яловага лапніку.

Лапнік везлі на лесазавод, дзе малолі на муку, якую давалі жывёле.

— Вякі жылі і не ведалі, што можна ім карміць кароў. Змелюць, і добра. Гніло сучча ў лесе,— гаварыў сусед.

— Ды які корм! Вітаміны,— дадаў я.

— Вітаміны,— кіўнуў галавой сусед, быццам і ён, і я бачылі гэтыя вітаміны і ведаем іх смак, не гаворачы ўжо аб карысці для жывёлы.— Яно, каб сказаць, што мы былі зусім дурныя, дык, можа, і не,— працягваў сусед.— У бяскорміцу секлі лапнік і да-

валі каровам. Толькі елі яны яго не надта. Хто яго, можа, горкі, калючы.

— Рыгор Тарасавіч, якія найбольш добрыя вёсны вы помніце?

Сусед глянуў па баках, на неба. Успамінае ці глядзіць, як ацаніць пачатак сёлетняй вясны? Развёў рукамі, быццам пытанне было не з лёгкіх, але адказваць трэба, бо нешта ж помніў з тых вёснаў, якія пражыў.

— Ты тады малы быў,— і ён амаль дакрануўся тварам да маіх грудзей.— Зіма была рэзкая! І снег, і маразы. Палякі спалілі нас. Дзевяць гадоў мне было. Як загарэлася наша хата, дык мы з малым маім братам...

— З Масеем?

— З Масеем... голыя і босыя ў гумно і ў сена, паабкрываўшыся такім-сякім шкуццем, якое паспелі вынесці, грэліся. Майго бацьку тады забілі. Ні за што. Як убачыў, што гарыць вугол хаты, ён за вядро і на двор. Тушыць пачаў. Не давалі тушыць.

— Легіянеры,— сказаў я, улажыўшы ў інтанацыю сказанага слова ўвесь сэнс, які зводзіўся да аднаго: ворагі!

— Легіянеры,— паўтарыў сусед.— Тады, з таго дня і пачалася вясна. Добрая, ранняя, дружная.

— Пашкадавала прырода людзей,— сказаў я.

— Тады казалі: бог. Гэтую вясну я добра помню... А так... Усякія вёсны бывалі. У 45 годзе зацвілі сады, а тады снег. Ладны выпаў. Але зараз жа і растаў. Не пабаяўся цвет. Былі яблыкі. А тады яшчэ было неяк пасля вайны. Да мая пасеялі авёс, пшаніцу, ячмень. І ўзышло ўжо было ўсё. Прыгожа, калі глянуць. Снег і мароз! Холад! Дні тры так было.

— Я помню гэтую вясну. Не хацелася глядзець на поле. Зашэрхла ўсё.

— Зашэрхла,— паўтарыў сусед.— Авёс адышоў. А ячмень і пшаніцу перасявалі. Не было дужа чым. Але так-сяк перасявалі. Што зробіш, прырода. Пацягне такое паветра, і ніхто нічога не дапаможа. Адкуль, што, чаму — чорт яго ведае.

— А сёлета?

— Сёлета? Дзіцяці ўсе рады, калі яно народзіцца. А які будзе з яго чалавек, уведай. Не ўведаеш. Помніш, у 39 годзе, я быў тады на фінскай вайне,

якія былі маразы? Сады, дубы, клён, граб, арэшнік, алешнік — усё-ўсё памерзла. Адкуль? Чаго? Не было ж пасля таго такіх маразоў? Не было. Ну, арэшнік, скажам, парос. Гэта кусты, тая самая трава. З кораня, можна сказаць, ідзе. Алешнік пайшоў. Новы. Той на дровы гадоў некалькі секлі. Ведама, сушнік. Добра. І леснікі не чапаліся. Дуб пайшоў. Маладняку! Хоць дубовыя заказнікі абводзь. А клён, граб так і...

— Правільна, з клёнам слаба. Такое дрэва!

— О-о-о, дрэва! Самыя лепшыя вырабы былі з клёну. З грабу таксама.

— А грабу зусім цяпер няма ў нас?

— Дзе ж ён ё! Няма. Люміна была. Няма. Дугі з яе гнулі. Лапці з кары плялі, як з ліповых лык. А клён драўся на такія тонкія палоскі, на каснікі проста. І з іх спрабавалі лапці плесці. Белыя, святочныя, скрыпучыя!

Бачыў я каснікі, надраныя з жывой драўніны клёну. І бачыў лапці, сплеценыя з іх. Пра іх казалі: «Кляновыя лапці!» Як пра нешта асаблівае, тонкае і далікатнае.

— А кляновік памятаеце? — гавару суседу як пра нешта далёкае і незваротнае.

— О, салодкі! Пастаіць у закаркаванай бутэльцы або біклажцы, падкісне, і вуллі пырскалі ім, каб пчолы сяліліся. Такі быў пах добры!

— Бярозавік не тое.

— Бярозавік — трошкі салодкая вадзічка. Далёка да кляновіка!

— Рыгор Тарасавіч, раней жа цабры, бочкі везлі вясной у лес і падстаўлялі пад латакі. Пад старыя камлістыя, помню, бярэзіны. Насечка, белы драўляны латочак і кап-кап-кап у пасудзіну, пакуль поўная набяжыць.

— Я сам падстаўляў. Тады прывязеш, пастаіць у стопцы, укісне, і з хлебам елі. Смачна! Добра хлеб глытаецца. Вазьміце мурашку. Лезе ці ў карытца, ці ў любую пасудзіну, каб напіцца гэтага самага бярозавіку. Уваліцца, утопіцца, а ўсё роўна лезе. Нешта ёсць у ім такое, што так яго хочацца ёй.

— А цяпер не падстаўляем, не п'ём і не хочацца,— сказаў я.

Ён усміхнуўся. Губы яго былі бледныя, не налітыя чырванню, занадта плоскія.

— Мала што, старасць.

— Нам старасць. А маладыя?

— Маладыя бярозавік цяпер будуць піць? Цукру, цукерак хапае. Малака, піва. Віна, каньяку. Галодныя цяпер яны, як мы раслі?

Вясковыя жыхары бярозавіку цяпер не падстаўляюць, не п'юць яго і не думаюць, каб піць. Гэта так.

— Затое ў горадзе мода на яго пайшла.

— На бярозавік?

— Ну.

— Праўда, леснікі нарыхтоўваюць. Во неўзабаве, як толькі зямля адтане і пойдзе ён, наставяць бакаў, бітонаў на вазы, на трактарныя прычэпы і паехалі. План ім даюць, колькі за вясну нарыхтаваць.

Я сказаў суседу, што цяпер горад, маючы два выхадных і добры транспарт, перахапіў у вясковых жыхароў і рыбалку, і паляванне, і грыбы, і ягады, і накінуўся во на бярозавы сок.

— Хай, хай, хай,— махнуў рукой сусед.— Хопіць і нам. Толькі -які гэта бярозавік! Разводзяць нечым, каб не кіс, цукру дадаюць. У бутэлькі разліваюць і прадаюць. Я піў яго. Дачка з Мінска прывозіла. І не пахне бярозавікам. Каб не ведаў, дык і не сказаў бы, што гэта бярозавік.

— Спытваў і я. Ага, не той, што натуральны бярозавік.

Сам сабе падумаў: «Дзіўна атрымліваецца. Калі чалавек жыве сярод прыроды, у вёсцы, скажам, ён абыякавы да яе, быццам не заўважае яе даброт і рэдка карыстаецца імі. Трапіўшы ж у горад, такім чынам аддаліўшыся ад прыроды і згубіўшы штодзённае непасрэднае судакрананне з ёй, пачынае хвалявацца і бянтэжыцца, быццам губляе нешта істотнае і важнае ў жыцці, і ловіць кожную і самую маленькую магчымасць, каб выправіць сваю памылку, калі лічыць, што адрыў чалавека ад прыроды — яго памылка».

— Мая жонка грыбоў зусім не есць. У рот не бярэ. Вот вам і дары прыроды. Каму што,— зрабіў вывад сусед.— І яшчэ адну помню вясну. Восьмага сакавіка снегу на полі не было ўжо. Дарога так-сяк трымалася, але былі ўжо, як кажуць, у паветры

сонца і цяплынь, хоць распранайся. У вёсках коней было мала, а сеяць жа неяк трэба было. З свайго атрада мы гналі з таварышам у адну вёску два кані, запрэжаных у сані. Ён на сваіх санях ехаў, я на другіх. Я і чысло гэтае запомніў.

— Я вам скажу, калі такая вясна была: у сорак чацвёртым годзе. Немцаў тады з нашай мясцовасці турнулі.

— Ну,— пацвердзіў сусед.

— А ў тую вясну, як нашу вёску спалілі, белапалякаў прагналі. Не ў самую вясну, а хутка.

— Правільна,— кіўнуў галавой сусед.— Уночы мы пераправіліся на пантонах цераз Бярозу ніжэй Брадца, зайшлі з фланга... Тады яшчэ Бяроза была мнагаводная, плынь была пругкая, так і глядзі, каб не падхапіла.

Можа, раннія і добрыя вёсны запомніліся суседу таму, што нейкім чынам звязаны былі з вялікімі падзеямі, спрыяючы ім?

Хай і сёлетняя пакіне ў галовах людзей добрую памяць аб сабе. Чым? Шырокім разлівам рэк, птушыным граем, вісячымі ў паветры слупамі камарынай таўкатні перад заходам сонца, няспыннымі званкамі жаўранкаў у небе і зелянінай рана засеяных палёў, дружным кушчэннем у маі азіміны, мармуровай квеценню садоў і мядовым пахам паветра.

— Будзе сёлета вада, Рыгор Тарасавіч?

— Дзе яна дзенецца. Павінна быць. Снег не малы быў. Хіба мароз вернецца ды задумае прытрымаць. Яшчэ яна толькі пачынае бегчы. У лесе снег ляжыць. Па Бярозе будзем меркаваць, як высока падымецца, ці шырока затопіць сабой луг. Не рвалі ж яшчэ лёд?

— Не, не. Не чутно было. Каты тлумілі ўсю ноч. У мяне лескі ад агарода на гару. Дык як задзогаюць па іх, як зашкрэбаюць па адліве, ды як запяюць, запяюць. Дзе тут заснеш.

— Стварэнні,— крутнуў галавой сусед.— І яны вясну чуюць.

— Чуюць.

Не люблю катоў, і ўсё. Не шчырыя яны ў сваіх паводзінах. Паспрабуйце ўгледзецца кату ў вочы. Не хочуць яго вочы сустракацца з вашымі вачыма, ой не хочуць. Глядзяць толькі па абавязку, неахвотна,

нешта хаваючы ад вас, не да канца раскрываючы зрэнкі, пакутліва чакаючы канца сутыкнення з вашымі вачыма. Так, вы яго гаспадар, вы дужэйшы за яго, можаце, калі трэба, калі кот заслужыў, дзягай пацягнуць па ім. Кот гэта ведае. У галаве ж у яго — сваё, драпежнае.

Быў у мяне з белымі лапамі, з белым падпуззем шэры. Было яму і ўлежна і ўежна. Печ цёплая, нават нанач на двор зімой не выкідалі, ставячы ў адпаведным месцы пясочак у скрыначцы. І што? З печы ленаваўся далоў злезці. Такога наробіць у шкуцці...

Пысай яго, нячыстую сілу, у гэта самае!

Галаву ўбок верне. Нядобра яму. А нам добра? Ды па гэтаму было б яшчэ паўбяды. Запіўкалі вясной на двары кураняты. Глядзіць на іх, аблізваецца і хвастом пакручвае. Каўтане горлам, нібы яго памыкае рваць, і пойдзе. Так хацелася яму ўхапіць і з'есці куранятка. Але сваіх не чапаў.

Прыходзіць аднойчы сусед і кажа:

— Ваш кот куранят хапае.

— Што вы гаворыце? У нас таксама яны ёсць. Не чапае.

— А маіх трое ўжо ўхапіў. Разумны тады. Сваіх нельга, а чужых можна.

— Тады трэба яго за такі розум...— пачаў я шукаць у галаве патрэбнае слова і недагаварыў. Сусед зразумеў мяне.

— А я ўжо яго і ўзнагародзіў і заахвоціў. Куранят хапаць болей не будзе. Пайшлі. Убачыце.

Па двары вакол курыцы-дзяцівоткі бегалі жоўтыя бясхвостыя кураняты. Далей ад вуліцы, каля пуні ад агарода, ляжаў мой мёртвы кот. З носа ў яго выскачыла кроў. Недалёка ад ката было і кураня. Крылцы распасцёртыя, з выпучаным, зацягнутым плёнкай вокам.

— Во, гэтай палкай,— і сусед узяў яе ў руку, камлістую, крывую, падняў перада мной у паветры і зноў паставіў да сцяны стопкі.— Дзірку тую я залажыў, кудой ён уцякаў з двара. Схапіўшы піскалёнка, мык туды, а я яму па галаве. Бярыце. Ваш. А не, дык я і сам магу закапаць.

У вёсцы катоў-куратнікаў не трымаюць. Даць

яму волю, дык ён разласуецца, і на насенне курыцы не будзе.

І не каты, мусіць, былі прычынай, што сон мой уночы быў няўстойлівы, занадта павярхоўны, быццам якая хваля то апускала мяне ў сваю цемнату, то зноў падымала на паверхню, і я пачынаў чуць і ўслухоўвацца. У паветры, мусіць, пацягнула нечым такім, чаго не вызначыш носам, а адчуеш аднымі нервамі, і яны прадыктуюць, спаць табе далей ці не спаць, а раскрываць, хай і ў цемнаце, вочы і ўслухоўвацца ў пераможныя, спачатку неакрэсленыя, потым мацнейшыя і мацнейшыя, потым як гром, гукі вясны.

Скалануліся сцены хаты, і быццам зыбнуўся мой ложак, на якім я ляжаў, і быццам запахла трухой, якая павінна была пасыпацца са шчылін столі, калі скаланалася хата. Во яны, гэтыя гукі, гэты гром, які абвяшчае прыход вясны. На Бярозе рвалі лёд. Вясна! Так, вясна! Лёд ірвуць тады, калі рака пачынае выходзіць з берагоў і затапляць неабдымны луг. Ура! Вясна! Каб крыгі часамі не зрушылі мост, не палезлі адна на адну, ірвуць перад ледарэзамі лёд.

Прыгожае гэта відовішча — разліў вялікай ракі. Колькі ж гэтай вады! Якая ж яна моцная, бясстрашная, бескампрамісная! Любая крыга на яе паверхні — лёгкая трэсачка, якую можна куляць, гайдаць у бакі, гуляць з ёй, як з цацачкай. Бервяно самай вялікай таўшчыні вынырне канцом і зноў пад вадой, вынырне і зноў вунь ужо дзе далёка пад ваду схаваецца. Ніяк не хоча згаджацца душа з тым, што з снегу, па якім хадзілі, ездзілі і якога не так ужо і многа было, ды столькі вады сабралася. Адонкі стагоў на лузе, кусты, высокія лабякі берагоў, розныя альтанкі, лавачкі — нічога не відаць, нічога няма, акрамя жывой воднай сінечы, месцамі рабрыстай, месцамі гладкай, як шкло.

Уранні, не паспела яшчэ як след развіднець, наляцелі гракі. Быццам выбухі на рэчцы і гэты грачыны налёт былі звязаны паміж сабой, уяўлялі сабой дзве часткі нечага аднаго цэлага. «Артылерыя — пяхота, жывая сіла»,— мільганула ў маёй галаве.

Сапраўды ў чорнай гэтай пяхоце, граках, было штосьці сімвалічнае і ненатуральна вялікае. Як магла збіцца ў адну, зусім арганізаваную, чараду такая

колькасць птушак? Няўжо і там, у выраі, яны жылі такім незлічоным гуртам? Колькі ж ім трэба яды, месца, каб атабарыцца на начлег? Іх і не злічыш. Яны занялі кожны агарод, селі на кожнае дрэва ў вёсцы, пабывалі на кожнай будыніне, крокамі, узлётамі перамяшчаюцца і перамяшчаюцца, аглядаючы кожны сантыметр занятай тэрыторыі, каркаюць і штосьці крычаць на сваёй мове. Ногі жоўтыя, дзюбы жоўтыя, самі як цыганы, зусім чорныя. І тое, што яны не скачуць на дзвюх нагах як сарокі і вераб'і, а іменна ходзяць, па чарзе перастаўляючы адну нагу за другой, надае ім сталасць і паважнасць, і ўзнікае перакананне і адчуванне, што грак зусім сур'ёзная і непамерна прыгожая птушка.

Яны занялі і сад, крычаць там, дзе тысячы яблынь, чорна ад іх і на полі. Узлёты іх у паветра імклівыя, быццам ускідае ўгору згусткі шэрані нябачная спружына, а там ужо, у небе, гэтая шэрань то радзее і святлее, то цямнее і туды-сюды змяшчаецца.

Не, усе яны летаваць у нас не будуць. Застанецца толькі нейкая частка ці нават частачка. Астатнія пагасцююць, усталююць вясну ў нашай вёсцы і, пакінуўшы на ўспамін яе жыхарам жоўта-белыя камочкі чыстага свайго памёту, паляцяць далей, дзе іх чакаюць не дачакаюцца і дзе ніяк не наступіць вясна, пакуль не прыляцяць гракі.

Я павінен быць каля Бярозы. Яна ўскрылася, сягоння ўночы рвалі на ёй лёд, і пачынаецца паводка. Не глянуць на яе, не павітаць і не развітацца з нашай вадой нельга.

Палюбаваўшыся на гракоў, я іду на шашу. Ужо ладна паднялося сонца. Неба не зусім чыстае, на ім хутчэй туман, чым воблакі, але цёплы, вясновы, ад бягучай вады, якой многа цяпер на зямлі. Я ў гумавых ботах, у ватоўцы, у шапцы-казырку, у руках у мяне кій. Ён у мяне не толькі як сродак апоры ці зброя. Да ўсяго, што прыкоўвае маю ўвагу ў заўсёдным маім падарожжы, я дакранаюся перш-наперш кійком. Якое яно: мяккае ці цвёрдае, колер зверху, колер знізу або з бакоў? Кій як бы дадатковы мой орган, пры дапамозе якога я спачатку і мацаю, і бачу, і чую, і нават думаю. Потым ужо, калі кій не здолее адказаць на ўсе мае пытанні, я карыстаюся больш тонкімі аналізатарамі: бяру ў руку, узваж-

ваю, падношу бліжэй да вачэй, слухаю, нюхаю, а трэба, дык і языком лізнеш, калі прадмет, як скажам, лясны яблык, ядомы, а смаку яго не ведаеш.

Сёння ўранні я не апранаўся ў цёплае. Я яшчэ ўночы адчуў, што мне будзе ў ім млосна.

Асфальт на вуліцы чысты, нават па жалабках паўз бакі не цякуць ручаі. Вада з агародаў і палёў збегла. Праўда, паўз платы, асабліва аднаго, заходняга боку, яшчэ ляжаць рэшткі снегу. Гурбы тут былі высокія, надзьмула іх у лютым заходнім ветрам. Але гэта рэшткі. І іх хутка не будзе. Вясной прыемна ступаць па снежным крупчаку, асабліва гумавым ботам, бо ведаеш, мокры ці не мокры гэты снег, нават хай і праваліўся дзе-небудзь у ім, нагу не памочыш.

У вёсцы быццам пасля вайны: ціха. Поле раскісла. Тэхніка застыла, нібы пастаўленая на калодкі, у гаражах, на машынных дварах. Усталі рана і паехалі на сваіх машынах толькі тыя шафёры, якім лягла дарога ў гарады, гэта значыць, па шашы.

А шаша жыла. Для яе разводдзя не было. Наадварот, бачнасць бязмежная, як вока дастае, шчапленне гумавых колаў з дарогай надзейнае, не пакаўзнешся, не зімой. Ішлі бензавозы, малакавозы, лесавозы, высокія, як дамы, пераважна вясновых колераў кантэйнеры, лятучкі тэхдапамогі, грузавікі разнамасных мадэфікацый, колавыя цягачы з кабінамі на другім паверсе, з двайнымі прычэпамі-гігантамі, легкавыя, якім усё было некалі, і яны пятлялі, мітусіліся, каб як найхутчэй абмінуць усіх, хто быў у іх уперадзе. Дарога дыктавала свой рытм, сваю хуткасць, мела свой гук, які зусім быў не падобны на ездавы гук кожнай машыны паасобку ўзятай, але нейкім чынам утвараўся з гукаў паасобных машын, і нагадвала сабой міфічнай велічыні струну, нацягнутую паміж двума вялікімі гарадамі, Магілёвам і Мінскам. Гук гэты рэзаніраваўся шматлікімі мастамі і масткамі, пад якімі працякалі рэкі, бярозавымі прысадамі, якія сачылі, каб дарога без патрэбы нікуды не збочвала, звонкімі соснамі бароў, праз якія пралягла стужка асфальту.

«Чакаць аўтобуса? — падумаў я.— Ды ён ідзе па раскладу. А гэта будзе не скора».

Перайшоўшы шашу на другі бок, я павярнуўся

тварам да яе і стаю, узяўшыся за кій дзвюма рукамі і ўпёршы канцом яго ў жвірыстую ўзбочыну. Не паспеў я паглядзець ды падумаць, якой машыне падняць руку, як справа ад мяне, ужо на ўзбочыне, шархануў коламі і стаў, як укопаны, грузавік.

— Куды, дзед?

Я кіўнуў галавой у той бок, куды ішла машына, і адказаў:

— Сюды во. Недалёка. Да ракі.

— Сядайце.

Шафёр быў малады. У пінжаку, без шапкі.

— Стукніце добра,— сказаў, калі я зачыняў за сабой дзверцы кабіны.

— Стары ўжо. Бяда вялікая, калі і вывалюся. Пажыў.

Ён глянуў мне ў твар, нібы шукаючы ў ім доказаў таго, што я сказаў.

— Чаго вы! Жывіце. Можа ж, ваявалі, рэвалюцыю нам рабілі. Пенсію даюць?

— Ды даюць.

— Во, а вы выдумалі: такі ды гэткі. Вялікую?

Я назваў лічбу.

— Добра. Вам толькі цяпер і пажыць. Можа ж, за век нагаладаліся?

— Чаго, чаго, а гэтага хапіла.

— Не тое што нам цяпер, маладым.

— На тое і рэвалюцыю рабілі, і галадалі, і цярпелі, і ваявалі, каб дзеці нашы, унукі па-чалавечаму жылі.

Маладыя, заўважыў я для сябе, не заўсёды арыентуюцца ў часе, таму я нічога не сказаў шафёру, што не мог рабіць рэвалюцыю, паколькі было мне ў той час усяго сем гадоў і я толькі натапырваў свае вушы і слухаў пра рэвалюцыю, пра цара, якога скінулі. Але сказаць, што я быў інертны і абыякавы да цара і рэвалюцыі, якая яго скінула, будзе няпраўда. Класавая свядомасць у дзяцей выспявае і ўспыхвае... Ды не, ёй няма чаго выспяваць, яна ўспыхвае адразу, як чырканутая аб драла запалка, і ніколі ўжо не патухае. Яе запальвае жыццё бацькоў, іх праца, іх пракавечная нянавісць да тых, на каго трэба было працаваць, цярпець холад і голад. І вось зараз, калі азіраюся ў тыя далёкія гады, беспамылкова магу сказаць: так, у сем гадоў я быў зусім закончаны

рэвалюцыянер, бо цара ненавідзеў, рад быў, што яго скінулі, ганарыўся за «дэмакратаў», як тады называлі ў нас рэвалюцыянераў.

Так, малады шафёр, рабіў я рэвалюцыю. Толькі не адзін, а з салдатамі, з матросамі, з рабочымі, з бацькамі і старэйшымі братамі.

— Во там мяне высадзіце,— паказаў я пальцам у ветравое шкло і дастаў з кішэні белую манету, каб заплаціць шафёру.

— Вы што! — адхінуўся далей ад мяне шафёр, нібы на руцэ ў мяне ўбачыў не грошы, а кусліваю ядавітую гадзюку.

Я павёў убок галавой і сказаў, быццам падумаў услых:

— Можа, і добра, што не спакушаецеся на капейкі. Хаця, як кажуць, з капеек хаты будуюць.

— Мне, дзед, хата не трэба. У казённай жыву. А выстаўляць руку, каб на яе лажылі капейкі, проста, лічу, сорамна. Машына ж не мая?

— Ды яно так, машына дзяржаўная. Але вы сталі. Зноў во, другі раз, сталі, каб высадзіць. Нейкі збой у вашай яздзе. Некатораму не заплаці, не дай гэтую самую капейку, пакрыўдзіцца. Усякія людзі бываюць. Часамі і малады, а як не наш.

— Ну...— хацеў штосьці яшчэ сказаць шафёр, але я стаяў ужо на зямлі, трымаючыся за дзверцы кабіны, каб зачыніць іх.

— Сюды? — паказаў ён мне пальцам на паваротку, каля якой стаяў указальнік з надпісам: «Торфабрыкетны завод».

Я матнуў галавой, каб маладому шафёру было ясна, куды ён падвёз старога чалавека.

Мне не трэба быў торфабрыкетны завод. Ён ужо даўно для жыхароў нашага раёна, у тым ліку і для мяне, проза. Звычайная вытворчасць у выглядзе чорна-бурых цаглін паліва.

Я хачу паназіраць за паводкай з гэтага, левага, боку ракі, а не з горада.

Лес, які ішоў паўз луг, я ведаў з дзяцінства. Я і павярнуў у яго. Направа. Калісьці я вучыўся ў сямігодцы ў гэтым мястэчку. Яна была адна на раён, і мястэчка было выключна драўлянае з гулкімі драўлянымі тратуарамі. Толькі школа наша была белакаменная, двухпавярховая. Не дзіўна: палац было-

га пана. Цяпер не мястэчка, горад. Зараз я яго пабачу адсюль, з гэтага лесу. Як кажуць, на фоне цудоўнага разліву нашай любай і слаўнай Бярозы.

А хадзілі мы, вучні, у гэты лес, арганізавана, з настаўнікамі, не так сабе, а перад святамі, перад Кастрычнікам і перад Маем, каб надраць дзеразы і наламаць яловых лапак, наплесці з гэтай зяляніны гірляндаў, упрыгожыць імі школу знадворку і ўсярэдзіне, як калідор, так і кожны клас паасобку, праабвіваць гірляндамі і зялёнымі лапкамі пахучай елкі партрэты правадыроў рэвалюцыі. Гэта было прыгожа і ўрачыста. Калі дадаць яшчэ лозунгі, напісаныя буйнымі літарамі пэндзлікам на белым баку доўгай шпалерыны, дык вельмі прыгожа і ўрачыста. Пісалі не простымі літарамі, якія можна бачыць у кніжцы. Пісалі літарамі, не падобнымі на кніжныя. Кожная літара — знаходка і вынаходніцтва, з арыгінальнымі элементамі і завіткамі, з нязвыклымі суадносінамі частак, у аб'ёмным успрыманні, гэта значыць з ценямі і падценямі. А падбор фарбаў! Здаралася, якія-небудзь літары і прачытаць было спачатку цяжка. Затое калі прачытаеш і ўловіш сэнс напісанага, хочацца на ўсю сілу крычаць: «Няхай жыве сусветная рэвалюцыя!» А колеры фарбаў! Чырвоны, ружовы, бардовы, зялёны, светла-зялёны, сіні, жоўта-сонечны... Ніколі і нідзе чорнага.

Я павольна іду ляснай дарогай амаль праз самы луг. У некаторых месцах скрозь дрэвы, не апранутыя яшчэ лістотай, прасвечваецца мора паводкі і відаць нават будынкі горада, які раскінуўся па той бок рэчкі. Натуральна, той бераг высокі, вада ніколі не затапляе яго, і людзі сяліліся на ім смела. Гэты ж бок, па якім я іду, пакаты, лес пераходзіць у луг ці луг у лес.

А лес, здалося мне, такі ж, якім я помню яго з дзяцінства. Алешнік, бярэзнік, рабіннік, лазовыя кусты, часамі сосны і елкі, калі ўзяць трошкі правей, далей ад поплава. Стары высякалі на дровы, малады рос і вырас, і ландшафт практычна дзесяцігоддзі заставаўся тым жа.

Я прайду гэтай дарогай, па якой машыны не ходзяць, з кіламетр, выйду на прагаліну, дзе быў у даваенныя часы драўляны мост, да якога вёў доўгі

пясчаны насып цераз луг, стану або нават сяду на гэтай прагаліне, і перада мной, як на карціне, ляжа і ўвесь мой горад, маё колішняе дарагое мястэчка, і ўвесь разліў рэчкі перад ім.

Я ўважліва гляджу вакол сябе. Вунь пад елкаю яшчэ снег. І ў другім месцы снег. Пралесак не відаць. Тут цемнавата. Зямля не нагрэлася. Прэлае леташняе лісце яшчэ чорнае. Яго прысмактала да зямлі, і яно яшчэ не высахла. Пах густы, востры, своеасаблівы, сумесь пахаў вады, галля дрэў, увільготненай зямлі. Я люблю такія пахі і быццам здаравею ад іх, удыхаю і выдыхаю іх, і быццам грудзі шырэюць.

Дарога ледзь-ледзь пачала падымацца ўгору, на баравіну. Менш драбналесся, больш ельніку і сасонніку. Паасобныя сосны жаўтаствольнымі свечкамі пачалі вырывацца ўгору, вышэй астатніх сваіх суседак і суседзяў, і бачылі, мусіць, і горад, і ўвесь разліў на лузе, і лясы на іншых плошчах, якія ляжалі за навакольнымі палямі, а таксама за лугам, па правы і па левы бок горада. З адной сасны юркнуў кудысь пад вецце іншых дрэў дзяцел. Не ўбачыў чалавека ці заняты больш неадкладнымі справамі, чым пачырыкаць на мяне?

Вось і вялікая дарога, якая вяла на насып, на мост, адзіная з гэтага боку на той бок ракі. Зарасла, ніякіх слядоў ні машын, ні конскага транспарту. Насып даўно змыла і знесла вадой.

Цяпер дарога на той бок ракі лявей, прама з шашы. Насып вышэйшы за старога, шырэйшы, з абмураванымі берагамі, каб не размываўся. Мост жалезабетонны, павіс над большай часткай лугу, не цераз адну раку. Вада лёгка праходзіць пад ім, ніякай затрымкі перад мостам.

А вунь і наша былая школа. Двухпавярховая і белая, але маленькая ў параўнанні з новымі шматпавярховымі будынкамі, дзвюма школамі, Домам Саветаў, Домам культуры, жыллёвымі шматпавярховікамі, карпусамі бальніцы, школы-інтэрната...

Горад пайшоў улева, за шашу, дзе ўзвялі льнозавод, сыраварны завод. Справа — старое мястэчка, драўлянае. І тым не менш прыгожае (каштанавая алея паўз рэчку, парк, сады, у якіх патанаюць хаты).

Адсюль глядзець — вада быццам стаіць. Толькі

трошкі нібы рабаціміцца, і вяршкі затопленых кустоў туды-сюды кратаюцца. Я разумею: гэта гойдае іх туды-сюды водная плынь. А плынь тут густая, напорыстая. Мне не раз даводзілася ехаць упоперак цераз яе на вялікай драўлянай лодцы — абшыване, на якой у паводку перавозілі людзей туды і назад, бо невысокі насып на лузе ўвесь затапляла вада, ідучы цераз яго, і маставая пераправа спынялася на ўвесь час разліву. Перавозчыкі рэзалі плынь наўскасяк, пад вострым вуглом насустрач ёй, тым не менш лодку адносіла па плыні, асабліва на стрыжані ракі. Вада ў гэты час не такая светлая і чыстая, як улетку ў рацэ, а белавата-жаўтаватая, часамі цёмная, у якой не цяжка ўбачыць іглічыны, стары ліст, саломіну, дробнае чорнае смецце.

Тым часам дзве невялічкія птушачкі праляцелі над маёй галавой, не так ужо і высока, у напрамку рэчкі. «На той бок? — падумаў я.— А што ім, птушкам, маючы шчасце крылаў». Не, не паляцелі. Праляцеўшы метраў сто, падрыгалі крыламі на месцы, каб, мусіць, не зваліцца ў ваду, зноў вярнуліся. На гэты раз ляцелі трошкі лявей ад маёй галавы, я нават паспеў убачыць такое-сякое іх шэрае, з сінімі абводамі пер'е.

Я доўга стаяў і адчуў, што забалелі ногі. Пагледзеўшы вакол сябе, я выбраў пясчаны ўзгорачак былога насыпу, прашыты там-сям сухой леташняй травой, і сеў на яго.

Першым чынам я ўбачыў свае гумавыя боты, літыя, як кажуць, з добрай падэшвай. Нагу не праб'еш, не прамочыш. А што накруціў ануч, дык хто ж надзене гуму на голую нагу? І ўбачыў ніжні канец кійка з сухой і лёгкай арэшыны. Часамі людзі гнуць качарэжкі з гэтага дрэва. Лёгкія, ёмкія, моцныя і прыгожыя качарэжкі выходзяць.

Падняўшы вочы на паводку, першым чынам убачыў мост, які быў у мяне злева. Адсюль ён выглядаў высокім, доўгім, а машыны, якія каціліся па ім,— нібы дзіцячыя цацкі-самакаты. Паляў пад мостам было нагэтулькі шмат, што я не злічыў бы іх, калі б надумаўся палічыць. І, па-другое, яны нібы мітусіліся туды-сюды, быццам вада, якая цякла паміж імі пад мостам, лёгка то ссоўвала ў кучу іх, то рассоўвала.

А вунь тым, прыкладна, месцам і кірункам, дзе перавозілі людзей на абшыванах, паплыла звычайная лодка. На ёй сядзела некалькі чалавек. Не пера-воз, не. Цяпер перавозу тут няма. Дакладна ведаю, што няма. Людзі маюць лодку, селі і паехалі. Ці то па якой патрэбе ў горад, ці проста пацешыцца на такой воднай роўнядзі.

Гавару слова «горад» у дастасаванні да свайго былога мястэчка і адчуваю нялоўкасць, нібы муху назваў сланом, ката канём, сябе прафесарам ці яшчэ якім вялікім чалавекам. Не ляжыць у мяне душа да гэтага слова, не выспела і не ведаю, ці выспее калі-небудзь.

Дзве птушачкі зноў праляцелі ў мяне над галавой на ваду, падрыгалі крылцамі на тым месцы, дзе дрыгалі, зноў вярнуліся назад. «Пачакай, пачакай,— пачаў я думаць.— Можа, улетку гняздо тут іх было, і яны цяпер бядуюць, што яго затапіла? Куст, можа, які пад вадой ёсць ці купіна? Чаго ж бы ім?..»

А вада плыла, плыла, плыла... З палёў і лясоў, з дарог і вёсак, з ручаёў і малых рэк. Гуртавалася ў кучу, у адну магутную плынь, як жывая, добра разумеючы, чаго і куды ёй трэба.

Я захапляўся сілай вясновай стыхіі не так сабе, не дзеля атрымання чыста эстэтычнай асалоды. Я ведаў: калі схлыне паводка, на пачарнелым лузе добрая трава парасце. І калі вясной вялікая вада, нап'ецца зямля як мае быць, і будзе ўраджай.

Я ўстаў на ногі, баўтануў ніжнім канцом кійка ўправа-ўлева, акінуў увесь водны прастор вачыма яшчэ раз, правяраючы, ці не ўпусцілі чаго мае вочы, і сказаў сам сабе, услых, быццам накладаў на мяне нехта нейкія абавязкі і я іх выканаў:

— Добра. Паглядзеў. Пайду.

Я пайду зноў на шашу, на торфабрыкетную паваротку, дзе злазіў з машыны. Сяду на якую-небудзь. Раз вясна, чакаць няма чаго. Пачнецца сяўба, падкормка з самалёта мінеральнымі тукамі азіміны. І інтарэс, і галоўная для чалавека работа пачынаюцца вясной. У мяне таксама ёсць свой садок, агарод. Я павінен, як усе людзі, надаць ім належны выгляд. Праца, праца, праца.

А дарог колькі з пачаткам вясны адкрываецца ў

лесе, у полі, на сенажацях, у прыбалотным зарасніку! І кожная — эпапея ў незлічоных серыях, самая займальная і самая глыбокая, незалежна ад таго, бачыў ты ўжо яе ці глядзіш упершыню.

Акрамя рэк, падумаў я, якія ўпадаюць у мора, ёсць яшчэ, мусіць, рака жыцця. Мы яе не бачым, не любуемся ёй, не пераязджаем на лодцы. Мы яе адчуваем і баімся, хацяб яна не перасохла, не знішчылася, не змізарнела, не забрудзілася, хаця б не капнуў хто-небудзь у яе атруты. Іначай якая справа была б мне да вады, да лесу, да звяроў і птушак, сабак і катоў? Чаму я радуюся, што бярэзіна можа вытрымліваць мароз у 200 градусаў, а вясной зусім нармальна распускаецца зубчастымі сваімі маленькімі лісточкамі, як і не было гэтага марозу? Чаму шкада гэтай самай бярэзіны, калі камель яе кругом здзяўбуць тапарамі, падцэджваючы бярозавік, і яна доўгія гады вымушана жыць з гнілымі зацёкамі і з бледнымі лісточкамі? Што мне было б да голуба, якога ловіць у паветры коршун, або да шпачанят, якіх жыўцом цягае са шпакоўні сарока або кот? Што? Чаму я павінен хваляваца, валтузіць сябе туды-сюды, недаядаць, недасыпаць, не маючы з гэтага ні на капейку ніякай матэрыяльнай карысці? Усё жывое зямное і нават нежывое аддае ў раку жыцця па нейкай нябачнай макавінцы (скажам, малекуле), і яна трымаецца за гэты кошт, несучы ў сабе яго здабыткі ў мора адвечнасці. Так? Калі не так, то хай гэта будзе маёй памылкай. Абы не атрута ў раку жыцця. Усё, усё жывое дыхае іонамі гэтай ракі жыцця.

На зямлі яна адна, гэтая рака. Агульная як для чалавека, так і для ўсякай жывой істоты, у тым ліку і для раслінпасці.

Ну вось, вясна пачалася. Уперадзе лета. Які вялікі і добры час ідзе!

## ЗМЕСТ



*

*Якуб Сидорович Ермолович*

ОКОПЫ НЕ ПОЗАРАСТАЛИ

Повести

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактары *Я. І. Курто, А. П. Рыбак.* Мастак *М. Я. Янчук.* Мастацкі рэдактар *А. М. Малышава.* Тэхнічны рэдактар *Т. М. Сокал.* Карэктар *І. М. Паланейчык.*

ІБ № 2093

Здадзена ў набор 10.10.84. Падп. да друку 11.05.85. АТ 07131. Фармат 84×100¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 12,48. Ум. фарб.-адб. 12,48. Ул.-выд. арк. 13,95. Тыраж 11000экз. Зак. 767. Цана 1 р. 30 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.